

11

ЛІСТАПАД

Мінск, 1971

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка Ю. Зайцава.

Шмуцтытулы М. і У. Басалыгаў (стар. 3) і фота В. Ждановіча (стар. 111).

---



# ПАЭЗІЯ ✲ ПРОЗА

- Кастусь КІРЭЕНКА
- Яўгенія ЯНІШЧЫЦ
- Алесь СТАВЕР
- Алег ЛОЙКА
- Алесь САВІЦКІ
- Любоў РУСІЛКА



● Кастусь КІРЭЕНКА





## Долар

Я знайшоў на вуліцы долар.
Чый ён, з чыёй рукі?
І як апынуўся ён доле?
І лёс яго быў які?

Я прынёс, паказаў гэты долар
Разумным сябрам сваім.
І яны параілі:
— Выкінь
На сметнік, і ліха з ім...

Пачуў гэта амерыканец
І ўзгарэўся: — О сэр, веры гуд!
Вы знайшлі на вуліцы долар,
Дык гэта ж вялікі цуд!

Нашто вам пытаць — адкуль ён,
З Тэхаса ці з Кардыльер?
Вы знайшлі на вуліцы долар.
І цяпер ён ваш.
Ваш, о сэр!

Ваш ён — трымайце ўдачу,
Кожны шануйце цэнт.
О, сэр, зразумейце, долар —
Гэта ж шчасця працэнт!..

— А скажыце, — амерыканца
Я спытаў, — а ці можна мне
Долар здаць у паліцыю,
Каб ён паляжаў у казне,

А мо хто спытае пра долар,
І, можа, ён не мільянер,
А мо ён жабрак, мо галодны,
А мо беспрацоўны ён,
а, сэр?..

Амерыканец збянтэжана
Паглядзеў на мяне і замёр:



«Як? Здаць у паліцыю долар?» —
Чытаў я на твары дакор.—

Як?! Аддасцё вы долар
Без мэты, вось проста так?!»
Амерыканец глядзеў мне ў вочы
І быццам крычаў: — Дзівак!..

І я стаяў з чужым доларам,
І нат усміхнуцца не мог.
А на скрыжаванні свяцілася:
— Донт вок! Донт вок! Донт вок! *

## На землетрасенне ў Баньял-Лука

Гарады — як маленькія дзеці
На грудзях у зямлі-матухны.
Адны — паслухмяныя,
Другія — неслухі,
Адны — працавітыя,
Другія — лежані,
Адны славяць цішыню неба,
Другія — твораць няспынны гул...
Я магу зразумець,
Чаму часам гневаецца зямля.
Я магу зразумець,
Чаму ёй часам хочацца
павярнуцца набок.
Я сам ужо немалады
І сам стомлены.
Але я не зразумею ніколі, чаму,
Чаму часам зямля скідае
са сваіх грудзей
Не самых тых,
Што не даюць ёй спакою і сну,
Не самых тых,
Што гатовы забыць пра сыноўні лёс,
А тых ціхіх,
Што ўлюбёны ў сінія небасхілы,
Што радуюцца на яе грудзях,
Як зыркія немаўляты...
Няўжо і ты, зямля-матухна,
Бываеш несправядлівай?..

## Дарогі Амерыкі

Дарогі Амерыкі — чысты бетон — пад струну.
Лініі, лініі, лініі —
кінься, стрымай хоць адну.
Лініі, лініі, лініі —
не павярнуць, не звярнуць,
Лініі, лініі, лініі —
нібы ў глухую сцяну,

* Нельга ісці.

Лініі, лініі, лініі —
нібы ў хаўтурную стынь,
Лініі, лініі, лініі —
думкі аб волі пакінь!..
Колькі я думаў, як ехаў —
тут, сярод гэтых пуцін:
Дзе ты, дружбак чалавек мой,
дзе ты тут ёсць хоць адзін?
Хоць бы разок з табой стрэцца,
стаць-пастаяць пры ляску,
Хоць бы сказаць табе слова,
шчыра паціснуць руку,
Сэрцам з табой парадніцца,
сонечны ўбачыць пагляд,
Хоць бы...
Ды лініі гоняць — дзеляць, сякуць далягляд.
Коцяць, і коцяць, і коцяць
шыны —
аж посвіст ад шын,
Колькі вас, колькі —
халодных,
шэрых, бяздушных машын? —
Толькі сігары ў акенцы, сінеча жыл за рулём,
Толькі пыхлівыя позы ды падбародкі з валлём,
Толькі насуплены позірк —
не іскране, не міргне:
Тут упадзі і разбіся —
нават ніхто не зірне...
Лініі сціснулі сэрца,
лініі б'юцца ўваччу.
«Шофер, спыніся, спыніся!..
Больш не магу, не хачу!..
Шофер, пастой, паміраю...» —
Але машына імчыць...
— Шофер, гані, не спыняйся! —
грозна з дарогі гучыць.
Лініі, лініі, лініі — толькі ты іх прыкмячай...
Лініі... Дзікая гонка... Дзікі бясконцы адчай...

## «Рэчаньку» пяюць амерыканцы

«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,
Над Брадвеем — жаласць невымоўная.
— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?

— А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць? —
«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,
І тугі мне іхняй не забыць.

Бачацца ім Сож, Дняпро і Нёман,
Што калісь люлялі іх чаўны.
«Рэчанькай» вітанне ў край свой родны
Сэрцам шлюць з Амерыкі яны.

— Ой, рэчанька! — з прадзедамі праўнукі.
Галасам журбы — як птушкі з выраю.
Па кутку жыцця — амерыканцы,
А па душах — беларусы шчырыя.

І пытаю я, мой край цудоўны,
З гордасцю сыноўняй і хвалой:

— А хто ж цябе назваў, рэчанька,
няпоўнай,
А хто ж цябе лічыў, рэчанька,
малой.

Калі ты і горы абмінула,
Калі цябе гора не сагнула,
Калі ў акіянах не згубілася
І перад навалай не скарылася,
Калі пакарыла ўсю бязмеж
І далей, чароўная, плывеш,
І далей люляеш любасць сэрцаў
Глыбінёй пачуццяў дарагіх...

«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,
І край родны асяняе іх...

● Яўгенія ЯНІШЧЫЦ





●

*„За туманам нічога не відна...“*
(З беларускай народнай песні)

Яшчэ душы маёй раздольна,
Нібы дарозе палявой.
Туманы белыя павольна
Над галавой плывуць маёй.

З якіх лугоў, з якіх палянаў
Мне назбіраць для слоў настой?
Як за падманам — за туманам
Іду павольна над ракой.

І растрывожана, і дзіўна
Кудысьці цягнецца мой шлях.

Хто я ў лясах тваіх, Радзіма?
Радзіма, хто я у палях?

Сваім гадам неразгаданым,
Нібы сябрам, махну рукой.
Ах, што там, што там за туманам —
Дарога, бездараж, спакой?

●

За далячынню бору,
За галасамі жанок —
Светлая музыка мора,
Жоўты пяшчотны пясок.

Тут, на пяску, заначую,
Але трывожуся зноў —
Можа, я проста не чую
Гэтых марскіх берагоў?

Тут, на пяску, перайначу
Думкі. Але і тады —
Можа, я проста не бачу
Гэтага сонца й вады?

Смех, і жаданні, і горыч
Між мітусні і людзей.
Можа, прыходзіў учора
Лепшы мой заўтрашні дзень?

Светлая музыка мора...
Жоўты пяшчотны пясок...
За далячынню бору
Чуецца песня жанок.

●

Ты рады? Я не рада,
Як сон, як варажба,
Над кожным лістападам
Плыве мая журба.

Не рады ты? Я рада.
Дарогі замяло.
Над кожным снегападам
Ляціць маё святло.

Спяю, што не спявана,
І ажыву ізноў.
Над кожным зеллем п'яным
Цвіце мая любоў.

Душа жыве душою,
І слова не спыніць.
Над кожнаю вясною
Маё галлё звініць.



●

Дух часу мой то хмельны,
то цвярозы.
Заву цябе на самым схіле дня:
Ідзі ў мой свет —
Там белыя бярозы
І сіняя без краю вышыня.

Яшчэ чужы і мною не каханы,
І не спяваны мною, нібы ў дом,
Ідзі ў мой свет —
Там пахкія паляны
Напалавіну з горкім палыном.

Не бойся, што любіла я замнога,
Што разлюбіла. Вось мая рука,
Ідзі ў мой свет —
Там вечная трывога
Імчыць удаль, як горная рака.

Ідзі ў мой свет. Я іншага не маю.
І не жадаю іншага ў жыцці.
Спыніся сам...
Бо я сама не знаю,
Куды цябе, шчаслівага, вясці?!

●

Як хораша, як хораша было!
Між намі лета буйнае цвіло.
І Ясельда, як першая любоў,
Шырока выцякала з берагоў.

Як проста ўсё, як проста ўсё было!
Дарога выбягала за сяло.
А там — ільны і хмельныя лугі,
Ні роспачы, ні болю, ні тугі.

Як добра ўсё, як добра ўсё было!
Няўжо так хутка лета адцвіло?..



● Алесь СТАВЕР

● Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



# ДВОЕ

АПАВЯДАННЕ



Сцяпан Бакета акучваў бульбу. Пякло сонца, ён зняў світку, падкасаў вайсковыя штаны — так лепей будзе, для ног прахалода — і зноў стаў за плуг. Штаны гэтыя сёння ён адзеў упершыню, бярог ад пачатку вайны. Іх даў яму салдацік, калі нашы адступалі. Бакета добра прыняў тады сваіх, накарміў, адрэзаў на дарогу кавалак сала. Нізкарослы салдацік выцягнуў з сумкі гэтыя штаны.

— Яны для мяне вялікія, насі іх, бацька, ты! Дзякуй табе за ўсё. Жыві і не гаруй. Мы вернемся, нядоўга немцы тут будуць,— сказаў салдацік на развітанне і пабег даганяць сваіх.

Сцяпан Бакета і забыўся, які з выгляду быў той салдацік. Помніў толькі, што росту малога. Жыў, працаваў на сваёй гаспадарцы, але салдацікавых слоў не забываў: «Мы вернемся, нядоўга немцы тут будуць». І ён чакаў, калі прыйдуць нашы, чакаў усёй душой. Чуў, што за ракой Беразіной ёсць партызаны, ды каб яны завіталі да яго — не спадзяваўся. І вось аднойчы ноччу да яго ў хату пастукалі. Ён зірнуў спачатку ў акно, убачыў на дварэ ўзброеных людзей у цывільным, адкрыў дзверы. У хату зайшло трое. Запаліў святло.

— Пазнаеш, бацька? — спытаў у яго нізенькі партызан.— Помніш, я табе штаны ваенныя даў? Як мы адыходзілі.

Прыглядзеўся Сцяпан Бакета.

— А чаму не пазнаю. Дык гэта ты той самы. Дык і ты за ракой. А я думаў, ты за нашым войскам пайшоў.



— Ішоў, ды не ўспеў. За Лепелем абагналі нас нямецкія танкі. Вярнуліся мы ў Бярэзінскі запаведнік. Будзем тут немца калашмаціць, памагаць нашым. І ты, стары, нам павінен памагаць, калі хочаш, каб скарэй немчуру прагналі.

— Як жа я буду памагаць? — адказаў тады Бакета.— Стараваты я ўжо.

— А я табе скажу, як,— сказаў партызан.— Хлопцы, ідзіце займіцеся дзелам, заданне знаеце,— загадаў ён сваім сябрам.— А ты, бацька, тушы лямпу і пойдзем з табой на ганку пасядзім.

Сядзелі яны доўга, партызан напаўголасу гаварыў і гаварыў, што і як трэба рабіць Бакету. Стары толькі ківаў галавой.

Недзе каля Бягомля чуліся стрэлы, потым занялося зарава.

— Хлопцы масты падпалілі,— сказаў партызан.— Скора будуць ісці назад.

І праўда. Неўзабаве пачуўся на вуліцы тупат ног. У весніцы прасунулася галава.

— Таварыш камісар атрада, мы ідзём,— прабасіў незнаёмы голас.

— Ну, бацька, я пайшоў,— узняўся партызан, якога назвалі камісарам.— Чакай мяне. Я сам да цябе буду прыходзіць. Рабі ўсё, як я сказаў.

Да раніцы Сцяпан Бакета ў тую ноч не заснуў. Усё думаў і думаў. Памагаць партызанам ён быў рад, але баяўся. Ён разважаў і так і гэтак і ўсё ж рашыў не падводзіць камісара. Сын Сцяпана Бакеты быў у арміі. «Можа і ён недзе гэтак ходзіць па начах, і людзі яму памагаюць. І мне трэба сваім памагаць»,— парашыў ён.

Пасля той ночы Бакета зачасціў у нямецкі гарнізон — то цвікоў яму трэба, то сякеру новую прыдбаць захоча. Праўда, нічога гэтага ён не даставаў, а казаў так аднавяскоўцам для адводу вачэй. У кожны прыход ён запамінаў, дзе доты ў гарнізоне, дзе стаяць вартавыя. Час ад часу ноччу прыходзіў да яго камісар, і Бакета перадаваў яму звесткі. Вось і гэтай ноччу быў камісар. Бакета рад быў камісару, той паяўляўся нечакана і скора знікаў. Вёска заўсёды спала непрабудным сном — ні гуку. Толькі ў гэту ноч дужа брахаў суседаў сабака, калі камісар ішоў да Бакеты. Пасля развітання Бакета вывеў камісара на агарод, і зноў сабака брахаў. І здалося Бакету, нібы на дварэ ў суседа нехта хадзіў. Трывожна было на душы ў старога. З цяжкім настроем пачаў ён сёння акучваць бульбу. А тут яшчэ конь нешта праціўіцца, не ідзе баразной, авадні дацінаюць. «Ну, але трэба закончыць да абеду,— падумаў стары.— Пасля абеду другая работа ёсць». І тут ён убачыў паліцая. Той ехаў на веласіпедзе па вуліцы. Убачыўшы старога, спыніўся каля яго двара, паставіў ля плота веласіпед, падышоў да Бакеты.

— Бульбу ганяеш? — замест прывітання сказаў паліцай.

У старога заныла сэрца.

— Ото ж,— адказаў спакойна.— А ты чаго прыехаў?

— Ды сказалі, каб ты прыйшоў у Бягомль,— прамовіў паліцай і пачаў закурваць.

— Навошта я там? — зноў жа спакойна спытаў Бакета.

— Чорт іх ведае! — адказаў паліцай.— Перапіс нейкі праводзяць, усіх па аднаму вызываюць. Не бойся. Каб што дрэннае, я б па цябе не паехаў. Пагаворадь, адпусцяць.

У старога і сапраўды на сэрцы паспакайнела. Паліцая ён знаў. Гэта Аўдзей Вярэшчык. З ім яны перад вайной лес разам на рум вазілі. Прыйшлі немцы, наняўся Аўдзей у паліцыю. «Нашто ты так зрабіў?» — спытаў аднойчы ў яго Сцяпан. І заўсёды пры сустрэчах

**Віктар САХНЕНКА.** Партрэт паэта Валянціна Таўлая.



**Аляксандр ГЕРАСІМАУ.** Ленін на трыбуне.

Аўдзей быў добры да Сцяпана, пастаяць, пагамоняць. Аўдзей пачастуе махоркай.

— Можа закурыш, Сцяпан? — працягнуў Аўдзей капшук.

— Ат, давай ужо,— пагадзіўся Бакета.— Дык што, зараз і пойдзем?

— Пойдзем. Ты распражы каня, збярыся. А я зацягну пляменніку веласіпед,— спакойна прамовіў Вярэшчык.— На чорта мне гэта ламачына. Я за табой зайду.— І патупаў да вуліцы.

Бакета завярнуў каня, пагнаў у двор, распрог, пусціў гнядога на аселіцу. Увесь час у яго галаве свідравала думка: «Можа каб уцячы, схавацца? Можа не ісці? Але дужа спакойна гаварыў Вярэшчык. Мусіць, так нешта. Вызываюць мужчын, і нічога,— суцешыў ён самога сябе.— Вярэшчык мяне знае, не можа ён на дрэннае мяне завясці».

Бакета зайшоў у хату. Старой не было, яна недзе, мусіць, да сваякоў на вёску пайшла. «Ат, няхай, я скора вярнуся»,— парашыў ён. Памкнуўся зняць вайсковыя штаны, адзець дрэнныя, але не стаў гэтага рабіць. «Усе знаюць, што мой сын служыць у арміі, скажу — сынавы»,— разважаў ён. Выйшаў на вуліцу, сеў на прызбе, пачаў чакаць Вярэшчыка.

Некаторыя вяскоўцы бачылі яго, пыталіся:

— Чаго, стары, сядзіш? Чаму бульбу перастаў ганяць?

— Ат, духата. Паганяю заўтра зранку,— адказваў Бакета.

Вярэшчык прыйшоў няскора.

— Хай іх ліха,— плюнуў на пясок паліцай.— Аддаў веласіпед, дык кажуць: замачыць трэба. Ну, выпіў чарку. А ты мяне доўга жджэш? Не абіжайся, Сцяпан.

— Ды ўжо ж. Думаў, старая прыйдзе, хацеў сказаць, куды я пайшоў.

— Нідзе не дзенецца твая старая! Вернешся дамоў, увідзішся са сваёй старой,— адказаў Вярэшчык.— Пойдзем скарэй. А то і мне наганяй будзе, што да паўдня забавіўся.

Яны выйшлі на шашу, павярнулі ў напрамку Бягомля.

— Пагода сёлета — дай божа,— гаварыў Вярэшчык.— Цеплата!

— Цеплата, але ўжо залішне,— меркаваў Бакета.— Ярына налівaецца, дажджу б троху.

— А-а-а, дождж патрэбны,— пагаджаўся Вярэшчык.— У мяне на градах агуркі сохнуць. Жонка носіць, носіць ваду, палівае — і не дасць рады.

— А я сёлета агуркі каля аселіцы пасадзіў, дык нічога,— гаварыў Бакета.— Але каб і пасохлі, я б не бедаваў. От ярына сохне.

— Ты праўду кажаш,— у тон яму ікнуў Вярэшчык.— Ярыну трэба берагчы. Гляджу я ды думаю: мусіць, жаць пара ярыну ўжо. Калоссе якое поўнае.

— Не-е-е,— разважаў Бакета.— Калоссе то поўнае, але яно яшчэ толькі пачынае бялець, яно яшчэ не абвісла. Бач, стаяць каласы. А яны павінны пахіліцца, звіснуць — тады і жні. Тыдні два пачакаць трэба.

— А можа,— згаджаўся Вярэшчык.— Ты, стары, лепей за мяне знаеш. Ты ўсё жыццё на зямлі. А я ж, сам знаеш, жыў як папала. Ды не каюся дужа. Толькі перад самай вайной нягегла выйшла, сеў у турму.

— Скажы ты мне,— цікавіўся Бакета,— як гэта выйшла? Рознае людзі баялі. Ды я не веру. Хацеў бы ад цябе пачуць.

— Ат, чапуха,— махнуў рукой Вярэшчык.— Хацеў з адным друж-





ком у раймаг залезці, мануфактуры разжыцца, ды не ўдалося. Свярдзёлкам круцілі дзіркі каля прабояў, каб прабоі выдраць, а сторож у раймагу быў, мы не зналі, пачуў, міліцыю вызваў.

— Ды неяк вырабіўся, прыйшоў дамоў,— азваўся Бакета. У яго голасе не было ні злосці, ні спагады.

— Пашанцавала,— ікнуў Вярэшчык.— Гналі нас, а нямецкія самалёты наляцелі, пачалі бамбіць. Канваіраў пабіла, і арыштантаў многа палягло. Я астаўся жывы, дамоў пайшоў.

— А ў паліцыю ты ўсё-такі дарэмна паступіў, скажу табе па шчырасці,— зазначыў Бакета.

— А што я мог прыдумаць,— сказаў Вярэшчык.— Гаспадаркі не было, адна жонка толькі. Добра што, дурніца, замуж не выйшла, мяне дачакалася. Далі нам яўрэйскі дом, вот і жывём.

— Пражыў бы і без паліцыі. А то прыйдуць нашы, дзе ты дзенешся? — выказаўся Бакета шчыра. І спалохаўся. Зірнуў на Вярэшчыка. Той ішоў як ні ў чым ні бывала. Загаманіў:

— «Нашы», як ты кажаш, невядома калі прыйдуць. Хто знае, як будзе. Цёмныя хмары над намі.

— Над кім хмары, а над кім і чыстае неба,— набраўся смеласці Бакета.

Пры ўваходзе ў Бягомль Вярэшчык сказаў:

— Пастой тут, Сцяпан. Я забягу ў хату, нап'юся вады, сушыць у горле.

Бакета прыхінуўся да плота, стаяў чакаў. Трывога не пакідала яго. «А чорт яго ведае,— думаў ён.— Чаго я іду. Не магу даўмецца, што будзе. Можа, усё добра кончыцца. Каб што якое, дык Вярэшчык не такі быў бы. Гнаў бы перад сабой. А то во кінуў, пайшоў ваду піць. Ці ты стой, ці ты на агароды сігані, а далей кусты там, лес». І Бакету апанавала нейкая абыякавасць да ўсяго навакольнага. Ён успомніў пра бульбу і пашкадаваў, што не абагнаў усю. Успомніў, што не сказаў нічога суседзям, каб яны перадалі старой, куды ён пайшоў. Пакуль вернецца, будзе позні час. Старая будзе чакаць яго, будзе непакоіцца.

Выйшаў на вуліцу Вярэшчык:

— Ну пайдзём. Ужо недалёка. Змарыліся мы, па гэтай гарачыні ідучы.

Калі наблізіліся да паліцэйскага будынка, выскачыў на ганак начальнік паліцыі.

— А-а! Гэта тая падла, што бандзітаў ноччу прымае?! — крыкнуў ён.— Давай яго сюды! Мы з ім пагаворым!

Бакета зірнуў здзіўлена на Вярэшчыка. Той апусціў вочы і адвярнуўся.

Вечарам Сцяпана Бакету расстралялі.

✦✦✦

● Алег ЛОЙКА

## *Тапаліны пух*

Вам сонца засціць тапаліны пух?..
Пытаецеся злосна і здзіўлёна,
Чаму таполі высяцца наўкруг,
А не дубы, не ясені, не клёны?..

А нам нясцерпна так было глядзець
На скверы, што пасеклі ўпокат міны.
Здавалася, ім век не змаладзець,
Як і абгаркам дрэў каля руінаў.

І мы спяшаліся. І марылі яшчэ
(І гэта зразумець вы ўсё ж павінны!),
Што самі ўбачым скверы
                    і плячэй
І нашых пух кранецца тапаліны!..

## *Гарнавы*

Квітнелі ярка
        паплавы,
Над імі —
        птахам —
                гарнавы;
Ярчэла
        лава, быццам мак,
Плыло
        агністае руно,
Нібыта крылляў —
                рук узмах,
А песні
        не было чутно.

Ды не паверыў я вушам,
Як і не верыць сёння ім
Да песні ўзнятая душа
Высокім птахам — гарнавым!..

## Не марыць паэт не можа...

Не марыць паэт не можа —
Стаць птушкай, крылатай
і звонкай,
Крыллем пагойдваць зоры,
Сонца разумную гронку!..

Не марыць паэт не можа —
Стаць дрэвам, каб лісцікам кожным
Чуць песні і птушак, і зораў,
Цемрадзі трывожнай!..

Не марыць паэт не можа,
Хоць людзям нясе ён спевы,
Каб і яго зразумелі
Зоры, птушкі, дрэвы.

●

Як лёгка вучнем быць!..
Настаўніку — цяжэй...
Што вучню?! Гуж бяры,
Цягні і не блажэй!..
Куды і што?
Якая вучню справа!..
Ты ж мусіш знаць,
Дзе лева, а дзе — права,
Дзе палажыць,
Дзе зняць, калі нядуж,
Каб не намуляў,
Не абрыдзеў гуж,
Каб і дарога
Правільна вяла,
Струна сумнення
У сэрцы не гула,
Каб цяжар ношы,
Ўзвалены на плечы,
Цераз гады стаў
Шчасцем чалавечым!..
Настаўніку — цяжэй,
Хоць і нялёгка вучню...

## Ведрыцкія дубы

*У. Верамейчыку*

Дубы, дубы ў чатыры, тры абхваты,
А кроны — не акінуць нават зрокам.
Бянтэжыўся я тут, ніякаваты,
У паўзялёным надвячорным змроку.

Бянтэжыўся — і вось свячу вачамі...
Даруйце мне, за ліха не прыміце
Ні вы, гаспадарове ведрычане,
Ні вы, дубы ў надведрыцкім блакіце!..

Я памятаю ўсе наказы маці,
Ні прыказкі, ні прымаўкі не хаяў,
А гэтага не ведаў: «Не ступайце
На карані, бо, кажуць, дуб ўсыхае!..»

Збянтэжаны і радасна здзіўлёны,
Хто пазірань пад ногі тут не будзе?!
Пагойдваючы векавыя кроны,
Дубы стаялі, нібы нашы суддзі.

## Ярына

Што за яркая
ярына!..
Што за светлыя
светацені!..
З-пад счарнелага бервяна
Травінка
казыча калені.

Як тугая завязь,
Калень
яблычкі расяныя...
Стане
непрыласканы прамень...
У грудзях
саладкава
ные...

Будзе сонца зеніт кранаць,
Перамерзне ў лузе каліна,
А пакуль што —
яр-ярына
Калені казыча ля млына.

## Светаяннік

Пад сасной, кальцаванай
Шамрацістай карой,
Як гарэў светаяннік,
Бушаваў пад гарой!

На глухім расцярэбе
Мы былі тады ўтрох,
І было яшчэ неба
Без сцяжын, без дарог.

Залатыя вачынкі...
Светаяннік?.. Яна?
Неба нам на галінках
Апусціла сасна.

Праміну́ла ўсё міма...
Ветрык, сцішана вей!..
Перацвет — напамінам
Залатых любых вей.

## *Мліва*

Ой ты меліва, ой мліво,
Я чакаў цябе, як нядзелі—
З хмар асенніх, як не ліло,
Туманы адступалі, радзелі.

Едзем, едзем панамі ў млын —
У палац зруйнаваны Сапегі.
На дзядзінцы счарнеў палын
У чаканні белага снегу.

А у млыне — завея сапе.
Забягаю ў яе, знямелы,
І выходжу, на здзіў сабе,
Ад брывей аж да пятак белы.

Бачу: белых дзядзькоў мітусня —
Мех за мехам з падбежкаю носяць.
«Заначуем, відаць, да дня,
Штось завозна, браткі, завозна!..»

А натруджаны млын гудзе,
Бы тупоча людцам настрэчу...
Непрыкметна — белы дзень
Пераходзіць у белы вечар.

Ліпнуць вочы ад белых сноў.
«Ды прачніся ты, хлопча!.. Сорам!..»
Разаспаны, на браме зноў
Залатых не пабачу зорак.

Абдымаю цяплюткі мех...
Ля шчакі ён нібы і сёння...
І, відаць, не такі ўжо грэх,
Што далей нічога не помню!..



● Алесь САВІЦКІ

● Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# І НІЧОГА ЎЗАМЕН

## АПОВЕСЦЬ

### 4

Бальніца драўляная. Тры прыбудовы ля яе таксама з бярвення, але святлейшага — не ў адзін і той жа час будаваліся. І нават шыльдачка з кароткім надпісам «Залеская бальніца» таксама драўляная.

А ганак будынка цэментаваны, з трыма шырокімі прыступкамі, і на верхнім з іх стаіць жанчына ў белым халаце. Нерухомая яе постаць здаецца нежывой, як бы злепленай з гіпсу: я прыкмеціла жанчыну адразу ж, як толькі выйшла з бярэзніку і ўбачыла будынак вясковай бальніцы, і пакуль я ішла нейкія тры сотні крокаў, жанчына не зварухнулася; яна і цяпер нерухомая, як статуя, глядзіць на мяне, і на яе шырокім мангольскім твары няма аніводнай рысачкі цікаўнасці.

Разгледзець добра жанчыну я не магу — увага мая раздвойваецца. За бальніцай сад, дрэвы ў ім разгалістыя, прыгінаюцца да самай зямлі ад цяжару вялізных чырвоных, прадаўгаватых, як ігрушы, яблыкаў; яблыні амаль кранаюць белыя вокны бальніцы. І дзівіць яшчэ халат жанчыны: бялюткі, накрухмалены, адпрасаваны.

Мяне ніхто не стрэў на аўтобусным прыпынку, хоць у раённым аддзеле аховы здароўя паабяцалі, што мяне стрэнуць, і кватэра мне падрыхтавана. Я ішла пешкі ад гравійкі, стамілася, праўда, не дужа, толькі намуляў далонь чамадан, і я з ахвотаю стаўлю яго на зямлю і трасу знямелай рукою.

— Указальнік на гравійцы сцвярджае, што два кіламетры да Залесся, а тут, напэўна, усе тры будзе. І пясок, пясок... Дужа цяжка ісці...

— Залессе далей, да яго яшчэ кіламетр. Унь у той бок...

— Дык, значыцца, я толькі ўсяго адзін кіламетр і прайшла? Гэта з таго, што цяжка ісці...

— Правільна,— сказала жанчына, і цяжка было зразумець, што

---

Заканчэнне. Пачатак гл. «Маладосць» № 10 г. г.

яна лічыць правільным: тое, што я прайшла адзін кіламетр, ці тое, што дарога пясчаная і цяжка ісці; яна па-ранейшаму была нерухомая і стаяла, шырока і цвёрда паставіўшы на ганку ногі ў жоўтых скураных тапках.

— Я ўрач, прыехала сюды працаваць да вас. Вам паведамілі? І вы, мабыць, Твораж?..

— Не, я Мацяш. Медсястра. Сапраўды, паведамлялі з раёна, што вы прыедзеце. Але сёння мы не чакалі вас. Таму і не загадана страчаць.

— А хто павінен быў даць гэты загад? — я спытала гэта, добра разумеючы, што рабіць тое было не трэба, бо загад, вядома ж, павінна была даць Твораж, загадчыца, якая, як мяне папярэдзілі ў райаддзеле, мае «не вельмі мяккі нораў».

— Галіна Сямёнаўна павінны былі даць загад. А яе няма. Яна там, у Крынках. Гэта там, па левы бок возера. А шыльда на гравійцы сапраўды няправільная! Да Залесся тры кіламетры, а нехта мераў ад нашай бальніцы, а напісаў — да Залесся...

Жанчына сышла з ганка, папытала, як маё імя, па бацьку, і, пачуўшы яго, у нейкім дзіцячым здзіўленні пляснула рукамі:

— Дык цяперка ў нас дзве Галіны Сямёнаўны будзе! Дзіўно!

— Не бойцеся, не пераблытаемся. А вас як, давайце ўжо бліжэй знаёміцца.

— Мацяш.

— А імя, па бацьку?

— Яно цяжка выгаворваецца. Рузана Марыканаўна. Так што мяне ўсе прызвычаіліся — Мацяш. Кватэру вам падрыхтавалі, хадземце, пакажу. У нас, ведаеце, усе ў Залессі жывуць. Тут толькі Карабань. І Габінаў яшчэ. Але ён па выкліку паехаў. Унь у тым будынку жыве. А ваша кватэра добрая, вам па душы будзе, галоўнае — зручна: пад адным дахам з бальніцаю. Гэта цяпер суха, а як дажджы — толькі берагам возера можна ў Залессе, бо лясгасаўскія машыны гліну нашу як кашуператаўкуць...

— Лясгас тут вялікі?

— Не, участак толькі. Яго нібыта закрываць збіраюцца — лясы павысякалі. Праўда, цяпер пасадкі вядуць. Раней у нас ціша была. Цяперка нам гэтыя мантажнікі гоману паддалі.

— Вы даўно, значыцца, працуеце тут.

— Адразу, як з партызанаў выйшлі. Я санітаркаю ў атрадзе была. Спачатку санучастак быў, потым пункт, а цяпер — бальніца. Так што да сябе ў Арэнбург я і не паехала. Мне і на пенсію скора...

— А твар у вас вельмі ж маладжавы!

— Гэта — ад вады. У возеры нашым вада дужа мяккая. Можа на возера з дарогі памыцца хочаце? Тады гэтаю сцяжынкаю і пойдзеце...

З другога боку бальнічнага будынка быў дакладна такі ж ганак, з шырокімі цэментаванымі прыступкамі. Дзверы толькі іншага колеру — светла-карычневыя, з шырокай, крыху абіржавелай ручкаю. Мацяш націснула яе, і дзверы адчыніліся, але сама яна не ўвайшла ў пакой, і я засталася адна.

Пакой маленькі. Ля сцяны звычайны бальнічны ложак, але засцелены, і белая тумбачка побач. Ля белай бакавіны грубкі ёсць праём у сцяне, завешаны белай шырмаю — уваход на кухню. Кухня яшчэ меншая, нават без акна, месціцца толькі пліта, вузкі столік, два зэдлікі і скрыня, у якой акуратна складзены дробна пасечаныя дровы.

І яшчэ што здзівіла — пах. Моцны, добра вядомы мне пах бальніцы. Гэта, відаць, таму, што з кухні вядуць дзверы,— мабыць, на бальнічны калідор. Так, на калідор...



Я агледзела гэта ўсё ўмомант, села на ложак, ён непрыемна зарыпеў, і гэты нудны гук нібыта падштурхнуў мяне. Не да спадобы табе ўсё гэта? А ты што, чакала, каб стрэлі гулам аркестра і казачнымі палацамі?.. Бярыся лепей за справу! Акно — адчыніць. Цяпер мыла, ручнік, купальнік у руку — на возера бягом!..

Бегла сцежкаю, паабапал якой жаўцелі пасадкі акацыі, густа абсыпаныя доўгімі карычневымі струкамі. Потым пайшла заглуш чаромхі, але яна раптоўна скончылася, і ў вочы ўдарыў асляпляльны бляск вады.

Возера!

І якое возера! Цуд! Лясы наперадзе, за ім, лясы справа, і само возера знікае за чорна-сіняй сцяною. А там, на тым паваротку, бачна вёска. Гэта, мабыць, і ёсць Залессе. Толькі тры хаты відно, чацвёртая толькі напалавіну — затуляе старая чаромха, што расце ля самай вады. І чарот у вадзе. Зялёны-зялёны чарот, густы, як сцяна, але тут, дзе выходзіць на бераг сцежка, бы выкасіў хто яго — шырокая і ўтульная затока з драўлянымі масткамі. Ля масткоў патоплены, заліты вадою ўпоравень з бартамі, новы човен, нават не пафарбаваны яшчэ.

І што яшчэ дужа ўразіла — пясок. Не рачны жвір, буйны і дужа цвёрды, а дробненькі, быццам пушчаны на сіта, мяккі-мяккі. І дно пясчанае, не тваністае; ідзеш па ім, быццам па мяккай халоднай коўдры.

Я радуюся, як малое дзіця, тупаю па вадзе, мыюся раз, другі, а паплысці — баюся. Зайшла ў возера па калена, стаю, адчуваю, як пачынаюць тукаць у ногі маленькія рыбкі. Вада калышацца, цень мой соўгаецца, дрыжыць, і цяжка згледзець, што там робіцца на пясчаным дне.

І паветра. Я дыхаю на поўныя грудзі і адчуваю, што паветра нават крыху п'янкое, аж тлум б'е ў галаў, і ўсё не магу прызвычаіцца да гэтага хараства, не магу паверыць, што ўсё гэта — неба, і зялёныя гаі вакол, і чыстая вада возера, і зялёна-дымны чарот, і заглуш чаромхі — усё гэта нікуды не знікне ні сёння, ні заўтра, што ўсё гэта будзе са мною, будзе доўга-доўга.

Ля бальніцы мяне чакае ўжо мажная, з пранізлівымі чорнымі вачыма, жанчына ў белым халаце. Здаля мне спачатку падалося, што гэта Мацяш.

— Наста Яфімаўна,— гаворыць яна і працягвае мне руку. Далонь у яе сухая, жылістая; хуценька схаваўшы руку ў кішэньку халата, тут жа дадае: — Наста Яфімаўна Карабань. З прыездам вас, з прыездам і прыбыццём. І даруйце, што не стрэлі, нейкая недакладнасць, адным словам...

Звычайная, адным словам, размова, і мы вядзем яе, і ўваходзім у пакой, і Карабань становіцца на сярэдзіне пакоя, а я стаю ля дзвярэй і адчуваю сябе непажаданай госцяй. Карабань разглядае мяне, і я змушана таксама глядзець на яе. У яе паўнаваты, але крыху зжаўцелы твар, востры, як дзюба, падбародак; а чорныя вочы, якія мне спачатку здаліся нейкія пранізлівыя і ўчэпістыя, дужа засмучаныя — вочы стомленага і добрага чалавека.

І зноў здзіўляе мяне халат: ён на Карабань такі ж чысцюткі, накрухмалены, як і ў Мацяш. А мой халат, які я выцягнула з чамадана, калі збіралася бегчы на возера, зараз вісіць на спінцы ложка і здаецца змятай і непрыгожай анучкаю. І мне няёмка, і я пачынаю гаворку, прыгадваючы тое, што мне казалі ў раёне.

— Калі не памыляюся, вы хірургам тут. Я чула ў аддзеле: вопытны спецыяліст, казалі, можна павучыцца...
— І хірург. І тэрапеўт. І акушэр-гінеколаг. Мы ўсе тут — урачы самага шырокага профілю... Па душы вам нашыя мясціны?
— Вельмі.
— Так, улетку тут жыць можна. Зімою блага, снег, снег, снег. І вятры ўвесь час — з азярка...
— А я люблю, калі снегу шмат. На лыжах тады можна...
— Лыжы? Гэтым у нас дзеці займаюцца. Мой Генка зімою гэтай дзве пары патрушчыў.— Карабань спахопліваецца, быццам пачала не тую гаворку, дзеля якой прыйшла, і глядзіць на мой халат.— Гэта студэнцкі, мабыць? Я дам вам новы. Твораж наша ў гэтых адносінах вельмі патрабавальная. І, калі хочаце, зараз паглядзім бальніцу...
Нічога, здаецца, крыўднага і не сказала яна, але я адчуваю непрыязнасць да Карабань. Мой халат, які праляжаў гэтулькі ў чамадане, не адпрасаваны, пакамечаны. Але мне ён — па сэрцы: на пятым курсе мы шылі халаты самі, і мой у групе быў прызнаны лепшым...
— Дык што, ёсць ахвота? Тады хадземце. І пойдзем тут, цераз вашу куханьку...
І гэтая яе прапанова — дабрадушная і прыветлівая — скасавала непрыязнасць, і я адчула сябе вальней. Карабань ішла наперадзе і расказвала аб сваёй працы, аб патрэбах бальніцы. Не, яна не скардзілася — і гэта мяне прыемна ўразіла,— а проста даверліва паведамляла тое, што ёсць, і ў яе голасе гучалі гонар за ўсё тое, што яна паказвае мне і паведамляе, і перакананне, што я разумею яе так, як трэба.
Бальніца на два дзесяткі ложкаў, і амаль усе яны вольныя — хворых толькі шэсць чалавек. Карабань мне растлумачыла: увосень, маўляў, хварэюць тут мала, а вясною звычайна нават ложкаў не хапае. Нейкая ёсць у гэтым заканамернасць, якую ніхто, на жаль, не ведае. Гісторыі хваробы? Яны ўсё ляжаць у Твораж і зірнуць на іх можна будзе, калі яна вернецца.
За якую-небудзь гадзіну мы агледзелі ўсё, выйшлі на калідор, потым спыніліся на ганку, якраз насупраць сцежкі, па якой я ішла з аўтобуснага прыпынку.
— Стаміліся? — спачувальна запыталася Карабань.— Адпачывайце, а ўвечары сустрэнецеся з Твораж. Калі ёсць жаданне, можна будзе прайсці ў лясгасаўскі клуб — там сёння кіно. Я пазнаёмлю вас з Зіначкаю — яна аніводнага фільма не прапусціць. Сама я не заўсёды іду: клопат хатні, турботы... Ну, адпачывайце, адпачывайце... Заўтра ўжо ўсё— у вас рабочы дзень...
Адчыніліся дзверы, і Мацяш неяк разгублена і паспешліва паведамляе, што хворы Пяшко патрабуе ўрача.
Карабань незадаволена крывіцца:
— Зноў гэты аматар скандалаў! Таму і не гоіцца нага, ад скандалаў ягоных. Я вам яго паказвала. Памятаеце?
Намагаюся прыгадаць твар хворага, пра якога кажа мне Карабань. Не, не магу прыгадаць. Ды мы, уласна кажучы, і не затрымліваліся: яна сказала прозвішчы, два-тры словы пра гісторыю хваробы, і ўсё. Дарэчы, з хваробаю ног ляжаць у бальніцы тры чалавекі. Хто ж з іх Пяшко? І сорамна прызнавацца, што не памятаю, і я пытаюся, спадзеючыся, што будзе нейкае тлумачэнне:
— Відаць, нешта ж яму спатрэбілася?
— Скандал яму спатрэбіўся. Усё яму не па ім — во ўжо натура! І як з ім толькі жонка жыве!





Мацяш ціха пярэчыць Карабань:

— Яна вясною памерла. У нас і памерла...

— Ах, праўда. Зусім з памяці выбегла. Дык што ён хоча?

— Новага ўрача патрабуе. Вас ён кліча, Галіна Сямёнаўна... Абавязкова каб прыйшлі...

Карабань падціскае губы, потым, безнадзейна махнуўшы рукою, дазваляе мне ісці, і гэты дазвол гучыць як загад, які немагчыма не выканаць:

— Ідзіце, ідзіце... Пазнаёміцеся бліжэй — даведаецеся, што гэта за чалавек... І стражэй з ім. Будзе прасіцца на выпіску, я ведаю... А Твораж загадала не выпісваць...

І тут я прыгадваю, хто такі гэты Пяшко. На трэцім ложку, ля акна ён ляжыць. Калі мы спыніліся ля яго, Пяшко знарок заплюшчыў вочы, прыкінуўся, быццам заснуў. Але я бачыла, як уздрыгвалі доўгія рудыя веі і торгаліся таўставатыя, напружана сціснутыя губы.

— Вы клікалі мяне? — пытаюся я ў Пяшко і краечкам вока бачу, як прагна цікуе за мною яго сусед, які ляжыць на ложку ля сцяны. Адчуваю па цішыні ў суседнім пакоі, што там таксама слухаюць з увагаю нашу размову. І не гэта мяне турбуе — да новага ўрача цікавасць хворых зусім натуральная і абгрунтаваная, а тое, што мне, мажліва, давядзецца выслухаць скаргі на працу сваіх калег. Як мне да гэтага паставіцца? Не ведаю. Не ведаю ўвогуле, як мне трымацца тут з гэтым хворым.

— Клікаў,— адказвае, крыху счакаўшы, Пяшко.

— Што-небудзь здарылася?

— Нічога не здарылася. Я папытаць вас хацеў. Вы доўга правяраць іх будзеце?

— Каго правяраць?

— Ды ўсіх іх тут трэба праверыць. Яны мяне знарок тут трымаюць. А мяне даўно трэба выпісаць!.. І ўсё тут праверыць.

— Не бачу я ў тым аніякай патрэбы, у тым, каб усё праверыць, як вы кажаце. І я не збіраюся нікога правяраць. Я новы ўрач, прыехала сюды працаваць. І бальніца мне падабаецца. Ва ўсім — узорны парадак. Чысціня і парадак!

— Чаму ж тады нага ў мяне не гоіцца?

— А што ў вас з нагою?

— Прапароў нагу. Ноччу. Рыбаліў.

— Як жа вам гэта собіла? Возера ў вас тут чыстае, пясочак мяккі...

— Дык яно ж, калі на злом пойдзе, і на роўным месцы ляснешся...

— Пакажыце вашу нагу... Паглядзім!..

Пяшко з ахвотаю адкідвае коўдру, варушыць пальцамі, хоць я і не прашу яго рабіць гэта — прызвычаіўся ўжо. Я бачу, што пальцы ў яго кратаюцца хутка, лёгка і скура нармальнага колеру. Але як гоіцца рана — мне невядома: нага ад самай ступні і да калена добра і акуратна забінтавана. Сказаць што-небудзь пэўнае мне цяжка, бо я не бачыла гісторыю хваробы, не прысутнічала на перавязцы і здымаць павязку не маю права.

Але гэтыя тлумачэнні Пяшко не задавальняюць, і ён цвердзіць адно і тое ж, не заўважаючы, што супярэчыць самому сабе: чаму, маўляў, яго не выпісваюць, чаму рана гоіцца блага?

— Вы дзе жывеце? — пытаюся я, разумеючы, што самае лепшае — перавесці гаворку на іншае.

— Пры самым азярку.



— І човен у вас ёсць? Я сёння хадзіла на возера, дык бачыла човен патоплены, вадою па самыя барты заліты.

— Дзе гэта такі човен? Дзе гэта?

— А вось тут, непадалёку, як па сцежцы ад бальніцы ісці на возера. Ён ля кладак тамка...

— Э-ээ, не! Гэта не мой човен. Мой там, на пасёлку. Човен у мяне хвацкі — сам зрабіў. Бо на нашым азярку без чоўна рыбіну не зловіш добрую. А ў нас рыбка ё, ой — ё!

— Вось пра гэта вы і думайце. І не трывожце сябе дарэмна. Нага тады хутчэй загоіцца. Дарэчы, судак у вас водзіцца ў возеры?

Не ведаю, што на мяне найшло — я пачала з ім гаворку зусім не пра тое, аб чым павінен быў бы весці гаворку добры ўрач. Але гэта было, мабыць, самае разумнае выйсце, бо Пяшко падтрымаў гаворку ахвотна, ажывіўся, вочы яго глядзелі на мяне па-сяброўску, і адчужанасць, што была паміж намі на самым пачатку, знікла незаўважна.

— Судак ёсць, а як жа! — амаль што выгукнуў Пяшко на поўны голас, хоць да гэтага размаўляў сцішана, быццам стрымліваючы сябе.— Цяпер самы раз яго на блешаньку прыхапіць. Ведаеце, доктар, я летась, якраз у гэты час, пад канец лета, на тры кілаграмы судакоў хватаў. Як жыты пакосяць — ён на блешню ідзе. А ў мяне блешанькі з сакрэтам. Я іх сам раблю. Сам!

— А з люстэркам у вас блешанькі ёсць?

— Як, як?

— З люстэркам. Такая на лыжачку падобная блешня, а ўсярэдзіне — кавалачак люстэрка прыпаяны. На Дзвіне такімі блешнямі рыбаляць...

— Гэта што ж, сюды, значыцца, прыпаяна люстэрка? — пытаецца Пяшко, сагнуўшы далонь левай рукі.— А што ты думаеш? Гэта ж яна тады ў любое надвор'е бліскаць будзе. Во, халера, прыдумалі! Ну, то і я ж змайструю. Гэта мне як піць даць зрабіць...

Ён глядзіць у адчыненае акно, і я заўважаю, як хутка і дзіўна змяньваецца твар Пяшко; даўно няголены, зблядзнелы, твар жывіць добрая ўсмешка, а ў шэрых вачах летуценнасць, прывабная і добрая засяроджанасць чалавека, які заклапочаны чымсь вельмі важным і дужа яму патрэбным.

Я пайшла з пакоя, і Карабань чакала мяне на тым жа месцы. Нашу гаворку з Пяшко яна, мабыць, не чула, а можа і чула — акно ж было адчынена,— але зрабіла выгляд, што гэта — нейкія там патрабаванні хворага Пяшко — яе зусім не тычыцца. Яна спытала мяне зусім роўным і спакойным голасам:

— Можа вам трэба што дапамагчы? У сэнсе побыту... Рэчы вы свае ўсе перавезлі?

— Багаж я свой на станцыі пакінула. Можа знойдзецца якая машына — і прывязу.

— Гэта не праблема. Твораж дамовіцца з лясгасам ці мантажнікамі — іхнія машыны на станцыю штодня ідуць... Тады, магчыма, да заўтра? Вы Твораж толькі дачакайцеся. Яна, мабыць, зараз і прыедзе...

Але Твораж мне давялося чакаць доўга. Я прыбрала пакой, потым сядзела ў садзе з Мацяш, ласавалася дужа смачнымі яблыкамі, слухала, сама расказвала аб сабе, і дзівілася, што мая субяседніца мала зусім цікавіцца маёй асобаю: гэтая простая сціпласць мяне адразу настроіла дужа даверліва, і я адчула, што з Мацяш мы будзем сябраваць.

Быў ужо блізкі вечар. Вялізнае агнянае сонца, але не прамністае,

быццам ахутанае ў ярка-чырвоную тканіну, вісела ў бэзавай дымцы над лесам; справа ад яго, як вялізны пакаты трамплін, выгіналася чорная, нібыта дым, хмара; хмара была нерухомая, а сонца непрыкметна хілілася на далягляд, і таму здавалася, што яно толькі што зляцела з гэтага трампліна-хмары і толькі-толькі замарудзіла рух.

Я глядзела на неба і не адразу заўважыла, што па сцежцы ад возера ідзе жанчына ў светлым плашчы і коціць побач з сабою веласіпед. Ішла яна хуткім, па-вайсковаму чоткім крокам, і я адразу ж, як толькі ўгледзела яе, невядома па якіх прыкметах, здагадалася, што гэта ідзе Твораж. І здагадку маю тут жа — шэптам чамусьці сказала «яна ідзе» — пацвердзіла Мацяш, якая адразу ўзнялася і пайшла ў бальніцу.

Мы пазнаёміліся. Твораж прыветна ўсміхнулася мне, але ў яе вялікіх карых вачах я прыкмеціла незадаволенасць, нейкую як бы падазронасць. Мажліва, гэта ішло ад стомленасці, але думка такая завітала да мяне і не праходзіла.

— Мы сёння не чакалі вас,— сказала Твораж, але не дадала, калі канкрэтна яны чакалі мяне тут, і я, злавіўшы ў яе голасе ноткі незадаволенасці, здзіўлена адзначыла сабе, што яна літаральна паўтарыла тыя ж словы, што сказала Мацяш пры нашай сустрэчы.— Ды і заўтра, мабыць, тое ж самае было б. Гэты месяц мы амаль што і не сядзім у бальніцы: то туды, то сюды лётаем. І ўсё пешачкі, ды ножанькамі сваімі...

— Хіба бальніца не мае транспарту? Хаця праўда, я ж гэта ведала...

Яна зірнула на мяне так, нібыта я сказала неверагоднае глупства, і ёй сорамна нават адказваць на гэтае недарэчнае пытанне, але і пакінуць маю нетактоўнасць незаўважанай ёй таксама цяжка і немагчыма. Дзіўныя вочы ў гэтай Твораж, злуе, безумоўна ж злуе, а незадаволенасць знікла, і на бровах нечакана разгладзілася хмурнасць — нібыта чымсь узрадавалася жанчына.

— У нас дамоўленасць і з калгасам, і лясгасам. Даюць часам «газік», а зімою і ў бездараж конь выручае. На фурманцы, дарэчы, сёння Габінаў пакаціў. У Крынкі. Там, па ўсіх меркаваннях, эклампсія. Званіў Хведар Іванавіч?

Яна спытала гэта ў Мацяш, якая не паспела яшчэ ўвайсці ў будынак бальніцы.

— А як жа! З сельсавета званіў. Казаў, Галіна Сямёнаўна, што да вечара застаецца. А, мажліва, і да раніцы...

— І больш нічога?

— Вас пытаўся. Сказаў, што пазвоніць.

— У які час? Трэба ж было дамовіцца канкрэтна. І самаадчуванне жанчыны. Трэба ж было ўсё гэта запісаць. Вось што, званіце і шукайце мне яго зараз жа! Ідзіце!

Іхняя гаворка ляцела паверх маёй галавы, але мне здавалася, што кожнае слова пранізвае мяне, пранізвае і не знікае зусім, а пакідае ў душы нейкі няясны водгук, падобны на лясное рэха.

— Стамілася я з гэтым канём,— сказала Твораж і прыхіліла веласіпед да спінкі рабрыстай лавачкі, зробленай пад акном бальніцы ля старога язміну.— Сядайце. Вы агледзеліся ўжо тут? У нас хораша — райскі куточак...

— І вельмі добрая бальніца, я вам павінна сказаць. І гэта не камплімент які, а праўда...

З гучным бразгатам адчынілася акно, і Мацяш, стаўляючы тэлефон на падваконне, радасна выгукнула:



— Знайшоўся! Звоніць Хведар Іванавіч!

— Давай яго сюды,— з пагрозаю, але не злоснай, з мяккай, дабрадушнай пагрозаю сказала Твораж. Яна стала ля акна, рашуча ўскінула тэлефонную трубку да вуха.— Гэта — Твораж! Што, што? — яна падзьмула ў трубку, патрэсла яе, зноў прыклала да вуха.— Твораж гаворыць. А-ааа... Пачуў, урэшце. Чаму адразу не паведаміў, што там?.. Ну, ну... А зараз?.. Ага! Бачыш, я заўсёды цябе першая павіншую... Ведама, шчаслівая, а як жа! — твар яе праясніўся, потым спахмурнеў, але тут жа, амаль імгненна, зноў добрая ўсмешка разгладзіла зморшчынкі ля вачэй.— Я заўсёды казала: Габінаў калі захоча — усё зробіць найлепшым чынам. Не, не... Кампліменты ты свае прыхавай. Знойдзеш, каму перадаць... Так, прыехала... Не, не распытала яшчэ... І прыгожая. Вельмі нават! Так што спяшайся, бо давядзецца табе з мантажнікамі ваяваць. Ці з лясгасаўскімі хлопцамі! А як жа, зараз і перадам!..

Яна аддала трубку Мацяш і сказала ёй, задаволена паціраючы рукі:

— Наробяць панікі... Ніякая там не эклампсія... Проста двайняты нарадзіліся. Пастаўце тэлефон на месца, калі ласка. І зачыняйце акно,— і ўжо дадала мне, усё з той жа ветлівай усмешкаю: — А вам прывітанне перадае. Таленавіты ўрач, я вам павінна паведаміць. І — удачлівы. Вы верыце ў гэта? Я веру ва ўдачу. Ёсць такія людзі: за што возьмецца — усё ў яго як па масле коціцца.— І раптам, быццам не было тэлефоннага званка і размовы з не вядомым мне Габінавым, працягвала перарваную размову.— Вы кажаце «вельмі добрая бальніца». Пачуць гэта прыемна. А што вам болей ад усяго па душы?

— Чысціня. І ўвогуле, праўда, гэта першае ўражанне, адчуваецца клапатлівая рука. Крыху ўладарная такая рука... Вас тут, заўважыла я, крыху пабойваюцца...

Мае словы ёй не спадабаліся, і я гэта бачыла і адчула, што нечым пакрыўдзіла Твораж.

— Вы канчалі Мінскі, як я ведаю, так? — нечакана спытала яна, быццам і не пачула маю заўвагу.— А я вучылася ў Першым маскоўскім. Вы ведаеце Маскву?

— Не вельмі. Некалькі разоў была там...

І зноў пытанне, такое ж рэзкае і нечаканае:

— Па ўласнаму жаданню сюды? Ці размеркавалі?

— Раён выбрала сама. А вашу бальніцу прапанавалі ў раённым аддзеле. І ехала сюды з ахвотаю — я ўвогуле люблю новыя дарогі, новыя месцы...

— А я ехала сюды, нібыта ў вір. Маладая, каханне не зусім удалае... На нашым курсе ніхто не хацеў ехаць у Беларусь: балоты, маўляў, камары, усё спалена... А я — паехала... І вось ужо амаль чвэртку стагоддзя. Значна, праўда?.. Замуж тут выйшла, дзяцей нарадзіла... А яна, Таганка, часам і сасніцца... І яшчэ—фантан ля Вялікага тэатра, дзе мы сустракаліся з Пятром. Я заўсёды прыходзіла на спатканні раней, а ён — пазніўся. Сяду на лавачку, вось як тут зараз... А з яблынь пялёсткі — шур-шур-шур... Ох там і цвітуць вясною яблыні! І асыпаюцца, і чуваць, як шархацяць пялёсткі... Зірнеш на франтон тэатра — страшна робіцца: здаецца, няма калон, а коні ляцяць у паветры. І са страху вочы заплюшчыш. А зірнеш — ляцяць коні, як жывыя... Гэта і сасніцца, бывае...

— Вясною мне не даводзілася бываць у Маскве. Больш — улетку.

Звычайна горача было там улетку. А я гарачыню ў горадзе не люблю, не пераношу пах асфальту...

Не магла даўмецца, чаму мае словы так падзейнічалі на Твораж: ледзьве ўлоўны цень прабег па яе веях, яна села раўней, і на мяне глядзела ўжо зусім другая жанчына — патрабавальная і ўладарная.

— Цяпер аб нашых справах,— сказала Твораж, і я адчула, што на ўспамінах пастаўлена кропка.— Я дамовілася з раёнам: будзеце на паўтары стаўкі. Поўная — тэрапія, і палову — вушніка. Месяцы тры стаўка вушніка ў вас будзе поўная — Барэцкая наша ў дэкрэце. Вернецца — возьме ў вас палову стаўкі. Кватэра тут, пры бальніцы... Лепшага пакуль што няма. Нам, праўда, абяцаюць дом у пасёлку — на чатыры кватэры, цагляны, з усімі выгодамі. Але гэта—будучыня... Што яшчэ?..

Я маўчала. Працаваць яшчэ і вушнікам? Пра гэта мне каб слоўца ў раёне! Калі б сказалі — не пагадзілася б сюды ехаць. А што цяпер зробіш? Працаваць яшчэ і вушнікам, мне, якую пры адным толькі ўспаміне пра хваробу вуха, дакладней, калі зазірну ў вуха, пачынае ванітаваць... Дзяўчаты ў групе ведалі гэтую маю слабасць, пацвельваліся, але пераадолець гэтую сваю дзіўную і нічым не патлумачаную непрыязнасць я не магла, хацела і не здолела. А тут мне давядзецца самастойна працаваць па гэтай спецыяльнасці, якая далёкая мне, дарэчы, я зусім блага ведаю, павярхоўна, і якую страшэнна не люблю? Гэта ж нейкае пакаранне! Ці насмешка?

Не, на жаль. Твораж глядзіць на мяне стомлена, абыякава, быццам усё даўно вырашана, і мая згода ці не згода нічога не могуць змяніць і аніякага значэння не маюць.

І я сама падзівілася! Я нічога не запярэчыла ёй, нават выгляду не падала, што гэта мне ўсё не па душы, моўчкі выслухала; і гэтае маё маўчанне, я заўважыла, яе таксама здзівіла, але яна, мабыць, зразумела яго і па-належнаму высока ацаніла.

— Паверце мне, вы мяне яшчэ будзеце дзякаваць за гэтую нагрузку. Абяцаю вам спецыялізацыю на вясну,— і ўздыхнула.—У нас, самі бачыце, пакуль што цеснавата. Вось гэты пакой, дзе тэлефон, ён і кабінет мой, і прыёмны пакой, і дзяжурка — усё разам. Будзем дабудоўваць новы корпус,— паведамляе яна і гаворыць гэта такім тонам, быццам я ў стане нешта тут жа і змяніць.

— Гэта, мабыць, складана...

— Вядома! Але рашэнне ёсць, матэрыял таксама... Будаўнікоў толькі няма. Людзей у нашых месцах мала, асабліва мужчын...— і, быццам спахапіўшыся, дадае:— Тут да раніцы можна гаварыць — гэтулькі праблем. Самі пабачыце, каб вас не запалохваць адразу... Адпачывайце. Будзе час — аб усім падрабязна пагамонім... Да заўтра... Эх, хо-хо-хо... Цяперка — хатні клопат на плечы...

Яна ўзяла веласіпед і, гонячы яго побач, пайшла сцежкаю. Твораж ішла ўсё тым жа чоткім крокам, і штосьці вельмі ўпэўненае было ў яе па-вайсковаму дакладных кроках і рухах. Паходка — люстэрка душы. Кажуць, што нішто з такой дакладнасцю не сведчыць аб натуры чалавека, як яго хада.

З медыцынскага пункту гледжання гэтае сцверджанне вельмі ж спрэчнае, але я недзе чытала ці чула аб ім і зараз прыгадала гэта з нейкай унутранай засцярогаю. Сухар, мабыць, гэтая Твораж. Уладу любіць. Вайсковы парадак тут навяла. Але як тады разумець гэтую яе дзіўную шчырасць? Упершыню ўбачыла мяне, зусім не ведае, што я за чалавек, а так даверліва — як ні кажы, а я ж ёй падначаленая!— і шчыра адкрыла мне старонку свайго даўняга асабістага і не зусім



удалага жыцця. І хто гэта той Пятро, з якім яна страчалася ля Вялікага тэатра?..

Твораж прыпынілася, сказала, бы нешта раптоўна прыгадаўшы:

— А вы ведаеце што? Хадземце да нас. Убачыце, як мы тут жывём. І пасёлак пабачыце. І, вядома ж, не вячэралі?

Я падзякавала, сказаўшы, што ведаю, дзе сталоўка і буду вячэраць там.

— Не, не! Пайшлі! Сталоўка нікуды не дзенецца. Не ўцячэ сталоўка тая, толькі плашчык захапіце. Дождж, напэўна, збярэцца. Хутчэй жа, хутчэй!

Я ўзяла плашч, і мы пайшлі.

Хмара, што нядаўна вісела над лесам, наблізілася, усчаўся пырывісты вецер, і акацыі паабапал сцежкі суха, бы званочкі, шухцелі перасохлымі струкамі. Твораж сарвала струк, патрушчыла яго ў пальцах.

— А на дождж можа і не сабрацца,— зноў выказала яна цяпер зусім супрацьлеглае меркаванне пра надвор'е.— Гэтыя струкі, як барометр. На дождж яны так не пазвоньваюць. На засуху звіняць.

— Дождж не патрэбен зараз. Ураджай жа ўбіраюць.

— Не, што вы. Вельмі патрэбен дождж — азіміна пасеяна. А поле сухое. У нас тут калгас моцны: у жніўні жытні клін звычайна ўвесь засеяны.

— Вы, аказваецца, добра ведаеце вёску!

— Жонка агранома! А хіба я вам не казала, што Васіль мой аграном? Ну, вось пазнаёмлю зараз... Ён — аграномам у калгасе. А да праўлення далёка — амаль дзевяць кіламетраў. Да ўзбуйнення было чатыры калгасы, а цяпер — адзін. Магутная гаспадарка. На выстаўцы дасягненняў у Мінску ёсць нашы экспанаты. Не даводзілася пабачыць?

— На выстаўцы я была. Але гэтага не ведала. Цяпер, калі давядзецца, абавязкова спынюся... Але ж на працу вашаму мужу далёка. Дзевяць кіламетраў!

— У яго — матацыкл. Я ўсё падбіваю на «масквіча». Не пагаджаецца. Баіцца, што я машыну ў бальніцу забяру. У мяне ж ёсць і правы. Яшчэ са студэнцтва — у гуртку займалася. Састарэлі, вядома, хачу памяняць, але часу нестае: клопат, клопат, клопат... Калі не было гэтых мантажнікаў — тут ціхотка. А цяперка праз гэтых рызыкантаў — спакою няма. На мінулым месяцы — два няшчасныя выпадкі. І ўсё — па дурасці маладой...

— А мантажнікі гэтыя што, лінію куды вядуць?

— Так, на Бігосава. Высакавольтную. Была звычайная, а цяпер яе заменьваюць. На жалезныя апоры ставяць... Даруйце за цікаўнасць, а бацькі ў вас ёсць?

Знянацку гэтае пытанне. Але я разумела, што зусім не бацькі мае цікавяць Твораж: яна, напэўна ж, хацела ведаць нешта і пра маё асабістае жыццё і зайшла на гэтую гаворку менавіта з такога боку. І я не пакрыўдзілася: Твораж мела права на гэтае пытанне, і я не магла, не хацела таіцца ад яе, але неяк міжвольна атрымалася, што пра Валеру я не сказала ёй аніводнага слова. Яна з цікавасцю слухала маё апавяданне пра бацькоў, якія павінны былі — тата пісаў у апошнім лісце, што вернецца, недзе ля новага года,— неўзабаве вярнуцца з далёкай будоўлі, але, як мне здалося, зразумела, што нешта з свайго асабістага жыцця я ўтаіла, не пажадала ёй расказваць, і, зразумеўшы, тактоўна не распытвала мяне, і ў маім сэрцы пасялілася трывалая ўдзячнасць ёй за гэта.

## 5

Мы ішлі з Твораж вуліцаю лясгасаўскага пасёлка, і яна расказвала мне пра кожны дом і яго гаспадароў, і я слухала і не заўважыла, як мы павярнулі ў маленькі і вельмі вузенькі завулачак. Паабапал у садах буяў густы і дужа лапісты вішняк, там-сям крануты ўжо восеньскімі барвамі.

Кароткі, крокаў на сорак, завулак заканчваецца крутым схілам да ручая, які зарос высокай чаромхаю. Чаромха расце ўнізе, на схілах ручая, і здаецца, што яе густыя разгалістыя шаты вытыркаюцца з-пад зямлі. I ля гэтых шатаў, крыху ўправа ад завулка, стаіць маленькі драўляны дамок з тэрасамі на два бакі. За ім, на пагорку, расце сасна — нізкая, быццам прыціснутая чымсь зверху. А злева ад яе, праз лістоту чаромхі, пабліскае срэбра вады. I гэтыя разгалістыя шаты чаромхі, з чорным россыпам спелых і дробных ягад, і сасна на пагорку, і блакітны бляск вады, і нават дамок — літаральна ўсё, што так раптоўна адкрылася пагляду,— былі неяк дзіўна знаёмыя, нібыта сасніліся нядаўна, і вось я зноў, у яве ўжо, бачу дзіўныя малюнкі сну.

Спынілася, стаяла і глядзела, не маючы сілы зрушыцца з месца. Гэта ж Валераў дом! Толькі пафарбаваны ў ярка-цагляны колер!

I дзівіла мяне не гэтае нечаканае і так раптоўна адкрытае падабенства, а кволая, чуйная цікамірнасць, што апанавала мяне, і я баялася крануцца з месца, каб не спалохаць, не разбурыць гэтае мроіва ўспамінаў і гэтую чароўную, крыху тужлівую, поўную стрыманага агню мелодыю, што поўніла мяне і зачароўвала: ціхенька-ціхенька, нібыта баючыся чагосьці, асцярожна нудзіла, малілася флейта, глухая, як астматык, бубнілі фаготы і трывожна нудзіліся, крыўдавалі скрыпкі; потым, нібыта адсунуўшы ўсе гэтыя гукі ўбок, уладарна, з святочнай урачыстасцю павялі сваю песню кларнеты.

— Пазнаеце? — спытала Твораж, і я зразумела, што гэтая мелодыя жыве не ва мне, а існуе самастойна, ліецца з шырокага акна тэрасы за вішняком.— Гэта песня Сольвейг. З «Пер Гюнта». Ведаеце? Васіль заўсёды, калі ўбачыць, што я іду, уключае магнітафон... Калі па шчырасці — дык і не кожны раз... Гэта—калі настрой добры...

Васіль стрэў нас на падворку. Ён быў у каўбойцы, з вялікімі квадратамі, трымаў і старанна разглядаў нейкую дэталь, чорную ад мазуты; рукі ў яго былі таксама перапэцканы мазутаю, і вузкія пісягі спаласавалі загарэлы твар, і ад гэтага твар здаваўся састарэлы і стомлены. Васіль зрабіў крок нам насустрач, і тады я ўбачыла матацыкл, схаваны пад нізкім вішняком; матацыкл быў амаль і не відзён, толькі бліскала, як вока нейкае, белая фара з-пад галін.

— Рамонт? — спытала Твораж і дадала ўжо мне: — Ён толькі і рамантуе: рамонт, рамонт, рамонт... А ўсё таму, што болей твар мазутаю змазвае, чым дэталі... Пакінь свой рамонт. I я цябе пазнаёмлю. Гэта — наш новы ўрач...

— Во добра, во добра! — шчыра выгукнуў Васіль і зірнуў на мяне вельмі шчыра і даверліва, і я здзівілася, убачыўшы, як змяніўся раптоўна чалавек, калі пасціраў анучкаю, што вісела на галінцы слівы, чорныя пісягі з носу і шчок: перада мною стаяў малады яшчэ даволі мужчына, з мяккім паглядам сінявых вачэй.— Цяпер жонка хоць меней дзяжурыць будзе, бо мы ўжо і не страчаемся амаль. Нават баюся: сутыкнемся дзе на сцежцы і не пазнаем адно аднаго — гэтак рэдка бачымся...



— А дзеці дома?

— З вудамі сядзяць. Зараз прыйдуць. Я гукаў...

— Давайце памыемся,— прапанавала Твораж і, падаўшы мне з падваконня ручнік, пайшла да круглага бліскучага ўмывальніка, які вісеў на калку пад сліваю. Яна прыўзняла накрыўку, глядзела, ці ёсць вада, і зноў з бразгатам паставіла яе на месца, і я заўважыла, што ў Твораж вельмі прыгожыя рукі — пальцы доўгія, гнуткія...

— Вы, мабыць, і іграеце? У вас рукі, як у піяністкі...

Яна не сумелася, адказала памяркоўна, быццам працягвала перарваную размову:

— Крыху вучылася. Бацькі прымушалі, а я ўсяляк упіралася— не любіла сядзець за інструментам. Мелодыі ведала, любіла, а вось сядзець і развучваць — не. I цяпер шкадую. Праўда, дзяцей кантралявать магу. У Наткі слых ёсць. I яшчэ лепшы — у Валеркі. Але хлопец дужа натурлівы. Выступаў на школьным вечары, калі сёмы канчаў,— ён зараз у дзевятым,— і нехта пажартаваў: артыст, маўляў, знайшоўся. Як адрэзаў пасля таго: да піяніна ані блізка. А здольнасці ёсць...

Твораж стаўляла на стол талеркі, папрасіла мяне пакроіць хлеб, і я, дапамагаючы ёй, зноў падзівілася з таго, як хутка і неўпрыкмет — замест строгай жанчыны, загадчыцы бальніцы — з'явілася дужа прыветлівая, зусім як маладая гаспадыня — змяніла сукенку, фартушок белы ў сінюю палоску надзела, і такі ж на галаве шалік, завязаны, як хусцінка.

— Васіль у мяне харошы,— зноў усё з той жа даверлівасцю, якая здалася мне падазронай у бальніцы, паведаміла: — I жывем дружна. Будаваліся — цяжка было. А цяпер — лёгка. I дзеці падраслі: памочнікі!

Мы селі вячэраць, і Васіль, звяртаючыся больш да мяне, чым да жонкі, прапанаваў:

— З повады вашага прыезду, а таксама ў гонар госці належыць, мабыць, чарка...

— Не, не! Я — супраць. I рашуча супраць.

— Ён жа таксама не п'е,— сказала Твораж і, быццам апраўдваючыся перада мною і пераконваючы некага, сказала: — Каб вы ведалі, як тут часам п'юць! Па-дурному. З нейкай злосцю ці што. Асабліва лясгасаўскія з мантажнікамі!

— Што ты наша Залессе чорнай фарбай малюеш? Ніхто ў тую гарэлку асабліва і не глядзіць. Асабліва цяпер, калі чатыры рублікі за бутэлечку...

— Дык з чаго ж яны тады п'яныя? Ад ветру?

— А дзяўчаты на што існуюць? Чалавек малады, поўны тыдзень, лічы, у лесе, а тады вернецца, на дзяўчыну зірне — галава і закружыцца...

Яны жартавалі, і я жартавала разам з імі, і расказвала пра Мінск, і я сябе адчувала, як дома, быццам ведала гэтых людзей даўно, і вячэра ішла весела. А вячэралі грунтоўна: тушоная бульба з баранінаю, смажаныя грыбы, свежыя памідоры і гуркі, парэзаныя буйна, густа аздобленыя чорным перцам і алеем. Потым пілі чай.

— Паспытайце варэння,— прапанаваў мне Васіль і падсунуў рабрыстую вазу з сіняга шкла.— Гэта—чаромха. Я іх тут панавучваў варыць. Яго тут ніколі не варылі. А ў нас у Сібіры...

— Дык вы сібірак?

— На Іні вырас. Чулі пра такую рэчачку? Э-ээ... Пра яе мала ведаюць. А гэта — даволі буйны обскі прыток. Там я нарадзіўся. I каб

не гэтая вось жанчына,— ён лыжачкаю паказаў на жонку,— я б там і застаўся...

— Мы пазнаёміліся з ім у цягніку,— растлумачыла Твораж.— О-оо! Я калі-небудзь вам раскажу пра гэтае знаёмства — цэлая гісторыя.

— Толькі без хлусні,— патрабаваў Васіль.— Як на споведзі, як гэта кажа ваша Мацяш. Дарэчы, вы пазнаёміліся з ёю? Адзіная жанчына, якая нечага вартая ў вашай бальніцы,— і тут жа са смехам дадаў: — Вядома, пасля вас і маёй жонкі!..

Моцны парыў ветру зашастаў у вішняку, і тут жа, амаль следам за гэтым мяккім шоргатам, гулка, аж зазвінелі шыбы, ляснулі блізкія грымоты.

— Васіль! А дзеці ж на возеры! — усхапілася Твораж.

— Не размокнуць. Ды і не будзе дажджу вялікага сёння.

— Васіль, я цябе прашу. Зараз жа гані іх дамоў!

Я ўзнялася:

— Мне таксама час. Дзякую за вячэру...

Яны ўпрошвалі мяне застацца яшчэ хоць на гадзінку, але я не пагадзілася, развіталася і не дазволіла, каб Твораж праводзіла мяне. Амаль сцямнела, вецер памацнеў, і злева, над лесам, што быў за возерам, успыхвалі крывыя пісягі маланак, і грымоты накатваліся грукатлівымі хвалямі, ад якіх аж звінела ў вушах.

На сцежцы ўжо, той знаёмай сцежцы, па якой я бегла сёння памыцца пасля дарогі, мяне дагнаў гучны покрык. «Вале-ера! Дамоў! Дамоў зараз жа!» Рэха, пашкамутанае ветрам, ляцела над вадою, і яму ў адказ гучаў малады звонкі голас: «Ідзем зараз! Ідзем ужо!» І зноў магутнае і патрабавальнае: «Валера! Валера!» — і ў адказ яму маладое, бадзёрае, як песня: «Ідзем! Ідзем! Ідзем!»

Ведала: муж Твораж кліча дзяцей. Але гэтыя галасістыя покрыкі і само імя «Валера» спарадзілі ва мне глухую, як цемра ў заглушшы чаромхі, тугу. Пачыналіся паабапал сцежкі пасадкі акацыі, і да мяккага шоргату лістоты прымешваўся ціхі і сухі звон вузкіх патрэсканых струкоў, здавалася, што ўсе галіны акацый зроблены з тонкага гучнага металу і дробненька ўвесь час трымцяць.

Я слухала гэты ціхі няроўны звон, які то мацнеў ад парываў ветру, то слабеў і быў ледзьве ўлоўны, і ў памяці зноў ажывала мінулае. Нават не, не мінулае, а толькі адзіны зімовы вечар у мінскім парку над возерам. Мы зайшлі ў самы дальні куток з Валерам, і вакол быў ружаваты паўзмрок, і ружавеў, здавалася, снег, і неба на захадзе, дзе толькі што схавалася сонца, было ружовае, у шырокіх бэзавых палосках; мы спыніліся, і я пачула, як ціха-ціха звініць вакол нас паветра.

— Дубы,— сказаў Валера.

Нечаканасці ў гэтым не было — Валера часцяком казаў мне дзіўныя, нічым, здаецца, не звязаныя словы,— і я засмяялася, прыняўшы Валераву гульню:

— Бяроза!

— Ды не, ты паслухай. Гэта ж дубы звіняць. Вунь яны, бачыш? Ад лістоты такі гук...

Маладыя дубы раслі непадалёк ад сцяжынкі, пры саменькім беразе возера. Лістота на іх не абляцела, нават не скурчылася, а толькі пажоўкла. Была адліга, потым падціснуў мароз, і лісце падмерзла і звінела, быццам зробленае з гучнай жоўтай фальгі.

І цяпер — зноў. Амаль тыя ж гукі!

Звінелі, брэнькалі падсохлыя струкі акацый, і змрочна шухцела чаромха, і ўсё гэта было як песня, якая была пачута толькі аднойчы, але лягла на сэрца назаўжды. Усё гэта было як жар пад попелам: падзьмуў вецер, адкінуў попел — і вуголле зноў горача і ясна свеціцца і не згасае.



## 6

Вось і мінуў першы дзень мае самастойнае працы. Ён быў кароткі, як імгненне. Пазнаёмілася з нашым медперсаналам, перачытала ўсе гісторыі хваробы тых хворых, што ляжаць зараз у бальніцы, зрабіла перавязку Пяшко і доўга гутарыла з ім — пасябравалі мы з ім нечакана для мяне пасля ўчарашняй размовы. Рана ў яго гоіцца добра, і, відаць, на тым тыдні мы яго выпішам.

Вось, здаецца, і ўсё. Хаця не, складалі яшчэ графік — дакладней, абмяркоўвалі, бо склала графік Твораж — начных дзяжурстваў на будучы месяц. Я выказала жаданне дзяжурыць адразу ж, сёння, але па графіку, які быў складзены яшчэ да мяне, гэтае дзяжурства належыць Зіне Ягорчык, якую Твораж увесь час заве ласкава — Зіначка. Дык вось, Зіначка не пагадзілася, каб стары графік неяк ламаўся і рабіліся нейкія карэктывы. Я на сваёй прапанове не настойвала: Ягорчык гэта было па душы, як мне падалося.

Мінуў дзень, і я зусім не стамілася, і намысліла напісаць ліст у Мінск — абяцала бабульцы, што напішу адразу ж, як толькі прыеду на месца і неяк уладкуюся. Бацькам я пішу раз у месяц.

Сяджу цяпер, пішу ліст. Яшчэ толькі сем гадзін, але на дварэ цямрэча, цярусіцца, лапоча па яблынях дробны дождж. Потым сціхае, толькі мякка шахціць мокрая лістота, і мне добра слухаць гэтыя ціхія гукі, пісаць, думаць.

У аднастайны звыклы пошум лістоты ўмешваюцца зусім новыя гукі. Чмякаюць капыты, рыпяць колы фурманкі, і голас — глухі і хрыпаты — патрабуе: «Тр-ррр! Стой!» На імгненне ўсё сціхла, потым гучна, бы стрэл, хлабыснуў пошчак пугі, і загучаў ужо зусім іншы голас — вясёлы і бесклапотны: «Чуть живые, в ночь осеннюю, мы с охоты возвращаемся. До ночлега прошлогоднего, слава богу, добираемся. Вот и мы! Здорово, старая! Что насупилась ты, кумушка? Иль о смерти ты задумалась? Брось, пустая это думушка...»

І зноў — першы голас:

— Болей нікуды сёння, Хведар Іванавіч? Я тады шугану на стайню...

Гэта ж Габінаў прыехаў! Я здагадалася, узнялася, але да акна не пайшла, слухала; акно было адчынена, і чуваць усё вельмі добра.

— Эх ты, таварыш Шумейка! Таварыш Шумейка! — з вясёлым шкадаваннем сказаў Габінаў.— Хоць і ўдзячны я табе за гэтую дарогу бязмежна, але мушу сказаць па ўсёй шчырасці, што глухі ты да мастацтва чалавек. Яму Някрасава чытаю, а ён — «шугану на стайню...» Ды шуганеш, паспееш. Ёсць жа яшчэ ў нас час! Давай па апошняй папяросіне скурым, і ты мне шчыра прызнаешся, што гэтага самага Някрасава ты «ни при какой погоде», як сказаў паэт.

— Чытаў я Някрасава, чытаў, Хведар Іванавіч. І вы ж гэта добра ведаеце!

— Тады — усё! Пытанняў больш няма, дарагі ты таварыш Шумейка. А што, добрая ў нас з табою дарога была? У дарозе ты чалавек

незаменны, і розум у цябе... Ой, розум! Міністэрская галава! Не ведаюць у нас часам, каго міністрам ставіць трэба! Ну, да новых радасных сустрэч?!.

Успыхнула полымя запалкі, потым загурчэлі колы, затокалі капыты. Хісткі прамень электрычнага ліхтарыка дрыжэў і вагаўся на чорнай і мокрай зямлі — Габінаў ішоў да бальніцы.

Крыху спагадзя грузныя крокі сцішыліся пад маім акном. Габінаў адсунуў убок цюль фіранкі і тройчы пастукаў сагнутым пальцам у шыбу.

— Дазвольце ўвайсці? І добры вечар. І яшчэ адно, калі ласка, пытанне. Як сказаў паэт? «Что ты жадно глядишь на дорогу, в стороне от веселых подруг?..»

Габінаў стаяў пад акном, і твар яго быў добра асветлены. Мяккая лінія губ, чоткі цыганскі профіль носа і высокі, блішчасты ад вады лоб. А веі ўвесь час міргалі — не прызвычаіліся да яркай электрычнай віднаты, і цяжка было зразумець, якога колеру ў яго вочы.

— Ды калі ласка, калі ласка...

Ён увайшоў і быў збянтэжаны, і мне падалося, што я размаўляла ля акна зусім з другім чалавекам, але не з гэтым, які стаяў цяпер на парозе, прыхінуўшыся спіною да касяка. Занадта доўгі ваеннага крою зеленаваты плашч звісаў аж да халяў кірзавых ботаў і быў зашпілены на ўсе гузікі, а башлык вісеў за спіною, і ў складках яго было відаць янтарнага колеру шыгалле сасны; у тоўстых губах заціснута згаслая папяроса, якая абгарэла няроўна, адным краем.

— Вы толькі цяпер з Крынак? Як там? Я, дарэчы, прысутнічала пры вашай размове з Твораж. Што, сапраўды было падазрэнне на эклампсію?

— Спачатку я прапаную пазнаёміцца. А потым пярэйдзем да звычайных бальнічных спраў і клопатаў.

— Так, сапраўды. Але ў мяне такое адчуванне, што мы нібыта і знаёмыя...

Я паціснула яго руку — вельмі шырокую, моцную,— і ён не адразу адпусціў маю руку з сваёй далоні, углядаўся, і я ўбачыла зблізку яго вочы, блакітныя, дабрадушныя вочы.

— Значыцца, на чым мы з вамі спыніліся? А-аа! Што там, у Крынках? Адказваю: звычайны выпадак элементарнага акушэрства. І вось вынік: два новыя жыхары нашай вялікай планеты глядзяць на гэты боскі свет.

— А як парадзіха?

— У найвыдатнейшым стане. І там, дарэчы, ёсць медсястра. Працуе на ферме простай даяркаю. Выгадней: гэтак яна кажа. Як вам гэта падабаецца? Увогуле — фенаменальна тое, што я бачыў, але, як мы заўважаем, не дужа і рэдка ў нашым жыцці: танюткая, кволая зусім жанчына працуе на ферме, робіць цяжкую працу, а гэты Рамізевіч — біцюг, класічны біцюг — лайдачыць на добрым паветры. Ляснік. Я нічога не маю супраць гэтай прафесіі, я паважаю яе, але ён — дзябіл, да таго ж яшчэ — у самай яркай форме. Гоніць самагонку і паціхеньку спекулюе. Як вам гэта падабаецца?

— Рамізевіч — гэта хто?

— Я ж вам і кажу: муж парадзіхі.

— І ў яго блізняткі?

— Уявіце сабе,— ён развёў рукамі і самотна ўсміхнуўся, і яго блакітныя вочы неяк раптоўна сцямнелі.— Ды яно ж часцяком гэтак і вядзецца ў нашым найпрыгажэйшым кутку: дурням — шчасце. Верная прымаўка, я мушу вам сказаць...



— Гэта вы зусім дарма. Сядайце, калі ласка...

Габінаў застаўся стаяць, быццам і не пачуў майго запрашэння, толькі пацёрся плячыма аб касяк; пакамечаны плашч тапырыўся на яго плячах, крыху прыгорбленых; ён глядзеў на мяне недаверліва, але не хаваючы свае цікавасці. Цішыня была ў пакоі, і я пачула асцярожлівыя крокі на калідоры: ціха і хутка рыпнулі маснічыны, і гук гэты растаў ля дзвярэй, што вялі з кухні на бальнічны калідор. «Няўжо хтось падслухоўвае нас? Не, гэта неверагодна, не можа быць! У бальніцы зараз адна толькі Карабань. Не, Зіначка яшчэ дзяжурыць збіралася...»

І ад гэтай маёй падазронасці, ні на чым не абгрунтаванай, ад таго, што я ў думках назвала Зіначку так, як заве яе Твораж, мне зрабілася смешна.

— Вы стаміліся, Хведар Іванавіч! І вам трэба адпачыць.

— Гэта верная думка! Але я разлічваў на гаворку грунтоўную, па праблемах... У вас ёсць праблемы?

— А ў каго іх няма?

Я падышла да яго бліжэй і тут жа адхіснулася. «Ён жа зусім п'яны!» Пах гарэлкі я ўвогуле не выношу, а тут быў не проста пах, а смярдзючы, агідны перагар, змешаны з пахам табакі, часнаку,— цяжкі і густы, як мазута.

На падворку прагучаў гучны покрык:

— Хведар Іванавіч! Хведар Іванавіч! Дзе вы тут ёсць?

Па голасе я пазнала адразу: Карабань кліча. Пазнала і хацела пажартаваць, каб ён спяшаўся, але не паспела. Габінаў салютнуў мне рукою і кіўком галавы і, пстрыкнуўшы выключацелем, выйшаў з пакоя, асцярожна прычыніўшы за сабою дзверы.

Не ведаю, знарок ён зачапіў рукою выключацель ці гэта атрымалася міжвольна, калі ён пахіснуўся. Святло я не запальвала, стала ля акна. Вочы хутка прызвычаіліся, і ноч за акном не здавалася зусім цёмнай. Простая жаночая цікавасць: карцела даведацца, ці Карабань гэта клікала Габінава. І на гэтую цікавасць былі, як мне здавалася, падставы: асцярожлівыя крокі за сцяной на калідоры, патрабавальны, поўны нецярпення покрык на ганку.

Але як я ні ўглядалася, нічога не змагла заўважыць. Габінаў знік, нібыта ноч праглынула, ні гуку крокаў, ні голасу, толькі шапацелі ад ветру голлем мокрыя яблыні. Я памкнулася пайсці ўключыць святло і тут жа ўбачыла Габінава. Натапыраны плашч развяваўся пры хадзе, башлык насунуты на галаў — незямная нейкая істота рухаецца. Побач з ім была Карабань. Ён ішоў хістаючыся, і яна падтрымлівала яго, і яе постаць здавалася надзвычай танюткай і кволай.

Да сэрца падступала знаёмае пачуццё адзіноты. Я не магла заставацца ў пакоі. А што рабіць? Лясгасаўскі клуб? Але там сёння нічога, здаецца, няма. Пайсці хіба ў бальніцу? А што, гэта самае лепшае, мабыць: там людзі, хоць не адна будзеш...

Плафоны на калідоры былі прыцемнены, толькі шырокім колам свяцілася лямпа ў кабінеце Твораж. Дзверы туды былі адчынены, і я адразу ж, як толькі ўвайшла ў бальніцу, убачыла і гэтую лямпу, якая стаяла на белай бальнічнай тумбачцы, пры канапе, і Зіначку, якая прытулілася ў кутку канапы, бы згубілася на гэтым старасвецкім, з высокай спінкаю і палачкамі па баках, збудаванні; ля канапы, на дыванку, стаялі маленькія, як дзіцячыя, жоўтыя скураныя пантоплі.

Зіначка пачула, як адчыніліся дзверы, вядома, потым пачула мае крокі і ўбачыла, зрэшты, і мяне, але не зварухнулася, нават не вы-

пусціла з рук часопіс, толькі ногі закрыла шчыльней халатам, быццам разам са мною ўвайшоў у дзверы холад.

— Дзяжурым? — запыталася я, адчуўшы, што Зіначка не вельмі прыветна глядзіць на мяне.— Я таксама па начах дзяжурыць люблю. Ты даруй, мажліва я перашкаджаю табе чытаць?

— Ой, не. Што там! Праўда, кніжка цікавая. Не даводзілася? — яна адгарнула вокладку часопіса, прачытала з адкрытым і шчырым захапленнем.— Габрыэль Гарсіа Маркес. «Сто год адзіноты».

Я шчыра прызналася, што не чытала, і гэта прывяло яе ў захапленне, яна тут жа мне паабяцала даць шосты нумар, дзе друкуецца пачатак рамана і які яна прачытала ўжо.

— Гэта нешта ў стылі Рабле,— дадала яна, і адчувалася, што захапленне раманам непадробленае і вялікае.— Якая ж сіла! Увесь час паўтараюцца, дакладней, паўтараецца ўсё той жа матыў — гінуць чалавечыя надзеі. І не адчуваецца аніякай трагедыі, бо з сілаю незвычайнаю ўслаўляе пісьменнік любоў чалавека да сваёй зямлі, вернасць ёй, смеласць чалавека і грамадзяніна. І яшчэ адна галоўная думка ясна акрэсліваецца: страціў мужнасць, прымірыўся са злом, закрэсліў мінулае, утаптаў яго ў гразь — і, лічы, няма чалавека, бо чалавек — часцінка гісторыі. Гэта — выключна! Гэта — выключна!

— Добра, я пачытаю — а пачытаю я абавязкова,— і мы з табою пагамонім. Мне проста цікава цяпер. Ты так глыбока можаш аналізаваць твор... Мабыць, шмат чытаеш?

— Не, мала. Большасць вось так, на дзяжурстве. А дома — немагчыма. Маці не любіць, калі я з кніжкаю сяджу.

— А бацька?

Яна спахмурнела, але адказала гэтак жа роўна, як і казала дагэтуль аб рамане, але было відаць, што гэта ёй даецца не вельмі лёгка:

— Ён не жыве з намі. І даўно. Я вучылася тады, а ён маму кінуў. І вы ў мяне, калі ласка, пра яго ніколі не пытайцеся. Разумееце? — Спытала і зноў папрасіла, і голас яе зазвінеў: — Ніколі не пытайцеся!..

— Даруй... Я ж нічога не ведала, чэснае слова, не ведала. Я праўду табе кажу...

У пакоі было цёпла, але я сцялася, бы ад сцюжы; нейкі холад знутры — непрыемны і колкі холад — прабег па плячах. Няма, няма і не было ў цябе аніякага права на такія роспыты! Быццам допыт нейкі: чалавек табе адно сказаў, а ты ўжо адразу з душы прыгаршчаю хочаш!

Лаяла сябе не за гэтую сваю празмерную цікаўнасць — у маім пытанні не было аніякай цікаўнасці, проста мне хацелася быць бліжэй да Зіначкі, нейкая патрэба ў цеплыні,— а за тое, што міжвольна прынесла ёй боль. Чамусьці прыгадаўся Габінаў. Як ён натапырана стаяў каля дзвярэй. І ад яго гэтак смярдзела перагарам, сівухаю і часнаком. І ён, мабыць, заўважыў гэтую маю агіду, па-свойму зразумеў яе і не схацеў размаўляць са мною шчыра, а ўзяў той гулліва-бесклапотны тон, які так мяне напачатку здзівіў і насцярожыў. А ён за гэтым сваім тонам, мажліва, хаваў жаданне па-сяброўску пагутарыць; а гутарыць ён хацеў, я бачыла, адчувала, і цяпер з асаблівай яснасцю пачынала разумець тое.

— А чаму вы не спіце? — запыталася Зіначка.— На новым месцы, відаць? Так?..

— Мабыць...

— І яно ў мяне заўсёды так. Памятаю, як прыехала я ў Віцебск на ўступныя экзамены — амаль тры ночы не спала. Смешна нават прыгадаць. Мы жылі ў вялізным пакоі — ложкаў на пятнаццаць.



І мяне не так экзамены хвалявалі, як грошы: мама дала мне грошы, яна іх паўгода збірала, і я баялася, каб іх не сцягнулі. Ноччу засынала і тут жа спахопліваласяся: ці цэлыя. А потым сорамна нават было тое прыгадаць, гэты свой недавер...

— За свае грошы я спакойная. У мяне іх проста няма.

— Вы мяне зусім не так зразумелі. Проста быў выпадак у маім жыцці... Амаль усе дзяўчаты, што жылі тады ў тым пакоі, паступілі, і мы вучыліся разам, і сябравалі.

— Ты даўно вучобу скончыла?

— Ну. Трэці год працую. Цяпер тут добра — стаўкі вольныя ёсць. А тады і не было, як я прыехала. Я ўсяго на палову стаўкі і рабіла — Хведар Іванавіч мне тады палову стаўкі аддаў. Ён перад тым, як мне на вучобу ехаць, сюды прыехаў. А жонка яго сюды не паехала з Масквы. Не, прыязджала, але потым зноў паехала і болей не вярнулася. А ён так і застаўся і адзін жыве.

— Ён што, масквіч?

— Ну. Але вучыўся ў Мінску. І чалавек вельмі харошы. І кнігі любіць дужа. Толькі вось адно ў яго гора — часта кніжку ў шкляной вокладцы любіць пагартаць.

— П'е?

— Ну. Не заўсёды, праўда, і розум не прапівае...

— І Твораж спакойна глядзіць на гэта?

— Ну-уу, не скажыце! Яна яму такую прачоску дае — возера кіпіць. Але яна яго цэніць — ён выдатны ўрач. І хворыя да яго хінуцца,— яна раптам узяла гартаць часопіс, бы штось шукаючы ў ім, потым паклала яго на тумбачку каля лямпы, хуценька запыталася: — Вы надоўга сюды?

— Гэта цябе дужа зацікавіла?

— Ну. Але я папытала проста так.

— Відаць, не зусім і «проста так»...

— Хочаце на шчырасць?

— І ты можаш?

— Ну. Значыцца, гэтак,— сказала Зіначка, рашуча страсянуўшы галавою, і ад гэтага яе светлыя валасы закрылі ёй амаль палову твару. Тое, што яна збіралася сказаць мне, мабыць, бянтэжыла яе, яна пачырванела і змахнула насоўкаю кропелькі поту, што віселі над верхняй губою.— У нас тут урачы чамусьці не затрымліваюцца апошнім часам. Папрацуюць і паедуць. Крышачку папрацуюць і — паедуць. Летась два да нас прыехалі. А сёлета вясною — ту-ту... Толькі вы, калі ласка, не думайце, што я гэта знарок кажу. Я па праўдзе кажу, і мне за гэтую праўду іншы раз грабяня даюць.

— Хто ж гэта?

— Ды ўсе патрошку... Але мне хацелася, каб вы тут засталіся. Ну.

— А чаго ты гэта ўсё «нукаеш»? Усё «ну» і «ну»? Звычка?

— Ну,— і сама добра і міла засмяялася.— У нас у пасёлку ўсе так гавораць.

— А ты сачы за сваёю мовай. Гэтае «ну» вельмі ж непрыгожа гучыць... І не хвалюйся, што я адсюль збягу. Тут мне вельмі ўсё да спадобы. Лясы, возера... Бальніца добрая. Дый патрэбы няма некуды бегчы ці ехаць.

— Замуж пойдзеце і паедзеце.

— А можа ў мяне муж ёсць.

— Не, няма. Твораж, калі з раёнам дамаўлялася, распытвала. Ёй сказалі: адна.

— Я адна і далей буду. Вось як твой раман. Сто год адзіноты!

— І я прыкладна тое ж казала. Абяцала, клялася нават сабе. А сюды прыехала — праз месяц нейкі і вяселле гулялі. Міхась мой у лясгасе працаваў. А зараз — у калгасе. Электрык.

— Дык вы замужам? — спытала я і не змагла, як дагэтуль, казаць Зіначцы «ты».— Вось чаго не думала, дык не думала.

— І дачка расце — другі гадочак. Так што «адна» — глупства. Дарога дзявочая вядомая. І я вам па шчырасці параю: прыглядайцеся да мантажнікаў. Мілата. І спецыяльнасць якая ў руках! Ды наш старшыня, скажы каторы з іх, што заставацца хоча ў калгасе,— дом адразу збудуе. Цяпер электрык у вёсцы як міністр, не раўнуючы,— і невядома з якое прычыны засмяялася.— Толькі гэтыя мантажнікі — нахалы страшэнныя. І летуны: сёння — тут, заўтра — там. Дзяўчаты вясковыя іх проста пабойваюцца. Пабойваюцца, а самі ліпнуць, як мухі на мёд. А мёд — гэта рэч добрая, толькі многа яго не будзеш есці!..

Яна разважала самавіта, грунтоўна і спакойна, як жанчына, што пажыла на гэтым свеце багата і багата пабачыла. І чаму ж гэта Твораж заве яе — Зіначка? І ўсе гэтак жа. І я пачала гэтак жа, і ў гэтай маладой жанчыны і маці, з мілым, зусім дзявочым тварыкам, хапіла тактоўнасці не заўважаць маю фанабэрыстую перавагу. Але якая ж тут перавага? Ніякай перавагі няма. Зіначка, ведама, у сто разоў лепей ведае жыццё — з гэтым я згодна. Ведае людзей — і з гэтым я спрачацца не буду. Але ў адным, перакана, яна памыляецца. Памыляецца ў гэтай сваёй безапеляцыйнасці, з якою яна вызначае маю асабістую дарогу. Відаць, гэта заўсёды лёгка дужа: вызначаць камусьці яго шлях у жыцці, нешта раіць ці патрабаваць. Сапраўды, як гэта гаворыцца: чужую бяду, маўляў, рукамі развяду, а да сваёй дык і розуму не дабяру. Зіначка вунь як лёгка вызначыла мой будучы лёс, усё ёй ясна, усё на свае месцы паставіла. А мне ён, гэты мой будучы лёс, — суцэльны туман, туман і невіднота. Не, чаму туман? Спецыяльнасць ёсць. Месца ў жыцці вызначана — працуй, прынось карысць людзям. Ты ім, людзям, шмат чаго вінна, бо і вырасла і вывучылася, а яны ў гэты час працавалі...

Мне здавалася, што я пераканала і супакоіла сябе. Але гэта быў самападман: я разумела, што зараз мне, як ніколі раней, не хапае чагосьці, і гэтае «чагосьці» зусім не другараднае, галоўнае і, калі не галоўнае, дык вельмі ж важнае і патрэбнае, і гэтага, галоўнага, мне не хапае і не будзе хапаць і сёння, і заўтра, і пазней. І гэтае галоўнае — Валера!

Валера, Валера...

Я не хацела ні прызнавацца Зіначцы ў тым, што яна, безумоўна, у нечым гаворыць праўду, не хацела шчыра ёй пра ўсё расказваць, ні нават даваць ёй падставы ў чымсь сумнявацца. Яна гэтак думае — калі ласка, гэта яе права. Але ж і ў мяне ёсць права думаць інакш.

Самае смешнае ў гэтай сітуацыі было, бадай, тое, што зусім не тое я думала. Самае смешнае, на мой погляд — і гэта я добра разумела — было тое, што гэтых доказаў, якія я рабіла сабе, ніхто не вымагаў ад мяне, ніхто не патрабаваў ад мяне нейкіх тлумачэнняў, ніхто не чакаў ад мяне шчырасці, а, наадварот, сам ішоў — як гэта зараз зрабіла Зіначка і рабіла Твораж нядаўна — на гэтую шчырасць.

Мы дамовіліся з Зіначкаю: заўтра яна прынясе мне часопіс, і я буду чытаць гэты раман. Я вярнулася ў свой пакой, прычыніла акно, легла на ложак. І зноў сну не было, і зноў думкі пра Валеру не давалі мне спакою. І зноў я размаўляла з сабою, размаўляла спакойна, дакладней, думала так, што размаўляю ў думках спакойна, але думкі



гэтыя адганялі спакой, і я намагалася неяк ураўнаважыць іх простым і катэгарычным доказам таго, што мне Валера зусім і не патрэбны. Ну зусім жа не патрэбны! Зусім!

Я не хацела думаць пра Валеру, пераконвала сябе, што трэба спаць, бо заўтра пачынаецца працоўны дзень, яшчэ адзін дзень мае самастойнае працы, што ў мяне ёсць цяпер цікавая праца і што ёсць шмат іншага клопату. Трэба, у прыватнасці, дамовіцца нарэшце машыны і прывезці са станцыі багаж, а гэта займе поўны дзень, і трэба яшчэ шмат працаваць, каб зрабіць у пакоі ўсё так, як мне хочацца, і трэба пайсці на пошту — а да яе кіламетры чатыры — і аформіць падпіску на газеты і часопісы...

Ёсць клопат, адным словам, немалы. І чым болей я думала пра гэта, тым усё болей пераконвалася, што без Валеры мне цяжка давядзецца ў гэтым ціхім і прыгожым кутку. І ўвогуле нельга мне без яго! Ён павінен прыехаць сюды! А і сапраўды, чаму не прыехаць сюды? У адпачынак, скажам. І я пазнаёмлю яго з гэтым Пяшко, і тут ёсць чоўен, і ён можа рыбаліць!..

Валера прыедзе сюды!

Калі і як гэта здарыцца — я не ведала. Але гэтая думка авалодала маім розумам, і я ніяк не магла — ды, шчыра кажучы, і не хацела! — і не хацела нічога ёй супроцьстаўляць: разумныя доказы нерэальнасці і немэтазгоднасці прыезду Валеры сюды ўшчэнт глушыла дурная і сляпая перакананасць сэрца, і я разумела, што менавіта так, як патрабуе сэрца, і адбудзецца, і ад гэтай перакананасці ў ім, у маім сэрцы, абудзілася — цяпер ужо не з успамінаў сатканая, а з цвярозых і цвёрдых надзей — магутная і радасная мелодыя, і гэтая мелодыя закалыхвала мяне, як мяккая і бязгучная гушкалка.

## 7

Спадарожнай машынаю еду на торфаўчастак — самы «пакутны», як кажа Твораж, пункт зоны нашай бальніцы. Захварэла Ганна Міхайлаўна Супрун, жонка памочніка экскаватаршчыка. Мясціны там дрыгвяныя, дарогі ўвосень амаль непраезджыя. Праўда, ёсць вузкакалейка, па якой вывозяць торф у райцэнтр, але зараз на ёй ідуць рамонтныя работы — апошняй навальніцаю размыла насып. Так што дабірацца туды цяжка: трэба даехаць машынаю да Завалынскага лесу, потым селавой дарогаю прайсці кіламетраў пяць аж да самага насыпу, павярнуць потым управа і па шпалах выйсці на ўчастак.

Усё гэта расказала мне Твораж, нават намалявала падрабязны план у маім блакноціку, як мне ісці, і запэўніла, што ўвечары гэтай жа машынаю — машына мантажнага ўчастка ідзе ў раён — я вярнуся ў бальніцу. Хацеў паехаць разам са мною і Габінаў, але загадчыца бальніцы не дазволіла.

І вось я ў дарозе. Але «еду» — гэта не зусім дакладнае вызначэнне таго, што адбываецца. Мы ўжо другі раз стаім на ўзбочыне гравійкі. Першы раз — гэта калі мы праехалі кіламетраў пятнаццаць — шафёр Юрка Бабіч, рудаваты круглатвары хлопец з зялёнымі кашачымі вачыма, мяняў пярэдняе кола. Потым, калі мы праехалі амаль такую ж адлегласць, нешта страшэнна забразджэла пад кузавам, і мы спыніліся, і вось ужо амаль дзве гадзіны Бабіч поркаецца пад машынаю. Я бачу яго ногі ў ботах, якія былі, мабыць, сёння раніцою добра наглянцаваныя, а зараз перапэцканыя і шэрыя ад пылу, і назаляю сваі-

мі пытаннямі. Ужо колькі разоў пыталася, калі ж мы паедзем і ці паедзем увогуле, але ён толькі рагоча і адказвае адно і тое ж: «Паедзем, галубка, паедзем!»

Ён увогуле нейкі сумятлівы і, здаецца, дужа нахабны хлопец, гэты шафёр. Як толькі я села ў кабіну, ён бесцырымонна агледзеў мяне, нечага ўсміхнуўся, а, крануўшы машыну з месца, абвясціў па-свойску, быццам сказаў свайму сябру: «Паехалі, галубка!» І сказаў ён гэта так проста, будзённа, па-таварыску нават, што я не запярэчыла і прыняла гэтае ягонае «галубка» як норму нашых адносін. Ён увесь час пацяшаў мяне рознымі гісторыямі, якіх ведае незлічонае мноства. Пасля першага прыпынку, праўда, крыху сумеўся, але ненадоўга, і зноў пачаў жартаваць. Калі ж мы ў другі раз спыніліся, ён вылез з машыны, агледзеў машыну, і, дастаючы з-пад сядзення сумку з ключамі, абвясціў з гуллівым, але змрочным смяшком:

— Закукуем, галубка, мабыць, да раніцы!

— Тады я пешкі пайду. Не магу ж я тут чакаць да раніцы — там чалавек хворы!

— Пачакай! Зараз можа адрамантуемся,— сказаў ён і палез пад машыну.

Спыніліся мы ў бязлюдным месцы — не відаць паблізу ніякага жытла. Ды і што можна пабачыць, калі стаімо ў нізіне, паабапал дарогі балаціна, парослая чэзлымі сасонкамі, а далей, па пагорках, зжаўцелыя бярэзнікі. Выязджалі, было і сонца і неяк цёпла здавалася, а зараз пранізлівы вецер, неба змрочна асела да зямлі і хмары нібыта зачапіліся за жоўтыя вастраверхія бярозы і спыніліся. Мне холадна. Бабіч двойчы раіў мне залезці ў кабіну і там чакаць, але зрабіць гэта мне неяк няёмка: я буду ў кабіне сядзець, а чалавек на холадзе нудзіцца! Але ж і памагчы яму не магу, і вось тупаю ля машыны, і не назаляю шафёру аднымі і тымі ж скаргамі, і ўсё спадзяюся, што ён нешта зробіць, і мы паедзем далей.

Урэшце Бабіч вылазіць з-пад машыны і брыдка, ярасна, быццам побач з ім нікога няма, пачынае лаяцца:

— ...каб я болей калі на чужы драндулет сеў!... Табе, паразіт, абібок, маржовы...

З бразгатам кінуўшы ключы пад сядзенне, ён ідзе да калюжыны за ўзбочынаю, мые рукі, потым выцірае іх аб дзірван, тады аб штаны і нейкі момант саграваe далоні пад пахамі. І я баюся ў яго што-небудзь запытацца.

Закурыўшы, Бабіч робіць дзве глыбокія зацяжкі, з шумам выпускае дым і рагоча, і яго зеленаватыя вочы з нахабнай прыветнасцю глядзяць на мяне.

— А мы і па-аехалі! Паехалі, галубка? Шчаслівая ты, ой жа шчаслівая! Я быў думаў, што сядзець да раніцы, бо ў суботу па гэтай дарозе аніякі чорт не паедзе. Але і мне гэта навука: не садзіся на чужую машыну. Лёнькава гэта машына, безручы гэтай.

— А што з ёй такое?

— Кардан барахліць. Можа да райцэнтра дачыкілдаю, а назад і не ведаю. Субота і нядзеля — дзе калі каго знойдзеш і на рамонтнай базе. Але пастараюся. І заўтра ты мяне, галубка, чакай. Ты калі там управішся?

— Не ведаю.

— Тады дамаўляемся: а чацвёртай на дарогу выходзіш.

— Раптам не адрамантуецца?

— Там Мохіна павінна машына быць. А з ім тады назад і паеду. Слухай, галубка, а што гэта я цябе на танцах ніколі не бачыў у клубе?



— Мама не пускае.

— Э, мама! Ад мамы збегчы можна. Абы дзеткі малыя не плакалі. У наступную суботу мы з табою полечку ўрэжам, а?

— Старасвецкі ж танец!

— А ў нас яго па-сучаснаму шпарaць: ніякі «шэйк» параўнання не вытрывае. Бляск, адным словам. Значыцца, чакаю ў суботу?

— Чакай, гэта не забаронена.

— Не, я на поўны сур'ёз!

— І я таксама...

Я была такая задаволеная, што мы ўрэшце едзем, і не звяртала ўвагі на яго жарты. У клубе быць? Калі ласка. Полечку, як ён кажа, урэзаць? Можам і гэта. Паглядзім, увогуле, як яны тут час вольны бавяць. І нічога няма, на маю думку, у тым недарэчнага: я ж не бабулька якая-небудзь!..

А яго мая згода ўзрадавала, ён забубніў, засвістаў нешта невядомае, ніколі раней не чутае мною, і гэты яго спеў, і гучны гургат матора абуджалі ва мне вясёлую і ўрачыстую мелодыю. Гэта мне дужа імпанавала, што адно маё слова, простая згода прыйсці ў клуб выклікала такую радасць у Бабіча; я не прымала і яго жарты ўсур'ёз, і яго прапанову, і магла ўвогуле не пайсці, але адчуванне свае ўлады над гэтым крыху нахабным, але разумным і ў чымсь арыгінальным хлопцам мне было прыемным.

Да павароткі, што вядзе з гравійкі на торфаўчастак, мы даехалі амаль у прыцемках. Вузенькая селавая дарога — машыне тут не прайсці аніяк — непрыкметна звярнула з дарогі ў голы, без лістоты зусім, альховы парасніk. Я і не заўважыла гэтую паваротку, але Бабіч добра ведаў яе, загадзя папярэдзіў і потым нават паказаў, як ісці.

— Недалёка тут «высакавольтка». Яе ўбачыш — каля яе і ісці можаш. А не хочаш — сцягою шнуруй, зблудзіць тут проста немагчыма — адна тут гэтая сцяга́ на вузкакалейку. Значыцца, дамовіліся? Заўтра ў чатыры — тут чакаю. А ў суботу — клуб у нашых руках!..

— Дамовіліся,— кажу я і ўскідваю лекарскую дарожную сумку на плячо; сумка даволі цяжкая, з чырвоным крыжам на бакавінах.

Гуд машыны амаль імгненна растаў у лесе. Я ішла хутка, і альховы парасніk неўзабаве скончыўся, і паабапал ледзь прыкметнае сцежкі суцэльнай чорна-сіняй сцяною паўсталі маладыя ялінкі — быццам па калідоры ідзеш. Неяк хутка сцямнела, і ледзьве не згубілася сцежка, і галіны ялін перагароджвалі шлях, і даводзілася адводзіць рукою іх і пільна ўглядацца, каб не збіцца з асноўнай сцежкі — увесь час нейкія прагалы, падобныя на сцяжынкі, былі то злева, то справа; я ішла ўсё наперад і наперад, не адчуваючы ні жаху, ні няўпэўненасці.

Міжвольна прыгадваліся жарты Бабіча, дакладней, не яго ўласныя, а вядомыя габраўскія, але яны ў пераказе шафёра гучалі зусім не так, як успрымала іх я, калі чытала невялічкі зборнічак тых жартаў у Мінску, і мне было смешна, і хацелася спяваць, і ногі ішлі лёгка, і стомы зусім не адчувалася.

Лясны калідор канчаецца, як адсечаны, і я бачу наперадзе роўную вузенькую і светлую паласу. Няўжо гэта насып? Так! Гэта ж я амаль што і прыйшла да мэты. Цяпер павярнуць і проста па шпалах — роўная, чыстая дарога. І нейкі светлячок міргае, коўзаецца наперадзе ля самай зямлі, потым спыніцца, вагаецца патроху, і тады ў светлым коле відаць бліскучыя рэйкі. Э! Дык гэта ж ліхтарыкам нехта забаўляецца!

— Хто там? — гукаю я і сама палохаюся свайго голасу — хрыпаты, дрыготкі, зусім незнаёмы голас.

— А там хто? — гучыць мне ў адказ з цемры дзіцячы галасок, і тут жа святло ліхтарыка знікае.

— Я хату Супруна шукаю. Ты не ведаеш, дзе ён жыве?

— Каторы Супрун? Той, што на станцыі? У нас тут два Супруны ёсць...

Я падыходжу бліжэй. Дзяўчынка свеціць ліхтарыкам не ў мой бок, а разглядае шырокае шкельца, і я добра бачу яе востранькі носік, пульхныя шчочкі і зусім не спалоханыя, а поўныя цікаўнасці вачаняткі. Дзяўчынка ў доўгім зімовым паліто з каўняром, а на галаве ні шапкі, ні хусцінкі.

— Мне патрэбен адзін,— кажу я.— Там хворая жанчына. А я з бальніцы прыехала. Ганну Міхайлаўну Супрун я шукаю.

— Гэта мая мама. А ў Супруноў, якія за калейкаю жывуць, усе здаровыя. Толькі Віцька кульгае.

— А чаго ён кульгае?

— З даху зваліўся. Нага залячылася, а ён кульгае.

— Мы яго заўтра пагледзімо, не будзе ён кульгаць. Цябе як завуць?

— Люда. Я ў чацвёртым класе,— дадала яна, быццам ведала, што будзе і гэтае пытанне, аб школе.— Толькі я цяпер не вучуся, як мама захварэла, трэба пры ёй быць. Бо школа ў нас далёка. Сем кіламетраў. Калейка як працавала — добра было: нас падвозілі. А цяпер тупаць усё трэба. Кажуць, на панядзелак наступны яна ўжо адрамантуецца. А вы не ведаеце пра чыгунку нічога?

— Не, не ведаю. Далёка да вас яшчэ ісці?

— Дык мы ж амаль і дома! Гэта ж вунь мы і жывём... Скажыце, вы маму хутка лячыць будзеце?

— Не ведаю. Я ж яе яшчэ і не бачыла. Вось я пабачу, уведаю, чым яна хворая — тады скажу.

— А калі да Віцькі доктар прыязджаў, дык до-оўга вылечваў. Віцька ляжаў, ляжаў, спяваў нават, а хадзіць не мог.

— А мама твая хутка паправіцца. І хадзіць будзе. Яна на ўчастку працуе?

— Ну. Без мамы блага. А яна ляжыць, ды ўсё «ой» ды «ой»... Толькі гэта і гаворыць...

Мы ідзём па насыпе, пад нагамі рыпіць жвір, на рэйках мітаюцца кароткія промні жаўтлявага святла. Наперадзе ўжо добра відаць вокны будынкаў, і мы хутка набліжаемся да іх, і я заўважаю, як толькі сыходжу з насыпу, што гэта не будынкі, а тры таварныя чыгуначныя вагоны, толькі без колаў, на нейкім нязграбным шырокім падмурку. Да кожнага вагона прыбудавана драўляная лесвічка з парэнчамі. Злева ад вагонаў горбяцца нізенькія хлевушкі з пакатымі дахамі.

З тонкім перарывістым брэхам да нас кідаецца шчанюк, круціцца ў коле святла ад ліхтарыка, падскоквае.

— Воўк! На месца! Ма-арш! — загадвае Люда, але ў яе голасе адна ласкавасць, і шчанюк не дае дзяўчынцы ісці, спрабуе ўскочыць на рукі і ледзь не валіць Люду з ног; ліхтарык падае з яе рук на зямлю, і шчанюк кідаецца на ліхтарык, гаўкае, і я бачу яго нос, бліскучы і чорны, як вялізны гузік.

— Бачыце, што ён нарабіў? О, неслух які! Вось сядзеш ты ў мяне на ланцужок — будзеш ведаць,— з пагрозаю абяцае Люда шчанюку і, узняўшы ліхтарык, свеціць на крайні, справа, вагон.— Вось гэта і ёсць наш...

Мы ўваходзім, і нам насустрач узнімаецца з нізенькага бярозавага кругляка, што стаіць ля жалезнай печачкі, бацька Люды, шырокі ў плячах, з даўно няголеным і чарнаватым, бы закопчаным, тварам, і тады я бачу за яго спіною ложак, пры самай сцяне, і на гэтым ложку жанчыну, з мокрым ручніком на галаве.

— Памажыце, доктар, памажыце,— просіць ён і вядзе мяне да хворай, нахіляецца над ёю, папраўляе ручнік.— З чаго ўсё прыключылася? Каб жа хто сказаў! Цэбрык свінёнку несла, а назад — ногі не вядуць. А зараз і яшчэ горай — ратуначку няма...

Ганна ціха стогне. Яна не адразу зразумела мае пытанні — «Дзе баліць? Раскажыце, як пачалася хвароба» — і глядзіць няўцямна, потым закрывае вочы; лоб гарачы, скроні тлуста блішчаць ад поту.

Урэшце — ломкі, са стогнам, голас:

— Жывот схапіла. Як нажом рэжа. І ў пахвінах рэжа. І са спіны... Авой ты вой, родненькая мая, памажы, ратуй ад болю, цярпець жа сілы няма. Ой, няма, няма, няма!..

Першае, што прыходзіць мне ў галаў,— апендыцыт. Але брушына пальпіруецца лёгка, пальпацыя аніякага болю ў хворай не выклікае. Не, тут нешта іншае. Супрун кажа, што жонка застагнала ад болю адразу ж, як толькі легла на ложак, і тэмпература то падскоквала, то зноў была нармальная. І яшчэ гэты боль у пахве. Значыцца, ірадыяцыя ў пахву. Мажліва, нешта з ныркамі. Падобны боль на ныравую коліку. Ныравакаменная хвароба звычайна дае такі боль, з ірадыяцыяй у пахву. Тут патрэбна, каб сказаць нешта пэўнае, клінічнае абследаванне, патрэбны адпаведныя аналізы...

Патрэбны мне, урачу! А ёй, хворай, патрэбна мая дапамога, тэрміновае збаўленне ад болю, а не якія-небудзь там аналізы. Разумею гэта і не магу сама без болю глядзець на Ганну. Позірк яе блукае, рот адкрыты, шчокі збляднелі, нос блішчыць ад поту; Ганна цяжка дыхае, спрабуе ўскочыць, корчыцца, і мне з цяжкасцю ўдаецца ўтрымаць яе на ложку.

Шкада, ах як шкада, што я адмовілася ад дапамогі Габінава! Ён вельмі настойліва прасіўся ў Твораж, каб паехаць разам са мною. Яна была ўжо і пагадзілася, але я катэгарычна патрабавала: паеду толькі адна! І вось цяпер — калі ласка, што ты можаш тут адна? Нават няма з кім параіцца. Сімптом Пастэрнацкага даволі яўны, крышталікі на дне вядзерца, якім карысталася хворая... Мабыць, гэта ныравакаменная хвароба... І тут патрэбны гарачыя ванны, атрапін і шмат яшчэ чаго... А дзе гэта мне ўзяць тут, у гэтым цесным вагончыку?..

Зноў гэтае «патрэбна»! А ёй, хворай, патрэбна толькі я, мае веды, мая дапамога. І я павінна нешта зрабіць. Не, не гэтае няпэўнае «нешта», а паставіць зусім дакладны дыягназ, павінна не памыліцца, дапамагчы хворай жанчыне!

Недзе за тонкай сценкай вагона нешта ціха звініць, пазвоньвае, і гэты нудны гук спачатку не дае мне засяродзіцца, але потым я прызвычаілася да яго, не зважаю нікога і нічога, апрача хворай. Зноў пальпірую брушыну, распытваю Ганну, прымушаю яе прыгадаць усе дэталі і падрабязнасці, што папярэднічалі хваробе. Яна ўжо стамілася, ёй цяжка весці гаворку, але тое-сёе мне ўжо прасвятляецца. Раптоўныя прыступы ныравай колікі пачаліся ўслед за фізічным напружаннем, потым яны паўтарыліся, і наступіла анурыя. Яе выклікала, мабыць, закупорка ныравых венаў альбо трамбоз ныравых артэрыяў... Што я магу? Ін'екцыю атрапіна, а потым — грэлкі, саграваючыя кампрэсы!..

Свой дыягназ стаўлю бадзёра, павесялеўшы, абяцаю Ганне, што ўсё пойдзе на лепшае, загадваю гаспадару грэць ваду.

— Ёсць вада, доктар! Ёсць! Кіпіць ва ўсе накрыўкі. Я ўжо ведаю,

што ў лекавай справе вадзіца спатрэбіцца... Дачунька! — просіць Супрун дачку.— Бяжы на кухоньку — яна ў нас у двары, доктар, кухонька,— паглядзі, каб на пліце таксама кіпела...

У кутку стаяла, на трох белых цаглінах, электрычная плітка і на ёй вялізны сіні чайнік; тонкі струменьчык пары выбіваецца з-пад накрыўкі, і накрыўка час ад часу ціха звініць-трамбоніць. Дык вось што, аказваецца, звінела, як мне здавалася, за сцяною. І я ўзрадавалася, і яшчэ больш узрадавалася не з гэтага адкрыцця, а з таго, што, урэшце, паставіла, і, як мне падалося, зусім правільны, дыягназ. Шкада, вядома, што ў гэтых умовах ванны хворай не зробіш, але ў мяне ў сумцы ёсць грэлка, і можна напаліваць гарачай вадою бутэлькі!..

Праз паўгадзіны Ганна ляжыць на ложку, абкладзеная бутэлькамі з гарачай вадою, якія закручаны ў ручнікі; пульс робіцца роўны, але вочы яе глядзяць на мяне па-ранейшаму ўстрывожана; яна шырока і часта пазяхае.

— Спаць захацелася. Як боль суняўся, дык дужа ж спаць хочацца. Можна гэта, доктар?

— Неабходна нават! Вы спіце, спіце, калі ласка.

— Ужо ж мне так лёгка стала, дзякую вам, дужа ж лёганька,— яна стомлена закрывае вочы, потым адкрывае іх, глядзіць на мяне даверліва і ўдзячна, і позірк яе не такі ўжо ўстрывожаны, крыху прасветліваецца, і вочы робяцца глыбокія і цямнеюць.— І маладыя ж вы саўсім. Кажуць, што на доктарку цяпер трэба сем год вучыцца. Я хачу, каб Людачка на доктарку пайшла. Мне казалі, што можна і меней.

— Меней, гэта ў тэхнікум калі паступіць. Там рыхтуюць фельчараў...

— Не, фельчар гэта не тое. Людачка на фельчарку не хоча. У інстытут каб паступіць ёй.

— Паступіць, абавязкова паступіць Люда. Толькі каб жаданне было, а калі жаданне ёсць — паступіць, і вучыцца не праблема... А цяпер — спіце... Вам абавязкова паспаць трэба...

Пакуты стамілі яе зусім, і зараз, адчуўшы палёгку, яна засынае амаль імгненна, і дыхае роўна, глыбока; шчокі ў яе ўсё яшчэ бляклыя, але гэта ўжо не сінюшная хваравітая бляклась, а жывая, тонкая і празрыстая, як у час абуджэння.

Колькі я так сяджу ля ложка хворай — не ведаю, нават не гляджу на гадзіннік. Ішла па лесе, надыхалася ляснога п'янкога паветра, стамілася, ды і блага спала мінулую ноч, цяпер прыгрэлася ў цяпле, і змора бярэ мяне, і, галоўнае, не ведаю, што рабіць далей. Назад вярнуцца? Няма як. А дзе тут можна будзе адпачыць? Мабыць, трэба нешта пашукаць на станцыі. Але ж якая тут станцыя? Няма тут у ёй патрэбы — звычайны чыгуначны тупік ды яшчэ вузкакалейка...

Асцярожна кашляе гаспадар, і гэты яго голас вяртае мяне ў свет рэальных фактаў і з'яў. Ува мне ўсё тая ж трывожная пустэча, і тлум у галаве, і стома ва ўсім целе; азіраюся вакол і адчуваю сябе так, нібыта толькі што апынулася ў гэтым чужым і нязвыклым для вока жыллі. Шырокі белы плафон уверсе, прамавугольнік акна і каляровая фіранка на ім, абклееныя старонкамі з «Огонька» сцены, падвешаная на драціне і замурзаная па краях шырма, што падзяляе вагон на дзве палавіны... Ніколі б не падумала, што з простага таварнага вагона можа атрымацца такое даволі ўтульнае і прасторнае жытло.

— Можа вы адпачнеце, доктар,— прапаноўвае Супрун і шморгае ўбок шырму, і я бачу яшчэ два вузкія ложкі, і на адным з іх Людачка спіць — не распранулася нават, скурчылася ля сцяны.— Вы паспіце да



раніцы. Мне зараз на ўчастак, на машыну зірнуць. Восень цяпер, дажджы... Небяспечна без нагляду...

— Я таксама выйду.. Нешта тлумна ў галаве....

— А гэта можна, можна... Толькі апранаху, калі ласка, бярыце. Дождж пабубнівае...

Ён працягвае руку, здымае з вешалкі брызентавы, як у пажарнікаў, бушлат з башлыком, і я толькі цяпер чую над галавою рэдкае і ціхае туканне — дождж і сапраўды барабаніць па даху. Апранаю бушлат, і мы выходзім.

Усё змянілася вакол. Мы ішлі з Людай у суцэльнай цямрэчы, а зараз яркімі прамавугольнікамі свецяцца вокны, і гарыць ліхтар над кожным вагонам, і ланцужком электрычных агнёў напярэдзе робіць голле бяроз амаль празрыстым, і слабае зарава вісіць справа, недзе зусім блізка: пасёлак, мабыць, а можа, як казала Люда, гэта і ёсць станцыя, дзе жыве сям'я другога Супруна. Распытваць мне няёмка. Лепей заўтра ўсё тут, пры дзённым святле, агледжу сама ці распытаю ў Люды.

Я стаю і гляджу, як чэзне, расплываецца ў ночы постаць Супруна, слухаю глухое бомканне вадзяных кропляў па сухім брызенце башлыка, і мне здаецца, што дождж густы і моцны, а ў сапраўднасці — гэта добра відаць у светлых колах ля электрычных ліхтароў — ён слабы і рэдзенькі. У дажджавым сяйве зноў бачу Супруна, які вяртаецца, але ідзе не адзін: побач з ім тупае нізенькі і тоўсты мужчына. Да мяне яны не дайшлі, спыніліся, закурваюць і пра нешта гамоняць, потым Супрун набліжаецца адзін і, адкашліваючыся, просіць:

— Такое тут, доктар, дзела, што Юткевіч кажа, што дачка яго на вуха жаліцца...

— Хіба ён сам гаварыць не можа? Нямко ён ці што?

— Не, разумееце, час позні. Ноч жа... Я і кажу, што вы стаміліся... А ён упарціцца: дамовіцца, кажа, трэба...

— І правільна робіць. Няма вам патрэбы маім часам распараджацца,— мне падабаецца яго ціхі, упэўнены голас, і я папракаю Супруна, разумеючы, што раблю гэта толькі дзеля таго, каб падкрэсліць сваю самастойнасць і незалежнасць.— Што ў яго з дзяўчынкаю здарылася? Ды падыходзьце вы бліжэй! Цяжка ж размаўляць!..

Юткевіч набліжаецца; агеньчык папяросы — ён зацягваецца часта і моцна — успыхвае і асвятляе худыя, запалыя шчокі, буйны з гарбінкаю нос і кудлатыя бровы не маладога ўжо чалавека.

— На вушка жаліцца. Правае. Баліць і баліць. Другі дзень ужо баліць. Вы б можа зірнулі на дзяўчынку, вельмі ж я вас прашу...

— Далёка?

— Чаго?

— Я пытаюся, ці далёка вы жывяце?

— Яно побач. Во тутка, на станцыі,— ён паказвае рукою на слабае зарава.— На станцыі мы і жывём. Мы ёй галоўку завязалі, дык яна яшчэ болей жаліцца, што баліць... Змаглася, дык і заснула. А заўтра раненька яна падбяжыць, як прачнецца. Дазволіце?

Мяне пачынае раздражняць гэты плаксівы тон. Не люблю, калі людзі паддобрываюцца немаведама чаго: па мне, дык лепей грубасць, але адкрытая, шчырая, чым вось гэткае — саладжавая, угодніцкая пачціваць. Мабыць, шчыры чалавек нам заўсёды здаецца крыху грубаватым: мы вельмі хутка прызвычаемся да таго, што нашы слабасці шкадуюць, а калі гавораць праўду — яна заўсёды б'е па гэтых слабасцях.

Не хочацца размаўляць з Юткевічам, і я паспешліва пагаджаюся, што ранкам я з ахвотаю пагляджу дзяўчынку. Усё з той жа лісліваўсцю

ён пачынае мне дзякаваць, і мне непрыемна, што Супрун усё гэта чуе, і робіцца непамысна, і нейкая раздражнёнасць ускіпае ў сэрцы: навошта, навошта ён гэтак гнецца? Чалавек жа! Няхай бы з Супруна браў прыклад, той не губляе пачуцця ўласнае годнасці, незалежна трымаецца, і яго паважаеш.

Урэшце я застаюся адна. Суладныя крокі мужчын, што ідуць і пра нешта гамоняць, аддаляюцца, расплываюцца ў начной цемры і зусім знікаюць, і мне не хочацца нікуды ісці, але не хочацца і стаяць на месцы, і карціць даведацца, што гэта за бярозы такія злева ад вагонаў і дзе тое зарава, і я пацiху тупаю па сцежцы, што агінае вагоны. Сцежка неўпрыкмет выводзіць мяне да нябачнага ў цемры насыпу, нізенькага, і я ледзьве не валюся, але паспяваю ўперціся рукамі ў мокры жвір; жвір халодны, і ад яго прыемна зябнуць пальцы, але болей я ўжо нічога не бачу — башлык замінае мне, зваліўся на твар, і я адкідваю яго, і тады адразу чую ў ціхім шапаценні дажджу па галлі і апалай лістоце прыглушаны гуд, і не адразу магу сцяміць, што гэта гудуць рэйкі. Супрун з Юткевічам, мабыць, ідуць непадалёк па шпалах, а можа і яшчэ хто-небудзь крочыць па насыпе, і каменьчыкі вылятаюць з-пад ног і стукаюць па рэйках, і яны цвынькаюць, дрыжаць, нібыта струны, якія кранулі пальцамі, гэты гук змешваецца з гукамі вадзяных кропляў, і мне пачынае здавацца, што я чую глыбінную песню зямлі, начную песню жыцця. Гэта ж толькі падумаць! Я ж магла пражыць усе свае гады, якія наканаваў мне лёс і якія я не ведаю, як пройдуць, пражыць гэтыя гады і не ўведаць, не пачуць, як тукае па шпалах дождж, як шапаціць ён па змакрэлым лісці і чорным галлі бяроз, як ціўкаюць каменьчыкі па рэйках і як яны таямніча звіняць у начной цямноце...

Раніцою прачнулася я позна — ложак, дзе спала Люда, пусты ўжо. Прачнулася ад гарачыні і непрыемнай парнай духаты і адразу, толькі дакранулася рукамі да сцяны, даўмелася: ад сонца гэта. Сцяна танюткая, у адну дошчачку, абклеена старонкамі часопісаў і газет, і цёплая — нават тварам адчуваеш гэта. Перад маімі вачыма вялізны газетны фотаздымак зорнага неба і ракеты; фотаздымак разарваны напалам і гэтак прыклеены, і ў ракеты адарваны стабілізатар, і ён ляціць нібыта самастойна. А ля ложка тупае маленькі шчанюк, зусім не падобны на ўчарашняга. Я ціха паклікала яго, і ён тут жа ўскочыў на ложак — пульхненькі, з чорнымі бліскучымі вочкамі-гузікамі; хацеў перайсці беражком да падушкі, не ўтрымаўся, шмякнуўся на падлогу, пакрыўджана гаўкнуў. І тут жа зварухнулася шырма, і ў шчылінку зазірнуў жаночы твар, і я адразу пазнаю яго. Ганна! Дык што ж гэта? Хворая раней доктара ўзнялася!

— Ён вас пабудзіў, шчанюк гэты,— гаворыць Ганна і папраўляе шырму.— Ану, марш адсюль! Воўк, на месца!..

— Ай, не чапайце вы яго. Я сама прачнулася і бачу, што праспала ўсё на свеце!.. А чаго вы ўзняліся? Вам трэба паляжаць!

— Ой, доктар! Скажу — не паверыце. Быццам і не балела нічога ўчора. Як адвяло ўсю хворасць за ноч!..

— Не, не! Абавязкова паляжаць трэба. Зараз я ўзнімуся і пагляджу вас. Вы дзе працуеце? Я вас учора і не папытала...

— Укладчыца. На ўчастку. Тут усе на ўчастку працуюць. Іншай работы тут і няма...

— Атрымаеце бюлетэнь. І накіраванне вам дам у бальніцу — у раён трэба будзе пад'ехаць і зрабіць адпаведныя аналізы. Няхай вас уролаг паглядзіць. Вы асцярожна з гэтай хваробаю...

Адчуванне Ганны добрае, і агляд, які я раблю крыху спагадзя, мяне супакойвае і абнадзейвае: небяспека, здаецца, прайшла. Я прыгадваю ўчарашнюю размову з Юткевічам, пытаюся ў Ганны, ці прыйшла дзяўчынка, і яна гаворыць, што малая Юткевічаў чакае мяне, што гэта Алачка, што вучыцца яна разам з Людаю, але сёння не пайшла ў школу, бо дужа баліць вушка, а Люда даўно ў школе...

Алачка такая ж рослая дзяўчынка, як і Люда, але худзенькая дужа, з доўгімі і тонкімі рукамі. Чорныя вачаняты смела пазіраюць на мяне. На пытанне, што ў яе баліць, адказвае хутка, як па камандзе:

— У вухах.

— У цябе вушкі баляць, трэба так і казаць. А «ў вухах» — гэта няправільна. Ты ж у трэцім класе, амаль дарослая... Ну, будзем глядзець тваё вушкі...

Без лобнага рэфлектара даследаваць вуха цяжка, вонкавы агляд нічога не дае. Адно бачу: слыхавы праход вонкавага вуха зусім шчыльна закрыты. Але што там — невядома. Мажліва, серны корак? Але чаму так блізка? А можа гэта толькі знешняе праяўленне хваробы, а пачатак яе там, углыбіні?.. Акрамя вонкавага, ёсць яшчэ вуха сярэдняе, унутранае вуха, ёсць вестыбулярны рэцэптар. Раздражняльнікам якога з'яўляюцца не гукавыя хістанні, а... Не памятаю. А хваробы? Мажліва, аціт?.. Але сімптомы яго? Не памятаю. Ёсць, ведаю, тэорыя Барані. Але сутнасць яе?.. Ну, галубка, выдатна ж ты пачынаеш практыку вушніка! І яшчэ на палову стаўкі працуеш! І як ты адважылася, без спецыялізацыі? Ну, галубка, думай!..

Прыгадала гэтае насмешлівае «галубка» і адразу паспакайнела, пачала мысліць і разважаць лагічна. Боль Алачка адчувае, калі я ледзь дакранаюся да яе вуха. Значыцца, хвароба не можа быць глыбока, значыцца, слыхавы праход чымсь закрыты. Гэтак і ёсць! Яшчэ імгненне — і я выцягваю з вушка дзяўчынкі семку сланечніка. Семка ўжо набухла, вострым канцом упіраецца ў сценку слыхавога праходу — адсюль і боль нават пры слабым дотыку.

— Ой, не баліць! — выгуквае Алачка.— Перастала!

— Ага, цяпер не баліць. А каб семка ў вушку прарасла? Там жа цэлы сланечнік мог вырасці!

— У вушку? Не-ее, ён без зямлі не вырасце. Ён толькі на зямлі расце! Я ведаю!

Алачка тоненька і радасна смяецца, і мне таксама весела, і я бачу, што болей ад усіх узрадавалася Ганна. Яна, мабыць, цяпер паверыла, што я не проста малады ўрач, а чараўніца, якая можа вылечыць любую хваробу. Добра адчуваць гэта, хоць і ведаеш, што яно і не зусім так.

Але гэты радасны настрой са мною ўвесь час: і калі мы снедаем з Ганнаю, і калі Іван Супрун вядзе мяне паказаць торфаўчастак—я сама напрасілася на гэта, бо часу да сустрэчы з Бабічам вельмі шмат, і я ніколі не бачыла, як здабываюць торф,— і пазней, калі я бачу магутны экскаватар, на якім працуе Іванаў памочнік, і калі стаю ля транспарцёра, па якім бясконцаю стужкаю паўзуць у вагоны прамавугольнікі торфу, рудаватыя, з бурштынавымі ніткамі карэння не вядомых мне раслін.

Апоўдні я развітваюся з сям'ёй Супруна. І муж і жонка былі памкнуліся праводзіць мяне, але я адмовілася рашуча і пагадзілася толькі на тое, каб са мною пайшла Люда — яна на той час вярнулася са школьных заняткаў. Мы развітаемся з ёю на тым жа месцы, дзе і сустрэліся ўчора — на сцежцы, што вядзе ад вузкакалейкі на дарогу, дзе мяне павінен чакаць Бабіч.

Далей я іду адна, і мяне зусім не трывожыць, будзе чакаць на дарозе мяне машына, ці не. Прыгажосць пагоднага дня зачаравала. У высі — невымерны прасцяг блакітнай глыбіні, чыстай, сіне-белай па даляглядзе, за якім, здаецца, пачынаецца неаглядная марская прастора. А вакол крыху пагаслы пажар восеньскіх лясоў: празрыстая, бы падсвечаная знутры, сінеча ялін; густая, як бы набухлая ад дажджоў, зеляніна бухматых соснаў; баязлівая трапятлівасць агняна-чырвоных асін; сухая, бы зацвярдзелая охра, спакойна-ўдумлівая мядзянасць бярэзнікаў; змярцвелая, нібыта атручаная, чарнізна альховага парасніку.

Я дыхала халаднаватым смаляна-пахкім паветрам, п'янкім і чыстым — і не магла надыхацца, хацела сказаць гэтай маленькай дзяўчынцы, якой учора ранкам і не ведала зусім, звычайнае пры ростані «бывай» — і не магла: пачуццё невядомае, нязнанае ніколі раней, трымала мяне, прымушала глядзець навокал моўчкі, моўчкі дзівіцца, моўчкі ўслаўляць усё тое, што бачылі мае вочы.

## 8

Цяпер я прыгадваю ўсё гэта спакойна. Цяпер усё гэта — у мінулым: і заліхвацкая «Лявоніха», і неверагодна перакручаная мелодыя народнай песні «Касіў Ясь канюшыну...», і сцежка ў лесе, і жудасны, як нечалавечы, крык Бабіча...

Не ведаю, чаму я пагадзілася танцаваць з ім. Не ведаю, чаму пазней, калі ён прапанаваў праводзіць мяне з клуба, я з той жа лёгкасцю пагадзілася...

Не, хлушу! Я ўсё ведала! Я бачыла позіркі яго сяброў, позіркі, у якіх была зайздрасць, і бачыла драпежны пагляд яго зеленаватых вачэй, і адчувала, што і ён, і яго сябры, і ўсе яны разам выйшлі на паляванне быццам; і што ён, Бабіч — галоўная асоба, а яго дружбакі — звычайныя ганчакі, і што я — дзічына, лёс якой ужо вызначаны.

Усё ва мне пратэставала супраць гэтага: я не хацела быць дзічынаю, і яшчэ больш не хацела праслыць баязліўкаю, і добра ўсведамляла, які гэта дакладны псіхалагічны разлік. Запрасіць пры ўсіх — не адмовіцца, не схоча паказаць сябе баязліўкаю! Ведала гэта, разумела. Але калі ён пры ўсіх прапанаваў праводзіць мяне, прапанаваў з выклікам, ведаючы, што я спужаюся, разумеючы, што не прыняць яго прапановы і адмовіцца — значыцца падпісаць сабе прысуд, ва мне абудзілася злосць — не, не на сябе, а на сваю мяккасць, гэтую кароткую хвілінку баязлівасці,— і я загадала сабе: «Ты пойдзеш! Ты пойдзеш, і яны, гэтыя яго дружбакі, і ён сам, гэты хлопец з нахабнымі зеленаватымі вачыма, не будуць святкаваць перамогу!» А ўголас, каб пачулі ўсе, я сказала бесклапотна і таксама з выклікам:

— А як пойдзем? Можа лесам, наўкола азярка?

Ён не чакаў такой хуткай згоды і яшчэ больш не чакаў менавіта гэтых слоў, заміргаў спачатку, потым зарагатаў, і я бачыла, як ён адкрыта, не тоячыся, падміргнуў сваім сябрам.

— Ведама, наўкола. Можа і качку якую-небудзь упалюем.

— Качкі паляцелі ўжо, мне здаецца.

— Не-ее... Добры паляўнічы заўсёды дзічыну знойдзе!

— Знайшоўся мне паляўнічы! У цябе ж і стрэльбы няма! Ці, можа, ты будзеш тых качак на сала, як той барон Мюнхаўзен?

Ён зразумеў, што я пацвельваюся, і зазлаваў:

— Барон іх — па-панску. А мы — па-пралетарску: на костку! Ха-ха! Рушылі?..





I мы пайшлі.

Выходзілі з клуба, і я зірнула на гадзіннік: палова дзесятай. Але было не цёмна — свяціла поўня. Вялізная, матава-белая, як плафон дзённага святла, яна вісела ў вечаровай высі, яшчэ не вельмі высока, і ўсё вакол набыло адценне нерэальнасці. Але думкі мае былі гранічна рэальныя, і я ведала, і я разумела, што Бабіч будзе мяне цалаваць, і таму, калі ён узяў мяне за плечы і паспрабаваў схіліць голаў, я вельмі лёгка перахапіла яго рукі, адвяла іх у бакі і сказала словы, якія былі падрыхтаваны:

— Паслухай, Юрась! Я не качка. І ўвогуле аніякая табе не дзічына. Ты гэта помні!

Відаць, у гэтай маёй рашучасці было нешта такое, што прымусіла яго збянтэжыцца. Але толькі на нейкі міг, бо тут жа ён рагатаў, схапіў мяне за плечы і тузануў да сябе з такою сілай, што я імгненна апынулася ў яго абдымках.

— А кажаш, што паляцелі качачкі,— рагатнуў ён зноў.— Качачкі цяпло любяць. А ў мяне сэрца — сонцу раўня!..

— Пусці, сонца! Глупства ты робіш. Вось пабачыш!..

— Цёмна ночка — не пабачыш! Цёмна ночка — не пабачыш. Толькі шчасцейка ўбачыш — не адпускай яго, трымай...

— Кінеш ты глупства? Не блазён жа ты які-небудзь... Каб ведала, ніколі б не пайшла...

Яго рукі хутка і лоўка расшпілілі мой плашч, і тады я схапіла мезенец яго левай рукі, сагнула і сціснула. Бабіч заенчыў, але нічога не мог зрабіць са мною: нават самы нязначны рух яшчэ больш узмацняў боль, і я ведала, што гэты боль страшны, і ведала, што гэтак, за мезенец, можна весці хлопца, як цялё на вяровачцы.

— Зломіш! Зломіш жа! — злосна гыркнуў ён.

— Будзеш глупствам займацца — не толькі палец зламлю. Будзеш ці не?

— Адчапіся!

— Будзеш?

— Ды не, адчапіся ты!

Я адпусціла яго, ён нешта ціха пабубніў, потым дастаў пачак цыгарэт, запалкі. Слабае полымя асвяціла яго злосна скрыўлены твар, і я зразумела, што верыць яго абяцанню нельга, і зноў была гатовая да любой нечаканасці.

З нізіны мы выбраліся на вышэйшае месца, і адразу тхнула цяплом, бы ўвайшлі ў ацеплены пакой, і моцна запахла жывіцаю, і ў глыбіні лесу, і блізка зусім ля сцежкі былі відаць на соснах рабрыстыя палоскі падсочкі. Ішлі моўчкі, і поўня была над намі, і сцежка пад шатамі соснаў здавалася цьмяная, бы зробленая з волава, а потым яна зрабілася зыркай і белай, быццам пасыпаў яе хтось снегам, і сосны парадзелі, і справа, у прагалах, нечакана адкрылася снегавая нізіна. Я не адразу здагадалася, што гэта возера, якое зацягнута туманам, але калі зразумела тое, дык была так уражана, што спынілася і прыхінулася спіною да сасны. Перада мною чарнеў ядлоўцавы куст, з трыма вострымі, як свечкі, макавінамі, а за імі, хоць дакранайся рукою, увачавідкі гусцеў туман, узнімаўся вышэй, расплываўся, і змрочныя сосны, што былі ўнізе, амаль пад намі, здавалася, патанаюць, павольна правальваюцца некуды ўглыб гэтай белай аблогі; а далей, за той аблогаю, над цёмнай паласою лесу, таксама шырэлі, расплываліся белыя гурбы, і цяжка было зразумець: воблакі гэта альбо туман.

Юрась знайшоў маю руку, і я не адвяла яе, і я ўжо, так мне пачулася, зусім прымірылася з ім, і не сердавала, і спахапілася, калі адчула боль — мезенец маёй правай рукі быў заціснуты ў яго жмені. І ў той жа міг я была ўжо на зямлі, і галава мая патанала ў шархоткіх халодных верасах, і Юрась, расшпільваючы адной рукою плашч, прагна цалаваў мяне, зларадна мармытаў:

— Ты мяне за пальчык, дык і я ж цябе таксама. І мне было балюча, было... Ды не брыкайся ты, дурнічка. Я кахаю. Кахаю! І не думай чаго — ажанюся! Ажанюся потым — усё па закону будзе! Законна!

Бабіч наваліўся на мяне, і я нічога не магла зрабіць — левую руку, якой я паспрабавала адпіхнуць яго, ён прыціснуў ілбом да зямлі. Я не магла супраціўляцца, не магла нічога зрабіць, і заплакала ад болю, ад злосці на тое, што гэты рудаваты хлопец падмануў мяне, як дурнічку, заплакала ад нянавісці і свае бездапаможнасці, і малілася, і прасілася, але на вуснах у мяне было зусім другое імя — Валера.

— Валерачка? — спытаў Бабіч.— А-аа... Валерка быў, значыцца. Ну і чорт з ім. А я — Юрась. І маё слова — закон. Я не падману. Ажанюся. Бо кахаю. З таго дня, як на машыне ехалі, я закахаўся. У-ух, качачка ж ты мая. Ды што ты круцішся? Позна круціцца ўжо!..

Левая рука мая намацала ў верасах нешта халоднае і цвёрдае. Камень! Я крутнула рукою. Бабіч матнуў галавой — хацеў зноў прыціснуць маю руку да зямлі,— і я з усяе моцы бахнула яго каменем па галаве.

Дзікі, зусім як не чалавечы, крык!

Бабіч пакаціўся, стогнучы, і раптам змоўк — нерухома застыў на зямлі. Я ўскочыла і кінулася бегчы.

Колькі бегла — не ведаю. Спынілася, калі апынулася на лясной прасецы, доўгай і вузкай, як калідор. Злева і справа на мяне павольна насоўваўся белы, як над возерам, туман. Але тут ён быў рэдкі, і за ім, як за празрыстай тканкаю, акрэсліваліся няясныя абрысы, бы нейкія людзі падкрадаліся, каб схапіць мяне. І з нейкай зацятай самаахвярнасцю я пайшла ім насустрач, і цела калаціў дрыжыкі, непрыемныя, як ад сцюжы, і на губах была салёная горыч ад слёз. Я злізвала гэтую горыч, і ад яе быццам праясніваліся мае думкі, і сам туман сплываў ужо, адсоўваўся, і знікаў жах, і зніклі няясныя абрысы, і адкрывалася ўся просека, чыстая і зыркая, нібыта волава на свежым зрэзе...

І халодная, і цяжкая, як з волава, была думка: «Забіла! Ты ж чалавека забіла!»

Я закрычала ў роспачы і адчаі, я клікала Юрася і бегла назад, і рэха кацілася па лесе пераліўамі, гучна, доўга, і ў скронях звінела, і галава была як не свая ад тлуму, ад крыўды, ад злосці, і на губах была салёная-салёная горыч.

Юрась ляжаў усё на тым жа месцы, у верасах, бы патанаў у іх, і я б не знайшла яго ніколі, каб не знаёмыя тры пірамідальныя, як свечкі, вяршаліны ядлоўцу. Юрась быў нерухомы, але ён дыхаў. І я панеслася ўніз да возера, намачыла ў вадзе насоўку, і калі даставала яе, знайшла ў кішэні капронавы башлык ад плашча і набрала ў яго вады.

Мокрай насоўкаю я абцерла яму твар, дапамагла сесці, і ён сеў, прыхіліўся спіною да ядлоўцу, і ядловец згінаўся, і разам з ім згінаўся, вагаўся, бы вось-вось зваліцца на зямлю, Юрась, і я паднесла да яго твару башлык, вада з якога выцякала мне на рукі, і Юрась піў ваду, а потым адштурхнуў маю руку з башлыком і пачаў абмацваць галаву; у святле поўні я бачыла, як адразу счарнела яго далонь, якую ён разглядаў з увагаю.

— Кроў,— сказаў Юрась.— Гэта ж каб крыху ніжэй, дык у скронь. І капцы Бабічу. Чым ты гэтак гвазданула? Мне здалося, што па вачах — зорка... Зорка ўзарвалася...

— З неба, мабыць, звалілася.
— А што ты думаеш? Мяне неба часта карала ўжо. І па выпадках самых розных... Трэба неяк абцерці кроў... Ты ж медык, паглядзі. Можа мазгі ўжо выцякаюць...
— Не, не! Не чапай мокрай насоўкаю. Заражэнне можа быць.
— Пашкадавала, аднак. Чаго ж не пашкадавала, калі цаглінаю малаціла?
— Ніякая не цагліна. Камень...
— Ведама ж... Ад цагліны не так, думаеш, балела б?
— Гэта не я, ты ж сам кажаш. Сядзі ціха, я пагляджу галаву...
Рану ўбачыць было цяжка — цёмна ў лесе, святло поўні няяркае і няроўнае, і валасы зліпаліся ад крыві. У кішэні жакецікa ў мяне была чыстая насовачка, і я паклала яе на рану і загадала трымаць яе рукою, і мы пайшлі. Я сказала, што пойдзем у бальніцу і там я прамыю рану і зраблю добрую павязку.
Мы ішлі ўвесь час моўчкі, і калі лес скончыўся і я ўбачыла наперадзе святло ў вокнах бальніцы — я адчула, што самае жахлівае ўжо засталося ззаду, што мне цяпер няма чаго баяцца, і я нават паспрабавала пажартаваць з Бабічам. Ён не адгукнуўся на мой жарт, толькі папрасіў, і голас яго быў вінаваты:
— Ты не кажы пра гэта нікому.
— Не разумею.
— Мяне хлопцы абсмяюць, жыцця не будзе. Разумееш?
— Дык яны ж галаву ўсё роўна ўбачаць!
— Скажу, што паваліўся.
— Няўдалае паляванне, адным словам. Тады па тваіх слядах пойдуць другія паляўнічыя...
— Ніхто не пойдзе!
— А гэта чаму ж?
— Я буду абараняць цябе. І ты на мяне разлічвай. Цябе ніхто не зачэпіць. Нават пальцам не кране...
І мне стала ўсцешна ад гэтых слоў. Я прыкрыла рукою губы — баялася, што пачну ўголас рагатаць; не крыўдавала і не злавала больш. Я хацела быць абыякавай да Бабіча, намагалася ажывіць у душы нянавісць, каб неяк пакрыўдзіць яго, зняважыць, адпомсціць, але ўсе гэтыя спробы былі марныя, і ўсё ва мне сцішылася, супакоілася, з'явілася нават спагада і спачуванне. Што благое ён мне зрабіў? Цалаваў, кляўся ў каханні... А я яго каменем... Раскроіла галаву гэтак...
І яшчэ было адчуванне, адчуванне невымернай — я адчувала гэта яскрава — улады над Бабічам, і з таго нейкая як бы ганарыстасць расла і мацнела ва мне.

## 9

Снег. Снег. Снег...
У Мінску я такога не бачыла. Пасёлкам ідзеш — нібыта па дахах крочыш: снег упоравень з апошнімі вянцамі хат. І бальніца наша нібыта ўсё глыбей і глыбей правальваецца ў снег: мы ўсе амаль штодня ўранку працуем з рыдлёўкамі. Сцежкі ў снезе, як глыбокія, па самыя плечы, калідоры — казачныя, дзівосныя дарогі.
І сама я апошнім часам жыву нібыта ў казцы — чакаю дзіва... Але гэта не казачны, а зусім рэальны цуд — да мяне прыедзе Валера. Гэта ўжо вырашана і ўзгоднена. Яго дысертацыю абмеркавалі і далі амаль



два месяцы на дапрацоўку. Сядзець і працаваць там, на адзіноце? Не! Ён намысліў прыехаць сюды, і калі раней я не ведала дакладна дзень, дык цяпер я ведаю дакладна і яго намер, і яго планы: прыехаць сюды, у гэты зацішны куток, і працаваць, працаваць, працаваць... І ён гэта зробіць, бо ён — разумнік, бо ён — малайчына, бо ён — геній! Ён тут напіша геніяльную дысертацыю!
Раней, не ведаючы дакладна, у які дзень прыедзе Валера, я была намысліла расказаць і Зіначцы, і Карабань... Але я ў час спахапілася і цяпер нікому ні слоўца не сказала і не скажу. Я ўтойваю гэта ад усіх, каб нічога не змянілася. Недзе чула: пахвалішся — не спраўдзіцца. Глупства, вядома. Але я веру ў гэтыя забабоны, употай пасмейваюся, але маўчу. Маўчу і чакаю. І кожную хвіліну думаю пра Валеру. Я ніколі не думала, што гэта так радасна і добра: думаць, чакаць, спадзявацца на блізкую сустрэчу...
Вось і цяпер, калі мы едзем у вазку да мантажнікаў, я думаю пра Валеру. Шумейка гаворыць са мною, я нешта адказваю яму, а думкі мае далёка, і гаворка наша зусім нязначная. Пад шырокімі палазамі рыпіць снег, на дузе, як званочак, мерна брэнькае жалезнае колца. Дуга старая, фарба месцамі аблупілася, а колца абіржавела і выбіла на бакавіне дугі роўны белы знак. І навошта гэтае колца? Цяжка Шумейку адвінціць яго?
— Няма патрэбы яго адвінчваць,— спакойна і раўнадушна адказвае мне Шумейка; каўнер чорнага кажуха хавае твар фурмана, але я адчуваю, што Шумейка смяецца.— З ім весялей. Асабліва ноччу. Ціша навокал. А ён табе як жывы, як песня: брынь, брынь, брынь... Нібыта і не адзін едзеш.
— Аднаму хіба блага?
Шумейка паварочваецца, пацірае даланёю буйны, як спелая дуля, чырвоны нос, змахвае з вузенькай, падобнай на альховую трэсачку, барады белы іней і толькі пасля гэтага скупавата кідае:
— Блага...
Ён змаўкае надоўга, яго вочы слязяцца ад марознага ветру, і мне здаецца, што ён плача. Жонка Шумейкі памерла. Летась ён пасватаўся да нашай Мацяш, але тая адмовіла, і адмовіла толькі па той прычыне, што Шумейка нейкі час быццам быў звязаны з нейкай баптысцкай сектаю, а Мацяш не любіць сектантаў і заве іх «прайдзісветамі з вялікай дарогі». Усё гэта мне расказала Зіначка — аднаго разу мы дзяжурылі з ёю разам ноччу. Яна ўвогуле здзівіла мяне скрупулёзным веданнем інтымнага жыцця амаль усіх нашых людзей. Ад яе я пачула, напрыклад, што Габінаў п'е з таго, што ягоная жонка не пагадзілася паехаць сюды, прыязджала, паглядзела і ўцякла, а ён цяпер «наладжвае раман» з Карабань, але тоіць гэта, і Карабань сур'ёзна закахалася ў яго, а Мацяш нядаўна закахалася ў камбайнера з Ветрына, які быў пасланы сюды ў час жніва на дапамогу мясцоваму калгасу, бо там, на Ветрыншчыне, глебы пясчаныя і збожжа ўбралі дужа рана, а ў таго камбайнера ёсць жонка і двое дзяцей, і ён нібыта паабяцаў, што будзе падаваць на развод і прыедзе сюды і ажэніцца, але вось ужо тры месяцы няма ад яго аніякай пагудкі.
— Блага,— паўтарае Шумейка і зноў маўчыць і сядзіць нерухома, і на яго кажуху, на швах, паблісквае іней, і ўся яго постаць нібыта высечана з каржакаватай і абрудзелай на сонцы таполі.
— Гэта правільна — блага, калі чалавек адзін...
Я пагаджаюся і гавару, толькі каб не маўчаць, але ў мяне чамусьці недавер да Шумейкі, баязлівасць нават нейкая і разам з тым цікавасць: карціць распытаць яго, ці праўда гэта, што ён звязаны з ней-

кай баптысцкай сектаю, а калі праўда, дык чым займаецца тая секта і, у прыватнасці, ён асабіста.

І раптам Шумейка з нечаканай ахвотаю падтрымлівае гаворку, зварухнуўся, адразу цікавасць у голасе:

— Правільна не тое, што чалавек адзін. А тое, што калі чалавек адзін — ён пусты чалавек. Чалавек павінен быць з вераю. А калі няма ў ім веры — ён ва грахах заблытаецца і загіне ва грахах...

— Гэта ўжо нейкае сектанцтва!

— Ці такую ці іншую назву дасі — што зменіцца? Калі секта чалавека справядліваму навучае: не пі зелле згубнае, не куры, не пагань вусны свае словамі благімі... Хто супраць пойдзе?

— Але ж баптысты, скажам, не пускаюць дзяцей сваіх у кіно, кажуць, што кніжкі — зло, погань, не вераць у медыцыну. У нас свабода веры, калі ласка. Але ж чаго ты, скажам, другіх падбіваеш на тое, дзецям душы калечыш?..

— Я ніводнай душы не скалечыў. Я сам па сабе!

— Вы даруйце, я ж вас і не мела на ўвазе. Я проста так, абстрактную гутарку вяду...

Шумейка імпэтна тузануў лейцы, працяглым покрыкам падагнаў каня:

— Нно-оо! Н-но-аа!

І зноў адварочваецца, раўнадушна маўчыць, нібыта ні пра што я ў яго не пыталася, ніякай гаворкі ў нас не было. Гэтак, у маўчанні, мы даязджаем да невялікай лясной паляны. Але яна пустая; дамкоў мантажнікаў няма. З паляны, аднак, вядзе шырокая дарога, снег на ёй спрасаваны рабрыстымі прамавугольнічкамі ад трактарных гусеніц, і паабапал іх шырокія каляіны — сляднік ад бярвенняў, на якіх дамкі перацягнулі на новае месца.

Мы едзем па гэтым следніку і неўзабаве выязджаем да лясной балацінкі, на ўскрайку якой, пад соснамі, стаяць два дамкі мантажнікаў — сіні і жоўты, і з вузкіх камінoў сінявымі скруткамі паўзе дым.

Я ведаю, што Валяк жыве ў жоўтым дамку, і мы спыняемся ля яго, і ў той жа момант адчыняюцца дзверы і на снег выскоквае Рая Чмель, у сіняй нейлонавай куртачцы, зусім не зашпіленай, і сінім пуховым шаліку, які пакрывае галаву і завязаны на шыі, як гальштук; у руках чырвонае пластмасавае вядзерца. Раю я добра ведаю: у кастрычніку яна ляжала ў нашай бальніцы болей за тыдзень — ступіла ў гумовых ботах на дошку з іржавым цвіком.

Яна цяпер, убачыўшы мяне, узрадавана войкнула:

— Ой-ой! Гэта ж з пустым вас стрэла!

— Тры разы па вядзерцу стукні — будзе лічыцца поўным,— сказала я. Цюкнула ж такое ў галаў.

— Ой, не чула такую завядзёнку! Раз... Два... Тры! — Яна і сапраўды тройчы стукнула па донцы рукою ў зялёнай рукавічцы.— Будзем лічыць, што з поўным стрэла. А Генадзь ужо здаровы! Уваходзьце! Я мігам буду таксама!..

У дамку душна — комін жалезнай печачкі напалены да чырвані. Валяк ляжыць на ложку, але апрануты, толькі коўдру накінуў на ногі, і на гэтай коўдры сядзіць дужа знаёмы хлопец, а побач з ім, спіною да мяне, хтосьці мые посуд у сіняй пластмасавай місе. Мая ўвага прыкавана да гэтага хлопца, што сядзіць на ложку ля Генадзя. У яго белыя кучаравыя, нібыта пасля завіўкі, валасы, вочы цёмна-вішнёвыя, з разумнай і зычлівай хітрынкаю.

— Ваш былы пацыент, таварыш доктар,— гаворыць ён, прыкмеціўшы мой уважны погляд, і я тут жа ўсё прыгадваю. Гэта ж Алесь





Лукаш! Неяк ноччу ён прыйшоў у бальніцу з глыбокай нажавой ранаю вышэй локця, я не магла памыліцца, рана была ад нажа, але ён не прызнаўся і цвярдзіў адно і тое ж: выпадкова, маўляў, паваліўся ў лесе. Потым я даведалася ад Зіначкі — Алесь спрабаваў утаймаваць хлопцаў, што былі на падпітку, але якія гэта былі хлопцы і якая прычына была бойкі — яна мне не прызналася. Я зашыла яму тады рану, хацела пакласці яго ў бальніцу да раніцы, але ён не застаўся, пакрыўдзіўся нават, потым прыходзіў на перавязку, але перавязку мне давялося рабіць толькі аднойчы — усе разы ім займалася Зіначка.

— Юрась! Крэсла доктару! Мігам! — загадвае Лукаш і бярэ з маіх рук паліто.

Хлопец, які мые посуд, паварочваецца. Бабіч! Гэта ж Юрась Бабіч! Ён збянтэжаны, і талерка валіцца ў яго з рук на падлогу і разлятаецца на дробныя кавалкі.

Лукаш рагоча:

— Не адхіляйся ад асноўнага, Юрась. Не адцягвай увагу ад асноўнага! Дарэчы, доктар, вы ведаеце гэты бліскучы анекдоцік? Паміраe цешча, побач сядзіць зяць. Цішыня, чуваць, як ляціць муха, і цешча сочыць за ёю. А зяць ласкава патрабуе: не адцягвайце ўвагу, мамаша, ад галоўнага. Го-го-го!..

І сам першы смяецца, смех яго прыгожы, раскацісты і шчыры. Цяжка ўтрымацца, і мне смешна глядзець, як Бабіч, сагнуўшыся, збірае чарапкі, як ён адводзіць позірк убок і *не хоча глядзець на мяне*. Я ўпершыню пасля тае начной «прагулкі» па лесе бачу Бабіча, і мяне дзівіць, як моцна ён змяніўся за гэты час, у рухах, у позірку знікла фанабэрыя, з'явілася самавітая сталасць. Памкнулася дапамагчы яму, а Лукаш затрымаў мяне:

— Юрасю — пакаранне. Ён у заклад ішоў са мною і, як бачыце, прайграў. Увесь тыдзень будзе мыць посуд. Увогуле, як я думаю, лячыць чалавека трэба. Пазаўчора мой юбілей быў — ад чаркі адмовіўся. У клуб даўно не ходзіць, а які танцор быў! Цяпер вось талеркі гваздачыць. Дайце вы яму якія-небудзь таблеткі. Альбо ў стацыянар кладзіце...

Весела і добра мне ў гэтым жоўтым дамку. Валяк амаль паправіўся ўжо — хрыпаў зусім не чуваць у бронхах,— і я кажу, што яму трэба рабіць далей, і мы дамаўляемся, што на тыдні ён прыедзе да нас у бальніцу, каб закрыць бюлетэнь; я размаўляю і з Бабічам, і мне нават прыносіць задавальненне яго збянтэжанасць, і робіцца крыху шкада — Лукаш пасміхаецца з яго бязлітасна, і ён змушаны цярпець усё гэта.

Уваходзіць Рая, вядро поўненькае і, вядома ж, цяжкае, але ніхто з хлопцаў не зварухнуўся, каб памагчы паставіць яго на ўслончык ля печачкі, і Лукаш зноў тлумачыць мне:

— Выхаванне фізічнай працаю — таксама на заклад ішла са мною. Не ведае, колькі дзён працуе лунаход, колькі цягнецца ноч на месяцы, а спрачалася...

І зноў рагоча, але я адчуваю па яго голасе, што тут не просты пройгрыш у спрэчцы, а нешта большае, і гэтае, большае, Лукаш ад мяне тоіць, і тоіць Рая; зняла з галавы пуховы шалік, кінула на спінку крэсла, села са мною побач.

— Яны ўсе дзівакі — не любяць да крынічкі бегаць. А я люблю, як пайду, дык магу і гадзіну там быць. Мароз, сцюжа, снягі, а крынічка — жыве: вада бруіцца, бруіцца, бруіцца. Як жывая. І як у люстэрка можна глядзецца — такая чыстая...

Мне ўсё даспадобы ў гэтым маленькім дамку, і не хочацца развітвацца і выходзіць на сцюжу, але час ужо, і трэба развітвацца, і развітанне наша па-сяброўску шчырае і сардэчнае. Падалося, што нешта хацеў сказаць мне Бабіч і, мажліва, сказаў бы, але пасаромеўся хлопцаў, пацiснуў, як і ўсе, руку; яго вочы глядзелі на мяне спаважна, і ў іх было захапленне...

У бальніцы мяне чакае ліст ад Вольгі. Нешта зусім мне не зразумелае робіцца з гэтай Вольгаю. Доўга ад яе аніякіх вестак, гэта, калі не лічыць кароткай запісачкі, што я атрымала на шосты дзень свайго жыцця ў Залессі, першая вестка ад яе, першы ліст пасля нашага расстання. Вольга просіць прабачэння, што доўга гэтак маўчала, і просіць не крыўдаваць, калі і далей, у будучым, ад яе не будзе лістоў:



няма лістоў — значыцца, усё ў парадку. І не толькі гэта мне незразумела. Ліст поўны нейкай таямнічасці, загадкавых недагаворак, і побач з тым — *пахвальба*. *Уладкавалася, маўляў, добра, кватэру далі прыстойную*. Бальніца новая, летась толькі пабудавана, абсталявана па-сучаснаму. Галоўны ўрач бальніцы вельмі цікавы чалавек, масквіч, светлая галава, грандыёзны розум і шчырае добрае сэрца. Але гарадок, маленечкі гарадок, ёй не па душы і, галоўным чынам, таму, што ў крамах няма сыру. «Расійскі» сыр быў у краме толькі аднойчы, але няякасны. Праўда, універмаг добры, і бывае шмат цікавых «анучак», і мэбля імпартная ёсць. Але яна не хоча абзаводзіцца гаспадаркаю, бо хутка, мабыць, адбудуцца ў яе ўласным жыцці вялікія змены, і ўсё пойдзе на лепшае. Але перад гэтым — мора нерваў і валтузні, бо ёй трэба, урэшце, давесці да ладу свае адносіны са Сцяпанам, які, як цяпер ёй стала зусім відавочна, «ёсць прыстасаванец у трынаццатай ступені», а з гэтым яна мірыцца не будзе. Яна папракае і мяне, каб *неяк уладкавала свае адносіны з Валерам — што яе трывожыць!* — і трымала яго далей ад Сцяпана, далей увогуле ад людзей, якія здольны прыстасоўвацца і маскавацца ў любых умовах. І трэба памятаць, што галоўнае ў нашым жыцці — каханне, высокія ўзлёты чалавечага духу, калі чалавек адкідае будзённасць, узнімаецца да творчага парывання, у якім ёсць прызначэнне чалавека. У яе душы, *маўляў, зараз змагаюцца два пачуцці* — пакрыўджаны гонар і захапленне, шчасце і радасць з таго, што яна кахала, кахае і будзе кахаць...

Каго яна кахала і будзе кахаць? Не магу даўмецца — з гэтага блытанага і бязладнага, сумятлівага ліста зразумець нешта пэўнае дужа цяжка. Вольга ёсць Вольга! Яе не пераробіш і не прымусіш адмовіцца ад схільнасці да маралізавання, не пераробіш яе здольнасць з самай нязначнай дробязі рабіць ледзьве не сусветнага значэння праблему, не адвучыш павучаць і раіць. А каб жа яна ведала, што Валера збіраецца прыехаць сюды? Напэўна, быў бы цэлы трактат парад і павучанняў. А са Сцяпанам у яе, відаць, жыццё не ладзіцца. А некалі ж малілася на яго! І яшчэ цяпер гэты галоўны ўрач, пра якога яна так заўзята піша, быццам імкнецца *перада мною* апраўдацца...

Згасла святло. Я прылегла на ложак, і адразу ж санлівасць агарнула, і ўжо зусім нерэальнае і казачнае жыццё было вакол мяне. Зімовы лес, і мы з Валерам гонім на лыжах, і Валера са стрэльбаю, і ўвесь час аддаляецца ад мяне і потым знікае, і я назнарок не хачу ісці па яго следзе і іду сваёй дарогаю цераз рэдкі і тонкі бярэзнік, і нечакана бачу, што на мяне імчыць аграмадны руды воўк. Воўк ужо блізка, зусім блізка, і я намагаюся паклікаць Валеру, і ён спяшаецца да мяне, але ён імчыць не па снезе, а ў паветры, і лыжы яго рухаюцца павольна, бы ў замаруджаных кінакадрах, а воўк усё бліжэй, і я патрабую, крычу, каб Валера страляў, і ён узнімае стрэльбу, і адразу з абодвух ствалоў вылятае бязгучнае чырвонае полымя, вылятае і не знікае, а, неяк дзіўна павярнуўшыся ад воўка, упіраецца ў мяне чырвонай вялікай свечкаю, і мне робіцца горача, і цяжка дыхаць, і я ўвесь час адчуваю ўсім целам гэты пругкі і цвёрды камяк гарачай чырвані, і чую знаёмы-знаёмы голас, які кліча мяне; але добра разумею, што гэта не Валераў голас, і мне цяжка адкрыць вочы, бо я баюся, што іх спаліць гэты бязгучны і чырвоны агонь.

З цяжкасцю, урэшце, адкрываю вочы. Габінаў! Ён схіліўся нада мною, і я добра бачу вочы, дужа бліскучыя, спалоханыя, і ніяк не магу даўмецца, хто ж з іх рэальнасць: воўк, Валера, Габінаў?..

— Я пастукаў — ніхто не адказаў,— гаворыць Габінаў і пераастаўляе настольную лямпу бліжэй да падваконня.— Але я чуў голас —

вы крычалі. Відаць, нешта прыснілася. А я быў падумаў, што нешта прыключылася тут у вас... Дык што прыснілася?

— Нават цяжка растлумачыць. Мне здаецца, што вы таксама адтуль, з нерэальнага...

Ён бесцырымонна садзіцца на крэсла ля стала, з даверлівай натуральнасцю рагоча:

— Я не магу прысніцца. І мне ніхто і ніколі не сніцца. Я занадта рэальны і, шчыра кажучы, люблю малдаўскі каньяк, і, насуперак сцверджанням розных знаўцаў, лічу, што гэта найвышэйшая марка. І вернае разбурэнне ілюзій. Тры зоркі на этыкетцы — гэта рэальнасць, якая даецца нам у нашых адчуваннях. І яшчэ з свайго ўласнага вопыту: таго, хто прымае гэтую рэальнасць — вядома, у дапушчальных нормах! — ніколі не наведваюць розныя благія сны, міраж, ілюзіі...

— Затое часта наведваюць хваробы. Каліты, у прыватнасці.

— Э, усіх хвароб баяцца! Ад сваіх хворасцяў нікуды не ўцячэш. Дарэчы, вы не пакрыўдзіліся на мяне за гэты позні візіт? Чакайце, сказаць лепей, мабыць, запозненьі... Так, семантычная фактура тут багацейшая. Бачыце, я ўжо амаль наблізіўся да класікі. «Дарагая графіня! Вашы вочкі...» Памятаеце, адкуль?.. Вось, вось. Усё ідзе ад асветы! Як кажуць біблейцы? Ва ўсякай мудрасці ёсць шмат скрухі. І той, хто памнажае веды, той памнажае жальбу... Жарт, які наводзіць мяне заўсёды на роздум. Але не люблю цытат — лепей свая думка. Я заўсёды быў рабом сваёй думкі. І гэта — блага. Чалавек павінен заўсёды быць гаспадаром сваёй думкі. Ці не так?..

Я пагадзілася. Габінаў крыху на падпітку, я гэта бачу і разумею, і мне не хочацца спрачацца з ім і яшчэ больш не хочацца, каб ён пайшоў: я люблю слухаць яго разважанні, у якіх ён звычайна гранічна шчыры, гаворыць тое, што думае, ніколькі не клапоцячыся пра тое, як гэта будзе ўспрынята яго субяседнікам; цвярозы, ён хмурны, негаваркі, злосны нават.

Але сёння Габінаў нейкі незвычайны, ён з увагаю, якая бянтэжыць, углядаецца, бы штось шукае на маім твары, і я заўважаю, што ён зусім, ну зусім жа цвярозы; вочы яго знаёма паблісквакоць, але бляск гэты нейкі іншы, трывожна зацяты бляск, і бровы ўпарта схмураны.

— Вы чыталі «Старик и море»? Памятаеце, якім сказам заканчваецца аповесць? Бліскучая аповесць.

— Не прыгадваю. Але чытала.

— Ну як жа! Хвалі гайдаюць ля берага шкілет — рыбу зжэрлі акулы. Стары тэпае ў сваю халупу, кладзецца спаць, і далей ідзе кароткі і дзівосны сказ. Прыгадалі?

— На жаль...

— Старику снились львы... Вось чым заканчваецца аповесць! Бліскуча заканчваецца! — ён вымаўляе сказ нараспеў і з трывожным узрушэннем у вачах глядзіць на мяне.— Разумееце? Ільвы! І яны, дарэчы, сняцца яму тройчы — дзівосная дэталь сапраўднага мастацтва! Яна трымае на сабе асноўную ідэю! Стары, стомлены ў моры, прыдрамаў — сасніліся львы. Маладыя. Потым ён змогся зусім, рыба вымatala яго, акулы зжэрлі здабычу, якую ён заваяваў у сумленным змаганні, стары спіць, і зноў перад ім мроіва далёкіх успамінаў: ён у Афрыцы, і ён дужы, крэпкі мужчына — сняцца ільвы. І ў трэці раз — у халупе. Але гэта ўжо старыя ільвы, і яны яму сасніліся. Вось як! — Габінаў дастае пачак папярос, паказвае мне, просячы дазволу закурыць, але не закурвае, пакручвае пачак у пальцах.— Старому сасніліся ільвы. Толькі сасніліся. Яны — мроіва. А ў сапраўднасці ёсць стары, але яго ніхто не перамог, бо ён асілак, ён чалавек, і ён мацнейшы за ўсіх ільвоў. Ён мацнейшы таму, што яны — мроіва, а ён — зямны, рэальнасць, сапраўднасць, жыццё!

У Габінава летуценна і ўзнёсла свяціліся вочы, і я не ўтрымалася, пажартавала, надаўшы свайму жарту адценне зусім сур'ёзнага пытання:

— Вы, мабыць, пісалі вершы. А можа і зараз?

— У маладосці пісаў, гэта правільна,— ахвоча пагадзіўся ён, і на яго губах з'явілася і тут жа знікла пагардлівая і горкая грымаса, якая зрабіла дужа непрыветным і злосным яго твар; але яна патрымалася нядоўга і тут жа знікла, і перада мной сядзеў той, ранейшы Габінаў, якога я магла слухаць бясконца.— Пасылаў спачатку ў адну рэдакцыю, потым у другую. Нейкі дурны лёс: двойчы, з розных газет, мне адказваў адзін і той жа кансультант — Студзянкоў. Зімовае прозвішча, праўда? Памятаю, ён раіў мне чытаць паболей Маякоўскага. Але я люблю Фета. Памятаеце гэта? «Не рассуждай, не хлопочи. Безумство ищет, глупость — судит. Дневные раны сном лечи. А завтра быть чему — то будет!..»

Я сказала:

— Гэта выдатны паэт. І верш выдатны. Але філасофія яго — «день пережит — и слава богу» — мяне не задавальняе. Яна не па мне, гэтая філасофія.

— Мала, як мала мы ведаем тых, хто побач з намі. І здзіўляемся потым, калі раптам нешта адкрываем у блізкім нам чалавеку. Даруйце, але я ўсё ж запытаюся: а якая філасофія вам па душы?

— Вера ў заўтра. Я чакаю гэта заўтра, ім жыву, на яго спадзяюся. «Пусть час не пробил. Жди, не уставая. Пусть лгут лжецы — не снисходи до них...»

— Кіплінг славуты. Але ў яго ёсць і такое, за што паэта не паважаюць... Скажыце, няўжо я падобны на хлуса?

— Вам я веру. Як у сваё заўтра, Хведар Іванавіч!

— Вы — Юлька! Ёй-ёй... Такая ж сляпая вернасць ідэі заўтрашняга дня, але без ведання сваіх уласных магчымасцяў. А калі магчымасці не бяруцца пад увагу? Горкія расчараванні; рэальны дзень часцей за ўсё больш змрочны і цяжкі, чым надзеі ў вясёлкавым святле жаданняў. І гэтыя расчараванні ў душы, іх часцей за ўсё сорамна паказаць нават сябру, ад іх нікуды не схавацца...

— Якая Юлька?

— Хіба вы не чыталі «Истоки»? Яна адтуль, з гэтага бліскучага рамана. Цудоўная натура, суцэльнае буянства. Часам нават не асэнсаваная, проста так, ад шырыні душы.

— Прачытаю абавязкова. Але і зараз я магу вам запярэчыць. Я — за асэнсаванае буянства. Няхай нават бунтарства, але ў імя высокае мэты. Упартасць, але дзеля таго, каб людзям было добра. Такое буянства я разумею. І гэта — мужнасць. А мужнасць павінна спадарожнічаць усяму, што робіць чалавек.

— Нават каханню?

— Каханне — гэта таксама мужнасць.

— Арыгінальная формула.

— Усё залежыць ад таго, з якога боку яе разглядаць.

— Арыгінальная формула,— паўтарыў ён і змоўк.

Габінаў сядзеў сагнуўшыся і не глядзеў на мяне, і я бачыла яго профіль, чоткі, амаль класічны, каб не крыху адвіслы падбародак.

— У вас была сёння на прыёме Данілюк,— нечакана, без усяля-

кай сувязі з папярэдняю гаворкаю ні то спытаў, ні то проста зазначыў ён.— Такая худзенькая, прыгорбленая, як стогадовая бабулька....

— З дачкою? Прыходзіла. У Ліды, дачкі яе, правае плячо апухла. Улетку, кажа, паваліласяя. Здаецца, нічога сур'ёзнага. Але патрэбен рэнтген абавязкова. Дала ёй накіраванне ў раён.

— Дарэмна. Я не паспеў вас папярэдзіць. У яе саркома.

— Як? Не можа быць!

— І ёсць у іх ажно чатыры рэнтгенаўскія здымкі. Але старая Данілюк ім не верыць. На ампутацыю рукі — мы прапаноўвалі гэта — не пагадзілася. Да вас, як да новага ўрача, яна і прывяла яе — усё яшчэ не губляе надзеі... Між іншым, павінен вам сказаць, што ў вас складваецца бліскучая рэпутацыя сярод хворых.

— Можа гэта якая другая Данілюк?

— Я глядзеў рэгістрацыйную картку. Гэта яна...

Мы гаворым яшчэ пра Данілюк, і Габінаў расказвае мне пра нейкую новую кнігу, якую ён нядаўна прачытаў, і абяцае прынесці яе, і я адказваю яму, але тое, што я кажу, нібыта зусім і не мае словы, і ў душы ў мяне трывога, адчай і разгубленасць. Як я магла памыліцца? Недаравальна! Дык вось чаму так паглядала на мяне старая жанчына і чаму такія журботныя і празрыстыя, быццам незямныя, былі вочы ў Ліды! І я супакойвала яе, казала ім абедзвюм звычайныя словы спачування, абнадзейвала, жартавала, і яны пайшлі ад мяне зусім не такія, якія былі на пачатку нашай гаворкі! Яны мне паверылі! Я — новы ўрач, і яны мне паверылі! Яны ўбачылі надзею, і гэтую надзею дала ім я!

Габінаў разумеў, што робіцца са мною, развітаўся і пайшоў. Я хацела гэтага, але як толькі засталася адна — адчула невыносную тугу, падхапілася, пабегла ўслед за ім. Навошта? Не ведаю. Я не сумнявалася ў яго словах пра Данілюк: не дзеля таго каб пазларадніцаць, сказаў ён мне праўду, ён шчыры і сумленны чалавек. Дык навошта ж я буду бегчы за ім? Каб яшчэ раз пачуць усё тыя ж словы?

Звонкая марозная цішыня. Рыпіць снег пад нагамі. Паўсотні крокаў да паваротки, і зноў назад да ганка па вузкім калідоры, які мы зрабілі ў снегавых гурбах. Бальнічныя вокны я не бачу, яны там, за снегавой сцяною, і святло ад іх, як зарава далёкіх пажараў. Не, болей падобна на ранішні далягляд, дзе вось-вось павінна ўзыходзіць сонца. Аднойчы я бачыла такі далягляд з Валерам...

Непамыснасць ад гэтай думкі. Непрыстойна, нядобра думаць у такі час пра нейкі там далягляд, пра сваё асабістае! Я памылілася, паставіла не той дыягназ. Мая памылка нічога не можа змяніць, ні я, ні Габінаў, ні хто-небудзь іншы не ўладарны над той страшэннай хваробай. Разумею гэта. І разумею, што я таксама не ўладарная і над сваімі думкамі, і ў думках тых — Валера...

## 10

Прыехала на станцыю сустракаць Вольгу. Цягнік будзе праз паўгадзіны, і прыпыняецца тут ён толькі на сем мінут.

На пероне ветрана, шчокі ўвесь час трэба церці рукамі — мерзнуць. А нагам — раскоша. На мінулым тыдні я купіла сабе валёнкі, чорныя, зграбненькія, дужа цёплыя валёначкі. У мяне былі раней зімовыя боты, французскія, модныя, з жоўтымі спражкамі, з высокімі халявамі, але нават і дзве пары шкарпэтак не ўратоўвалі — мерзлі



ногі страшэнна. А цяпер адны, летнія, а ў валёнках нагам і цёпла, і мякка, і снег парыпвае прыемна і мілагучна.

Але гэтае прыгожае рыпенне снегу не радуе — на душы нешта зусім незразумелае. Я хачу бачыць Вольгу, і разам з тым да яе ў мяне абыякавасць, і за гэтай абыякавасцю хаваецца глухая неўсвядомленая крыўда. Я чакала Валеру. Яго хацела страчаць, ад яго чакала тэлеграмы і ўжо ў думках усё распланавала, як паеду на станцыю, як буду з нецярпеннем пазіраць на гадзіннік, як будзем разам варочацца са станцыі. А тэлеграма прыйшла ад Вольгі, і мне падумалася, што гэтая яе тэлеграма запыніла тую, Валераву, нечым перашкодзіла ёй. Глупства, вядома, але я не магу сябе пераканаць, не магу прымусіць сябе не думаць пра тое, што тэлеграма ад Вольгі аніяк не звязана, не можа быць звязана з Валеравай тэлеграмай.

Тэлеграму я атрымала апоўдні, а ранкам Твораж запрасіла мяне на свой дзень нараджэння — у іх з мужам адзін і той жа дзень! — і папрасіла абавязкова прыйсці, і я паабяцала, а потым адпрошвалася, калі атрымала тэлеграму, каб паехаць на станцыю, і абяцала, што прывязу Вольгу, сваю сяброўку. Тэлеграма зараз пры мне, варта апусціць руку ў кішэню, і я адчуваю хрусткую ад марозу паперу, і да сэрца падступае туга, невядомая, незразумелая туга.

«Буду праездам восьмага. Даўгаўпілса. Вагон пяць. Сустрэнь абавязкова. Вольга».

Гэта напісана ў тэлеграме. Ці спыніцца Вольга ў мяне, нягледзячы на гэтае «праездам», я не ведаю. Мне яшчэ і пашчасціла. Усе аўтобусы, што ідуць у наш бок, пайшлі ўжо, але я ўбачыла знаёмага шафёра з нашага калгаса, Ягора Анохіна, які пагадзіўся пачакаць мяне, пакуль я не стрэну цягнік. У кастрычніку ў нас ляжала ў бальніцы — двухбаковае запаленне лёгкіх — яго жонка, загадчыца калгаснай бібліятэкі. Яна жанчына крэпкая, высокая, але Ягора, які на галаву ніжэй яе, пабойваецца. Магчыма, нават і не тое слова я тут ужываю: паважае яна яго. Ён штодня прыходзіў да яе ў бальніцу, прыносіў свежыя газеты — «Сельскую жизнь» і «Медицинскую газету». Першую яна проста праглядала, а другую чытала з увагаю, падкрэслівала алоўкам тое, што лічыла важным і ёй патрэбным, і так налаўчылася ў медыцынскай справе, што сама ставіла свае дыягназы кожнаму, хто быў побач з ёю, аспрэчвала парады ўрачоў, і хворыя ўпотай скардзіліся мне.

Чым меней застаецца часу да прыходу цягніка, тым усё больш і больш радасней робіцца мне, чэзне, адступае туга. Убачу Вольгу! Гэта ж здорава! Раней, быў такі час, мне здавалася, што я і тыдня не пражыву, калі не пабачу яе. А вось ужо колькі месяцаў мы не бачыліся, і нічога, жыву, нават спрабую абвінавачваць яе ў тым, што яна сваёй тэлеграмаю нібыта разбурыла мае ўласныя планы, нечым пашкодзіла ім. Глупства! Трэба радавацца, бо мы зноў убачымся. І пагамонім аб усім! Не, далей ёй я проста не дазволю ехаць. Сцягну з цягніка!

На перон выходзіць Анохін, паведамляе мне, што быў у дзяжурнага па станцыі і даведаўся: цягнік з суседняй станцыі выйшаў. На дзесяць мінут раней раскладу яны будуць яго страчаць.

— А ў мяне як прадчуванне якое было: трэба, думаю, раней прыехаць на станцыю. А каб па раскладзе, дык магла б і не стрэць сяброўку... Смешна, я ўжо веру ў нейкія там прадчуванні!

— Прадчуванне ў чалавека ёсць!

Ён гаворыць гэта дужа даверліва, быццам мы нямала перагаварылі пра вялікія і малыя таямніцы, а цяпер вось зноў сышліся і гамонім,

і кожны з поўным даверам і павагаю ставіцца да кожнага слова ў гаворцы; гаворыць з такой упэўненасцю, з такой глыбокай вераю, што мне цяжка пярэчыць яму, але я не разумею, як гэта атрымліваецца, але я проці волі пярэчу:

— І вы верыце ў гэта? Супадзенне. Звычайная выпадковасць.

— Мажліва, мажліва, — сказаў ён і хрыпата закашляўся. — Але як тлумачыць тое, што здарылася ў сорак чацвёртым?.. Я ляжаў у шпіталі пад Краснаярскам. А Пятрусь, старэйшы мой, ваяваў пад Віцебскам — на знішчальніку лятаў. Прыдрамаў я, памятаю, па абедзе і прахапіўся, нібыта стрэлілі. У самае сэрца стрэлілі. Ускочыў з ложка — адзін у палаце. А ў вушах — сынаў голас, Петруся майго голас: «Канец, бацька! Гарыць машына...» Не паверыў, *не паверыў, што ён* загінуў. А перад тым днём не спаў ноч — балела, балела сэрца... Кха-кха...

Ён зноў хрыпата закашляўся, і воблака белай пары затуліла твар, і нейкаю дужа велізарнай і тоўстай здалася мне яго зімовая заечая шапка. Тое, што ён мне расказваў, уразіла, але я чамусьці ўявіла сабе Анохіна не там, у шпіталі, а тут, у палаце нашай бальніцы, як ён сядзіць на белым зэдліку, ля жончынага ложка, трымае ў руках газету, але не чытае яе, а галава нахілена, і ў шэрых стомленых вачах спачуванне і трывога, і глыбокія горкія зморшчынкі, пачынаючыся ад шчыльна сціснутых вуснаў, праразаюць шчокі, чыста паголеныя — я ніколі не бачыла, каб ён прыйшоў у бальніцу, не пагаліўшыся. І я не ведала, не магла нават падумаць, што сын Анохіна загінуў на вайне. Дзіўна, чаму нават Ягорава жонка, якая чытала «Медицинскую газету», як мне здавалася, больш дзеля пахвальбы, аніколі не паскардзілася, што сын яе загінуў? І чаму Анохін сам сёння паспавядаўся мне ў гэтай сваёй горкай страце? Ды як гэта чаму? Гадавіна! Сёння ж гадавіна! Сёння ж якраз той дзень, у які і загінуў іх сын!..

Дзве шырокія жоўтыя плямы ўзнікаюць у марозным сутонні; разлёгся далёкі яшчэ гудок паравоза.

— Вось і цягнік. Мы тут не затрымаемся, зараз жа і паедзем. Мяне ж сёння на дні нараджэння чакаюць...

Сказала і адчула няёмкасць ад таго, што нібыта знарок, сумысля хаваюся ад неабходнасці паспачуваць чалавеку ў яго даўняй незабытай бядзе: зрабілася горка і крыўдна. Як жа я мала ведаю людзей, з якімі зводзіць мяне лёс!

— Тады я да машыны. Ці што давядзецца памагчы?

— Не, не!

Анохін пайшоў, і я таксама пайшла па пероне насустрач жоўтым плямам, што растуць, робяцца ўсё ярчэйшыя і раптам разломваюцца на вузкія промні. Марозны белы цягнік. Вагоны пралятаюць, абдаючы калючым снегавым пылам. Няўжо ён і не спыніцца? Не, скрыгочуць тармазныя калодкі, бахкаюць буферы. Нумары вагонаў *заляпаны снегам*. Але лічба «5» чыстая, быццам толькі што абцёртая.

Дзверы пятага вагона адчынены, і я бачу за спіной правадніцы твар Вольгі. Вясёлы і радасны, але нейкі дужа ж незнаёмы твар! Цягнік яшчэ не зусім спыніўся, вагон паўзе наперад, але Вольга, адціснуўшы плячом правадніцу, саскоквае на перон і павісае ў мяне на шыі. Яна прыемна пахне цяплом, добрымі духамі, а губы крыху салодкія, мабыць, ад цукерак. Як была так і засталася: ласуха!

Вольга і слухаць не хоча, каб спыніцца ў мяне на дзень-другі, а потым паехаць далей. А мая рашучасць: давай, маўляў, чамадан і кропка — вельмі бянтэжыць яе. І я не разумею яе, не разумею, што



гэта да мяне звернуты ўнушальны самавіты бас, што ракоча за маёй спіною:

— Практически это невозможно, ну абсолютно же невозможно. Симпозиум начинается во вторник, а нам еще надо провести в Минске день. Никак не менее...

Модны карычневы кажушок з асляпляльна белым каўнерыкам, зімовая кепка з нерпы. І разумныя чорныя вочы, у якіх прыхавана насмешлівасць і якія ўзважваюць, ацэньваюць — і, як я гэта заўважаю, даволі высока ацэньваюць — мяне. Нават і не заўважыла, як апынуўся гэты мужчына за маёй спіною, але ён тут жа, як толькі я павярнулася да яго, становіцца побач з Вольгаю, папраўляе ёй аранжавы махеравы шалік.

— Ты разогрелась в вагоне, а здесь ветер. Боюсь, можешь простыть. Пригласи, пожалуйста, подругу в вагон. Кстати, я должен вам заметить, что именно такой вас и представлял. Оля мне столько о вас рассказала...

— Гэта мой муж, — гаворыць мне Вольга, але гаворыць з такім выразным тварам, што немагчыма зразумець, літаральна немагчыма, жартуе яна ці гаворыць праўду. І ён жа зусім не малады. Сівізна на скронях. І, мабыць, лысаваты.

Апошняя думка мяне падвесяліла, і Вольга тут жа адчула гэта і зусім ужо новым тонам папрасіла:

— Лёня, ідзі ў вагон. Прашу цябе. У нас — сакрэты!

— Секретничайте! Бога ради, секретничайте!

Ён лёгка ўзбіраецца па прыступках у тамбур, і я, гледзячы на яго шырокую спіну, пытаюся шэптам:

— Ты звар'яцела?

— Не, я чакаю віншаванняў. І даруй, я нават і не пазнаёміла. Усё так нечакана.

— І яшчэ больш, мабыць, начакана для Сцяпана? Як жа ён цяпер?

— Ніяк. Ён — сам сабе. Я — сама сабе. Хочаш абвінавачваць мяне ў мяшчанстве — абвінавачвай. Але Лёня — талент незвычайны. А талент падобны на магутны магніт — прыцягвае слабыя душы. І я не таю, што апынулася ў сферы яго ўздзеяння. І нават ганаруся, што менавіта мяне ён абраў. На сімпозіуме яго даклад. А потым — кафедра ў інстытуце. У Маскве!..

— На месцы Сцяпана... Каб я была на яго месцы — я б забіла цябе. Альбо стаўкла на горкі яблык!

— Няхай твой Сцяпан і харчуецца тымі горкімі яблыкамі. Мізэрнасць! А ўяўляе сябе сусветнай велічынёю. І стогне, што ніхто яго не разумее і не хоча прызнаваць!..

Святло з акна вагона падае на твар Вольгі, і ён выдае сіняватым, як нежывы, і толькі вочы, злосна прыжмураныя вочы зыркаюць ліхаманкава і драпежна. Крыўда, разгубленасць, нейкая спустошанасць ва мне. І гэта ўсё вярзе мая лепшая сяброўка! Яна была смелай у інстытуце, пра любыя цяжкасці казала з усмешкаю, ніколі не скардзілася, насуперак волі бацькоў пабралася са Сцяпанам, захаплялася ім і цяпер з такой бязлітасцю кінула яго, бэсціць, як ворага найгоршага...

— Не асуджай мяне! Не асуджай, — гаворыць Вольга і бярэ мяне за руку, і мы ідзем усцяж вагона; у вагонным акне я бачу мужчыну ў кажушку з белым каўнярком, але мужчына без шапкі ўжо, і ніякай лысіны ў яго няма, але я гляджу на яго ўважна, і Вольга, перахапіўшы мой позірк, прыветна трасе рукою свайму мужу і тут жа, быццам яго і не існуе зусім, цягне мяне наперад і гаворыць хутка, і

кожнае слова мяне дзівіць. — Не асуджай і зразумей правільна. Гераічнай Жаны з мяне не атрымалася. Я не змагла прыжыцца ў тым закутку, куды закінуў мяне лёс. І потым: Сцяпан падмануў мяне. Я праз месяц, як мы тады ехалі, падскочыла ў Мінск, а ў нашай кватэры ўжо жыве нейкая «журналістка». Гэта ён так мне тлумачыў, але ж я не сляпая — палюбоўніца гэта, а не нейкая там «журналістка». І тады я сказала сабе: Вольга, у другі раз цябе ніхто не падмане і не ашукае. Што буду рабіць? У клініцы мне месца забяспечана — займуся навуковай работаю. Лёня мне кажа: у цябе, маўляў, ёсць здольнасць сістэматызаваць і аналізаваць факты. І яшчэ ў Лёні ў Маскве будзе кватэра, машына, а ўлетку — Крым. Як хочаш заві мае намеры і думкі — я нічога ад цябе не таю, гэта, калі хочаш ведаць, самая шчырая споведзь. Споведзь перад тым, як кінуцца ў той вір...

— Ты звар'яцела!

— Не, убачыла жыццё. Убачыла і не чытаю болей аніводнага перадавога артыкула, і будаваць нешта сваім нашчадкам не хачу. Кожны будуе сам сабе — гэта закон жыцця. А я хачу жыць, — яна пагладзіла мой рукаў і дадала нейкім чужым і незнаёмым мне голасам, ціха, быццам нешта вымольвала ў мяне: — Ты ведаеш і маё здароўе. Я слабая, які з мяне будаўнік ці змагар? І потым... Потым — ты ж ведаеш гэта добра! — люблю тэатр, — і ўсміхнулася, і ўсмешка атрымалася кволая, змучаная, незнаёмая. — І яшчэ — сыр. І гэта ты таксама ведаеш...

Глуха сапе паравоз, потым, як крык, пранізлівы гудок; цягнік яшчэ стаіць на месцы, але з-пад колаў чуваць прыглушанае храбусценне, і вось ужо тукнулі наперадзе буферы, і жалезнае дрыжэнне пранеслася па ўсіх вагонах, і Вольга, плачучы, кідаецца мне на шыю.

Потым бачу Вольгу ў акне і бачу спаважны, скіраваны не на мяне позірк яе мужа; Вольга трасе рукою, нешта гаворыць, і я бачу, як варушацца яе губы, і разумею, што яна шмат перажыла, перанесла, але не сказала мне і дзесятай часцінкі свае бяды; дзіўлюся, спрабую ўладкаваць у нейкую сістэму тое, што пачула, і не хачу аніяк вінаваціць Вольгу.

Апошні вагон, і на ім абрываецца візгатлівае тэханне колаў; адплываюць, аддаляючыся, вузеюць дрогкія светлыя палосы і плямы; пасярод іх, здаецца, амаль ля самай зямлі, ярка свеціцца круглае чырвонае вока; яно не дрыжыць, а плаўна адсоўваецца, сціскаючыся і зменшваючыся, адплывае ў цемру, і здаецца, што не чырвоны агеньчык ліхтарыка на хваставым вагоне цягніка, а вугольчык, і яго хтось клапатліва і асцярожна нясе ў руках і ідзе з асцярогаю, баючыся, каб не выпусціць з рук.

Анохін чакае мяне, і мы едзем, едзем адразу ж, як толькі я саджуся ў кабіну. Дарога добрая, грэйдары ачысцілі яе ад снегу, і яна блішчыць, як шкло, і стрэчных машын няма, і мы едзем хутка. Анохін, здаецца, нават і задаволены, што ў кабіне — я, між іншым, папярэдзіла яго, што, мажліва, Вольга застанецца і паедзе разам з намі — няма трэцяга пасажыра, і ўвесь час гаворыць са мною, і я падтрымліваю гаворку, вельмі ўсцешаная тым, што ён нічога не распытвае, а толькі гаворыць і гаворыць, расказвае мне пра свой асабісты клопат і хатнія справы, пра тое, што вясною пойдзе на пенсію, а машыну перадасць Лавецкаму, але гэты Лавецкі лайдак несусветны і ліхач і можа сесці за руль пасля чаркі, а чарка шафёру зусім непатрэбная ў дарозе, і што ўсе аварыі, у асноўным, ад гэтага і прыключаюцца, ад чаркі, і што ён, Анохін, намерваецца прасіць старшыню калгаса, каб машыну лепей перадалі Андрэю Бураку, хлопцу хоць і зусім маладому, але сумленнаму і дужа стараннаму...

Дзве гадзіны мільганулі незаўважна. Мажліва, я зрабіла глупства, але не ўтрымалася і ўсё расказала Анохіну пра Вольгу, пра тую нашу гаворку на пероне, пра яе новага мужа, пра Сцяпана. Я абуралася, лаяла Вольгу, абараняла Сцяпана — гэта быў крык душы, я зусім інакш глядзела на ўсе падзеі, чым там, на пероне, дзе ўсё ёй гатова была дараваць, дзе я была проста не падрыхтаваная правільна разумець і крытычна ацэньваць. А тут, у машыне, у мяне хапала часу, і Анохін слухаў мяне са спачуваннем, і пазней, калі мы былі ля самай павароткі да нашай бальніцы, ён сказаў мне, як гавораць добраму сябру, і не проста сказаў, а параіў, як можа толькі раіць сталы, умудроны жыццём чалавек:

— Вы пра гэта сваім не расказвайце ў бальніцы... Пра сяброўку сваю...

— Чаму? — я нават не адразу зразумела, чаму ён папярэджвае мяне.

— Лепей яно так... Пачнуць пра сяброўку вашу байкі розныя вязаць... Прыплятуць такое, чаго і за сто год не прыдумаеш. А вам і крыўда...

— Вам жа вось расказала!

— У Ягора яно, лічыце, як памерла. Вам балела, вы мне сэрца адкрылі...

І толькі пазней, калі я была ўжо ў Твораж, пачала адкрывацца мне вялікая Ягорава мудрасць, слушнасць таго, што ён мне раіў. Сямейнае свята было ўжо ў добрай сіле, але маё з'яўленне было сустрэта надзвычай цёпла, і мне налілі чарку, і я з ахвотаю яе выпіла і з яшчэ большай ахвотаю ўзялася закусваць — прагаладалася. Карабань села ля мяне, неяк быццам нават адціснула ад усіх, спытала:

— А што ж сяброўка ваша, не схацела зазірнуць у нашыя краі?

— Яна з мужам. А ў яго сімпозіум у Маскве — яны туды едуць. Кожны дзень разлічаны.

— Масква, Масква! Шанцуе ж людзям... А што, ён шышка якаянебудзь?

— Хірург. Першая катэгорыя. І абараніў нядаўна дысертацыю...

— О-оо!..

І за гэтым «о» хавалася гэтулькі цікаўнасці, што я з вялікай падзякаю прыгадала сяброўскую параду Анохіна і зразумела, што варта мне было сказаць пра сямейнае бязладдзе Вольгі хоць адно слова — і давялося б разматваць увесь клубок да апошняй нітачкі. Сапраўды, каму гэта цікава рабіць!

Ад далейшых пытанняў мяне ўратаваў Габінаў. Ён падышоў з келіхамі ў руцэ, і Карабань адразу ж пакінула нас, а ён уручыў мне келіх і патрабаваў:

— Будзем піць за Асуан! Разумею, патрэбны тлумачэнні. Калі ласка... Узнімем чарку за грандыёзнейшае збудаванне дваццатага стагоддзя, да якога прыклаў рукі савецкі чалавек! Дарэчы, гэта ваш бацька ўзнагароджаны за Асуан? Сёння ў газетах Указ.

— Вядома. Вы што, не памятаеце маё прозвішча?

— Гэта проста зачэпка, каб надаць тосту больш шырокае гучанне: ваш бацька вядомы цяпер на ўвесь свет. Такім чынам — за Асуан. Такім чынам — за вашага бацьку. Такім чынам — асабіста за вас. За ваша асабістае шчасце.

— Тады давайце спалучаць тост. І за ваша!

— Я магу выпіць толькі за чужое шчасце. І раблю гэта заўсёды.

Усё тое, што мы завем уласным шчасцем — наіў, ілюзіі, міф, няўлоўнае мроіва... Яго ў нас не бывае ніколі. «Глупое сердце, не бейся... Все мы обмануты счастьем...» Так кажуць паэты.

— А ў жыцці інакш, чым гэта часцяком сцвярджаюць паэты. Шчасця не бывае ў чалавека толькі тады, калі ён стаміўся і не хоча змагацца...

Я сказала гэта знарок: здалося, ён хоча пра нешта ў мяне запытацца, і гэтае *«нешта»* было, мажліва, менавіта тое, аб чым мне гаварыць не хацелася; ён зыркнуў на мяне не зусім дружалюбна, потым перавёў позірк на келіх, гайдануў яго; з тонкіх граняў зляцелі іскрыстыя промні.

— Вы шчырая. І мне няма патрэбы хлусіць, — сказаў ён. — Гэта праўда: я стаміўся. Стаміўся ад частых і доўгіх раз'ездаў, розных плётак, якія даводзіцца чуць, стаміўся ад благога віна...

— Гэта ж «Такай»! Калі ўжо гэтае віно благое!?

— Сёння мы з вамі на ўзроўні багоў, — пажартаваў Габінаў і правёў рукою па чорных валасах, і я ўпершыню заўважыла, колькі ў яго сівізны.— Але каб вы ведалі, які «Такай» даводзіцца ўжываць дзенебудзь у вёсцы. Уласнае вытворчасці, часам, праўда, і на высокай тэхнічнай аснове тая вытворчасць.

— Дык не піце! Я не бачу тут аніякай праблемы!

— На жаль, яна ёсць. Не хочацца крыўдзіць людзей, не хочацца чуць услед зняважлівае «заганарыўся»... Эх, кінуць-рынуць усё гэта, дый паехаць, далёка-далёка... Па ўсёй Расіі — ад краю да самага краю!.. Памятаеце, у класіка?.. «Так ты все ходишь? Это хорошо! Ты славную долю выбрал, сокол! Вот так и ходи, и смотри, а насмотрелся — ляг и помирай...» Здаецца, не наблытаў. І каб я быў крыху маладзейшы, я б прапанаваў і вам, каб разам... Але мяне ўжо не хопіць на тое, каб ад краю да краю і да самага краю... «Боливару не снести двоих...» І таму яшчэ адзін тост. Толькі без пярэчанняў. Без тлумачэнняў. За тое, што вы шчырая, смелая, мудрая! За ваш прыгожы лёс!..

Ён выпіў келіх да дна. Спытаў:

— Паўторым?

— Хопіць. Я не люблю віна.

— Я таксама. Але яно часам вельмі патрэбна чалавеку. Навошта? Каб зразумець сябе і быць бязлітасным. Калі чалавек крыху на падпітку, ён часцей бязлітасны і да другіх і да сябе. Вы ведаеце, я хоць заўтра магу паехаць адсюль і жыць па формуле: «ходи и смотри...» Магу вельмі проста! Неблагі спецыяліст, матэрыяльна забяспечаны, нічым дужа не звязаны: падаў заяву — бывайце здаровы. А я не еду. І не пішу заяву. Што мяне трымае? Натуральнае, зусім натуральнае пытанне... І яшчэ больш натуральна тое, што я не ведаю гэтага. Не, хлушу: ведаю! Я ведаю дакладна, абсалютна дакладна: паеду адсюль — нешта страчу, страчу і больш ніколі не знайду, згублю непапраўна. Спачатку гэта пачалося з хворага. Я лячыў яго, і мне не хацелася, пакуль ён не паправіцца, адсюль ехаць... Не, дакладней: не хацелася ўцякаць. Потым хворы мой паздаравеў і развітаўся са мною, і я бачыў яго вочы, і той позірк застаўся са мною. Вочы ўдзячнага вам чалавека!.. А потым быў другі хворы... Я лячыў яго і чакаў, і ён папраўіўся... І так было ўвесь час, гэта ўжо зрабілася нейкім бясконцым ланцугом, які не бачыш, які нельга адкінуць, і гэта ўжо не ланцуг, а нешта такое, без чаго жыццё робіцца нікчэмнае... Вы ведаеце, я не памятаю многія прозвішчы... Прозвішчы хворых, якіх я лячыў і вылечыў... Але вочы кожнага з іх я памятаю. Вочы людзей, якія аддадзены табе, удзячны бясконца... А потым прыехалі вы...



— Гэта што, яшчэ адзін ланцуг?

— Не! Гэта — сяброўства. І я шчаслівы, што я, намнога старэйшы за вас, гэтак сябрую з вамі, і гэтак шчыра размаўляю, і магу нічога не таіць ад вас... Які ж гэта ланцуг! — ён засмяяўся, наліў сабе кубак, хацеў наліць і мне, але я закрыла сваю чарку рукою, і Габінаў не настойваў, узняў свой келіх.— Гэты ланцуг можна несці ўсё жыццё. І той, хто яго панясе — найшчаслівейшы з людзей. Вось яму я магу пазайздросціць. І дужа вас прашу: спатрэбіцца — у любым выпадку вы можаце разлічваць на маю шчырасць, падтрымку... Паверце, у наш атамны век гэта нечага ды варта...

Мы размаўлялі з ім, і я ўвесь час адчувала на сабе позірк Карабань: ці завіхалася яна ля стала, ці адсоўвала крэслы, каб не заміналі людзям танцаваць, ці размаўляла з Твораж — увесь час назіркам сачылі за намі яе вочы, і калі яна праходзіла паўз нас, я прыкмячала ў іх ярасць і непрымірымую варожасць. І было з гэтага крыўдна, і была ў гэтым прыкрая падазронасць, якая кідала на нас, на нашу гаворку, на кожнае слова Габінава нядобры цень, і гэта стрымлівала мяне, прымушала не адказваць на яго шчырасць такой шчыраю скаргаю на сваю адзіноту.

Пачуццё адзіноты мацнела, і я змагалася з ім і як за апошні паратунак ухапілася за думку пра блізкую сустрэчу з Валерам. Гаючая, як дзівосныя лекі, думка! Я больш і глыбей разумела цяпер Габінава, была ўдзячна яму. Разумела і Карабань і не крыўдавала, наадварот, шкадавала яе за пакуты, пакуты нікому не патрэбныя, штучныя і зусім неразумныя.

Думка пра хуткую сустрэчу з Валерам узнімала мяне над усім гэтым святочным тлумам, над клопатам і трывогаю блізкіх, зусім не чужых мне людзей, настройвала ўзнёсла, аптымістычна і па-філасофску. Валера не можа не прыехаць, бо ў любым выпадку, калі ён не прыедзе, губляе сэнс усё — мая трывога, і чаканне, і сама мэта майго жыцця. Жыць трэба тады, калі ты кахаеш альбо чакаеш сваё каханне, а чакаць можна толькі тады, калі ты верыш у гэтае каханне. Але калі ты верыш — значыцца, ты чакаеш, а калі не верыш — значыцца, не чакаеш, а проста самым звычайным шляхам супакойваеш сябе, думаеш, што менавіта гэта і трэба, а на самой справе маніш, падманваеш сябе, подла здраджваеш сваёй веры; і тады няма чакання, а ёсць агідны самападман, самая звычайная няпраўда і хлусня, таму што нельга ў адзін і той жа час і чакаць і не верыць.

## 11

Валера пацалаваў мяне зімою. Адзіна-адзіны раз. І гэта быў першы мужчынскі пацалунак, які лёс падараваў мне.

Цяпер таксама зіма, і я цалую Валеру. Цалую яго вочы, яго губы... Потым углядаюся ў яго твар — нічога не кажу.

Проста маўчу.

Поўня на небе, і ноч за акном сіня-шэрая, як блізкі ранак, але да ранку яшчэ вельмі далёка, і цішыня ў бальнічным пакоі, і цішыня ў бальнічным калідоры, і чырвонымі вочкамі свецяцца вугольчыкі ў плíце, на якой мы рыхтавалі вячэру і дзверцы знарок не зачынілі, каб бачыць агонь, ад якога ў пакоі таямніча і загадкава, як звычайна ў

лесе, калі сядзіш ля вогнішча; прыглушана сіпіць чайнік, і пліта астывае, і чайнік канчае сваю сіпатлівую песню, і тады добра чуваць, як грукоча па гравійцы машына, і я адчуваю, што ўсе гэтыя гукі жывуць далёка ад мяне, аніяк не звязаны са мною, але яны вельмі патрэбныя, бо з імі няма мёртвай цішыні, а ёсць жыццё, якому я ўдзячна бясконца.

І яшчэ я адчуваю, як гулка стукае маё сэрца, і адчуваю, што я не адна, што я магу пакласці сваю галаву на грудзі Валеру і слухаць яго сэрца, цалаваць Валеравы вочы, песціць, галубіць яго і ведаць, што ён нікуды не знікне ні сёння, ні заўтра, ні праз тыдзень — толькі гэта, толькі гэта і нічога больш не існуе для мяне. Няпраўда, вядома. Ёсць не толькі мы з ім, і я гэта ведаю з такой жа дакладнасцю, з якой ведаю, што зусім блізка ад нас — колькі там крокаў! — пачынаецца бальнічны калідор, а за ім бальнічныя пакоі, дзе ляжаць хворыя, і ведаю, што заўтра маё дзяжурства, і мне трэба будзе праводзіць ноч у тым калідоры на старасвецкай канапе, а Валера будзе тут, і што яшчэ адна ноч будзе выкраслена з нашага шчасця, але гэтае шчасце бясконцае, бо пройдзе гэтая ноч, і пройдзе наступная, і за ёю будуць яшчэ і дні і ночы, і потым прыйдзе час, калі Валера паедзе адсюль, але паедзе не адзін, а разам са мною, а калі і адзін, дык я паеду пазней крыху, але я ўсё роўна буду з ім, бо мы цяпер разам і непадзельныя...

Усё гэта я ведаю, але ўсё гэта існуе недзе дужа далёка, існуе ў нейкім нерэальным свеце, куды я не хачу ўваходзіць і куды не хачу пускаць Валеру. Навошта мне той свет, калі Валера побач са мною і мне больш нічога не патрэбна ў жыцці!..

І зноў гэтае «не патрэбна» далёка ад праўды. Мне трэба шмат, і ўсё гэта так ці інакш звязана з Валерам і зусім не абмяжоўваецца толькі тым, што ён побач. Але ўсе тыя мае патрэбы і ўсе тыя планы, што вынікаюць з іх, зноў жа жывуць аддалена ад нас, аб іх можна толькі думаць, думаць і ніяк не звязваць з тым, што ёсць блізенька — працягні рукі і дакранешся; і гэта — Валера!

Я шмат чытала пра каханне. Цяпер кахаю сама. Гэта пачалося не ўчора і не сёння. Калі мы з Валерам сустракалі світанне,— бачылі, як узыходзіць над Мінскам сонца, мне здавалася — і я верыла ў тое бясконца! — свет народжаны для мяне, што я шчаслівейшая за ўсіх на свеце. Цяпер разумею: тыя мае адчуванні і радасці — гэта і не каханне зусім, гэта толькі вытокі, маленькія ручаінкі, драбнічка, кропля вялікай і неабдымнай ракі, якая гушкае зараз мяне, выносіць у свет незвычайны, такі дзівосны і казачны свет, што робіцца смешна з таго дзіцячага наіву. Тады быў прыгожы і цудоўны малюнак. Але— малюнак. Цяпер — жыццё, рэальнасць, з такімі дзівоснымі фарбамі і адценнямі, якіх не можа злавіць самае пільнае вока самага таленавітага мастака. Не, можа, але ў той жа міг, калі такое можа адбыцца, фарбы змярцвеюць, і гэта будзе ўсё ж малюнак, а не жыццё.

— Я люблю, калі ты ўсміхаешся, — гаворыць Валера, і мае думкі зноў тут, у святле рэальным і цудоўным.

— А хіба я смяюся? І потым — ноч. Як жа ты бачыш у цемры? Гэта толькі кошкі бачаць ноччу. У іх у вачах ёсць такія светлавыя крышталікі.

— Я і без крышталікаў бачу. І валасы твае бачу. І вочы, — ён кратае пальцамі мае павекі. — Гэта вельмі добра, што ты не фарбуеш веі. І вочы фарбаю не пэцкаеш. Не люблю гэтага.

— Тады я зраблю знарок.



— Не зробіш. Таму што калі зробіш гэта — будзе ўжо зусім іншы чалавек. Зусім другая жанчына. А я люблю вось гэтую.

— Ой, як у цябе стукае сэрца!

— Мажліва, доктар, з ім што здарылася? Раней яно ў мяне стукала зусім бязгучна. А зараз — тоўх-тоўх-тоўх... Гэта блага, доктар? Мажліва, патрэбны нейкія лекі?

— Зараз мы паслухаем ваша сэрца. Паслухаем... Глыбей дыхайце. Цяпер не дыхайце!..

— Як жа не дыхаць? Памерці можна.

— Хворы! Не свавольнічайце, калі ласка!..

Неверагодна, дзівосна пабудаваны свет — прыціскаюся да грудзей чалавека, якога пазалетась зусім не ведала! Слухаю сэрца чалавека, якога раней і не бачыла ніколі, не ведала нават аб яго існаванні. Ён мог прайсці паўз мяне па вуліцы, а, мажліва, і праходзіў, і мы глядзелі адно на аднаго і разміналіся, і ў нас не ўзнікала шкадавання, што мы ідзем у розныя бакі, і цяпер гэты чалавек побач са мною, і гэта для мяне самы дарагі, самы блізкі, самы родны, бо ён — гэта я сама, уся як ёсць, разам з думкамі і клопатам, надзеямі і трывогамі; дакладней, няма ні яго ні мяне, а ёсць адзіны чалавек, ёсць мы, ёсць адзінства, у якім сабраны і нашы думкі, і нашы хваляванні, і нашыя трывогі, і надзеі, і радасці, і гэтая радасць такая вялікая, што, каб яе даць мне адной толькі, дык я б не вытрымала яе вагі, яна б знішчыла мяне і знікла б сама, таму што адна яна, сама па сабе, гэтая радасць, існаваць не можа, і нам ужо без яе няма і не можа быць жыцця.

— Дык што, доктар, вы скажаце пра сэрца?

— Магу ўзрадаваць вас. Сэрца — цудоўнае: пражывеце сто год без хвароб, а далей будзе відаць.

— А ваша, калега, мне ўнушае трывогу. Дазвольце яшчэ раз праверым... І дыхайце роўна, глыбока... Яшчэ глыбей! Цяпер не дыхайце! Не, патрошку можаце... Дыхайце, дыхайце...

Валерава галава ў мяне на плячы, і пасмы пачынаюць казытаць мне шыю, і я кратаю рукамі мяккія валасы, гладжу іх... Валера! Родны! Каханы мой! Як выказаць удзячнасць табе? Як увогуле я магла жыць увесь час адна і не ведаць такой радасці? Як гэта магло ўвогуле здарыцца: ён — там, я — тут? Але што я варушу мінулае? Было — сплыло. Ён — побач! Блізенька! Ён са мною! І ён — мой!..

— Ты чаму нічога мне не гаворыш?

— Слухаю тваё сэрца. І ўсё дзіўлюся. Жывуць далёка людзі, невядомыя, потым яны разам, і яны — самыя блізкія, самыя дарагія адно аднаму. На першае месца сярод цудаў свету я б паставіў менавіта гэта.

— І я пра тое ж амаль думала.

— А пра што ты думала, калі мяне не было тут?

— Рознае было... Справы, клопат усялякі... У нас Карабань працуе. Памятаеш, я табе казала, што яна раўнавала мяне да Габінава? А я ведаю: ён не кахае яе. А яна на тое і ўвагі не звяртае. Я гэтага не магу разумець...

— І не трэба. Гэта даволі горкая навука. Лепей яе не ведаць...

І гэтыя яго словы — як абухом мяне па галаве. Ох, якая ж я дурніца! Бы знарок падвяла яго да той яго бяды! Бы патрабую, каб ён яшчэ мне нешта даводзіў, тлумачыў тое, пра што я не павінна чуць ад яго аніводнага слова. Не было ў яго той бяды! Не было! Ён павінен яе забыць, закрэсліць тую бяду!..

— Ведаеш, што я намысліў? На гэтым тыдні, не адкладаючы, нам трэба аформіць наш шлюб.

— Ой, якое глупства! Хіба тая паперка, што мы атрымаем, будзе гарантыяй нашага шчасця? Шчасце павінна быць у сэрцах. А калі яго там няма — і сто тысяч самых розных і самых адказных папер не ўратуюць...

— Правільна. Але я паеду ў сельсавет і даведаюся, калі і як можна ўсё зрабіць.

— Ехаць у такі мароз?

— Але ж ты едзеш да хворых. Вось учора ў Залессі два разы пабыла!

— Інакш нельга. Там жа хворыя!

— Каб мы з такой жа хуткасцю імчаліся да людзей, калі ў іх знікае каханне!

— За наша каханне я спакойная. Ты верыш у гэта?

— Веру. Але я думаю зараз аб сваёй памылцы.

— Якой памылцы?

— На першае месца сярод цудаў свету трэба паставіць цябе... Ты не пярэчыш, я ўключу транзістар. Паслухаем, што робіцца на гэтым свеце...

— Толькі не вельмі гучна. Ціхенька-ціхенька каб...

Мы штовечар так робім: уключаем транзістар, ловім розныя станцыі, слухаем не толькі мелодыі, але і перадачы на англійскай мове — Валера кажа, што яму патрэбна штодзённая практыка па мове. Вось і цяпер ён злавіў нейкую станцыю, і мы слухаем ціхі голас нейкай англічанкі. Агульны змест гаворкі разумею — каментарыі да пасадкі аўтаматычнай станцыі на Венеры; пазаўчора мы чыталі пра гэта ў газетах. Валера слухае цяпер вельмі ўважна, але я перашкаджаю яму.

— Ты перакладай,— прашу яго.— Я разумею не ўсе словы.

— Яна гаворыць, што савецкі «лунаход» здзівіў свет. А станцыя, якая села на Венеру, пераконвае свет, што камуністы не фанатыкі, як гэта казалі раней, а цвярозыя рэалісты. І цікавыя падлікі. Чалавек, каб ён не спаў, не адпачываў, а толькі ішоў і ішоў пешкі, адолеў бы адлегласць да Венеры праз дваццаць тысяч, здаецца, гадоў. А радыёсігнал амаль чатыры мінуты ляціць. Разумееш?

— Значыцца, каб ты быў там, я ніколі б не дайшла да цябе? Ці каб размаўляла па радыё, чакала б адказ чатыры мінуты?

— Я часам чакаю болей, пакуль ты скажаш слова!

— Лепей ты выключай. Ці не, пашукай, каб спявалі. Злаві «Маяк»...

Валера ловіць патрэбную хвалю, і я чакаю, і сачу за яго пальцамі, і не хачу болей аніякіх размоў. Ноч за акном, здаецца, яшчэ больш пасвятлела; шыбы нібыта ціха звіняць ад сцюжы, ад гэтага цеплыня і ўтульнасць пакоя ўспрымаюцца асабліва востра; і згаслі ўжо чырвоныя вочкі-вуголлі ў пліце, і толькі свеціцца маленечкая зялёная кропачка за шклом транзістара, якое падзелена лічбамі шкалы; мне не хочацца па-ранейшаму нічога гаварыць, а толькі хочацца трымаць Валераву руку, і я трымаю яе, абмацваю пальцы — вялікія і шархоткія, але такія ласкавыя пальцы, а ў вушах гучаць не словы песні з транзістара, а яго, Валеравы ласкавыя словы; Валерава галава ля майго пляча, і нашыя валасы спляліся ў адно і пераблыталіся, і я баюся мяняць паставу і адкінуць валасы ад шыі, бо ведаю, што варта мне толькі зварухнуцца, як адразу беззваротна знікне гэтае адчуванне цеплыні і ўтульнасці, і я баюся гэтага і не варушуся, і толькі мацаю, бы ўзважваючы, Валеравы пальцы, і дотык да іх адгукаецца ва мне ціхім гудам; я ведаю, што гэта зноў прачынаецца ва мне жаданне пяшчоты...



Шчасце...

Цяпер я ведаю, што заключаецца ў гэтым слове. Шчасце ёсць, а цябе няма: ты — у другім, ты раствараеш сябе ў ім, другім, каханым чалавеку, раствараеш сябе цалкам і ўжо не існуеш адна, ты болей, чым адна, ты мацнейшая і больш важная, бо ты аддала сябе цалкам, ты пералілася ў новую сілу, больш магутную і аграмадную, чым тая, што заключалася ў табе дагэтуль!..

## 12

Валера сам рыхтуе снеданне. Сам распаліў пліту, сам наліў ваду ў чайнік і зараз не дае мне нічога рабіць. Я гляджу, як ён завіхаецца ля пліты, і мне і радасна, і тужліва, і трывожна. А з чаго гэтая трывога — не ведаю. Памкнулася была памагчы яму — забараніў:

— Падвязуць балон — будзеш працаваць. А зараз твой клопат — газета. Чытай! Ты ўжо зусім адсталы элемент — тры дні газеты ў рукі не брала! І ўсё гэта — пліта вінаватая!

Ён часта пацвельваецца гэтак. Пліта ў мяне стаіць новая, але балон з газам яшчэ не падвезлі. А з дрывамі сапраўды клопат вялікі. Плітка электрычная ў мяне ёсць, але на ёй не вельмі хутка ўсё згатуеш. Калі адна была — упраўлялася. А цяпер, калі мы разам, аніяк не ўпраўляешся. І Валера сказаў, што ён павінен вывучыць заканамернасць гэтых з'яў, і таму я павінна сядзець і чытаць газету ўслых. А ў мяне на тое — аніякай ахвоты. У мяне трывожна на душы, і я не ведаю, з якое прычыны, і газета валіцца на падлогу, і Валера пачынае злавацЬ.

— Калі думаеш, што сваімі дзеяннямі ты дапамагаеш мне, дык глыбока памыляешся.

— Затое гэта, мабыць, яго паскорыць, наш сняданак,— кажу я і цалую Валеру.

— Не вывучаная да канца праблема. Між іншым, у часе перапынку кухар таксама мае права на сваё асабістае жыццё!..

Валера ўзнімае мяне на руках, кружыць, потым спыняецца, цалуе і ўважна ўглядаецца ў мае вочы, і гэтае яго кароткае маўчанне прыгнятае мяне і трывожыць; кожны раз, калі ён маўчыць, мне здаецца, што яго думкі недзе далёка.

— Мяне хвалюе зараз адна вельмі актуальная праблема, праблема, можна сказаць, веку: адметныя якасці матэрыі. Вада, якую нагрэлі да ста градусаў — ператвараецца ў пару. А масла — у дым. Ты бачыш, што робіцца ў нас на патэльні?

Вочы яго хітравата прыжмураныя, і мне смешна, і я веру, што ён кажа мне праўду, што іншых думак у яго не было. Але ж смурод сапраўды! На патэльні гарыць масла.

— Пусці, я адсуну патэльню.

— Табе забаронена падыходзіць сёння да пліты. А ў мяне не асэнсаваная да канца праблема.

— Калі згарыць усё масла, яна праясніцца, думаю, твая праблема.

— Не, раней. Я здагадваюся, што трэба патэльню раз'яднаць з агнём!..

Ён цалуе мяне, усаджвае на зэдлік, кладзе на мае рукі газету. Які ж ён прыгожы ў белай маёй шапачцы, якую дзеля жартаў надзеў, беручыся за кухонную справу. І як фацэтна ўскінуты на плячо ручнік. Не, не глядзець на яго я не магу. А гэта яго злуе.

— Чытаць ты будзеш? — строга пытаецца ён і замахваецца на мяне ручнікам.— Ну?

— Так, цяпер няма куды дзявацца. Значыцца, пачынаем з перадавога артыкула. Дарэчы, Вольга тады на пероне мне сказала: я, маўляў, не чытаю болей перадавых артыкулаў. І таму, калі ты не пярэчыш, я пачынаю з апошняй старонкі...

Я чытаю газету ўслых, але час ад часу паглядаю на Валеру, захапляючыся лоўкасцю, з якой ён смажыць бульбу — «аля-Дзвіна», як ён паабяцаў мне. Кожную бульбінку — выбраў з вядзерца самыя кругленькія — разрэзаў на тры пляскатыя долькі і асцярожна, з кончыка нажа, апусціў іх у масла, потым перагортвае часта, і долькі робяцца падобныя на маленькія піражкі.

— Ой, як жа хочацца есці! І такая смаката ў цябе палучылася. Быццам спецыяльна дзе вучыўся!

— А як жа! Жыццё — школа самая спецыяльная. І газеты. Між іншым, гэты рацэпт, толькі назву, вядома, сваю даў, я ў газеце вычытаў. Сто адно блюда з бульбы. Чытала?

— Навошта мне чытаць? Я сто дзесяць сама ведаю!

— Час у нас будзе — паглядзім. А цяпер газету — на падваконне. Сама — да стала. Снедаем. А потым, ведаеш, я намысліў адразу ў сельсавет, каб даведацца. І ведаеш як? На лыжах. Лыжы твае. А бацінкі мае якраз для лыжаў і прыстасаваны...

Бацінкі ў Валеры цёмна-карычневыя, на тоўстай гумовай падэшве. Я гляджу на іх і пачынаю разумець, чаму гэтак трывожна ў мяне на душы з самага ранку. Валера казаў мне яшчэ на тым тыдні, што паедзе ў сельсавет, каб даведацца, калі можна афарміць шлюб. А ўчора сказаў катэгарычна, бо раней я яго адгаворвала,— едзе, маўляў, сёння.

І ён паедзе, я ведаю, і мне самой хочацца, каб ён паехаў, але я баюся яго адпускаць. Чамусьці ўчора мне прыгадаўся сон, які я бачыла напярэдадні прыезду Валеры — лес, лыжы, што лятуць у паветры, воўк, стрэл... А сёння пры адной думцы, што Валера выпраўляецца ў дарогу, мне робіцца страшна: а раптам з ім што-небудзь здарыцца? Сельсавет не так і далёка, і апоўдні Валера вернецца, але гэткі час не бачыць яго? Ды няхай застаецца без нас той сельсавет. Афармім шлюб пазней, калі Валера напіша сваю працу, тады і вяселле згуляем, а зараз не трэба адцягваць яго ўвагу, няхай сядзіць і робіць сваю справу. Час жа ідзе! Але Валера не хоча больш адкладваць, гаворыць, што трэба ехаць, і, я ведаю гэта, паедзе, і з таго ў мяне на душы трывога. Я не хачу адпускаць яго ад сябе і на гадзіну. Калі ён сядзіць і працуе, і я ведаю, што ён ў пакоі і я магу ў любы час яго ўбачыць,— я спакойная. А цяпер надвор'е такое, што і выходзіць страшна — вецер, сцюжа... А ён — ехаць! Ды няхай згоніць мароз, тады і паедзем разам...

Мы снедаем, і я ўвесь час думаю пра гэта, і пазней, калі прыбіраю посуд, зноў асцярожна даводжу яму, што ехаць не трэба, і ён дзівіцца з мае настойлівасці, але сказаць яму пра нейкія там нядобрыя прадчуванні я не адважваюся. Але я пераконваюся ўсё больш і больш: не трэба яму сёння ехаць!

— Ты плачаш? — ён туліць мяне да сябе, ласкава адводзіць пасмы, што падаюць мне на лоб.— Ну, гэта ж зусім неразумна. Але скажы, чаго ты плачаш?

— А, не звяртай ты увагі. Я і сама сабе не падабаюся: увесь час вочы на мокрым месцы. І адліга пад носам. Зусім не сучасная жонка.

— Ты — цуд. І я гэта даўно ведаю. І буду ведаць усё жыццё.





І мне так хораша з табою, што нават і на хвіліначку не хочацца пакідаць цябе і ехаць. Лепей бы я папрацаваў, папісаў... Але ж вырашана: трэба!

— Гэта ты сам вырашыў. І я толькі не разумею, чаму хочаш менавіта сёння? Не згарыць той сельсавет. Давай хоць на наступным тыдні. Дысертацыю за гэты час падгоніш наперад, увагу не будзеш адцягваць...

— Учора ж вырашылі!

— Нічога, родны, не вырашылі. Ты сказаў, а я пагадзілася: калі ты лічыш, што трэба, значыцца, зробім. Але ж я не казала, што абавязкова сёння.

— Падобна на тое, што мы пачынаем спрачацца...

— Спачатку я цябе пацалую. А спрэчка — гэта потым ужо...

— У мяне адчуванне віны перад табою. Учора я размаўляў з Габінавым, і мне пачулася... Не, не ведаю, мажліва, памыляюся... Але яго словы, тон... Адным словам, асуджэнне мне пачулася. І Твораж скоса паглядае. Тут ужо я не памыляюся...

— Ой, Валерка, Валерка! «Скоса паглядае»... Што з таго? Ды наша, асабістае, не павінна залежаць ад нейкага там пагляду. Галоўнае — нашы адносіны. Тое, што мы верым, патрэбны адно аднаму!

— Ты — разумная. І сапраўдны сябар!

— Значыцца, не паедзеш у сельсавет?

— Паеду, родная мая, паеду! Апоўдні вярнуся абавязкова. Калі ваўкі не з'ядуць. У вас тут, кажуць, шмат ваўкоў!

— Папрасі ў Габінава стрэльбу. Слухай, гэта ж ідэя! Бліскучая ідэя! Я сама папрашу!..

Валера паедзе са стрэльбаю, і мне будзе не так страшна за яго. Але па-ранейшаму прадчуванне чагосьці нядобрага жыло ва мне, і з гэтым пачуццём цяжка было змагацца, і я разумела, што нічога не магу змяніць, і адчувала, што жаданне такое ў мяне ўжо сышло. Дзіўна, каб ён сказаў «не паеду» — мне б было пачуць гэта непрыемна. Я ведала, што ён паедзе, і ў той жа час на нешта спадзявалася і разам з тым не хацела, каб ён змяніў сваё рашэнне, хоць і трывожылася, і не магла прагнаць сваё прадчуванне, і яшчэ больш кахала яго менавіта за гэтую настойлівасць, за тое, што сваё рашэнне ехаць у сельсавет Валера не змяніў. Гэта здараецца цяпер са мною: хочацца і не хочацца ў адзін і той жа час, і ніяк не даўмецца, якое жаданне пераважае.

Пасля снедання Валера едзе ў сельсавет, і я стаю на ганку, пакуль яго постаць са стрэльбаю за плячыма не знікае ўнізе ля возера за снегавымі гурбамі, і толькі потым іду ў бальніцу. Разам з Твораж мы робім абход, а потым я пачынаю прыём. Хворых мала — усяго тры чалавекі, я выслухоўваю іх скаргі, выпісваю рацэпты і застаюся адна. Не, не адна — са мною думкі, і ўсе яны пра Валеру. Дваццаць тры дні ён ужо тут. Яшчэ засталося трыццаць сем. Месяц і сем дзён. Потым Валера паедзе. А што рабіць мне? Ён кажа: паедзем разам. Спачатку і я так думала. А цяпер бярэ одум. Ехаць? Але куды? Валера казаў, што планавалася абмяркоўваць яго працу ў маі, а цяпер нібыта пераносяць — зноў жа няпэўна — на ліпень. Канчаткова ўсё будзе вырашана толькі тады, як ён здасць рукапіс. Зрэшты, што гэта мне? Трэба, вядома, падаваць заяву аб звальненні. Але як паглядзяць на гэта ў раёне? Толькі што прыехаў малады спецыяліст — і, калі ласка, кідае ўсё і едзе. Куды едзе? У Мінск! Не будзеш жа тлумачыць, што ў Мінску ім і не давядзецца жыць, а трэба будзе ехаць у Ратамку, а потым, калі вырашыцца справа з дысертацыяй Валеры, ясна будзе, дзе яны асядуць стала. Ды гэтае «стала» паняцце зусім няпэўнае. Ды, зрэшты, не гэта важна і не гэта галоўнае! Яна едзе разам з сваім мужам! І гэта, вядома, правільна дужа, што Валера паехаў у сельсавет. Шлюб неабходна аформіць: патрэбныя дакументы будуць, і ніхто не возьмецца пярэчыць, ніхто нічога не паставіць пад сумненне — сям'я! І нібыта шкада ўжо, што давядзецца ехаць адсюль. А можа Валеру нікуды і не трэба ехаць. Ён жа можа і ў школе працаваць. Настаўнікам!

Падыходзіць Карабань, прысаджваецца, гартае гісторыі хваробы, але я бачу, што гэты занятак — адчэпнае, што ёй хочацца нешта мне паведаміць. Маўчу і чакаю. Пасля таго, як да мяне прыехаў Валера, дужа змяніліся нашы адносіны, Карабань празмерна ветлівая, імкнецца папярэдзіць мае жаданні і ўжо двойчы па сваёй ахвоце ўзяла мае начныя дзяжурствы. Разумею, чым гэта выклікана, у яе няма цяпер падстаў раўнаваць мяне да Габінава! А ён, Габінаў, зрабіўся апошнім часам хмурны, размаўляе са мною неахвотна і нават раздражнёна. І Твораж нібыта падмянілі: гаворыць, а глядзіць не табе ў вочы, а некуды ў прастору, быццам чалавек, з якім яна размаўляе, там, далей, а ты — пустое месца.

— Значыцца, вы хутка ад нас і паедзеце? — пытаецца Карабань, і ў яе карычневых вачах ярка свеціцца простая цікаўнасць і баязлівасць, што, мажліва, такую гаворку пачынаць і не варт.

— Адкуль такія звесткі?

— Муж ваш гаворыць. Учора я паскардзілася яму: вы ўжо, кажу яму, хоць да вясны ў нас Галіну Сямёнаўну не забірайце. Нам без яе цяжка. А ён цвёрда: забяру, маўляў, хоць у тры ручаі рыдайце ўсе тут...

— Ну, радавацца, здаецца, асабліва няма каму.

— Хворыя ўсе вас дужа паважаюць.

— А здаровыя, значыцца, не ўсе?

— Не, не, я гэтак не кажу. Мы ж усе добра ставімся да вас, бо бачым, што вы чалавек душэўны і думку другіх паважаеце. Во, дарэчы, прыгадала. Камар вы прызначылі біяміцын, а яна яго не хоча піць: горкі, кажа. Горыч, маўляў, ныркам шкодзіць. Вы скажыце ёй, калі ласка.

— Скажу абавязкова. Хтось, здаецца, прыехаў...

— Так, дзверы бабахнулі. Але ж машыны не чуваць. Не, пайшоў жа толькі аўтобус. Нехта з яго да нас... Зараз я пагляджу...

Галава гудзе. Падобна на тое, што прастудзілася. Не, не прастудзілася, зусім іншае гэта — мая трывога. Варта мне толькі пакласці галаву на сашчэпленыя на стале рукі і закрыць вочы, як адразу ж адступае, бы правальваецца кудысьці, увесь бальнічны клопат, і ў маім уяўленні паўстае Валера. Ясна, нібыта на экране, бачу аснежанае поле, лыжны сляднік, які праклаў Валера, а вось і ён сам імчыць на лыжах па схіле, і над зялёным сасоннікам, што шнурам стаў у нізіне, вісіць мядзяна-бляклае зімовае сонца.

— Доктар! Доктар! На вас адна надзея, даражэнькая!

Тужлівы і ўстрывожана-адчайны голас гэты рэальны, і я ўсё не магу пераключыцца ад тых сваіх думак да таго, што гаворыць старая жанчына, якая ўвайшла і спынілася на дыванавай дарожцы ля дзвярэй. І дужа ж знаёмая жанчына! Дык гэта ж Данілюк!

— Вы да мяне? — я спытала, хоць і добра ўжо разумела, што, мабыць, здароўе яе дачкі пагоршылася, і яна прыйшла, вядома ж, да мяне.

— Так, доктар. Так. Увосень, помніце, я да вас прыходзіла. З Лі-

дачкаю мы былі ў вас. Вы ў раён нас паслалі — палегчала дзяўчыне. А цяперка зноў усё горай і горай... Баліць ручанька. А ніхто лячыць не хоча. Каб жа вы зноў Лідачку ў раён накіравалі, можа б палегчала, а яна тут у калідоры чакае. Дужа ж вас прашу...

— Не трэба адчайвацца. Ніякая хвароба не страшная, калі верыш, што здужаеш яе. А чалавек можа і павінен здужаць усё!..

Я кажу гэта ёй, а потым кажу і Лідзе, а ў сэрцы трывожна і пуста. Навошта я лгу? Габінаў казаў праўду: адзінае, што магло на нейкі час, вядома, уратаваць дзяўчыну, дык гэта ампутацыя. А цяпер... Пухліна перайшла ўжо на прадплечча, скура зрабілася васковая і амаль празрыстая; пухліна амаль зжэрла косць, і яна пачынае ўжо дэфармавацца. А Ліда — жывая... Як яна выцягнулася за гэты кароткі час, што я не бачыла яе!

— Баліць рука, Лідачка?

— Часам не вельмі.

— Паправіцца павінна рука. Вясной будзеш яшчэ збіраць на лузе кветкі. Ты любіш кветкі?

— Да вясны далёка. Не дачакацца мне...

— Ой, якая ты песімістка! Не трэба адчайвацца. Пры любым выпадку ў жыцці — нельга адчайвацца. Ніколі нельга! Разумееш?

— Разумею...

Вялікія шэрыя вочы глядзяць на мяне з дарослай строгасцю і смеласцю. Яна, мабыць, ведае ці здагадваецца, што хлушу ёй, што аніводнаму слову майму нельга верыць, але слухае і маўчыць. І мне яшчэ цяжэй ад гэтага маўчання.

— Хочаш, мы пакладзем цябе да нас у бальніцу?

— Не, я хачу, каб у раён. Мне тады, як вы ў раён пасылалі, адразу лепей зрабілася, не так балела...

— Заставайся тады ў нас. Заўтра будзе машына, можаш тады і паехаць...

Кажу гэта з усмешкаю, намагаюся супакоіць дзяўчынку і з палёгкай уздыхаю, калі зачыняюцца дзверы і я застаюся адна. Не, яшчэ б хвілінку такой размовы — і я б не вытрывала, зараўла б ад болю і роспачы. Такой сцюжаю пасылаць — наўрад ці зменіцца надвор'е да заўтра — безнадзейна хворага чалавека ў раён? Гэта ж глупства, непатрэбная жорсткасць. Але я прымаю менавіта такое рашэнне, прымаю, яшчэ не ведаючы, як паставіцца да яго Твораж, бо разумею, што тут, пад позіркам гэтых стомленых, зусім не дзіцячых вачэй іншага рашэння я прыняць не магу. Недзе ў душы жыве надзея, што да раніцы нешта зменіцца, што, мажліва, мне ўдасца пераканаць Ліду і яе маці не ехаць у раён, што, мажліва, адбудзецца ўвогуле нешта такое неверагоднае, нечаканае, але выратавальнае.

Цішыня ў пакоі, чуваць, як часта і гучна шухкае галінка акацыі ў падваконні — усчаўся моцны вецер. І я бачу, як за акном на снегавых гурбах узвіваюцца белыя закруткі, і зноў працінае мяне трывога за Валеру. Навошта, навошта ён паехаў на тых лыжах! Такая далеч! Такая сцюжа!..

Бачу машыну, што павярнула з гравійкі і хутка імчыць да бальнічнага ганка, бачу, як з машыны здымаюць і нясуць некага ў бальніцу, нясуць на стракатай коўдры, накрытага чорным кажухом, і толькі нейкі міг спагадзя, калі чую на калідоры галасы, я пачынаю разумець, што гэтае «нешта» — чалавек, і гэтае разуменне ўваходзіць у мяне вострым болем, і мне цяжка дыхаць, і я захліпаюся, бы ад моцнага ветру, бы гэты вецер не там, за акном, а тут, у пакоі, і ад яго няма ратунку.



Валера!

Гэта ж з ім бяда нейкая прыключылася!

А з месца крануцца не магу. Стаю, як змярцвелая, толькі ўсё чую, усё разумею, але як паралізаваная — ні рукою паварушыць, ні кроку зрабіць не магу.

А за акном, на снегавой гурбе, стаіць Валера. Жывы Валера! Стрэльба з рукзаком за плячыма. Лыжныя палкі пад пахаю. Стаіць, здымае рукавіцы і глядзіць на бальніцу. Шапка ў яго белая ад інею, і белыя плечы, і рукзак, і спартыўны касцюм з правага боку выкачаны ў снезе — паваліўся, мабыць, недзе.

Ці бачыць ён мяне? Не ведаю, не магу зрабіць аніякага яму знаку, толькі смяюся ад радасці і адчуваю, што па шчоках коцяцца слёзы.

— Галіна Сямёнаўна! Галіна Сямёнаўна! Дзе ж вы там? — Твораж урываецца ў прыёмны пакой.— Лукаш, мантажнік, разбіўся. Я даўно казала, што ён, як людзі, не пражыве. І калі ласка: палез без ахоўнага рамяня на апору... Яны, пакуль гэтую лінію сваю правядуць, пазабіваюцца ўсе. Кажуць, на нейкі там заклад ішоў...

Мне патрэбна нейкае імгненне, каб прыйсці ў сябе. І вось я раблю першы крок, і тады ўсё праясніваецца, і я магу разумець словы Твораж, сэнс таго, што здарылася, і я магу ісці ўслед за ёю, і рабіць перавязку, і нават раіць Твораж, каб пазваніць у вобласць і прасіць самалёт. У нашых умовах Лукаша не ўратаваць: у яго пабіта ўся грудная клетка і зламаны рукі, і ён увесь час трызніць, і Твораж не ведае, што рабіць.

— Трэба ў вобласць яго адпраўляць. Толькі ў вобласць,— кажу я, і тое, што я прапаноўваю — мабыць, адзіна правільнае выйсце.

— Надвор'е не вельмі спрыяльнае... Ды і не так жа лёгка і хутка можна прысласць той самалёт...

— Без аперацыі — дзве ж аперацыі трэба! — ён да ночы нават не працягне.

— Паспрабую, паспрабую пазваніць...

Упершыню я бачу Твораж такой разгубленай. Яна забылася нават, што павінна загадваць і патрабаваць, пабегла званіць у вобласць і нечакана хутка змагла дазваніцца і аб усім дамовіцца. Вярнулася і паведаміла ўжо сваім ранейшым загадным тонам:

— Можаце ісці паабедаць. Самалёт будзе ў пятнаццаць гадзін.

— Вы хочаце, каб я і суправаджала яго?

— Не, гэтага не спатрэбіцца. У іх будзе свой урач.

— Як у снежні? Памятаеце, абяцалі, што будзе свой урач, а давялося ляцець.

— Ну і што? Паляціце зноў. Не, я думаю, што не давядзецца. Але на ўсякі выпадак трэба падрыхтавацца, збярыцеся. Ідзіце, ідзіце рыхтуйцеся...

Намагаюся ісці па калідоры спакойна і ціха, спаважна, але ногі не слухаюцца мяне, саўладаць з сабою цяжка, і я, рыўком адчыніўшы дзверы на сваю куханьку, улятаю віхураю ў пакой.

Валера сядзіць ля стала, нават не пераапрануўся, не зняў бацінак, і на падлозе вакол іх нацякла лужынка—растаў снег. А ў руках шапка, ён падчапіў яе пальцамі і гайдае, як маятнік; зірнуў на мяне і не змяніў паставы. Я не прыдала гэтаму аніякага значэння — стаміўся ж чалавек у дарозе! — абдымаю яго, цалую, прымошчваюся на Валеравых каленях.

— Дзе твае ваўкі, паляўнічы?

— У рукзаку. І не ваўкі, і толькі ў адзіночным ліку.

— Значыцца, дарэмна я цябе палохала. Не ваўкі, а драбната!

— Не сказаў бы. Белячок трапіў — першы гатунак. Ведаеш, сапраўды зайца ўпаляваў. Паставіў цяпер задачу сабе: на футра табе настраляю.

— Можа ты мне яго і пакажаш? Не, лепей сама пагляджу!..

Заяц сапраўды ў рукзаку, і вялікі, але я не магу да яго дакрануцца. Як убачыла яго галаву, як адхіснулася: вочы зайцавы адкрыты, як жывыя, і ў вачах тых зусім як чалавечы боль, скамянелы крык і адчай; і кроў на поўсці, і нейкі не зусім прыемны пах...

Здаецца, Валеру таксама не прынёс вялікага задавальнення паляўнічы трафей. Валераў твар азмрочаны, вакол губ збіраюцца тонкія зморшчынкі — злуе. І толькі тады, калі я бачу гэтыя зморшчынкі, я прыгадваю, дзеля чаго ён ездзіў у сельсавет, але не магу распытваць, чакаю, і ён сам нечакана прызнаецца мне:

— Марна толькі час патраціў. І таму што дурань. Выпіска з рашэння суда аб скасаванні таго шлюбу — гэта проста судовая паперка. Трэба яшчэ заплаціць грошы і атрымаць пасведчанне. І гэта, аказваецца, робіцца па месцы жыхарства. Толькі пасля гэтага можна будзе рэгістраваць наш шлюб.

— І з гэтага ты такі змрочны?

Ён паціснуў плячыма, а я спытала зноў:

— І болей нічога не здарылася?

— Ды не, здаецца... Ваўка яшчэ бачыў, але далекавата. І не ўтрымаўся — стрэліў. Ведаў, што дарэмна, але стрэліў...

— Ой, паляўнічы ты мой, паляўнічы,— я цалавала яго і смяялася.— Выкідай ты ўвесь клопат з галавы! Чуеш? Ты дома, і нікуды табе не трэба ехаць, і якія там яшчэ пасведчанні — толькі ўвагу адцягваеш і нервуешся марна. Навошта? Потым усё зробім, потым. Галоўнае зараз — твая праца. Ты павінен напісаць яе бліскуча. Каб усе былі задаволены, каб захапляліся. І каб я магла сказаць табе: малайчына, Валера!

Ён схапіў мяне ў абдымкі, і я прытулілася да яго моцна, я адчувала ў сябе шмат сіл, моцы, я была ўпэўненая, што змагу ў любым выпадку яго падтрымаць, супакоіць, абнадзеіць.

— Ты хвалюешся,— сказаў ён.— У цябе не так, як звычайна, стукае сэрца. І вочы такія, быццам бяда якая здарылася...

— Прыключылася, Валерачка, бяда... Мантажніка прывезлі. Магчыма, памрэ... Выклікалі самалёт — аперацыі патрэбны складаныя. Павязуць у вобласць. Дарэчы, мне, мабыць, давядзецца ляцець разам з ім, калі не будзе абласнога ўрача. Вось гэта — бяда сапраўдная ў чалавека. А гэтая твая паперка сельсавецкая. Пакінем мы гэта, прашу цябе... Бедны Лукаш. Мабыць, яго і не давязуць...

— А хто вінаваты?

— Сам вінаваты. Пайшоў на заклад, што пройдзе па страле апоры. Гэта ж такая вышыня! Так бяздумна зглуміць жыццё...

— Гэта той, што спяваў, калі мы былі ў іх?

— Ага, ён. А Раечцы цяперака будзе непрыемнасць. Могуць судзіць, бо яе ж двойчы папярэджвалі. Гэта ж элементарнае парушэнне правілаў бяспекі...

— Я, між іншым, хацеў, калі назад варочаўся, да іх завярнуць. Але сюды спяшаўся. Ты ведаеш, палаяўся я ў сельсавеце... Потым ехаў, пра цябе думаў...

— Благое?

— Спрабаваў зразумець, за якія такія якасці і дабраты ты мяне гэтак кахаеш. Ты кахаеш мяне крэпка, я гэта ведаю, бачу...



— Гэта ты бачыш, а тое, што я магу паляцець на тым самалёце галодная, не заўважаеш, так?

— Я таксама галодны як воўк! На вячэру ў нас зайчаціна, Габінава паклічам. Як ты на гэта глядзіш?

— Калі не палячу — абавязкова. А зараз давай свініну «па-залеску» і боршч. Гэта ты ўсё на пліту паставіў? Ох, малайчына. Падзяка табе!

Я пацалавала яго, і мы селі абедаць, і гэта першы наш абед, калі мы мала гаворым і яшчэ меней жартуем. Валера есць марудна, праўда, нахвальвае свініну — гэта Зіначка мяне навучыла так рыхтаваць свініну: спачатку абсмажыць крыху, потым перакласці ў каструльку разам са скарынкамі чорнага хлеба, дадаць спецыі розныя, і потым трэба, каб упрэла добра, у белым соусе, з цукрам,— але я адчуваю, што ён устрывожаны, трымаецца неяк няпэўна, быццам у чымсь вінаваты; па абедзе, упершыню за гэтыя дні нашага жыцця тут, ён не ідзе разам са мною на куханьку, а застаецца сядзець ля стала, курыць, сядзіць нерухома, сагнуўшыся, нават не звярнуў спачатку ўвагі, што я зноў увайшла.

У гэткай узрушанасці я яшчэ Валеру не бачыла. Зрэшты, ён заўважыў мяне, узняўся, паклаў папяросу ў попельнічку.

— Трэба ж давесці да ладу гэтага беляка. Спатрэбіцца дошчачка, каб шкурку нацягнуць.

— Паглядзі за плітою. Ля сцяны там. Падыдзе, мабыць. А я тым часам чамаданчык спакую. Калі ляцець — толькі заўтра вернемся. А мо машына якая-небудзь надарыцца...

— Працяў ночы ў машыне? Лепей у гасцініцы пераначуй...

Валера ўзнімае рукзак, але стаіць на месцы, быццам вагаючыся, ці варта яму ісці і нешта рабіць. Пакутуе. Пакутуе і хоча ўтаіць ад мяне сваю разгубленасць, схаваць яе за будзённым паляўнічым клопатам, і гэтыя яго намаганні — не трывожыць мяне, не турбаваць залішне — расчулілі незвычайна. Эх, Валера, Валера! Нейкая маленькая няўдача, нейкая паперка, якую мы не зможам аформіць у нейкі пэўны час, гэтак выбілі цябе з раўнавагі! А хіба ж гэта бяда? Хіба гэта сапраўднае выпрабаванне і для нашага сяброўства і для нашага кахання?.. Сапраўдная бяда яшчэ пастукаецца ў нашыя дзверы, пастукаецца абавязкова, і няхай, хто хоча, пацвельваецца: маўляў, прадчуванні нейкія там,— але я разумею, што гладкім жыццё ў чалавека не можа быць, у мяне, у прыватнасці, у мяне і Валеры — не будзе... І гэта, мабыць, даволі сумна, калі ўсё гладка, як дошка!..

Расце, накатваецца грукат матора. Самалёт! Шыбы звіняць, быццам вось-вось разваляцца на дробныя кавалачкі. І ўвесь гэты клопат наш з Валерам, усе гэтыя трывогі, якія Валера сам напрыдумляў дарогаю, адлятаюць.

— Пойдзем разам,— прапануе Валера.— Можа што дапамагчы давядзецца...

— Нічога не трэба. Заставайся. Перамерз на лыжах гэтак. Не хапала, каб яшчэ ветрам на возеры пранесла. О! Урач з лётчыкам! Значыцца, не трэба будзе ляцець! Чакай мяне, я хутка вярнуся!..

Самалёт сеў на возера і падруліў да самай сцежкі, што вядзе ў пасёлак. Твораж таксама ўзрадавалася, што прыляцеў з вобласці ўрач і мяне не трэба пасылаць у вобласць, пагадзілася нават адправіць у абласную бальніцу хворую дачку Данілюк.

Ля самалёта адбылося амаль неверагоднае: у лётчыку, які вылез з самалёта і чакаў нас на сцежцы, я пазнала лейтэнанта, з якім мы ехалі разам у цягніку ў мінулым годзе. Сваім вачам не адразу паве-

рыла, і ён таксама быў узрадаваны незвычайна, сумеўся нечага, са шчырым шкадаваннем прызнаўся:

— Дык вы тут? А я вас зусім у іншым месцы шукаў!

— Яно ж звычайна так, шукаеш там, дзе няма.

— Сапраўды! І сяброўка ваша, як я разумею, тут таксама?

— Сяброўка далёка! У Маскву заляцела!

— Фю-ююю! Да прафесара якога-небудзь сівенькага, як я разумею...

— Амаль што!

— А вы што ж адстаяце і курс на сталіцу не ўзялі?

— Возера прывабіла.

— І мне яно па душы. Тройчы мы тут увосень рыбалілі. І чаму я вас тут не стрэў?

— На паплаўкі, мабыць, увесь час глядзелі!

— Не было патрэбы. Зусім не клявала. Усе тры разы не клявала. Болей і не ездзілі. Ну, цяпер я ў вас часты госць!..

І калі роў матор і нас з Твораж і Габінавым, хоць мы і стаялі ўжо далёка, закідвала снегавым пылам, і пазней, калі самалёт рабіў развітальны круг, і яшчэ пазней, калі ён знік за лесам і мы ўсе разам вярталіся ў бальніцу, у маіх вушах гучаў гэты вясёлы голас лётчыка, голас чалавека незвычайна ўзрадаванага, але і крыху збянтэжанага і разгубленага. І раптам разгубілася сама. Як жа яго прозвішча? Імя? Не ў памяці! Намагалася, імкнулася прыгадаць, нешта вельмі блізкае і вядомае круцілася ў думках, але сапраўднае прозвішча так і не прыгадала. Нават зарагатала — невядома з якой прычыны зрабілася весела.

Пра гэтую сустрэчу Валеру не расказала. Хацела расказаць, расказаць у тоне жартаўлівым і вясёлым, але сама дзівілася, што адбылося са мною. Увайшла, а Валера на кухні, у майцы, без кашулі, цвічкі ў вуснах заціснуты, а ў руках шкурка беляка, вывернутая, нацягнутая на дошчачку, завостраную з аднаго канца. І на тым канцы, дзе галава беляка, чорныя дзве адтуліны замест вачэй, і поўсць з іх акрываўленая тырчыць, і рукі Валеравы ў крыві, і ён гэтымі рукамі цвічкі з губ бярэ і тронкам нажа ў дошку заганяе — «тук», «тук»... І зноў бярэ цвічок пальцамі, на якіх засохла кроў, і зноў гэткае мяккае «тук», «тук», быццам у жывое цела цвічкі гоніць. А на стале, у місе — пакроены на кавалкі бяляк.

Не пурытанка я, ведаю, што трэба цвічкі загнаць у дошку, каб шкурка не скурчылася, калі пачне сохнуць, ведаю, што і без крыві зайца не пакроіш, а тут як мне што завадзіла: яшчэ крышку — і ванітаваць пачне. Ці, можа, гэта пах такі ад зайца — не ведаю. Але тое, што хацела расказаць Валеру, з галавы як ветрам выдзьмула.

— Паляцеў самалёт? — спытаў Валера і паклаў дошчачку з нацягнутай шкуркаю беляка ў куток за пліту, пачаў мыць рукі.

— Паляцеў,— сказала я.

— І мантажніка адправілі?

— Так, адправілі. І яшчэ там адзін хворы. Дзяўчынка. Таксама паляцела...

Размаўляла, адказвала, а на душы неспакой. Навошта спытаў, чуў жа, што самалёт паляцеў, дый з акна відаць жа возера? Проста спытаў, як адчэпнае, каб нешта сказаць, бо думаў жа ён, відаць, пра іншае. Але вось ён паклаў дошчачку са шкуркаю ў куток, падышоў да мяне, глядзеў устрывожана, і гэты пакутлівы выраз яго вачэй расчуліў мяне: тое «іншае», пра якое, як мне здалося, думаў Валера, болей





ужо не існавала, і я кінулася да яго, сама напалохаўшыся гэтых міжвольных і мімалётных сваіх думак.

Увечары мы пайшлі з Валерам у клуб, глядзелі новы фільм, які нам не спадабаўся, і мы пра яго адразу ж забыліся, як толькі выйшлі на вуліцу пасёлка. Амаль ва ўсіх дамах свяціліся размаляваныя марозам вокны, і грабяні снегавых гурбаў у палісадніках зіхацелі, і аснежаныя стрэхі некаторых дамоў краналіся гэтых грабянёў, і здавалася, што будынкі закручаны ў белую вату, і толькі ёсць гэтыя светлыя адтуліны, і Валера дзівіўся і быў настроены дужа вясёла і летуценна.

— А хораша як тут! Хораша! Вельмі падабаецца,— прызнаўся ён, і гэта я пачула ад яго ўпершыню; ён і раней, здаралася, казаў пра нашыя мясціны добразычліва, але вось такой узнёсласці ў яго я раней не заўважала.— Нават і не хочацца ехаць. І калі гэтая мая праца скончыцца, я папрашу адпачынак. Да вясны, адным словам...

Хацелася закрычаць ад радасці, але я толькі сціснула яго руку: утаймавала — божухна, аказваецца, я навучылася кіраваць сваімі парываннямі! — гэтае жаданне, сказала паспешліва, баючыся, што стрыманасці мае не надоўга хопіць:

— Ой, я ж забылася сказаць табе. Нам жа кватэру ў канцы месяца дадуць! У новым доме, бачыў, якія чатыры будуюцца на беразе. Цагляныя, з усімі выгодамі! Сучасныя гарадскія кватэры, адным словам. Хадзем, я табе пакажу. Гэта ў першым, на саменькім беразе...

— А каму ж той пакой у бальніцы?

— Нікому. Тампературбацыя страшэнная будзе. Пераборку, куханьку — далоў! Рэнтгенаўскі кабінет абсталююць. У чэрвені атрымліваем найноўшае абсталяванне, гэта мне Твораж сказала. А Габінаў хутка паедзе на спецыялізацыю. Ён жа рэнтгенолаг... Скажы, а калі ты намысліў гэта? Ну, свой адпачынак...

Валера нейкі задуменны, быццам чуе і не чуе мяне, і тое, што я кажу, яму не зусім цікава, і ён ніяк не рэагуе, чаму гэта я толькі сёння кажу пра той кабінет, і я чакаю, што ж ён мне адкажа, і ён пачынае гаварыць і гаворыць зусім не тое, чаго я чакаю.

— Ты ведаеш, я табе даўно хацеў сказаць... Толькі не ведаю нават і цяпер, ці трэба... І ты, калі ласка, без іроніі, паспрабуй зразумець, што гэта вельмі важная патрэба, і я трымаю яе ў тайне...

Страхатлівае ўзрушэнне апаноўвае мяне: мне мроіцца нейкая бяда, якая прыйдзе зараз, за гэтым вось Валеравым прызнаннем, і гэта бяда тычыцца нашага агульнага жыцця, нашых планаў, нашае будучыні. «Тоўх-тоўх-тоўх...» Гэта — маё сэрца...

— Я некалі пісаў вершы,— гаворыць Валера.— І пісаў зусім нядаўна. У Ратамцы... Ты тады паехала, а я застаўся на пероне. Помніш? Я вярнуўся ў свой закутак і не спаў да раніцы, думаў аб табе і пісаў, пісаў... Адзіны чалавек, якому я паказаў вершы — Сцяпан. Але ён закрэсліў амаль... Не, усё літаральна закрэсліў, пакінуў толькі адзін верш і сказаў, што яго, вершык той, можна паслаць у газету ці часопіс...

— Я павінна пацалаваць цябе за гэта,— мне сапраўды хочацца цалаваць Валеру, мне смешна з мае нядаўняе трывогі.— Ты пачытаеш мне свае вершы? Усё да апошняга радка. І ніколі не будзеш слухацца Сцяпана! Знайшоўся мне аўтарытэт!

— Сцяпан быў бязлітасны, мажліва, яно і правільна. Цяпер я не пішу вершы. Цяпер я проста пішу ўсё тое, што бачу, што адчуваю...

— Чакай, увесь гэты час ты, значыцца, не працаваў над дысертацыяй?

— Працаваў. І працую. Дысертацыя ідзе сама па сабе, гэта мая праграма, тут адступленняў няма і не можа быць... Але тут, у Залессі, мне адкрыўся нязнаны раней свет, зусім новы свет. Гэта ж ты, здаецца, неяк мне сказала, што каханне робіць людзей празарліўцамі... Нешта такое адбываецца і са мною... Габінаў... Зіначка... Лукаш... А Мацяш!.. І твая гэта праца, і тое, што ты працуеш значна больш, чым трэба, і не заўважаеш гэтага, і шмат другіх людзей, з якімі я страчаюся тут, і іх думкі, словы, жарты... Вось я пра гэта і пішу. Мажліва, гэта ўсё не больш, як дзіцячы наіў. Не ведаю. Але тое, што я ўбачыў тут: і гэтыя снягі ўпоравень са стрэхамі, і лясы, і гэтая цішыня, і гаючы для мяне аптымізм людзей, вера ў патрэбнасць таго, што яны робяць... Усё гэта, як казачнае дзіва, у якім табе — першая роля. І мне здаецца, што я пішу нешта вартае ўвагі...

— Дасі мне пачытаць?

— Адразу ж, як толькі скончу. Абавязкова. Толькі ты ў мяне ні пра што больш не распытвай, быццам я нічога табе і не расказваў, няхай усё так і ідзе, як ішло. Згода?

— Згода. Але ўмова: больш ад мяне ты нічога не ўтойвай. Нічога, нічога!.. Калі што якое здарыцца — адразу ж і кажы. Не рабі аніякіх таямніц!

— А ў мяне іх няма. І не будзе. Я ўвогуле лічу: калі што тоіш ад сябра — гэта падман, гэта здрада. Быць разам, ведаць, што табе вераць і даяраюць ва ўсім, на цябе спадзяюцца,— і нешта хаваць?... Здрада найгоршая гэта!.. І калі ты раптам пачнеш кахаць каго-небудзь другога — скажы мне адразу ж. Толькі не падманвай.

— Ой, які ж ты дурны!

— Можа. Але вось ты доўга затрымліваешся ў бальніцы ці ноччу там дзяжурыш... Ноччу, калі цябе няма, я абавязкова прачынаюся і ляжу і думаю, і мне мроіцца, што ты не адна, побач з табою нехта мне не вядомы, і ты гаворыш з ім, жартуеш...

— Слухай, Атэла! І ты можаш такое казаць?

— А ты ж кажаш мне часам пра нейкія там свае прадчуванні. Я пацвельваюся, а ў душы — знак...

— Няхай табе будзе і яшчэ дзесяць знакаў!.. І па чарзе. Спачатку — першы!

Я цалую Валеру, і мы рагочам, і спыняемся, і глядзім на неба — шукаем Паўночную зорку. Валера дзівіць мяне: ведае шмат сузор'яў, з прыгожымі загадкавымі назвамі, і паказвае мне іх абрысы, але я слаба разбіраюся ў зорных россыпах на чорнай высі і не вельмі намагаюся, каб засталося ў памяці, дзе і якая зорка.

Мне належаць усе яны — усе зоркі начнога неба. Мне належыць цішыня ночы, рыпенне снегу пад нашымі нагамі, належыць марозны вецер, што дзьме ад возера, належаць думкі Валеры і належыць ён сам, я адчуваю сябе гаспадыняю гэтага незлічонага і неацэннага багацця, і нічога не трывожыць, нічога не турбуе мяне...

## 13

Месяц вялікі, рудавата-белы. Увечары яго не было, цяпер, бліжэй да поўначы, хмары разагнала ветрам, яны імчацца па небе, наплываюць на месяц, і ў пакоі то святлее, то робіцца цямней, і ад гэтага ўсё зыбаецца, бы плыве.

Валера ляжыць на ложку, а я сяджу побач, і на мне доўгая, аж да пят, кашуля, і я гляджу на яго твар і бачу: то пасвятлее, то пацям-

нее, і вочы губляюць свой бляск, бы яшчэ глыбей правальваюцца ў вачніцы — быццам аддаляюцца, аддаляюцца вочы Валеры.

Але ведаю: гэта толькі здаецца, і не трывожуся. Гляджу на яго і маўчу: вельмі мне падабаецца глядзець гэтак на яго — схіліцца над ім, звёўшы свае рукі ў яго пад галавою. Пасядзіш так крышку, а потым нырк пад коўдру, а там — цеплыня Валеравых рук, пяшчота, сонечнае напаўзабыццё.

Валера накідвае коўдру на мае плечы, пытаецца, чаго я не кладуся. А я жартую: не люблю, маўляў, класціся ў халодныя прасціны.

— Сагрэй, сагрэй крышку пасцельку. Я, ведаеш, без цябе, калі холадна дужа было, прас уключала і пад коўдру клала. Нагрэецца пасцель — тады і кладуся.

— Значыцца, я замест праса?

— Ты лепей за мільён прасаў!

— Высокая адзнака. Але лепей кладзіся. Не цёпла ў кватэры. Во якія плечы азяблыя!

— Паспею. Сагрэюся. Хачу бачыць твой твар. І вочы.

— Кладзіся пад коўдру і будзеш бачыць.

— Не, не тое!

— Застудзішся, тады будзе табе «не тое»!

— Можа мне і хочацца схапіць прастуду і памерці. Адкуль ты ведаеш?.. У дзяцінстве ў мяне такое было. На мяне мама насварыцца, а я сяду ў куток і мару: вось, маўляў, буду сядзець тут, на халоднай падлозе, захварэю, памру, і будзеце тады плакаць — сагразіць думала. Татка мяне разумеў, ён звычайна падыдзе, за руку возьме, на крэсла пасадзіць і казку пачне расказваць...

— Бацька дамоў калі вернецца?

— Ой, не вельмі хутка! Яго яшчэ на тры месяцы пакінулі там, на Асуане... Хіба я табе гэта не казала?

— Казала. Але замоўчала іншае: чаму хочаш сагразіць мне? Гэта ж тая «прастуда» не проста прыгадалася... Нешта цябе трывожыць. А сказаць не адважваешся.

— Які празарлівец!

— Каханне робіць людзей празарлівымі. Заўсёды.

— Альбо сляпымі.

— Дык адкажаш?

— Не, я спытаць хачу... Два пытанні ў мяне вось ужо які дзень жывуць... Толькі без крыўды каб... Скажы, ты сваю жонку, тую, першую, прыгадваеш?..

Спытала і спахапілася: навошта? Нельга было, нельга было яго пра тое пытаць! І ведала ж, разумела, а вось жа, як знарок, як нячысцік які ва мне заварушыўся, узяла і папытала.

— Прыгадваю,— адказаў Валера спакойным дужа тонам, і мне крыху палегчала.— І часам здаецца мне, што не заўсёды быў справядлівы да яе, вінаваты нават. Вінаваты ў тым, што не здолеў яе навучыць жыць інакш... І скажу табе шчыра: гэтыя ўспаміны абуджаюць ва мне і пачуццё гідкасці... І яшчэ я цябе хачу папрасіць: ніколі, ніколі не чапай тое мінулае. Абяцаеш?.. А цяпер — другое тваё пытанне. У цябе ж іх было два.

— Так, два. Пра дачку хацела папытаць. Любіш яе, ведаю, і гэта правільна. А раптам захочаш да яе вярнуцца?

— А ты б мяне адпусціла?

— Не ведаю. Каб убачыла, што наша жыццё — пакуты табе... Не вагалася б у такім выпадку... Абстракцыя, вядома... А што б было на справе — не ведаю... Мажліва, я б узяла і забіла...



— Каго? Мяне?

— А каго ж яшчэ!

Нейкі міг быў — хацела пахваліцца, сказаць пра Бабіча, якога ледзьве не забіла. І не сказала. І што ўтрымала мяне — не ведаю. Не сорам, не, а нейкае іншае пачуццё, і я сама сабе раптам зрабілася гідкай. Як жа гэта можна? Кахаць і нешта ўтойваць ад чалавека, якога кахаеш, якому давяраеш ва ўсім? Як гэта? Пра такое мне раней не думалася, не ўяўлялася нават, што такое магчыма...

— Не, я не памыліўся: ты — вялікі цуд! А тое, што цябе трывожыць, гэта міф, ілюзія, гэта ніколі не можа здарыцца. Не можа таму, што ты — вялікі цуд!

— Замнога нахвальваць жанчыну небяспечна. А ты ўжо колькі разоў кажаш пра гэты цуд. А я — звычайная жанчына. І таму я хачу папрасіць цябе, толькі вось не ведаю, як лепей... Увогуле, так: няхай твая дачка лічыць наш дом сваім домам. Разумееш? Ну, зусім сваім...

— Дзякую табе...

— Даруй, можа я не тое зусім кажу? Можа мне лепей было пра ўсе гэтыя свае думкі маўчаць? Але калі ты побач... Вось ты прыехаў, і я ўжо не я, а нейкая вар'ятка...

— Ты яшчэ зусім не ведаеш, якая ты слаўная жанчына. Адно не магу сцяміць: як мне ўдалося знайсці цябе?

— Гэта я сама цябе знайшла. Толькі не ведаю, на шчасце ці на бяду... Ты вось на паляванне едзеш — мяне жах бярэ, нешта прыгнятае ўвесь час, нечага баюся. Прадчуванні мяне мучаць тады. Нядобрыя прадчуванні...

— Смеху варта. Урач, а верыць у нейкую лухту!

— А можа б ты не хадзіў на гэтыя свае паляванні?

— Не магу. Футра павінна быць! А ёсць яшчэ толькі рукавы і адно крысо.

— Мне зайцоў шкада. Не магу глядзець, калі ты іх прыносіш. Мёртвыя, а ў вачах боль, жах, непазбежнасць...

— Я і за гэта цябе кахаю.

— А слаўна, што мы адны, праўда? Гэта проста выключна, што мне кватэру далі ў гэтым катэджы.

— Не кватэра галоўнае, нам і там было добра.

— Тут лепей. Тут крышку далей бальніца, і гэта мне падабаецца. Імчу з работы ведаеш як? Вецер не дагоніць. Ух, як жа гэта здорава: імчыш дамоў і ведаеш — там цябе чакаюць. Раней гэтага не адчувалася: праца і жытло пад адным дахам... А ўлетку тут будзе як у раі — ускочыў і ў возера. Ба-абух!

— Улетку мы будзем на Дзвіне. Лавіць рыбу, загараць. Ты ведаеш, мне Дзвіна ўсё часцей і часцей сніцца. А табе?

— Я ж там не была.

— А ты вось падумай — і сасніцца. Я цябе пацалую, потым будзем спаць, а ранкам раскажам, каму што прыснілася. Дамовіліся? Спі!..

— А я ўжо засынаю...

Мая галава ў яго на грудзях. Валера трымае мяне за плечы, і я адчуваю, як яго рука пакрысе слабее, а потым сутаргава ўздрыгвае — ён засынае. Слухаю яго спакойнае дыханне, а сама аніяк не магу заснуць — хочацца есці. Вячэралі, здаецца ж, няблага: тварог быў, каўбаса сялянская, халодная, смажаная, у белым азярку смальцу — Валера вельмі любіць такую каўбасу,— і яшчэ бліны я напякла. А вось цяпер есці хочацца — аж сліна ў роце. І чым больш пераконваю сябе,

што сытая, што не трэба мне нічога есці, тым мацнее ўсё больш жаданне з'есці хоць кавалачак гэтай каўбасы ў смальцы. Не вытрымала. Асцярожна адвяла Валераву руку, ён нешта мармытнуў скрозь сон, але не прачнуўся, і я, намацаўшы рукою халат на крэсле, узнялася.

Стаю ля стала, ем каўбасу з чорным хлебам — а цяпер яна не такая ўжо і смачная, як была ў маім уяўленні,— і запіваю цёплым яшчэ чаем, і бачу, як сцямнела раптоўна за акном,— мабыць, хмара закрыла месяц — і як быццам адсунуўся, аддаліўся ложак, на якім спіць Валера, і мне хочацца хутчэй да яго, і я стаўлю шклянку з чаем на стол і, жуючы каўбасу, асцярожненька зашываюся зноў пад коўдру.

Стаяла басанож на халоднай падлозе,ззябла, а Валера гарачы-гарачы, і ён не чуе, што я ў пасцелі, толькі сказаў штосьці праз сон, прыгарнуў мяне да сябе і носам сіпкае, як малое дзіця, і я адразу ж сагрэлася, і санлівасць навалілася, але я не зусім яшчэ заснула, і бачу дзіўныя малюнкі, і не магу даўмецца, сон гэта ці ява.

Іду, мроіцца мне, па вуліцы, горад мне незнаёмы, але крочу ўпэўнена, бо наперадзе Валера і, нібыта малую, вядзе мяне за руку. І з кожным крокам усё больш знаёмай робіцца вуліца, і мы падыходзім да лёгкай драўлянай тэраскі, жоўтай, з белай ліштвою, і на гэтай тэрасе вісяць, параскладаны футры розных колераў і памераў; шмат людзей на тэрасе, але ўсе яны быццам аддалены, а наперадзе маці з малой дачкою і падспешвае малую, моліць і просіць, быццам гэта не малое дзяўчо, а сталая паважаная жанчына:

— Дык на чым мы з вамі спыніліся? Можа варта папытаць Галіну Сямёнаўну? Скажыце, калі ласка, гэта мы можам набыць?

Пачынаю бянтэжыцца пад уважным позіркам дзяўчынкі. У дзяўчынкі светлыя, як у лялькі, кучаравенькія валасы і ярка-зялёны бант на макаўцы. Дзяўчынка дужа знаёмая. Але дзе я магла бачыць яе?

І Валера маўчыць. Нічога не гаворыць. Павярнулася, каб спытаць, чаго маўчыць, а яго ўжо ля мяне няма. Валера ўжо далёка, бяжыць па чыгуначным насыпе, а насустрач яму імчыць зялёная яшчарка — электрычка; выпаўзла яна з-за павароткі, а набліжаецца бязгучна. І дзяўчынка паказвае ручкаю на гэтую яшчарку, і тут жа здагадка ва мне, як маланка: гэта ж дачка Валеры! І жонка яго! Так, так... Гэта ж я бачыла іх на фотаздымку, які паказвала мне Валерава цётка!..

У вачах жанчыны і асуджэнне, і дакор, і знявага. Але голас яе дужа ціхі, прыглушаны, а толькі гучна бумкаюць па шпалах Валеравы бацінкі, і ўсё грамчэй, грамчэй, і электрычка ўжо спынілася, а Валера бяжыць да мяне, і я чую яго голас, і ўсё знікае, і толькі голас Валераў, і гэты голас — рэальны:

— Да нас стукаюць. Нехта стукае да нас. Чуеш?

Цяпер я ўжо сама чую, што стукаюць у акно, разумею ясна, што прыснілася мне і дзяўчынка, і маці, і электрычка, што ў бальніцы нешта здарылася.

Голас Мацяш, якой я адкрываю дзверы, блытаны, устрывожаны — разабраць што-небудзь пэўнае цяжка.

— Чалавека прывезлі. Увесь у крыві. Зіначка там адна. Перапалохалася, нічога зрабіць не можа...

Дрыжыкі паўзуць у мяне па спіне. І ад таго, вядома, што паведаміла Мацяш, але яшчэ болей ад перажытага хвалявання, перажытага там, на вуліцы горада, які не існуе ў сапраўднасці і дзе, вядома ж, я не была аніколі...

У бальніцы мяне чакае Зіначка. Я ўвайшла, і яна кінулася мне насустрач, вінавата заўсміхалася:

— Ой, сорамна мне дужа — не трэба было вас і клікаць. Кінамеханіка нашага прывезлі. Увесь у крыві. І не дыхае, як здалося. А потым агледзела — гарэлкі перапіў, тварам недзе бразнуўся. І на холадзе ляжаў — з таго і халодны. Нічога, ажыў, як нашатыркі дала. І раны апрацавала — і драпінкі, драбяза...

— А дзе ён цяпер?

— Дрыхне, п'яніца няшчасны,— гаворыць Зіначка, твар яе імгненна змяняецца, губы злосна падціскаюцца, потым уздрыгваюць, і на іх стыне пагардлівая грымаса.

Выходжу з бальніцы. Ад марознага паветра аж суха ў роце. Ускрай возера, за чорным голлем алешын, бачу медзяную кропачку святла — наша акно! І ўжо не магу спакойна ісці, імчу з усяе моцы туды, у наш дом, да гэтага святла, да Валеры!..

Валера на ложку, але не спіць, і я гэта бачу, калі заглядваю ў размаляванае марозам акно. Але што ж ён робіць? Падушкі за спіною, на крэсле ля ложка настольная лямпа, на падлозе ад яе светлае кола; і вось у гэтае кола лягла яшчэ адна вузкая папера — гэта Валера хацеў пакласці напісаны аркушок побач з лямпай, а ён зваліўся на падлогу.

Піша!

Пасля таго як Валера прызнаўся мне, што пісаў вершы і намысліў зараз напісаць нейкую кнігу, у нас з ім болей пра тое гаворкі не было. Больш таго: раней я бачыла яго за сталом, часам рыхтую снеданне, а ён ужо сядзіць і піша — гэта было, калі ён працаваў над дысертацыяй. Але апошнім часам я ўвогуле не бачыла ў Валеравых руках алоўка — ён пісаў толькі алоўкам чамусьці. І зараз ён з алоўкам, і піша хутка-хутка, потым прыціскае аловак да губ, глядзіць на акно, і мне здаецца, што ён заўважыў мяне. Не! Ён не бачыць мяне, не можа бачыць: калі ў пакоі гарыць святло, што за акном робіцца — не відно. А я бачу яго добра: схмурнелыя бровы, нейкія доўгія пальцы, у якіх заціснуты аловак, а сам аловак кароценькі, і ён яго круціць у пальцах, быццам узважвае, потым прыціснуе да губ, потым паківае ім, быццам грозіць камусьці, і пачынае хуценька-хуценька пісаць.

І я не хачу яму перашкаджаць, бо ведаю, што ён, пачуўшы мае крокі, схавае аловак, схавае паперу. Няхай піша!

Прайшла раз ля дома, другі... Змерзла. Зноў зазірнула ў акно, і ў гэты ж самы момант, як гляджу на яго, ён адкладвае і паперу, і аловак і працягвае рукі, бы выпроствае іх насустрач мне, і губы яго варушацца, і мне здаецца, што Валера кліча мяне, і ўжо не магу заставацца ля акна і лячу дамоў.

Саджуся на ложак, Валера цалуе мяне, вохкае:

— А які ж нос халодны! Марозам пахнеш. І лекамі. Што-небудзь сур'ёзнае здарылася?.. Я, між іншым, так і падумаў. Распранайся і кладзіся. Бачыш? Палова пятай!

— Пачакай, хачу пасядзець ля цябе.

— Ты чымсь дужа заклапочана. І нешта апошнім часам трывожыць цябе. Я заўважыў...

— Сон сёння прысніўся. Перад тым, як Мацяш прыбегла.

— А я нават і не памятаю, калі апошні сон бачыў. За гэтымі белякамі пагойсаеш на лыжах — як забіты спіш.

— Сасснілася твая дачка. І ў мяне не праходзіць пачуццё вінаватасці перад ёю. Вочы... Яе вочы! Які дакор у іх быў! Але ж я не вінаватая. Я пакахала цябе, калі ты быў адзін. Праўда?

— Праўда. І ты ані ў чым не вінаватая. Гэта — стомленасць. І — нервы. Апошнія дні ты шмат працавала ў бальніцы. Я нават пачаў раўнаваць цябе да бальнічнага будынка — ён жа крадзе ў нас увесь вольны час...

— Без працы я б зусім прапала. У бальніцы неяк забываеш аб дробязях. Вельмі люблю я сваю бальніцу.
— Болей чым мяне?
— Навошта гэты падзел? Мая праца, і тое, што ты робіш, і тое, што я раблю, і тое, што ты ёсць, — усё гэта існуе разам, усё гэта і ёсць жыццё, усё гэта і ёсць, мабыць, сапраўднае шчасце.
— Правільна. І гэта — цудоўна!
— Але ўсё часцей здаецца, што яно, гэтае шчасце, не належыць мне. Быццам далі на нейкі час і хутка адбяруць, возьмуць назад...
— Гэта — нервы, зноў табе кажу. Ты сапраўды стамілася. А мо проста перастала кахаць мяне?
— Ты — адзіны. Акрамя цябе я нікога не змагу кахаць. І табе гэта добра вядома...
— Калі жанчына пачынае клясціся — яна збіраецца нешта змяніць, і змяніць менавіта ў тым, у чым клянецца.
— Ты проста не разумееш жанчын. Жанчына любіць глыбей, больш пакутліва, чым мужчына: яна не можа цалаваць сёння аднаго, а заўтра другога.
— Здараецца, між іншым, і гэткае.
— Мажліва. Але тады, калі ў душы пустэча, калі там нічога няма.
— Нічога няма? Прырода жывая не ведае гэткай субстанцыі. І, акрамя ўсяго, існуе фізіялогія.
— Але ж існуе і розум. І чалавек можа і павінен кантраляваць свае дзеянні. Заўсёды! Ва ўсім. Між іншым, гэта адна з тых якасцяў, што адрозніваюць яго ад жывёліны.
— А ты ўсё яшчэ пахнеш лекамі. Там мне здавалася, што гэта таму, што бальніца пад адным дахам. Але тут дом новы, а ўсё роўна — пах лекаў. Такое адчуванне, быццам па-ранейшаму жывем пад бальнічным дахам.
— Хіба нам блага было там?
— А тут яшчэ лепей. І таму павінен я цябе разы тры пацалаваць.
— Ты проста неўтаймоўны. Учора ж дамовіліся: сёння — выхадны дзень!
— Выхадныя дні ў нас будуць, калі састарэю. Тады кожны дзень — выхадны. І я зраблюся зусім спакойны. Увечары забяруся пад коўдру і да раніцы не зварухнуся і цалаваць цябе не буду.
— Цудоўная перспектыва ў мяне!
Ён цалуе мяне, і я гляджу на яго твар і адчуваю, як туманіць галаў пяшчота, з якою я не магу саўладаць і не хачу змагацца. Як я кахаю Валеру! Я буду кахаць яго заўсёды, і заўсёды маё жыццё будзе належаць яму. Што ён пажадае — зраблю. Буду берагчы яго ад гора і бяды, ад турбот, ад усіх сумненняў... Але адкуль, якія сумненні могуць быць? Іх не было, іх няма, іх не можа быць, калі мы разам, калі нам хочацца пяшчоты і цяпла.
Кахаць!
Які ж гэта цуд дадзены чалавеку!
Кахаць!..
Кідаюся да Валеры ў адбымкі, і свет болей, ніякі будзённы свет, ужо не існуе больш для мяне...

## 14

Валера зрабіўся сапраўдным паляўнічым. Кожную пятніцу, а бывае, што і два ці тры разы на тыдні, ён бярэ стрэльбу і выпраўляецца з хаты на цэлы дзень. Вельмі часта з ім ідзе і Генадзь Валяк. І не было



яшчэ выпадку, каб з пустымі рукамі ён вяртаўся: ці двух, ці трох зайцоў яны ўпалююць абавязкова.
Па суботніх жа і нядзельных вечарах у нас наладжваюцца, як кажа Габінаў, «зайчатнікі», і тады нашу кватэру не пазнаць: ні цішыні, ні спакою, толькі жарты, смех, песні, роў транзістара. Звычайна, акрамя Габінава, прыходзіць Генадзь Валяк з Раяй, Зіначка з мужам, Карабань. Некалькі разоў была і Твораж. На стале, акрамя смажаных зайцоў, віно, вядома. Але толькі сухое.
Напачатку мне гэта было ўсё даспадобы: і гамана, і спевы, і розныя гісторыі; падабалася частаваць нашых гасцей, падабалася чуць, як усе пахвальваюць зайчаціну; падабалася глядзець, як Генадзь набівае табакаю люльку, якую потым увесь вечар амаль не выпускае з зубоў; падабалася нават, што ў кватэры ажно назаўтра пасля «зайчатніка» трымаецца пах табакі высокага гатунку.
Але неўзабаве я стамілася. Стамілася смажыць зайцоў, стамілася прыбіраць посуд пасля таго, як усе разыдуцца, і ўся гэтая вясёлая бязладная гамана пачала мяне раздражняць; з кожным вечарам усё меней было арыгінальных гісторый, паўтарэнні пачаліся, з'явіўся нават трафарэт слоў, жартаў, паводзін, рытуалу. Я ведала, што Валяк закаханы ў Раю, і было непрыемна бачыць, што яна больш гаворыць з Габінавым і Валерам, а ён сумуе ў кутку.
А сёння мне гэта асабліва кінулася ў вочы. Я намысліла падвесяліць Генадзя, падсела да яго, але ён набычыўся, гаварыў са мною не дужа ветліва, і гэта мяне непрыемна ўразіла, а потым пачало раздражняць. Я, як гаспадыня, павінна ўсім дагадзіць! А чаму? І няўжо Валера гэтага нічога не заўважае? Не, не заўважае.
І менавіта гэта, апошняе, мяне раздражняла больш за ўсё. Ледзьве дачакалася, пакуль усе разышліся. Валера пачаў дапамагаць мне наводзіць парадак у кватэры, і я сказала яму:
— Трэба табе кідаць гэтае паляванне.
— А як жа нашы «зайчатнікі»? На іх жа, беляках, нашы вечары і грунтуюцца.
— Іх таксама трэба скараціць. Раз у месяц можна сабрацца, пасядзець увечары, пагаманіць. Два, зрэшты...
— А што рабіць у астатнія?
— Табе трэба весці дысертацыю,— адказала я, намагаючыся схаваць раздражнёнасць. Пра дысертацыю я казала яму заўжды, але цяпер я ўбачыла ў гэтым адзіна-адзіны разумны доказ свае правaты. Мне хацелася сказаць, што гэтыя вечары мы будзем разам, мы з ім удваіх, без нікога, але баялася, што Валера абвінаваціць — аднойчы ён ужо зрабіў гэта — у эгаізме.
— Навошта мне яе вясці? Яна мяне вядзе. І ўсё — наперад! — сказаў Валера і на поўны мах адчыніў акно.— Зараз увесь чад — далоў. Ох, качагарыць жа гэты Генадзь. І Раечка малайчына. Яна, аказваецца, мае першы спартыўны разрад па плаванню.
— Нешта ты замнога гаворыш пра гэтую Раечку!.. І гэтыя ўсе госці, госці, госці... А я хачу быць толькі з табою!
Белыя воблакі марознага паветра хвалямі ўкатваліся ў пакой, і я адразу пачала зябнуць, і разумела, што не холад тут прычына, а тое, што не ўтрымалася, сказала Валеру тое, чаго казаць не хацела; Валера ўзяў мяне за плечы, глядзеў на мяне, і ў яго зрэнках я бачыла свой зменшаны адбітак.
— А хіба ж я не з табою?
— Калі яны ўсе тут, мне здаецца, што ты далёка, вельмі далёка. І ў мяне з'яўляецца трывога: ты ўжо меней, не так, як раней, кахаеш

мяне... Паляванне за паляваннем... Потым — гэтыя вечары... А з табою, вось так, удваіх, мы ўсё радзей і радзей. Хіба не так?

Я казала гэта, казала і адчувала, што мне не трэба папракаць яго, што мне не трэба скардзіцца, а трэба рабіць усё так, каб не было падстаў на скаргі. У сэрцы было зусім іншае, яно было поўнае да краю пяшчоты і кахання, а словы нараджаліся зусім не тыя, якія мне былі патрэбны, і я вымаўляла іх, і мне было дзіўна чуць іх — чужыя, зусім як не мае словы. Гэта была крыўда, не асэнсаваная да канца крыўда, баязлівасць, трывога за сваё шчасце. Я зненавідзела сябе за гэтыя папрокі. Лаяла, бязлітасна лаяла, але адчувала, што дарэмна лаю сябе, што марна трывожуся, разумела, што ў гэты вось вечар не змагу ўзняцца над сваёй уласнай крыўдай, ведала, што яна мацнейшая за мяне.

— Ты азябла, хоціць нам паветра,— і Валера зачыніў акно, а фортку пакінуў адчыненай.— І гаворыш праўду: мы сапраўды мала вось так, разам... І паверыш, я ўсё часцей блага думаю пра твае гэтыя дзяжурствы. Ненавіджу я іх. Ведаю, што блага гэта, але нічога не магу зрабіць: бальніцы ты аддаеш часу болей, чым мне.

— Бачыш? Пачаліся ўзаемныя папрокі. І не першы раз ужо. І яны мяне крыўдзяць.

— Не сярдуй. Наша — заўсёды наша!

Ён узняў мяне, насіў на руках, люляў, як малое дзіця, і я гладзіла валасы, і раптам заўважыла, што каўнер яго світара вельмі ж забрудзіўся.

— Табе цяжка. Пусці. І здымай свой світар. Я памыю яго.

— Зараз? Ды ўжо дванаццатая гадзіна!

— І яшчэ каўбойку за адным разам ужо. Дзе яна?

— Вісіць на кухні. Ды заўтра паспееш!

— У мае жаночыя справы ты не лезь. Табе загадана? Давай сюды світар!..

Я настаяла на сваім — мне трэба было супакоіцца. Я нават не ведаю, чаго мне так карцела пачынаць тое мыццё супроць ночы.

Памыўшы світар, узялася за каўбойку. У кішэньцы ляжаў невялічкі блакноцік, і я не адразу заўважыла яго, і ён шмякнуўся на падлогу.

Шмякнуўся і раскрыўся.

У блакноціку, за цэлафанавай вокладкаю, была фотакартка. Зірнула і пазнала адразу — Валерава дачка! Дзяўчынка была ў той жа сукеначцы, што і там, на той фотакартцы, якую паказвала мне Валерава цётка. Але чаму такая вузенькая фотакартка? — А-а... Гэта ж ён разрэзаў той здымак: пакінуў толькі дачку!..

Боль узнік у сэрцы раптоўна, і быў ён рэзкі, як удар, і тут жа знік, але сэрца тукала глуха і ўстрывожана. Ён помніць! Ён любіць! І тут, уласна кажучы, няма чаго дзівіцца: яго ж уласная дачка, не чужая!..

Я глядзела на дзяўчынку ў белай сукеначцы, з белым зайкам у руках і бачыла іх усіх траіх. Бачыла нават больш выразна, чым там, на той фотакартцы! Яны нібыта прыйшлі сюды, на кухню, сталі перада мною, маўклівыя і нерухомыя, і іх бачыў толькі мой растрывожаны розум, і я адчула, што па шчоках у мяне цякуць слёзы.

З яснасцю, якая ніколі не прыходзіла да мяне, я зразумела: Валера ніколі не зможа забыцца на мінулае! Не зможа закрэсліць яго! Фотакартку ён разрэзаў на тры часткі, адну носіць з сабою, а дзве астатнія, магчыма выкінуў. А можа нікуды і не выкідаў, а проста пакінуў там, у Ждановічах, і ён не раз і не два глядзеў на тую разрэзаную фотакартку і прыгадваў мінулае, і я не ведаю пра тое, а толькі магу здагадвацца. Але адно я ведаю цяпер цвёрда: няхай ён на дзесяць частак падзярэ тую фотакартку — яна ў сэрцы яго будзе жыць увесь час, будзе існаваць насуперак маім жаданням, і я нічога не змагу зрабіць з гэтым; нават больш: ведаючы, я змушана буду маўчаць, каб не трывожыць Валеру...

Я заўсёды баялася гэтых думак. Яны прыгняталі і палохалі, разбуралі маю веру ў правільнасць таго, што я рабіла і раблю, нараджалі сумненні, і з гэтымі сумненнямі я цяпер нічога не змагу зрабіць. Раней мне было лягчэй, бо я загадала сабе: ніколі не распытваць яго пра мінулае. Потым мы самі ж і дамовіліся, каб не прыгадваць яго, але цяпер яно, яго мінулае, будзе ўвесь час жыць і разам са мною...

— Галка! Хутка ты там? — гукае Валера. Ён ужо на ложку, і я не бачу яго, але чую, як шухціць газета — узяўся чытаць: мяне болей ён не прымушае чытаць газету, як некалі.

— Ужо ўсё. Хвіліначку чакання. Не засынай там. Ты што робіш?

— Газету гартаю...

— Чытай грамчэй, каб я чула!

— А-аа... Нічога цікавага!..

Я змахнула з вачэй слёзы. Мабыць, праўду казаў мне Валера: нервы ўсё гэта. І замнога непатрэбных сумненняў, самакатавання. Хіба я не кахаю Валеру? Кахаю. І гэта апраўдвае мяне ва ўсім. Умець кахаць — значыцца, умець усё. Геніяльнае сцвярджэнне! Дзе і калі чытала — не памятаю. І гэта не галоўнае, што я не памятаю. Галоўнае — я кахаю! Валера для мяне — усё! Нават да рэчаў яго дакранаюся, да гэтага світара і каўбойкі, а ў сэрцы — цеплыня. З ім мне тут заўсёды добра. І яму добра, я гэта ведаю. І таму, магчыма, нам не трэба нікуды ехаць. Дзвіна? Што яна дасць мне? Новыя трывогі — не больш... Правільна, ой правільна! Валеру трэба быць як мага далей ад тых месц: там ён зведаў гора, там мінулае будзе бліжэй, больш вярэдзіць сэрца... Яму трэба быць болей тут, сярод новых месц, якія яму па душы, сярод людзей, ад якіх ён у захапленні. Тут, толькі тут сатрэцца з яго памяці мінулае, і мы будзем шчаслівыя, і доўга-доўга шчаслівыя...

Я супакойвала сябе, суцяшала, не разумеючы, што самае галоўнае, самае небяспечнае ў сямейным жыцці — гэта наша схільнасць бачыць усё лепшым, не такім, як у сапраўднасці, жаданне крыху аздобіць самыя звычайныя рэчы, надаць ім колер найярчэйшы, той, які можа ўсцешыць вока і сэрца; і калі гэта адбываецца, мы лічым сябе шчаслівымі — кароткія хвіліначкі падману і самазабыцця.

Жыццёвая мудрасць, якая абавязкова прыходзіць да кожнага: да аднаго — раней, да другога — пазней.

Да мяне яна прыйшла потым, і яна мне ўжо нічым не магла дапамагчы.

## 15

Чакаю Валеру. У слабым сутонні губляюцца возера і лес, а яго ўсё не відно: зноў гайсануў на паляванне. А мне хочацца яго пабачыць як мага хутчэй, пабачыць і перадаць яму маю вялікую радасць. Думаю пра гэта, і чаканне не сцягваецца, і мне добра стаяць вось так ля акна і глядзець на белую снегавую прастору.

Сёння з бальніцы выпісалася Марылька Харчак, і гэта для мяне вялікае свята. Ёй дзесяць год. Бацька трактарыст, маці працуе на

калгаснай свінаферме. Калгас самы багаты ў раёне: цагляныя дамы з усімі выгодамі, выдатны Палац культуры, дзе нават басейн для плавання ёсць. А ў Марынькі — апёк першай ступені. І ўсё звычайная неахайнасць: скінула бутэльку з бензінам з палічкі — бацька прынёс дамоў бензін запраўляць запальнічку,— а газавая пліта была ўключана, і адзенне на дзяўчынцы запалала.

Я ўжо думала, што ёй не жыць. І ўсё-ткі мы ўратавалі яе, і Марылька папраўілася, і ўсё загаілася, на целе толькі засталіся непрыгожыя рубцы. Але твар не пашкоджаны, апаленыя бровы і валасы адраслі. Увогуле, павінна сказаць, што такой цярплівай дзяўчынкі і не бачыла: боль, а боль ад апёкаў страшэнны, яна пераносіла з мужнасцю дарослага чалавека. Дый не кожны дарослы такое можа моўчкі вытрываць!

Бацька Марылькі — вялікі, з чорнымі цыганскімі вачыма — прыкаціў па дачку на старшынёвай «Волзе». Спрабаваў ён уціснуць мне падарунак — вялізны гліняны збан мёду. Я патрабавала, каб ён аднёс яго ў машыну. Харчак пакрыўдзіўся, але потым зміры́ўся і цвёрда паабяцаў: «Я вам у ліпені бочачку ў хату прыкачу — свежанькага, ліпавага. І ведаць не будзеце, ад каго і адкуль. Прачнецеся — стаіць на ганачку!»

І на развітанне так пацiснуў мне руку, што я войкнула. І яшчэ патрабаваў, каб на май, на свята, я гасцявала ў іх, і абяцаў, што прыедзе па мяне на машыне, і каб я рыхтавалася, бо калі паспрабую адмовіцца — сілком павязе. І мне было хораша і радасна, бо я ведала, што ён і сапраўды зробіць так, як абяцае. Але большая радасць была з той пяшчоты, з якой абдымала і глядзела мне ў вочы Марылька.

Якія шчодрыя людзі ў шчасці!

А вось цяпер я чакаю Валеру, гляджу на лыжню — Валерава лыжня! — і лезуць у галаў розныя нядобрыя думкі. У апошні час мне ўсё часцей і часцей думаецца пра тое, што Валера нешта тоіць ад мяне. Ён зрабіўся маўклівы і задуменны. Часам спытаюся ў яго пра што-небудзь, а ён прахопіцца, быццам драмаў, скажа: «што?», і мне даводзіцца паўтараць сваё пытанне, і толькі тады ён адкажа; гаворыць, глядзіць на мяне, але ж я бачу, што думкі яго блукаюць недзе далёка.

Мажліва, гэта простая падазронасць, наіўная мая падазронасць. Але ж ёсць і факты! Дысертацыю сваю ён закінуў, да кнігі, якую намысліў пісаць, не дакранаецца — з алоўкам у руках я не бачыла яго ўжо тыдні тры. Раней я не магла сцвярджаць гэта з поўнай упэўненасцю, бо ён заставаўся дома, калі я ішла на працу. Цяпер жа ў нас так: паснедалі — разам выходзім. Я іду ў бальніцу, а ён стрэльбу за плечы — і ў лес. І да вечара яго няма.

Фортка акна адчынена. У сутонні блізкага вечара ўсё цямней і цямней бэзавы далягляд — на моцны мароз — над лесам, дзе зайшло сонца. І лыжны след, што пачынаецца ад нашага дома і відзён з акна, расплываецца, чэзне. Я запаліла святло. Слых мой абвостраны: чую, як гудзе машына на гравійцы, чую дзіцячыя покрыкі, і раптам рыпенне снегу і тупат ботаў ля дзвярэй.

Валера! Але чаму ён сёння едзе з таго боку, ад бальніцы, а не з возера?

Дзверы адчыняюцца. Не, гэта не Валера, а Габінаў. Сёння ўдзень у нас з ім была цікавая размова. Заўтра ён павінен ехаць у Маскву на спецыялізацыю — будзе там чатыры месяцы,— і ў нас з ім адбылася як бы развітальная размова. Я зайшла ў свой стары пакой — там цяпер працуюць цесляры,— і ён мяне адшукаў. Зірнуў на новае акно ў сцяне, сказаў са скептычнай патэтыкай:





— Нам здесь природой суждено к рентгену прорубить окно. Класіка і сучаснасць. Няблага!

— Рэнтген там, дзе куханька была. А тут — перавязачная будзе,— растлумачыла я.

Ён намагаўся не глядзець мне ў вочы, вывучаў светлавыя зрэзы на бярвенні, потым разглядаў гурбу тонкага сасновага стругавіння і сказаў — і ў голасе яго прагучала непадробленая туга:

— Пройдзе час, і будзе тут першакласная бальніца.

— Хіба вы не верылі ў гэта?

— Я чуў шмат розных абяцанняў: рэнтген, хірургія...

— Але ж зацверджаны каштарысы, адпушчаны сродкі! Усё пастаўлена, як вы любіце казаць, на практычныя рэйкі. Улетку дабудуюць правае крыло — гэта хірургія. А ўвосень прыедуць хірургі. Дзве штатныя адзінкі! Вы ж лепей мяне гэта ведаеце. А я спрабую пераканаць вас, што тут пачнецца залаты час!

— Жаль только — жить в эту пору прекрасную... Памятаеце? І я магу даць новае ўласнае асэнсаванне гэтай паэтычнай думкі: вы — не затрымаецеся тут доўга, я — не вярнуся сюды...

— Як? Вас жа і пасылаюць на спецыялізацыю, каб вы вярнуліся сюды!

— Будзем на поўную шчырасць?

— Хіба мы гаварылі калі-небудзь інакш?

— Гэта — праўда. І менавіта таму, мабыць, я і не вярнуся. Жыць, у сэнсе духоўным, будзе мне тут цяжка. Мне і раней было не дужа лёгка. І я стаміўся. Стаміўся ад бясконцых паездак, ад бясконцых «сто пяцьдзесят» перад абедам, стаміўся ад педантычнай пачцівасці нашай Твораж. А вы прыехалі — усё перавярнулася. Не, не ў свеце гэтым — свет непарушны! — а ў маім асабістым успрыняцці гэтага свету. Вы працуеце — не шкадуючы сябе. Я гэта бачу. І кахаеце свайго Валеру — таксама не шкадуючы сябе, адкідваючы ружовенькую дабрачыннасць абывацеля. Я разумею гэта. І мне хочацца жыць на такой жа плыні. Дыхаць на поўныя грудзі, з гэтай жа яраснай поўнасцю і кахаць, і аддаваць сябе сваёй працы...

— Але ж вы працуеце менавіта так! Я шмат чаго ўзяла ад вас, навучылася!

— Не! Гэта вы сваёй маладосцю далі мне надзвычай павучальны ўрок. Але вас не будзе тут, і ўсё пойдзе ранейшым, ціхамірным шляхам...

— Вы перабольшваеце маю ролю!

— Магчыма. І калі не давядзецца сустрэцца тут увосень, вы ведайце: ёсць, жыве на зямлі Габінаў... Сярэдняй рукі ўрач. Але шчыра ўдзячны і прызнальны вам чалавек!..

— Дзякую. Я ўжо другі раз дзякую вам за гэтае прызнанне!

— Хіба? Ах, праўда! Праўда, праўда...

Твар яго імгненна змяніўся, быццам чалавек нацягнуў маску; бездзельнасць да ўсяго, насмешлівасць, нейкая як бы фанабэрыстая незалежнасць...

Цяпер ён увайшоў у пакой, і на твары яго была ўсё тая ж маска адчужанасці і бесклапотнасці, быццам мы зноў стаялі там, у развярушаным рамонтам бальнічным пакойчыку.

— Дзе наш паляўнічы? — спытаў Габінаў і ахвотна прыняў прапанову распрануцца і пачакаць: я сказала, што Валера зараз вернецца, бо звычайна ў такі час ён ужо дома.

Нібыта ў пацвярджэнне маіх слоў, лыжная палка застукала па шыбіне — вярнуўся, урэшце, Валера: ён звычайна так робіць — схаваецца, а лыжнай палкаю ў акно стукае. Насвістваючы, ён ляпаў лыжамі, ачышчаючы іх ад снегу, потым уваліўся ў пакой; запахла гаркавым пахам дыму — у лесе, мабыць, распальваў вогнішча.

— Нешта не відно трафеяў, — пажартаваў Габінаў. — Няўжо аніводнага не стрэлася зайчонячка?

— Зачараваныя яны сёння: усе набоі расстраляў, і ўсё — на вецер!..

— Значыцца, не паляванне ў думках. Паляванне — гэта творчасць: яно таксама патрабуе ад чалавека ўсіх сіл, часу — усяго чалавека цалкам, адным словам.

— Шкада, зрываецца наш заўтрашні «зайчатнік».

— Гэта і добра, — сказала я. — Надакучыла мне гэтых зайцаў смажыць.

— О! Да гэтай адукаванай думкі варта прыслухацца, Валера. Захапіўшыся зайчацінаю, мы не заўважаем, як ад нас уцякае больш буйная дзічына. Час!

— У бога дзён многа, — пажартаваў Валера.

— Але, на жаль, ён не заўсёды падказвае нам, які дзень выкарыстаць на паляванне, а які на справу карысную і патрэбную. І, здараецца, мы блытаем гэтыя дні...

— У вас нейкі мінор сёння. Перад дарогаю, мабыць?

— Правільная здагадка!

— Тады ставім на стол развітальную. Галіна Сямёнаўна, як у нас з вячэраю? Сядайма!..

— Не, не. Я развітваюся, — сказаў Габінаў і зрабіў Валеру знак адысці падалей ад дзвярэй кухні, дзе я была.

Я зрабіла выгляд, што не заўважыла гэтага, але і не падслухоўвала, нават быццам выпадкова зачапіла дзверы, і яны зачыніліся.

Пра што яны размаўлялі — не ведаю. Але гаворка ў іх і трох мінут не цягнулася. Я паспела толькі пакроіць хлеб, дастала з шафкі талеркі, як дзверы адчыніліся, і Габінаў пачаў развітвацца.

Пазней, калі мы былі адны, я спытала жартам Валеру: якія, маўляў, у вас там сакрэты былі?

— Ніякіх, — адказаў ён.

— Габінаў спецыяльна прыйшоў, каб з табою пагаманіць. Я гэта адразу здагадалася.

— Мажліва, і спецыяльна. Але ён не гаманіў са мною, а раіў. Даволі ўзнёсла і паэтычна раіў. Але парада яго была падобна на загад, каб я кінуў сваё паляванне і па-сапраўднаму кахаў цябе.

— Ты ўсё жартуеш?

— Не. Ён загадаў мне, каб я кахаў цябе да скону дзён. Без жартаў загадаў!..

Валера абдымае мяне, цалуе; адной рукою ён гладзіць мае валасы, а другою прыўзнімае накрыўку каструлі.

— Што маем на вячэру? Ух, які ж я галодны!

І я — збіралася ж, падрыхтавала самыя суровыя словы! — не магу яго лаяць; я магу толькі глядзець на яго, улюбёна сачыць за тым, як ён шумна мыецца, як моцна расцірае ручніком твар і шыю, як прыгожа, з вялікім апетытам вячэрае і гаворыць, што ўсё вельмі смачнае, і мне слухаць гэта вельмі прыемна, і прыемна адчуваць і бачыць, што ён побач, што мы разам...

Пасля вячэры Валера кладзецца адпачыць паверх коўдры. Хуценька зладкаваўшы посуд, я ляту да яго.

Гарыць настольная лямпа, зялёная, і твар Валеры ад гэтага свяг-

ла выдае зямлістым, хваравітым, незвычайна стомленым і непрыгожым, і я не магу, каб не папракнуць яго:
— Ты з гэтым сваім паляваннем хутка высахнеш, як трэска. Зірні, як ты схуднеў!
— А ты лепей спытай, якое ў мяне самаадчуванне!
— Ну, якое ж у цябе самаадчуванне?
— А вось якое!..
Ён падхопліваецца, хапае мяне, спрабуе падкідваць, я супраціўляюся, і ён цалуе мяне, і мы бухаемся разам на ложак.
— Зломім жа ложак! Чуеш?
— Чорт з ім! Ён усё роўна нейкі старасвецкі. Трэба нам новую канапу прыдбаць замест гэтага ложка. Новую! Сучасную! Так што можна гэтую — на пыл!
— Можа ўсё-ткі крышачку пачакаем? Ну, да раніцы, скажам?
— За сто пацалункаў — пайду на гэткі кампраміс. Але не менш. Давай сюды сто пацалункаў!
— Грубы матэрыяліст!
— Я прапанаваў табе добрую ідэю. Ты не хочаш! Застанешся без ложка!
Ён гэпаецца, знарок моцна і дужа, і ложак парыпвае, і мне падабаецца гэтая гульня, і я смеючыся кажу яму:
— Па частках хочаш?
— Не, толькі ўсё разам!
— Калі ласка, атрымлівай свае сто!..
Ніколі не думала, што гэта такое — сто пацалункаў! Сорак разоў пацалавала — прашу літасці! А Валера рагоча і патрабуе ўсе сто, і мы з ім сваволнічаем, жартуем, дужаемся і, урэшце, разам з коўдраю і падушкамі ляцім на падлогу...

## 16

Вечар.
Цёплы, зусім не зімовы вечар. Па-веснавому пахне мокрая акацыя. Неба попельнае; за рэдкімі шэрымі воблакамі стары месяц. За голлем дрэў відаць агеньчыкі ў вокнах бальніцы, яны здаюцца зморшчаныя, дрыжаць, быццам хтосьці патрэсвае іх у нераце з чорнага голля.
Мы з Валерам стаім ля скрыжавання, якраз у тым месцы, дзе дарога ад нашай бальніцы ўспаўзае на гравійку: чакаем аўтобуса, каб ехаць да мантажнікаў, якія цяпер перабраліся на граніцу з суседнім раёнам. З таго боку працавала другая брыгада мантажнікаў, і вось яны сустрэліся, высакавольтная лінія пракладзена, і мантажныя брыгады адпраўляюцца на нейкі іншы ўчастак. Валяк жа запрасіў Валеру абавязкова прыехаць на развітальную вячэру.
Валера збіраўся ехаць нават ранкам — ішла калгасная машына. Я ўгаварыла Валеру паехаць увечары, аўтобусам. Я, калі шчыра прызнацца, увогуле не маю аніякага жадання ехаць туды. Там будзе абавязкова Бабіч, а мне з ім сустракацца не хочацца. Але і гэта не галоўная прычына, чаго я ўсяляк адцягвала паездку да мантажнікаў. У мінулым месяцы ў абласной бальніцы памёр Лукаш. Неяк на адным «зайчатніку» Валяк пачаў абвінавачваць нашу бальніцу, што мы, маўляў, нічога не зрабілі, каб ўратаваць Лукаша: не змаглі своечасова выклікаць самалёт, не мелі патрэбных лекаў... Вінаватыя, адным словам, у яго смерці.



Гэта глупства, вядома, і гаварыў яго чалавек, які быў на падпітку крыху. Але мяне здзівіла, што ў часе тае гаворкі з Генадзем Валера не абараняў нашу бальніцу, не пярэчыў. Мне здалося нават, што ён тады паверыў і цяпер верыць Генадзю. Я разумею, што гэта мая падазронасць, смешная падазронасць, што гэта беспадстаўная падазронасць, але думкі пра тое з'яўляюцца да мяне часта і выклікаюць крыўду і тугу.
Я ўвогуле прыкмячаю шмат новага ў паводзінах Валеры, у яго словах, нейкую як бы стрыманасць у пяшчотах. Нейкі ён іншы, не такі, як быў раней. Адчуваю гэта і, што самае жахлівае і незразумелае, баюся сказаць яму, баюся ўвогуле чапаць гэтую тэму, баюся ўвогуле аб тым гаворак. І ён, нібыта ведаючы гэта, не пачынае іх, абыходзіць і, здаецца мне, робіць тое свядома.
Валера па-ранейшаму ласкавы са мною. Але гэта ўжо не тая неразумная, безразважная пяшчота, што знясільвала, выматвала і з мяне і з яго, з нас абодвух усе сілы; яна зрабілася нейкая стрыманая, больш стражэйшая, яна ўжо як патрэбны абавязак.
І вочы Валеравы змяніліся: я ўсё часцей і часцей бачу ў іх тугу. Ён нешта тоіць ад мяне. Але што? Не магу даўмецца і не магу адважыцца завесці з ім размову пра тое. Але патрэба ў такой гаворцы ёсць, яна жыве, гэтая патрэба, і таму трывога не знікае, і мне ўсё цяжэй — і гэта ўжо не здаецца! — жыць з ёю: нейкая віна прыгнечвае, і, што самае горшае, як мне думаецца, я не разумею, не бачу, а толькі сэрцам чую яе прысутнасць.
Дзіўна, дзіўна часам усё ў чалавечым жыцці — старая гэта, як свет, і непаўторна новая думка. Увосень я прыходзіла сюды, на скрыжаванне гэтае, шмат разоў увечары — любіла глядзець, як імчаць па шашы асветленыя знутры аўтобусы. І часцяком я тады спадзявалася — гэта было яшчэ да той Валеравай тэлеграмы — і верыла, што магу ўбачыць і сустрэць Валеру. Бывае ж такое ў жыцці: ведаеш, што немагчыма гэта, што не будзе, што не варта чакаць, а ўсё роўна і спадзяецца чалавек, і чакае, і гэтае чаканне яму добрая, гаючая надзея.
Мне тады не хапала толькі яго, мне тады здавалася, што з'явіся ён — і жыццё заквітнее, і я буду самым шчаслівым чалавекам, і ніхто і ніяк не зможа азмрочыць маю радасць. Валера прыехаў, і я зрабілася шчаслівая. Ён і цяпер побач, і я па-ранейшаму шчаслівая, але ў гэтым маім шчасці гэтулькі цяпер трывогі, гэтулькі сумненняў, што я пачынаю палохацца, каб яно куды не знікла, гэтае маё шчасце, палохаюся няясных думак, трывожуся невядома з якое прычыны. І вось менавіта гэта мяне і дзівіць: тое, што было далёка, цяпер блізка, побач, але, наблізіўшыся гэтак, яно быццам нешта страціла з сваіх чароўных таямніц, і гэтая чароўнасць саступіла месца— а, можа, проста перарабілася?! — незразумелым сумненням, клопату, трывогам...
— Валера?!
— Што?.. Што, мая родная?
— Я пачынаю баяцца.
— І я таксама: мы спознімся, здаецца.
— Не, зусім іншае ў мяне... Нейкая боязь... Невядомая, незразумелая боязь... Ты зрабіўся нейкі другі... Змяніўся дужа. І з гэтага, мабыць, боязь. Вось... Пачала гаварыць гэта — ажно дрыжыкі па спіне...
— Вецер. Азябла. Таму гэта. Э-ээ! Аўтобус. Каньяк у нас з табою ёсць, зараз прыедзем да хлопцаў — сагрэемся!
— Толькі ты там многа не пі. Страшэнна не люблю, калі чалавек п'яны!
— А хто іх любіць? Хіба толькі самі сябе. І ты добра ведаеш: я

меру не перабяру ніколі. Свята, дата якая — калі ласка, я з ахвотаю. А як некаторыя — абы шклянку налаб закінуць? Не разумею. На свеце ёсць шмат лепшай асалоды...

Аўтобус амаль пусты. Мы сядзім на першым сядзенні, і я бачу шчыток кіравання, асветлены маленькай лямпачкай, на якім прыляпаны дзве каляровыя красуні з часопіснай вокладкі, і бачу каляіны дарогі, зыркія ад аранжавага святла захаду; каляіны імкліва імчаць на нас, і здаецца, радыятар сячэ іх, кідае пад колы аўтобуса.

І зноў мае думкі-трывогі са мною. А Валера паціху нешта мармыча-спявае, потым жартам штурхае мяне локцем, і твар у яго дужа вясёлы, нічым не азмрочаны, і мне робіцца весялей. Але толькі на кароткі міг, бо я бачу яго вочы, у якіх не прайшла, трывала пасялілася туга. Так, вочы чалавека не могуць хлусіць!..

Да мантажнікаў прыязджаем позна. Ужо зусім цёмна, вокны перасоўных дамкоў асветлены, чуваць смех. Раней, калі хварэў Валяк, я з ахвотаю ехала да мантажнікаў: падабаліся іх жарты, таварыскасць, шчырасць. Цяпер нібыта прыліпаюць мае ногі да прыступак. І прыступкі не пазнаць, і ўсё змянілася, зусім не так выглядае, як некалі, калі тут размяшчаліся мантажнікі: абламаныя парэнчы — толькі два стаякі ад іх, сцены дамкоў абшарпаныя, размаляваныя нейкімі літарамі і лічбамі, а пад вокнамі намаляваны вялізныя чырвоныя трохкутнікі; з вузкага коміна вывальваецца дым, вецер кладзе яго на дах, а з даху ён скочваецца ўніз, нам пад ногі; ліхтар на слупку матляецца, быццам вось-вось адарвецца і паляціць на чорны, закураны снег.

— Ну, наперад! — гаворыць Валера і, працягнуўшы над маім плячом руку, адчыняе дзверы.

Развітальная бяседа ідзе ўжо сваёй хадою. На стале пустыя бутэлькі, чайнік, пячэнне, бляшанкі з кансервамі — рыбныя ёсць і мясныя, пузаты белы слоік з варэннем, на талерцы грудка жоўтых яблыкаў і паверх іх — тры вялізныя апельсіны. Бубніць забыты ўсімі транзістар на цвіку ля акна.

Рая кідаецца нам насустрач, бярэ з маіх рук паліто; яшчэ адно імгненне — і мы ўжо ў цесным сяброўскім гурце ля вузкага драўлянага стала, і нас знаёмяць з хлопцамі-мантажнікамі з суседняга раёна і з іх брыгадзірам, які тут з жонкаю і сынам Толікам, які адразу ж паведаміў, пад агульны рогат, і сваё імя, і імя па бацьку, і прозвішча, і тое, што яму пяць год.

Каньяк, які Валера стаўляе на сярэдзіну стала, сустракаюць вясёлым гармідарам. А я нават і ад чаркі адмовілася, праўда, дзеля адчэпнага ўзяла крыху, і мяне ніхто не прымушаў піць. У нас стварылася адразу ж свая жаночая кампанія — Ірына, жонка брыгадзіра, Рая і я — і мы п'ем чай з варэннем, і ў нас свая гаворка, і вясёлы гармідар мантажнікаў не замінае нам і не турбуе. Потым мы ўсе разам спяваем песні, і рагочам пазней з жартаў, якія, як з меха, вытрэсвае Генадзь — у такім адчайна-вясёлым настроі я не бачыла яго ніколі.

Валера неяк вельмі хутка пасябраваў з маленькім Толікам. І адразу забаўка ў іх знайшлася: скруцілі з газеты тоўстую трубку, запіхваюць па чарзе туды цукеркі; цукеркі лічацца як ступень ракеты — такая ў іх гульня.

— Хопіць, — загадвае Валера Толіку. — Інакш сойдзе наша ракета з арбіты. Шасціступеньчатая ракета ў нас запраграмавана! Давай адну назад!

— Не хачу. Яшчэ туды многа-многа можна!

— Дык што, сварыцца будзем? Пасварымся мы зараз з табою, а



ракета тым часам згарыць, бо ніхто ж ёю не кіруе, пакуль мы тут з табою сварымся.

— Не пасварымся, — упарта цвердзіць Толік.

— Гэта ж чаму?

— Я маленькі. З маленькімі не сварацца. І касманаўты ніколі не сварацца.

— Хто ж табе гэта казаў?

— Татка.

— Добры ў цябе татка.

— І ён можа сапраўдную ракету зрабіць. І ён сказаў, што ў нядзелю зробіць вялікую-вялікую.

— Калі сказаў — зробіць. Татка ў цябе добры!

— А ты чый татка?

Валера разгубіўся, заміргаў неяк часта-часта, прыкусіў губу, але тут жа, вельмі хутка, авалодаў сабою, заўсміхаўся, хаваючы сваю збянтэжанасць; рукі яго міжвольна сціснулі газетную трубку, і тая сагнулася і гучна трэснула; цукеркі пасыпаліся на падлогу.

— Аварыя! — са смехам паведамляе Валера і, бачачы, што Толік зараз заплача, паспешліва дадае: — Таварыш камандзір! Толік, ты ж камандзір касмічнага карабля! Уключай, камандзір, аварыйны адсек! Правільна робіш! Складваем, а гэтую ступень адкідваем! І мяняем арбіту! Смелы ты камандзір, Толік!

Толіку падабаецца гульня. А мне цяжка глядзець на яго і яшчэ цяжэй глядзець на Валеру. Я адвярнулася і ажно скаланулася ўся: са сцяны, з вялікай фотакарткі, глядзіць на мяне, як жывы, Лукаш.

А мантажнікі спяваюць «Ой, бярозы ды сосны...» Вядзе песню брыгадзір — у яго прафесійна пастаўлены гучны барытон; Валера, які ўсё яшчэ не кідае гульню з Толікам, таксама падпявае, і спявае Рая з Генадзем, і спявае жонка брыгадзіра, і міжвольна і я апынулася ў плыні сумна-ўрачыстай мелодыі.

А ў сэрцы маім песні няма.

«— А ты чый татка?»

Гэтыя словы апякаюць мяне, апякаюць увесь час, апякаюць, нібыта агонь, і я адчуваю амаль фізічны боль; і словы тыя чуюцца мне ва ўсім, яны стаяць перада мною, яны цiснуць на мяне, прыгнятаюць сваім непамерным цяжарам.

Дурніца!

Якая ж я дурніца! Якое наіўнае дзяўчо! Тое, што зараз з дзіцячай непасрэднасцю спытаў Толік, даўно жыве ў Валеравым сэрцы. І менавіта гэта ён тоіць ад мяне. І я здагадвалася пра гэта, здагадвалася, але баялася гаварыць, каб не пакрыўдзіць, каб памагчы яму забыць сваё мінулае. Але ж ён не забудзе яго анікол! Мажліва, на нейкі час ён зможа прымусіць сябе не думаць аб ім. Але варта яму будзе вось так, як сёння, дакрануцца рукою да чужога дзіцяці, пачуць дзіцячы голас — і памяць бязлітасна адновіць усё: і першы голас яго ўласнага дзіцяці, і плач па начах у калысцы, і першае слова, і першы няпэўны крок...

Гэта — будзе!

Гэта — ужо ёсць!

І мне няма куды сысці ад сваіх думак, няма куды схавацца ад простай і бязлітаснай праўды: ты, менавіта ты, а не хто-небудзь другі, стала паміж Валерам, бацькам, і яго дзіцем!

Што ты скажаш у сваё апраўданне?

Кахаю. Я кахаю і не магу жыць без Валеры. Ён ведае гэта, і ён не мае права нешта мяняць у гэтым маім шчасці! Толькі я магу тут не-

шта мяняць. Але чаму менавіта я? Ён — мужчына. А я — жанчына. Яму лягчэй. А мне цяжэй. І таму я павінна ўсё вырашыць. Толькі я! І ніхто за мяне тут не знойдзе разумнага і правільнага выйсця. Магчыма, гэта эгаізм. Няхай! Але ці ж ёсць у мяне права на тое, каб нешта вырашыць толькі сам-насам, без яго, Валеры, нават не папытаўшы яго, не параіўшыся?..

Кахаю...

Але ж хіба гэта апраўданне? Так, апраўданне. Апраўданне, і трэба вырашыць толькі разумна, толькі правільна, толькі справядліва, толькі адкінуўшы свой эгаізм, нічога не патрабуючы ўзамен...

— І нічога ўзамен?

Мае губы сказалі гэтыя словы, і я спалохалася, я збянтэжылася. Потым зрабілася сорамна, быццам зрабіла нешта непрыгожае, і вельмі баялася, што гэтыя мае словы пачуў Валера.

Але ні ён, ні хто-небудзь іншы не пачуў нічога: усе спявалі, а Валера па-ранейшаму забаўляўся з Толікам. Яго пальцы пяшчотна пагладжвалі Толікавы валасы, і мяне, калі я ўбачыла гэта, працяла думка, якая і ўразіла мяне і яшчэ больш збянтэжыла і напалохала. «А хто вось так, з такою пяшчотай, прыгалубіць яго, Валераву дачку? І што думае ён, Валера, вось у гэты міг? Які клопат трывожыць яго?..»

Не, мабыць ніколі ён не раскажа мне пра гэта. А можа раскажа? Не! Я магу, я павінна зразумець гэтыя думкі сама, я зразумею іх, няхай ён толькі зараз зірне на мяне... Ну, зірні на мяне! Зірні, Валера! Мне трэба, я хачу, мне неабходна бачыць твае вочы! Бачыць зараз! Зірні!..

Валера марудна, быццам з натугаю, узнімае галаў. Я з няўцямным жахам гляджу на яго сціснутыя губы, далёкія чужыя вочы... Яны глядзяць на мяне, гэтыя яго вочы, але яны нічога не заўважаюць, у іх толькі пакута і боль; гэтыя вочы быццам зглядзелі нешта незразумелае, крыўднае і балючае нешта, зглядзелі не тут, а недзе там, у далёкім ад мяне, зусім не тутэйшым свеце, і ў гэтым свеце — я бачу гэта, разумею і вачыма і сэрцам — мяне ўжо няма, я зусім не існую ў тым свеце, які бачаць Валеравы вочы...

А мантажнікі спяваюць. Ах, як жа суладна ідзе песня, як хараша яна гучыць!

А ва мне — боль. І каб заціснуць яго, не даць яму прасторы і сілы, я заплюшчваю вочы і таксама пачынаю спяваць, і чую, як звініць мой голас, і разумею, што ніколі больш у жыцці не давядзецца мне пачуць такой песні, не давядзецца больш гэтак спяваць...

## 17

Ранак, і мы не спім, і я прыгадваю, як учора Валера быў неяк асабліва радасны, узрушаны і, як мне падалося, шчаслівы бясконца. Ён урэшце скончыў сваю працу, склаў аркушы ў дзве тоўстыя папкі, звязаў матузы і, паляпаўшы рукою па іх, сказаў урачыста і ўзнёсла:

— Усё! А як жа мне тут працавалася добра! Спачатку перашкаджала паляванне... А мо і не перашкаджала яно? Не, мабыць, я хадзіў са стрэльбаю, думаў... Таму потым усё так хутка і напісалася. Цяпер — адпачынак маленькі. А тады — у дарогу. Ты ведаеш, як мы паедзем?

— Не ведаю.



— Выклікаем з раёна таксі. Потым на цягніку. Затым, з Мінска, самалётам. Потым — зноў таксі. А там ужо ножкамі тэпаем да Дзвіны. А потым лета... І мы будзем лавіць судакоў... Ты калі-небудзь спрабавала закідваць спінінг?

— Не, ніколі.

— Навучу. Абавязкова навучу!..

Я пагадзілася. Пагадзілася таму, што ведала: не будзе ні судакоў, ні спінінга, ні Дзвіны. Не будзе таму, што я не паеду туды. Не паеду з Валерам. Не паеду адна. Не паеду на Дзвіну ні яшчэ куды-небудзь. Не паеду нікуды ўвогуле!..

А казаць пра гэта Валеру баюся. Мяне палохае гэтая размова, і я ўсё адкладваю яе, адкладваю як мага. Часам думаецца, што маё рашэнне не мае аніякага сэнсу, наіўнае, смешнае. Але гэтае рашэнне жыве ва мне, выспела. Яно нарадзілася ў той вечар, калі мы прыехалі развітвацца з мантажнікамі і Валера забаўляўся з Толікам...

Я і дагэтуль памятаю выраз Валеравых вачэй. Я чакала тады, маліла, каб ён зірнуў на мяне, спадзявалася на сілу свайго кахання і нават сабе не прызналася тады, што верыла і спадзявалася загаіць гэтай сілаю яго боль; і ён зірнуў тады — выпадковасць жа, не мог жа ён сам чуць, што я загадвала паглядзець у мой бок! — і я зразумела, што той боль непадуладны маёй сіле, зразумела і ўпершыню падумала пра тое, што ўкрала ў Валеравай дачкі бацьку і што павінна аддаць яго. Тады гэта было нават не рашэнне, а толькі подступы да яго, кароткая, дзіўна кароткая думка, якая напалохала мяне і тут жа была закрэслена і адкінута, і, зрабіўшы гэта, я тут жа знайшла падставы супакоіць сябе: кахаеш, маўляў, і не трэба падманваць сябе, усцешваць сябе тым, што можаш кроіць сваё ўласнае сэрца.

Цяпер я разумею, што гэта не падман, што гэта горкая праўда: я хацела абысці яе, схавацца ад гэтай праўды за сваё каханне, і вось цяпер гэтая праўда, ад якой я хацела выкруціцца, жорстка помсціць мне, не дае аніводнага дня спакою, і з гэткай жа жорсткасцю, з якой я цяпер разумею тую праўду, я бязлітасна караю сябе, адкідваючы апраўданні, эгаістычныя свае апраўданні.

Кахаеш Валеру?

Так, кахаеш. І гэтае каханне ніхто не адбярэ ў цябе: яно ў тваёй волі, у тваёй уладзе, і гэта тваё ўласнае права. Але ж ты не павінна, не маеш права адбіраць бацьку ў той маленькай дзяўчынкі, з якою не сустракалася ніколі! У яе таксама ёсць права мець бацьку. І болей нічога! Яна нават не можа табе выказаць гэтае права, патрабаваць, каб ты захоўвала яго і выканала свой абавязак. Абавязак? Так, у мяне ёсць ён! І ёсць каханне, і ёсць права на гэтае каханне, але ёсць яшчэ больш важкае права, права майго абавязку, я абавязана думаць і прымаць рашэнні і за сябе і за яе, не вядомую мне і безабаронную дзяўчынку...

Думкі пра гэта ўжо ўлегліся ў душы, яны не так прыгнятаюць мяне, як раней, я нават неяк змірылася з тым, што яны ёсць, што мне ад іх не схавацца, што яны ў маёй уладзе. Але будучая размова з Валерам! Падумаю — і робіцца жахліва. Ці зразумее ён мяне? Як паставіцца да таго, што пачуе?

Я заўважыла — і гэта ўжо зусім не падазронасць, а факт — і ўсё часцей адчуваю, што ён з нейкай трывогаю пытаецца ў мяне, ці кахаю я яго. Я не хлусіла, я адказвала, што кахаю, і ён верыць мне і верыць у наша будучае, і гэтую яго веру я павінна разбурыць, я павінна буду пацвердзіць яго трывогу; і тое, што казала, значыцца, не зусім тое, што ёсць на самай справе.

Ці правільна гэта?
Ці лагічна гэта?
Ці справядліва гэта?

Не ведаю. Клапоцячыся пра шчасце Валеравай дачкі, разбураць сваё ўласнае і разбурыць яго, Валерава шчасце, якое, як ён часцей і часцей пераконвае мяне, знайшоў са мною? Значыцца, два шчасці — за адно!

— Якія ў нас планы на сёння?

— ...

— Я пытаюся, якія планы на сёння мы складаем? Ты што, зноў спіш?

— Не, не... Увечары — клуб. Новае кіно паглядзім. А зараз снедаць будзем. Але перад тым павінен зрабіць важную справу.

— Цяжкую?

— Не вельмі. Павінен пагаліцца. Ты дужа колкі.

— А ты можаш пацалаваць мяне такога, непаголенага?

— А гэта не ўваходзіла ў план. Тое, што трэба зрабіць, мы вырашылі. Рашэнне ёсць? Ёсць! Трэба выконваць. Для мяне, ты ж ведаеш, цяжка прыняць рашэнне. А прыняла — ужо і лягчэй. Ты паляжы крыху, а я зараз пастаўлю чайнік.

— Я зраблю гэта сам. Як дадатак да плана.

— Калі ласка, і ад мяне дадатак!..

І я цалую яго, і мы зноў дурэем і рагочам. Але я заўважаю, што да нашай весялосці прымешваецца нязнаная раней штучнасць, быццам мы абое сілімся пераканаць адно аднаго, што нам дужа весела.

Валера ўзнімаецца, ідзе на кухню, уключае газ і ставіць чайнік, потым варочаецца ў пакой, размахваючы доўгім белым шнурам электрабрытвы. Ён пачынае галіцца, і я сачу за ім. Усе яго рухі ўпэўненыя, вочы вясёлыя — ранейшыя вочы, — і мне на нейкі міг пачынае здавацца, што нічога не адбылося, што не было той развітальнай вячэры ў мантажнікаў, не было Толікавага пытання, не было разгубленага Валеравага твару, не было маіх гаротных і горкіх думак, развагі і рашэння, майго ўласнага рашэння, якое павінна ўсё скасаваць, закрэсліць, адкінуць у нябыт...

Разумею, што гэта не так, што гэта толькі мае мары, і такая туга падкочвае да сэрца, што не хочацца ўзнімацца, не хочацца ўвогуле нічога рабіць. Адно карціць: закрыць вочы, ні пра што не думаць, а толькі слухаць, як вуркоча і гудзе Валерава электрабрытва... Але няма, няма куды схавацца ад самое сябе!..

Валера сочыць за мною, я адчуваю гэта, спахопліваюся, але мой позірк ён ужо заўважыў і адразу насцярожваецца, углядаецца; электрабрытва гудзе, вуркоча ў яго руцэ, якая адстаўлена ўбок, нібыта Валера замахнуўся на мяне.

— Што з табою? — пытаецца ён і выключае электрабрытву; у пакоі робіцца ціха, аж звініць у вушах ад гэтай цішыні. Я маўчу, і ён зноў пытаецца: — Не, ты мне адкажы, што з табою?

— Нічога. Гляджу на цябе, мой родны. Думаю.

— Аб чым, калі не сакрэт?

— Наша жыццё...

— Не, у цябе такі твар... Такі твар, быццам нешта табе не па душы...

— Па душы... Не па душы... Хіба ж гэта галоўнае!?

— А што ты ў нашым жыцці лічыш галоўным?

— Я і сама не ведаю.

— Зараз будзем высвятляць. Пагалюся, і ўсё дэталёва прааналізуем. Я заўсёды быў прыхільнікам яснага і дакладнага аналізу. Правільны аналіз — палова перамогі. Згодна?

— Не ведаю нават.

— Апошнім часам ты ўсё часцей ужываеш гэтае «не ведаю». Што ні папытаеш — гэты адказ. Нешта цябе іншае прыгнятае. Стой, стой! Хопіць мне гэтага «не ведаю»!

— Няхай хопіць.

— Ну, вось і ўсё. Сапсавалася зусім мая «Нява». Усё не збяруся набыць новую. Кажуць, апошняя мадэль «Спутнік» — вяршыня дасканаласці. Цуд, а не электрабрытва.

— Вось, урэшце, ведаю, што табе на дзень нараджэння купляць.

— І не думай. Гэта нецікава, калі ведаеш, які будзе падарунак. А вось я табе падарунак намысліў — сто гадоў думай і не здагадаешся. Прыеду, атрымаю прэмію і куплю.

— Вялікая, дарэчы, прэмія?

— Урэшце ў табе прачнулася гаспадыня: ты ўпершыню папытала мяне пра грошы.

— Не, мяне проста дзівіць. Памятаю, там яшчэ, у Мінску, ты казаў пра нейкую прэмію. Дык што, гэта ўжо другая?

— Тая ж. Гэта тое, што мы яшчэ з Васілём вынайшлі — новая форма бура для вялікіх глыбіняў. Пакуль зацвердзілі... А цяпер нам з табою належыць зацвердзіць план дзеянняў на ўвесь дзень...

— Ай, кінь ты гэта. Ідзеш мыцца?

— Так, толькі ты ляжы, прашу цябе. Я хуценька, а ты паляжы,— ён цалуе мяне і мякка ляпае па плячы.— Ну, прашу цябе!..

Мне па-ранейшаму не хочацца ўзнімацца, і я ляжу і чую, як плюскоча вада, чую Валеравы крокі, яго голас — Валера любіць, калі мыецца, што-небудзь напяваць ці пасвістваць.

Кожная мінута без яго — пакута. А што ж будзе, калі ён пойдзе і я застануся адна?

Валера садзіцца ля мяне на ложак, і прыемна пахне свежай вадою і хвойным мылам. Расчэсвае мокрыя валасы, гаворыць:

— Кожны план, калі гэта рэальнасць, а не валюнтарызм, павінен грунтавацца на калектыўнай думцы і цвёрдай эканамічнай глебе. Значыцца, што мы маем? Прэмія за рацыяналізацыю — пяць тысяч...

— Кожнаму? І табе і Васілю?

— Безумоўна. І таму ў нас з табою ёсць цвёрдая эканамічная база складаць рэальны план...

— Ты даруй... Мажліва тое, што я зараз скажу, пакрыўдзіць цябе...

— Аніводнае тваё слова мяне не можа пакрыўдзіць і ніколі не крыўдзіла!

— Гэтыя грошы ты пашлеш дачцы. Не, не пашлеш, а паедзеш і купіш ёй піяніна. Памятаю, аднойчы ты сказаў, што ў яе добры слых і што яна любіць спяваць... Яна павінна навучыцца іграць... Ты даруй, але я часта думаю пра яе. Ведаеш, у дзяцінстве я вельмі хацела навучыцца іграць на піяніна. Хацела — і не змагла. І цяпер я хачу, каб твая дачка зрабіла тое, чаго зрабіць мне не ўдалося... Я не ведаю, ці разумееш ты мяне... Але вось такое жаданне ў мяне ёсць... І гэтыя грошы нам з табою не патрэбны. Абыдзецца... Абяцай, што ты гэта зробіш!..

Валера маўчаў. Вельмі доўга маўчаў, гладзіў мае валасы, і рука яго час ад часу спынялася, бы хтосьці затрымліваў яе. Я разумела: ён пакутліва думаў, шукаў, што мне адказаць. А мо прыгадваў мінулае, тое, пра што казала яму толькі што?.. Ах, гэтыя чалавечыя думкі!

Ніхто і ніколі не змог і наўрад ці зможа калі-небудзь зазірнуць туды, дзе яны нараджаюцца, убачыць, як гэта адбываецца. Мажліва, гэта і на лепшае, для мяне, ва ўсякім разе, безумоўна, на лепшае. Каб жа Валера ведаў, якое рашэнне выспела ў маёй галаве, хіба ж такая ласкавая была б яго рука, хіба ж з гэткай пяшчотаю гладзіў бы ён мае валасы?!

— Ты сапраўдны чалавек, Галчо! І мудрая жанчына,— урэшце прамовіў ён.— І гэта найвялікшае маё шчасце, што я стрэў цябе!

— Ты абяцаеш, што зробіш гэта?

— Мы зробім тое разам з табою.

— Ты павінен мне абяцаць. Абяцаеш?

— Так, абяцаю. Я ўсё зраблю так, як ты пажадаеш.

— Дзякую.

— А цяпер ні пра што не думай. Я буду сядзець побач, а ты ні пра што не думай.

— Чалавек так не можа, каб ні пра што не думаць.

— Давай паспрабуем. Не, лепей будзем думаць пра нас... Уяўляеш? Мы — на Дзвіне!.. Човен... Плёскат хваляў... Вербалозы... Пясочак жоўты... І мы ідзем басаноў... І кнігаўкі над вадою... Уяўляеш?

— Нават вельмі добра. Я вось вочы закрыю, слухаю цябе і ўсё бачу.

— Наперадзе ў нас ручай. Вада ў ім халодная, халодная. Крынічная...

— І на дне водарасці. Зялёныя і гнуткія. І каменьчыкі таксама зялёныя.

— Правільна. А па другі бок ручая — бярозы. Мы спыняемся ля іх і сядзім. Чуеш, як шуміць пад ветрам лістота? Шу-шу-шу...

— Так, дарагі мой: усё, усё я гэта чую...

— Што з табою? Ты плачаш? Што здарылася?

— Я прыгадала... Ты сказаў — бярозы па другі бок ручая. А я прыгадала бярозы... Бярозы ў парку. Памятаеш? І тады ты яшчэ сказаў, што на галінах растуць зоркі... І я вельмі спалохалася тады, калі ты мяне пацалаваў... І потым крыўдавала, што ты мяне не цалуеш... Але тое было пазней...

— А цяпер ты не крыўдуеш? — папытаў ён і пацалаваў мяне. Але я не пацалавала яго.

— Цяпер — не. Але мінаюць дні, і мне ўсё цяжэй і цяжэй з табою... Не, не з табою! З табою мне добра! Мне цяжэй з маімі думкамі... Я ўсё мацней і мацней адчуваю сваю віну перад тваёй дачкою. Гэта ж я вінаватая, што ў яе не будзе бацькі...

— Ты не вінаватая! Чуеш? Ані ў чым не вінаватая! Нам з табою цяжка даецца шчасце... Гэта — праўда. Але мы яго збудуем. Разумееш?

— Збудуем на чужым няшчасці. На чужым горы! Праўда?

— Не кажы гэтак! Аніколі не кажы!

— Родны, не злуй. Я проста зрабілася нейкая дурная... Дурная ад гэтых сваіх думак... А мо не ад думак, а ад шчасця і радасці — і боязі згубіць гэта, ад разумення, што губляць давядзецца...

— Ты разумная. І дужа добрая!..

Валера цалуе мяне, ён цалуе і гаворыць, шэпча мне ласкавыя словы, і гэтыя словы, як атрута, асядаюць ва мне, і я не магу змагацца з ёю, я таксама цалую яго, і ўжо няма ні думак, ні шкадавання, а толькі звініць у скронях узбунтаваная кроў...

А потым мы ляжым і ляжым моўчкі, і я ведаю, што нашае маўчанне — хлусня, няпраўда, бо кожны пра нешта думае, і гэта «нешта» і ёсць тое, што заўжды будзе стаяць паміж намі; яно, гэтае «нешта», будзе існаваць нават тады, калі мы апынемся далёка адно ад другога, і аніякі час, аніякая адлегласць не закрэсліць, не можа знішчыць яго...

І маўчаць мне ўсё цяжэй і цяжэй. Я ведаю, я перакананa, што павінна сказаць Валеру пра сваё рашэнне. Абавязана! І чым хутчэй я зраблю гэта, тым лепей будзе і яму і мне.

Цяжэй, але лепей...

## 18

Зноў атрымала ліст ад Вольгі. Вось што яна піша.

«Галка, родная мая! Не бачыла цябе амаль што дзевяноста дзевяць год. І гэтулькі ж — не пісала. Апраўданні? Ты ж ведаеш: Вольга не прызнае аніякіх апраўданняў, і ненавіджу я іх! Той, хто апраўдваецца, як і той, хто просіць, павінны схіліць галаў. А чалавек не дзеля гэтага народжаны на боскі свет!

А вось пакаяцца — калі ласка: болей гэтак бессаромна ігнараваць сваю лепшую сяброўку не буду. Між іншым, гэта і не пакаянне; я кахала цябе, кахаю, буду кахаць вечна. Нават калі не будзе ад мяне лістоў, ты ведай: у маім сэрцы для цябе — самае добрае месца...

Але вады збегла за гэты час шмат. Пастарэла я, там-сям нават з'явілася ў тваёй Вольгі «высакародная» сівізна — тры валасінкі знайшла. З гэтага выпадку — ведай нашых! — перафарбавалася ў чароўную «рыжулю». Эх, зірнула б ты на мяне!

Адпачывала ў Ялце. Здорава! Адчуваю сябе добра, галава не баліць. З Ялты я пісала табе, але ў адказ атрымала фігу — сапраўды царскі падарунак.

Грымнуў у хаце невялічкі скандальчык. Першая жонка майго дарагога мужанькі наважылася адсудзіць у яго машыну і палову кватэры амаль. І мой прыгажун прыняў гэта за належнае і нават адмовіўся змагацца за месца пад сонцам. Давялося ўзяць усё гэта на свае плечы, выйграць усе баі і потым залечваць раны пад сонцам Ялты. Цяпер я — у норме.

Была ў Мінску, потым у Ждановічах — шукала Валеру, ён мог мне памагчы ў адной справе. Але ён знік бясследна, і ніхто не ведае, куды знік. А шкада, што ты яго не затрымала і не звязала. Павер мне — я ведаю з абсалютна дакладных крыніц — і ведай: Валера ў навуковым свеце ідзе на ўзроўні зорак вялікай яркасці. Гэты Балівар паскача далёка!

Калі і куды ў адпачынак? Напішы гэта абавязкова. Мне запланавана камандзіровачка, і мы з табою можам сустрэцца на поўдні. Толькі загадзя давай свае каардынаты.

Месца ў мяне на кафедры трывалае. Я прайшла тут агонь і медныя трубы. Пры сустрэчы — гаворкі нам на дзевяноста дзевяць год. І галоўная праблема — табе трэба сюды. Разумееш?

Твая, твая, твая... І яшчэ раз — твая Вольга».

Ліст мяне расчараваў. Добра яшчэ, што я прачытала яго на працы і Валера не бачыў — уся мая пошта ідзе мне на бальніцу. Яго ліст напэўна б пакрыўдзіў.

Ах, Вольга, Вольга... Ці ж яна гэта? Не, яе проста не пазнаць. І, мабыць, не соладка ёй давялося там: яна ганарлівка, не прызнаецца, але гэтае яе «агонь і медныя трубы» мне шмат пра што гаворыць. Дурніца яна! Навошта, у імя чаго кінула Сцяпана?!

І ў Ждановічах была. Навошта яна ездзіла туды? Шукала Валеру — гэта яна піша. Але навошта ён спатрэбіўся ёй? «Мог мне памагчы ў адной справе»! У якой? Не, проста авантурыстка нейкая з яе атрымалася!

Правільна зрабіла я, што не паказала ліст Валеру.

## 19

Ноччу я прачнулася. Апошнім часам гэта са мною здараецца: кладземся звычайна позна, але я ўсё роўна прачнуся ноччу, прачнуся вось так, як зараз — раптоўна, нечакана, невядома з якое прычыны.

У пакоі ціха. Валера спіць. За акном маладзік. Твар Валеры здаецца змрочна-белы, як мармур. Валасы раскіданы па падушцы, а губы сціснуты, быццам нечым ён незадаволены. Не, вось губы зварухнуліся і зварухнулася рука, і голас сонны, ціхі, і ў ім і маленне, і загад, і крыўда, і ўзнёслая патрабавальная ўрачыстасць:

— Я ж казаў табе, дачушка, што не можна, не трэба сваволіць!..

І зноў вусны шчыльна сціснутыя, і зноў як змярцвелая рука на падушцы, і зноў мармуровае святло маладзіка на твары, і зноў цішыня і шоргат марознага снегу за акном... Мне горача, неяк адразу робіцца горача, быццам палае побач вогнішча, і скідаю з плеч коўдру, і ад гэтага майго руху Валера адразу ж прачынаецца.

— Што? Што ты казала? — пытаецца ён, і я разумею, што ён не зусім яшчэ развітаўся з тым, што прыснілася яму.

— Нічога не казала. Не спіцца. Ляжу вось і думаю...

— Ты не думаеш, а мерзнеш! Плечы як ледзяшы парабіліся! Хутчэй пад коўдру! Во-ось гэтак... І пра што ж ты думала?

Валера моцна абдымае мяне, і я адчуваю, які ж ён гарачы, і ад гэтай гарачыні дрыжыкі скаланаюць мае азяблыя плечы. А голас — той, санлівы яго голас! — усё яшчэ гучыць у маіх вушах, і я адчуваю, што вось ён, вось ён, той міг, калі я павінна і змагу сказаць яму ўсё, бо потым ранкам мне цяжка будзе зрабіць гэта.

— Я думала пра тое, што ты павінен ехаць у сераду адзін.

— А ты? Табе будзе потым цяжка адной ехаць.

— Мне не давядзецца нікуды ехаць.

— Не разумею.

— Мне трэба заставацца тут. Я хачу ехаць. І не магу. Не маю права ехаць. І добра разумею, што з гэтага нам будзе лепш. Нам. І табе і мне.

— Мажліва, я сплю?

— Не, ты не спіш.

— Тады гэта нейкі падман. Нейкая невядомая мне гульня!

— Гэта — праўда. Звычайная і па-звычайнаму горкая праўда.

— Тады ты мне растлумач! — Валера падхапіўся і сеў на ложку.— Растлумач, каб я зразумеў, што не звар'яцеў і не сплю!

— Валера, родны мой,— я казала гэта і ўпершыню адчула, што спраўджваюцца мае найгоршыя прадчуванні, і Валера не разумее, не зможа зразумець мяне. Але словы былі сказаны, і спыніцца ўжо не было як і не было патрэбы, і гэта надало мне сілы не заплакаць, заціснуць свой боль і размаўляць неяк дужа спакойна: мне нават здалося, што я кажу не Валеру, які ляжыць побач са мною, а камусьці яшчэ, і той чалавек далёка ад мяне.— Ты разумны, ты шчыры, ты ўсё павінен разумець... Я шмат думала і лепшага прыдумаць не змагла. Лепшага ўвогуле не існуе, ёсць толькі гэта, і ты... Не, не! Не перапыняй мяне. Ты слухай! Толькі слухай... Збіралася даўно, збіралася — і не магла. А цяпер вось кажу... Ты толькі што, праз сон, размаўляў з дачкою, нешта загадваў ёй, нават прасіў... І гэта будзе ўсё жыццё: мы будзем разам, а сэрца тваё будзе там, і ты любіш яе, і будзеш любіць усё жыццё, і было б дужа непрыгожа, каб я паспрабавала забараніць гэта ці ўзялася падманваць цябе, рабіць выгляд, быццам нічога не заўважаю, быццам усё ідзе належным чынам... І я не вінавачу цябе. Павер мне, не вінавачу і ніколі не зраблю гэтага. Калі і ёсць хто вінаваты, дык гэта я адна. Я не мела права клікаць цябе сюды, я не мела права кахаць цябе... Не, не! Я хачу цябе кахаць, я кахаю! Павер мне, што гэта сапраўды так! Але цяпер я ведаю, што ў кахання ёсць свае законы, свае правы, свае межы...

— Межы? Якое глупства! Ды лухта гэта! Ты стамілася. Разумееш?

— Ты пачынаеш злаваць... Не трэба злаваць. Памятаеш нашу размову аб тваёй прэміі?

— Памятаю. І памятаю, што мы ж усё вырашылі тады.

— Правільна, вырашылі. Але толькі цяпер разумець пачала, што я хацела супакоіць тым сваім патрабаваннем сваё сумленне, неяк прыглушыць, зменшыць сваю віну перад тваёй дачкою. Як хабар які! Як нейкая шчодрая дабрачыннасць! Украла бацьку, а хача быць дабрадзейкаю. Не, я не буду ёю! Я буду пакутаваць, я, можа, і жыць доўга не змагу, але чужое шчасце я красці не буду!

— Тое, што ты гаворыш, не мае аніякага сэнсу. Мы — кахаем. Хто можа нас абвінаваціць?

— Мы!

— Мы?

— Так! Спачатку — мы, нават калі мы самі сабе не прызнаемся, што вінаватыя. Потым — яна, твая дачка. Яна вырасце, сустрэне мяне. Мы ж абавязкова некалі сустрэнемся. І калі яна нават мяне ані ў чым не абвінаваціць, я буду ведаць яе абвінавачанне, я буду ведаць яе словы, я ведаю гэтыя словы зараз...

— Якія словы?

— Ты была, маўляў, шчаслівая, ты кахала... Але хіба ж мае слёзы цябе не трывожылі?..

Валера рыўком адкінуў коўдру, узняўся і, ужо стоячы на падлозе, выгукнуў:

— Чорт ведае што робіцца! Мы што, сёння з табою адкрываем сусвет? Тысячы людзей жывуць у такім жа становішчы! Разумееш? Тысячы!

— Няхай нават мільёны. Кожны жыве па законах свайго ўласнага сэрца.

— Але ж я кахаю цябе. Гэта ты можаш зразумець? Не каго-небудзь, а менавіта цябе!

— Я таксама кахаю, родны ты мой. Мне часам здаецца нават, што я нават і не жыву, а ўсё гэта — казка, добрая прыгожая казка...

— Слаўны ты канец прыдумала гэтай казцы. Нечаканы.

— Гэтага я і баялася. Ты нічога не зразумеў...

— Чаму не зразумеў?

— Таму што ў маёй казцы няма канца і не будзе аніколі. Я ўсё жыццё буду кахаць цябе, радавацца кожнаму твайму поспеху, поспеху тваёй дачкі...

— Мы яе возьмем да сябе. І яна будзе разам з намі!

— А маці! Падумай, што ты гаворыш!

— Тады што ж было ў нас з табою? Што было і што ёсць? Суцэльны падман?
— Ніякага падману не было.
— Тады ты можаш мне адказаць, дзеля чаго ты робіш усё гэта? Дзеля чаго ты намысліла гэтыя пакуты?
— Дзеля твайго шчасця!
— Майго шчасця? — ён кінуўся да мяне, пачаў цалаваць, і ў яго пяшчотах было нешта грубае, ніколі не ўведанае мною.— Шчасце маё — ты. Ты! Ты! І я гэта ведаю! Ведаю. Але не ведаю іншае: чаму яно, маё шчасце, само і разбурае яго, чаму маё жыццё ішло і ідзе гэтак невыносна цяжка?
— Ты хочаш сказаць, што маё ідзе лёгка. Так?
— Я вельмі кахаю цябе. Гэта — праўда.
— Другога кахання ў мяне не будзе. Я ведаю...
— Тады навошта ўсё гэта? Навошта?
— Маўчы. Ляжы і маўчы. Не патрэбны болей словы. Яны нічога нам не дадуць... Дзе твая рука?
— Азяблыя ж плечы. Як ты азябла! І нейкая зябкасць у душы, быццам трымціць усё ў сярэдзіне... І калі ж гэтая ноч скончыцца? Я ўключу транзістар...
— Уключай.
— Ч-чорт! Селі батарэі. І хацеў жа ўзяць запасныя!
— Памаўчым крыху, прашу цябе...
— Правільна. Я таксама пачынаю баяцца слоў...
Цішыня ў пакоі. За акном маладзік, але цяпер ён споўз улева і асвятляе шыбы скоса, і размаляваная марозам верхняя шыба акна быццам падзелена на дзве няроўныя па колеры часткі; у цішыні чуваць, як недзе ў кутку, пад дошкамі падлогі, нясмела і баязліва скрабуцца мышы.
Дзіўна, зусім жа новы дом, а яны ўжо завяліся.

## 20

Валераў чамадан ужо ў вагоне, а мы стаім на пероне і бачым, як запалілася зялёнае вока семафора, і бачым, як закрывае пляцоўку праваднік, і разумеем, што словы зусім не патрэбныя, што яны нічога не зменяць, не ўратуюць нас ад расстання, і мы баімся слоў.
Мы баімся слоў пра тое, што звязвала і звязвае нас.
— Якія прыгожыя таполі,— гаворыць Валера і глядзіць на дрэвы станцыйнага парку, што белыя ад густога інею.— Зусім як у Ратамцы...
— Была адліга, цяпер мароз. Таму такія таполі.
— І ціха. Зусім няма ветру.
— А ў вагоне цёпла?
— Так. Нават вельмі.
— Ты ідзі ў вагон. Бачыш, ён ужо і закрыў пляцоўку...
— Першы раз у жыцці: еду і разумею, што раблю непапраўнае глупства...
— Мы ж дамовіліся: пра тое не будзем гаварыць!
— Гэта смешна. Я еду, а ты застаешся. І я не павінен гаварыць?! Я адчуваю, што губляю цябе назаўсёды...
— Я хачу, каб ты быў шчаслівы. Дужа шчаслівы.
— Без цябе?



— Ты будзеш шчаслівы. Я ведаю. Ты мужны. А мужныя заўсёды бываюць шчаслівыя! Цягнік ідзе. Ты што, не бачыш?..
Валера пацалаваў мяне, пацалаваў так моцна, што ў мяне забалелі губы, і адчайна, нават з нейкай пагрозаю гукнуў ужо з тамбура:
— Я не прыеду сюды аніколі! Чуеш? Аніколі!..
Я чула і ведала: усё гэта праўда, і ён не прыедзе. Грукаталі колы, бразджэлі пераходныя масткі вагонаў, і снегавы пыл сцёбаў па твары, і мне адкрывалася нязнаная раней сутнасць нашага кахання, сутнасць гэтых яго апошніх слоў, бязлітасных і праўдзівых слоў. Ён знайшоў мужнасць сказаць іх, і да гэтай мужнасці прывяла яго я. Гэта ж ніхто іншы, а я сама, сваімі рукамі закрэсліла самае лепшае, што было ў маім жыцці, тое, чаго, відаць, ніколі ўжо не будзе, чаго ніхто не верне, ніхто не падорыць, ніхто не аддасць.
Ён таксама разумеў гэта, разумеў і нават зайздросціў мае смеласці, безразважнай і, можа, непатрэбнай, і не хацеў застацца мужчынам, якога кідае жанчына, і яшчэ мацней кахаў мяне, і не хацеў болей прызнавацца ў гэтым сваім пачуцці, не хацеў прызнавацца ні сабе ні мне, і хацеў проста адпомсціць, ударыць як мага балюча, і не знайшоў іншых слоў, і таму не зразумеў, што гэтым сваім «не прыеду аніколі» ён усцешыў мяне больш, чым самыя ласкавыя і добрыя словы, і пераканаў, што іншага шляху ўратаваць сваё сэрца, сваю чалавечую годнасць у мяне не было, не магло быць і ўвогуле не існавала.

ЧЫТАЙЦЕ

ў наступным нумары аповесць

Вольгі ІПАТАВАЙ

«ПРАДЫСЛАВА»

● Любоў РУСІЛКА





## *Сталасць*

Пралеглі пройдзеныя сцежкі
На твары ўздоўж і ўпапярок.
А срэбра з юнае усмешкі
На скроні ўпала незнарок.

Нашто крутую праўду згладжваць,
Хваліцца сэрцам маладым?
Ці ж не яму прыйшлося ўзважваць
Свае сцюдзёныя гады?

Ды сумаваць па тым не трэба,
Што недзе там застаўся май.
Там май, і хмель, і зерне ў глебе...
А ці ж не шчасце—ураджай?

## *На шчасце*

Вунь з абшараў нябесных
Недапетаю песняй,
Абарванай гаворкай
Прамяністая зорка
Упала...
Мо наверыць, што свеціць
Дзесьці ў зорным тым свеце
Мне адданая зорка
То салодкім, то горкім
Запалам?..
Што ж, вазьму і паверу
На ўсю шчырую меру,
Што гарыць мая зорка,
Што за мной сочыць зорка
На шчасце!
Але ж тая... згарэла...
Калі лёс чый сагрэла,
То не страшна, раз трэба,
Перакрэсліўшы неба,
Упасці.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

● Іван КАЛЕСНІК
● Анатоль ВІНАКУРАЎ
● Раман МАЧУЛЬСКІ
● Алесь СТАНЮТА
● Сяргей ГРАХОЎСКІ
● Марыя ШАЎЛОЎСКАЯ
● Галіна МАЛАЖАЙ
● Іван АНОШКІН
● Ніна ПРАКАПОВІЧ






# АРТЭРЫЯ

Курыца не птушка, Свіслач не рака. Гэтая прымаўка нарадзілася гадоў дваццаць назад, калі водная артэрыя нашай сталіцы раптам пачала мялець, пакрывацца цінай, заплываць ілам.

Але ж ці заўсёды такой была Свіслач? Мінчане, людзі старэйшых пакаленняў, памятаюць раку іншай. Не раз у часе веснавой паводкі Свіслач разлівалася незвычайна буйна, прыносіла нямала клопатаў.

Яшчэ да вайны вяліся работы па ўтаймаванні Свіслачы. Непадалёку ад Мінска распачалі будаўніцтва вадасховішча «Ганалес». Але яно не было даведзена да канца. Толькі па-за межамі горада плаціна перагарадзіла Свіслач. Гэта дало магчымасць у нейкай ступені рэгуляваць узровень вады ў рацэ. Да вайны будавалася і Камсамольскае возера. Дзень яго адкрыцця якраз і супаў з жудасным першым днём вайны.

Мінулі гады. Свіслач паступова мялела. Рака перастала быць месцам адпачынку. У Мінску ўзнікла праблема: дзе ўзяць чыстай вады? Такі буйны горад не мог без яе. І вось у 15 кіламетрах ад сталіцы ўзнялася над рэчышчам Свіслачы плаціна. Руплівасць чалавечых рук стварыла вялікае вадасховішча — Мінскае мора. Гэта было ў 1955 годзе.

У Мінску пасля вайны вырасла шмат новых прадпрыемстваў. Са Свіслачы яны смакталі безліч вады. Не маючы ачышчальных установак, фабрыкі і заводы скідвалі штодзень у раку тысячы кубаметраў адходаў. Свіслач хутка забрудзілася.

А патрэба ў вадзе ўзрастала штогод, бо насельніцтва горада павялічвалася. Цяпер Мінск — горад з мільённым насельніцтвам. Калі ў 1965 годзе за суткі сталіца спажывала 355 тысяч кубаметраў вады, то цяпер яе трэба ўдвая больш. А вада са Свіслачы не толькі для піцця, але і для прадпрыемстваў стала непрыгоднай.

Дык адкуль жа бяром ваду мы? З падземных крыніц. Для сябе і для прадпрыемстваў. Чыстую, бальзамную ваду спажываюць фабрыкі і заводы. Здабываць яе не так і лёгка. І ў якую капейку гэта ўлятае! Патрэба ж у вадзе штогод узрастае, а запасы крынічнай вады застаюцца нязменнымі. Толькі 740 тысяч кубаметраў вады за суткі можна здабыць з падземных крыніц вакол Мінска. Гэтай колькасцю можна задаволіць усяго толькі бытавыя патрэбы сталіцы. А для заводаў і фабрык горада неабходна яшчэ 400 тысяч кубаметраў вады. Дастаць яе з падземнага міжмарэннага гарызонта ў радыусе 35 кіламетраў вакол Мінска, бадай, немагчыма. Патрэбна іншае выйсце.

Ад воднага голаду беларускую сталіцу можа выратаваць толькі буйная артэрыя. Узнікаў не адзін варыянт напаіць Свіслач чыстай вадой. Меркавалі прысла́ць на падмогу Беразіну, Нёман, Сож. З гэтай мэтай падрыхтоўчымі работамі займаліся многія навукова-даследчыя і праектныя арганізацыі. Донарам для Свіслачы яны абралі Вілію — адзін з буйных прытокаў Нёмана, раку мнагаводную, чыстую. У 1967 годзе Савет Міністраў СССР зацвердзіў праект будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.



Экскаватаршчык Павел Русак.

Па сваёй спецыфіцы Вілейска-Мінская водная сістэма, як сцвярджаюць спецыялісты, мала чым адрозніваецца ад буйных водных збудаванняў краіны. Гэта Волга — Дон у мініяцюры. Працягласць канала — 200 кіламетраў. Аднак будаўніцтва гэтай воднай сістэмы не з лёгкіх. Па тэрыторыі трох раёнаў — Мінскага, Маладзечанскага і Вілейскага — праляжа канал. У вярхоўі яго разальецца Вілейскае мора. Уздоўж па рацэ яно працягнецца ажно на 30 кіламетраў. Па колькасці вады мора толькі крыху будзе меншае за славутую Нарач. Пяць помпавых станцый дапамогуць вілейскай ва-



Студэнты-матэматыкі з БДУ імя У. І. Леніна на будаўніцтве плаціны будучага Вілейскага мора.



Рабочыя УМ-5 Віктар Васілеўскі, Юры Стралецкі, Георгі Арлоўскі, Іван Жыхараў.

дзе пераваліць цераз Мінскае ўзвышша, каб сустрэцца са Свіслаччу. Рака нашай сталіцы ўжо рыхтуецца да гэтага. У межах горада яна апранаецца ў бетон, ачышчае дно, раўняе берагі.

Будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы будзе закончана ў 1974 годзе. Што яно дасць сталіцы Беларусі? Па-першае, Мінск пазбавіцца воднага голаду. У пяць разоў прыбудзе вады ў Свіслачы. Яна пойдзе на бытавыя патрэбы, напоіць прадпрыемствы горада. Па-другое, вада з Віліі ажывіць Мінскае мора, Камсамольскае возера. Сама Свіслач стане чыстай ракой, будзе месцам адпачынку. Па-трэцяе, і самае галоўнае: прадпрыемствы, трэба меркаваць, паклапоцяцца збудаваць ачышчальныя прыстасаванні, каб не забруджваць водную артэрыю сталіцы.

*Гэта павінна быць праз тры гады.* А сёння канал будуецца.

...У кабінеце начальніка першага будаўнічага ўпраўлення Мікалая Савельевіча Гарноўскага амаль не зачыняюцца дзверы. Лета — самы гарачы час на будоўлі. Бесперапынку звоніць тэлефон, прыходзяць будаўнікі, механізатары, майстры, інжынеры. Кожнага трэба выслухаць, разабрацца па сутнасці, распарадзіцца.

Мікалай Савельевіч яшчэ не мае і сарака. Але працоўны стаж у яго не малы. Ён — выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута. Канчаў гідратэхнічны факультэт. Практыку праходзіў на Брацкай ГЭС. Пэўны час працаваў галоўным інжынерам у другім будаўнічым упраўленні, узначальваў механізаваны атрад на Вілейскім участку. А цяпер — начальнік першага будаўнічага ўпраўлення, якое вядзе канал з боку Заслаўя.

*Жнівеньскае сонца паліць нясцерпна.* Шустры «масквіч» у воблаках пылу сігае ўздоўж трасы канала. Мікалай Савельевіч да драбніц ведае мясціны, кожны ўчастак сваёй будоўлі. Пра ўсё гэта ён расказвае немнагаслоўна, але прафесійна-дакладна, захапляюча.

Будаўніцтва канала ў самым разгары. У асноўным тут працуе моладзь. Вось будаўніцтва хуткастоку нумар адзін,

Тут будзе плаціна.



Вольга Рамзова на Вілію прыехала з Малдавіі.



што непадалёку ад вёскі Хмялёўка, кіруе майстар першага будаўнічага ўпраўлення Юры Гусакоў. Летась ён скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Вопыт гідрабудаўнічай справы ў маладога спецыяліста невялікі, але калектыў, які ён узначальвае, працуе зладжана. Большасць людзей валодаюць многімі будаўнічымі прафесіямі. Леанід Пішчака, Станіслаў Паўлюць, Мікалай Трыфаненка могуць выконваць цяслярскія, электразварачныя і арматурныя работы. Добра зарэкамендавала сябе камсамолка Галіна Брусава. Яна працуе матарысткай.

На будоўлю Вілейска-Мінскай воднай сістэмы Георгі Каржанеўскі прыйшоў пасля Пінскага гідрамеліяратыўнага тэхнікума. Ён — майстар другога ўчастка семнаццатага ліўнеправода. На гэтым аб'екце амаль усё лета працаваў студэнцкі атрад з Мінскага тэхналагічнага інстытута. Хлопцы працавалі старанна — Уладзімір Макараў, Аляксей Калядка, Анатоль Статкевіч і іншыя. Атрад мог бы зрабіць і болей, але ніхто са студэнтаў дагэтуль не меў вопыту ў гідрабудаўнічай справе.

Вялізны размах работ на помпавай станцыі пятага пад'ёму. На дваццацiметровай глыбіні катлавана арудуюць магутныя бульдозеры, экскаватары, скрэперы. Яны вядуць падрыхтоўчыя работы для цесляроў, арматуршчыкаў, бетоншчыкаў.

Будаўнічы ўчастак канала ад Заслаўя

Людзі, бетон, жалеза.



да Радашковічаў узначальвае Сямён Ізрайлевіч Гранман. Скроні гэтага пажылога чалавека пабяліў і час, і пыл не адной будоўлі.

— Галоўны аб'ект на ўчастку,— гаворыць ён,— гэта помпавая станцыя пятага пад'ёму. Кошт збудавання — 900 тысяч рублёў. Акрамя таго, мы ўзводзім тры хуткастокі коштам 240 тысяч рублёў кожны. Трэба збудаваць яшчэ шэсць ліўнеправодаў і 2 акведукі. Словам, сёлета мы павінны ўкласці на гэтых аб'ектах 7.600 кубаметраў гідратэхнічнага бетону.

На ўсёй трасе канала не моўкне гул матораў. Каля вёскі Будзішчы працуюць экскаватаршчык Мікалай Насякайла, бульдазерысты Іван Азерскі, Эдуард Міронаў, Зігмунд Казярновіч, аўтаскрэперысты Валянцін Латушка, Яўген Гулецкі, Георгі Арлоўскі. Яны варочаюць і перавозяць за змену па тысячы кубоў грунту.

Комплексная брыгада Мікалая Соніча вядзе будаўніцтва помпавай станцыі першага пад'ёму. Будаўнікоў атакуе вада. Яны не адступаюць. Бывае, працуюць, стоячы па калені ў вадзе. Дарага кожная хвіліна, трэба ж укласці 600 тысяч кубаметраў бетону. Комплекс трэба здаць у наступным годзе.

...Міхаіл Хоміч адзін з першых прыйшоў на будоўлю. Да гэтага ён працаваў на асушцы балот. Яго экскаватар не ведае прастояў. За тры гады механізатар выняў больш як 300 тысяч кубаметраў грунту. Нядаўна ён атрымаў высокую ўрадавую ўзнагароду — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Будоўля Вілейска-Мінскай воднай сістэмы стала будоўляй дружбы. Тут працуюць людзі розных нацыянальнасцяў, жывуць адзінай сям'ёй. Нядаўна прыехала на канал група выпускнікоў Кагулкага гідрамеліяратыўнага тэхнікума з Малдаўскай ССР. Сярод іх добра зарэкамендавалі сябе маладыя спецыялісты Вера Празорава, Вольга Рамзова і Сяргей Балін.

Будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы набірае тэмпы. Яно ішло б яшчэ шпарчэй, каб не было шэрагу перашкод. Вось некаторыя з іх.

Не хапае бетону. Яго даводзіцца вазіць ажно з Мінска і Маладзечна. Не выконваюць своечасова заказы «Віліямінскбуд», субпадрадныя арганізацыі. Гэта асабліва датычыць «Украводканалпраекта». Таварышы з Украіны са спазненнем дасылаюць дакументацыю, а гэта затрымлівае будаўнічыя работы. Асабліва падоўгу няма каштарысаў па дранажных работах, па вертыкальнай планіроўцы і добраўпарадкаванні, па тэхналогіі бетанавання. Ды ці толькі гэта. А быт будаўнікоў. Вялікая цякучасць кадраў. Людзям няма дзе жыць. Грошы на часовае жыллёвае будаўніцтва адпушчаны дзяржавай, а зямельных участкаў не даюць. Будаўнікоў абавязваюць узводзіць капітальныя дамы. Але на іх не адпушчаны сродкі. Выгадней ставіць зборна-шчытавыя домікі, бо ўвесь час будоўля ў руху. Сёе-тое, праўда, ужо ёсць: невялікі інтэрнат, каля дваццаці зборна-шчытавых домікаў ды некалькі перасоўных вагончыкаў на палявых станах. Але ж гэтага вельмі мала. А жыллё — галоўнае ў стабільнасці кадраў.

На многае трэба звярнуць увагу. Ну, вось хоць бы ўзяць падбор студэнцкіх будаўнічых атрадаў. На будоўлю яны прыходзяць з розных навучальных устаноў Мінска. Большасць юнакоў і дзяўчат ніколі ў жыцці не сутыкаліся з будаўнічай справай. А справа гэта спецыфічная. Весці абліцовачныя работы, укладваць бетон, рабіць апалубку можа не кожны. Для гэтага трэба мець пэўную практыку цесляра, бетоншчыка, арматуршчыка, электразваршчыка. Таму зразумела, што большасць хлопцаў са студэнцкіх будаўнічых атрадаў заняты на земляных работах. А мелі б студэнты будаўнічыя прафесіі, прынеслі б карысць. Вось чаму ўжо сёлета дадзены заяўкі ў штаб студэнцкіх будаўнічых атрадаў з просьбай, каб у наступным годзе прыйшлі людзі з будаўнічых факультэтаў інстытутаў, з будаўнічых тэхнікумаў.

Кожны дзень паўстаюць усё новыя абрысы канала на Вілейска-Мінскай воднай сістэме. Але зроблена пакуль нямнога. Усё яшчэ наперадзе. Калектыву ўпраўлення «Віліямінскводбуд» трэба асвоіць 60 мільёнаў рублёў. А гэта значыць, што неабходна перамясціць каля 40 мільёнаў кубаметраў грунту, умясціць 300 тысяч кубаметраў зборнага і маналітнага жалезабетону, зманціраваць тысячы тон металаканструкцый і арматуры.

Толькі пасля гэтага запульсуе магутная артэрыя. Гаючая вада Віліі прыйдзе ў сталіцу Беларусі.

**Іван КАЛЕСНІК.**

**роздум над праблемай**

# ДУХОЎНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ МАЛАДОГА РАБОЧАГА

У механічным цэху аднаго з мінскіх заводаў я звярнуў увагу на групу моладзі, што сабралася ля дошкі аб'яў і ажыўлена нешта абмяркоўвала. Я таксама падышоў да дошкі і, каб не перашкаджаць размове, стаў чытаць аб'явы. Праўду кажуць: «Калі хочаш ведаць, чым жывуць людзі, пачынай з дошкі аб'яў». Тут было ўсё — і лісткі-плакаты пра выкананне вытворчага плана, і сацабавязацельствы, і паведамленні пра культпаходы, дыспуты. Я спытаў віхрастага хлопца гадоў семнаццаці, што стаяў побач:

— На змену заступаеце?

— Не, ужо змяніліся. Чакаем, пакуль збяруцца ўсе: у нас сёння дыспут на тэму «Моладзь і час».

...Дыспут пачаўся з уступнага слова камсамольскага важака цэха. Як павысіць эфектыўнасць працы, як і чаму вучыцца, як выкарыстоўваць з большай карысцю свой вольны час і наогул як жыць цікавей,— і пытаўся і разважаў ён.— Сучасны рабочы калектыў павінен адпавядаць духу часу. У яго ўваходзяць людзі адукаваныя. І тут зусім не абавязкова кожнаму рабочаму вучыцца ў інстытуце ці, скажам, у тэхнікуме. Вучыцца трэба ў прынцыпе. І адзін у аднаго. Кожны павінен нецярпіма адносіцца да ўсякай бесталкоўшчыны ў рабоце, імкнуцца да рытму і разумнасці ў арганізацыі працы. А для гэтага трэба цікавіцца і тэхнікай, і эканомікай, і культуру сваю агульную павышаць, і спортам займацца. Ветлівасць, спагада, узаемавыручка таксама павінны быць у рабочым асяроддзі, бо без гэтага няма калектыву. Вось і давайце пагаворым, як нам найлепш усё гэта наладзіць у сябе, у сваім цэху,— закончыў сваю гутарку сакратар.

Ці таму, што сакратар закрануў самае надзённае і трэба было шчыра выказаць свае адносіны да жыцця калектыву, ці, можа, таму, што сярод іх быў чужы чалавек, у зале на нейкі час настала цішыня.

— Можна мне? — пачуўся дзявочы голас.

— Калі ласка, Галя.

Справа ад мяне паднялася невысокая дзяўчына, як я потым даведаўся,— шліфоўшчыца 3-га разраду. Вучыцца ў інстытуце на вячэрнім аддзяленні. Перадавік вытворчасці.

— Я вось што хачу сказаць,— пачала Галя.— Час у нас цяпер бурны, складаны. Да нас, маладых, жыццё прад'яўляе ўсё новыя і новыя патрабаванні. Вось у нас на ўчастку з'явілася цэлая серыя станкоў-аўтаматаў. Асвойваем іх, але вельмі нясмела. А нясмеласць адкуль? Ад недахопу ведаў. Вучыцца нам трэба, і вельмі сур'ёзна. Я не ўяўляю сабе сучаснага маладога рабочага без адукацыі ў самым шырокім сэнсе слова.

— Правільна. Вучыцца трэба,— пачаў свае выступленне токар трэцяга разраду, адукацыя — 8 класаў.— Але ці варта хадзіць у школу, калі табе ўжо за дваццаць шэсць і калі ты бачыш, што таго аб'ёму ведаў, які ў цябе ёсць, дастаткова для таго, каб рабіць сваю работу? Ці не лепш у такім выпадку аддаваць больш увагі свайму вытворчаму навыку?

Пасля гэтага выступлення зала ўжо бурліла.

— Не тое гаворыш, Мікалай!..

— Трэба глыбей бачыць сэнс вучобы!

— Не, ён правільна сказаў!

Тэма гаворкі паступова пачала пашырацца, закраналіся ўсе пытанні, якія хвалююць рабочы калектыў.

— Важна, каб мы часцей былі ўсе разам. Дзялілі ўсе радасці і няўдачы. Не замыкацца ў сваёй шкарлупіне. Калі ў калектыве ясныя пазіцыі ўсіх, намнога цікавей жыць.

— Вядома, праца ў нашай справе — галоўнае. Але ці дастаткова аднаго гэтага? Вольны час — праблема. Пайшоў неяк у тэатр — не спадабалася. І другі раз. І трэці. Гурткі мастацкай самадзейнасці? Прымітыўна. Застаюцца кнігі, кіно, тэлевізар. Яшчэ — прагулкі за горад...

— Рашаць калектыўна ўсе пытанні — гэта добра. Але ці ўсё падуладна калектыву? А калі ў чалавека паявілася нешта свае, вельмі асабістае?..

— Сучасны рабочы павінен быць і эстэтычна развіты. А то захапляюцца «бітламі»...

— А што — «бітлы»? У іх хоць адчуеш рытм, паўнату гуку...

...Моладзь спрачаецца. І добра тое, што яна ўсведамляе неабходнасць свайго ўдасканалення, самастойна думае і разважае — няхай іншы раз і супярэчліва — пра ролю культурных каштоўнасцяў у сваім духоўным развіцці.

Адносіны чалавека да духоўных каштоўнасцяў абумоўліваюцца як яго асабістымі якасцямі, так і сацыяльнымі ўмовамі. Ступень засваення духоўных каштоўнасцяў людзьмі залежыць ад сацыяльных умоў і матэрыяльных прадпасылак той ці іншай грамадскай сістэмы. Грамадству далёка не ўсё роўна сацыяльная арыентацыя яго членаў, стойкасць іх ідэалаў, поглядаў і перакананняў. Менавіта таму яно кантралюе сістэму духоўных каштоўнасцяў, якая ў ім складваецца, і надае ёй пэўную накіраванасць.

Мы ўсе вельмі ўважліва прыглядаемся да сучаснай моладзі, каб ведаць, што ад яе чакаць у будучым. Прачытаўшы ў газеце пра самаадданую працу маладзёжных брыгад на ўдарных будоўлях, мы захапляемся сваёю рабочаю зменай, ганарымся ёю; пачуўшы пра хуліганскія выхадкі п'янай маладой кампаніі або стаўшы ахвярай яе дэбошу, мы з абурэннем пытаемся: «Каго мы рыхтуем сабе на змену?»

Мне здаецца, трэба пазбягаць катэгарычных меркаванняў, заснаваных на адзінкавых фактах. Каб прыйсці да нейкага пэўнага вываду, трэба дасканала вывучыць жыццё хаця б той жа рабочай моладзі ў асобе яе малых і вялікіх груп з іх інтарэсамі і запатрабаваннямі, якія выяўляюць агульныя тэндэнцыі ў яе духоўным развіцці.

Зыходзячы з гэтых меркаванняў, мы ўстрымаемся даваць агульную ацэнку адносінам да духоўных каштоўнасцяў усёй рабочай моладзі толькі на падставе тых меркаванняў, якія мы пачулі на дыспуце «Моладзь і час». Возьмем яшчэ сацыялагічнае даследаванне, праведзенае ў гэтым жа напрамку на двух вялікіх прамысловых прадпрыемствах горада Мінска — ордэна Леніна трактарным заводзе і Другім дзяржаўным падшыпнікавым заводзе ў 1968—1969 гадах.

Духоўная сталасць чалавека вызначаецца ў першую чаргу яго адносінамі да працы, суадносінамі грамадскага і асабістага момантаў у працы.

Тысячы тромстам маладым рабочым трактарнага завода і тромстам сарака аднаму рабочаму падшыпнікавага было зададзена адно і тое ж пытанне: «Што вы больш за ўсё цэніце ў сваёй рабоце?» І вось які быў атрыманы адказ:

| | МТЗ | ДПЗ |
|---|---|---|
| Нельга забываць пра заработак, але асноўны сэнс працы — у яе грамадскай каштоўнасці | 83,4% | 82,9% |
| Заработак важны, але асноўнае — сэнс самой работы | 13,6% | 15,1% |
| Добра любая работа, калі яна добра аплачваецца | 3,0% | 2,8% |





Як сведчаць адказы, большасці рабочай моладзі ўласціва грамадзянскасць, пачуццё сацыяльнай адказнасці. Прыкмячаецца і другая тэндэнцыя — сучаснага маладога рабочага малазмястоўная праца, няхай яна нават і высока аплачваецца, прываблівае ненадоўга. Важным матывам з'яўляецца змест самой працы.

У наш век бурнага развіцця тэхнікі ўзнікае вострая патрэба ў адукаваных людзях самага шырокага профілю. І таму паход рабочай моладзі за ведамі стаў сапраўды масавым. Вось прыклады. Ва ўсіх агульнаадукацыйных формах навучання праходзяць падрыхтоўку 30,8% маладых рабочых на МТЗ і 32,5% — на ДПЗ. Самастойна павышаюць сваю адукацыю адпаведна 7,5% і 8,9%, у сістэме палітычнай асветы — 3,5% і 4%.

Сваё імкненне да ведаў моладзь тлумачыць па-рознаму.

— Вучуся ў машынабудаўнічым тэхнікуме. Што прымусіла вучыцца? Жаданне добра разбірацца ў тэхніцы (Чапкоўскі М., свідравальшчык-аўтаматчык МТЗ, 24 гады).

— Настройка аўтаматычных ліній патрабуе глыбокіх ведаў. Сярэдняй адукацыі тут мала. Таму і вучуся ў інстытуце (наладчык ДПЗ Шчарбіцкі М., 23 гады).

— Сваёй вучобай абавязаны таварышам па брыгадзе. У нас амаль усе вучацца. Адставаць неяк нязручна (Шапецька В., наладчык МТЗ, 27 гадоў).

Ёсць і такія матывы: «вучуся, каб набыць новую спецыяльнасць», «каб павысіць кваліфікацыю», «стаць адукаваным чалавекам», «прынесці карысць грамадству».

Моладзь імкнецца развіць свае мастацкія здольнасці, свой густ, сваё разуменне прыгожага ў прыродзе, працы, у чалавечых адносінах. Важную ролю ў яе агульнакультурнай арыентацыі адыгрывае мастацкая літаратура. Вывучэнне чытацкіх інтарэсаў маладых рабочых выявіла іх даволі высокі культурны ўзровень. Аб тым, што кніга ў духоўным жыцці нашай рабочай моладзі займае вялікае месца, што яна стала для іх неабходнасцю, сведчаць вось гэтыя лічбы: з 1300 апытаных рабочых МТЗ літаратуру чытаюць нерэгулярна — 17,1%, пастаянна — 82,9%; ДПЗ — адпаведна 15,3 і 84,7%.

У анкетах маладыя рабочыя адзначалі не толькі сваю цікаўнасць да пэўнага віду літаратуры, але і тлумачылі, чаму яны аддаюць перавагу той ці іншай кнізе. Вось некаторыя з іх адказаў:

— Больш люблю савецкую літаратуру, яна мне па душы, бо знаходжу ў ёй адказы на пытанні, якія мяне цікавяць (токар МТЗ, 23 гады).

— Сур'ёзна стаўлюся і многа чытаю літаратуры па грамадскіх навуках. Гэта дапамагае мне ў рабоце і ў адносінах з таварышамі (шліфоўшчык ДПЗ, 28 гадоў).

— Мне падабаюцца вершы С. Ясеніна. У іх вельмі многа прыгажосці, задушэўнасці (зборшчыца МТЗ, 20 гадоў).

— Люблю пакапацца ў літаратуры па мастацтве, асабліва мяне цікавіць жыццё і творчасць прадстаўнікоў рускай класічнай музыкі. Адно дрэнна — мала кніг па гэтай тэме (наладчык ДПЗ, 26 гадоў).

Дадатковыя запісы ў анкетах сведчаць не толькі пра імкненне рабочых да кнігі, але і пра іх уменне самастойна асэнсаваць яе значэнне.

Мастацкая літаратура — толькі адна з важных ступеняў фарміравання эстэтычных патрэб. Другая ступень — удзел у мастацкай творчасці. Гаворка ідзе пра самадзейнае мастацтва маладых рабочых. Даследаваннем устаноўлена, што на абодвух прамысловых прадпрыемствах моладзь, якая ўдзельнічае ў розных відах мастацкай самадзейнасці, складае каля 10% ад агульнага яе ліку. Што прыцягвае моладзь у самадзейнасць? На гэтае пытанне адказваюць звычайна так: «любоў да мастацтва», «хачу прынесці задавальненне людзям», «трэба адстойваць гонар калектыву».

Тэхнічная творчасць таксама прыцягвае маладых рабочых. Заняткі рацыяналізацыяй і вынаходніцтвам (на МТЗ — 4,2%, на ДПЗ — 4,8% ад агульнага ліку рабочай моладзі) робяць рабочага

паўнаўладным гаспадаром вытворчасці, пашыраюць яго дыяпазон. Тут у якасці матываў выступаюць такія тлумачэнні: «хачу аблегчыць працу рабочых» (МТЗ — 67%, ДПЗ—48%), «трэба пераадолець «вузкія» месцы на вытворчасці» (адпаведна 58 і 44%), «хачу прынесці сваёй працай карысць калектыву» (56 і 40%).

Наша прамысловая вытворчасць яшчэ не ўсюды механізавана. Ёсць яшчэ ў працы рабочага многа манатоннага, цяжкага, нецікавага, што аб'ектыўна стрымлівае яго духоўнае развіццё.

Як уплывае змест працы на далучэнне маладых рабочых да духоўных каштоўнасцяў, відаць хаця б з наступнай табліцы:

| Групы рабочых па змесце іх працы | Віды самадзейнай творчасці МТЗ | | |
|---|---|---|---|
| | Эстэтычны клуб «Радуга» | Ізастудыя | Кінастудыя |
| 1. Рабочыя, занятыя ручной фізічнай працай | — | — | — |
| 2. Рабочыя, занятыя фізічнай працай пры машынах і механізмах | — | — | — |
| 3. Рабочыя механізаванай працы | 1,2 | 0,8 | 0,8 |
| 4. Рабочыя аўтаматызаванай працы | 3,4 | 2,6 | 0,8 |
| 5. Наладчыкі механізмаў і абсталявання | 3,0 | 2,8 | 2,1 |
| 6. ІТР | 12,7 | 15,3 | 12,1 |

Ёсць прычыны, якія можна назваць выдаткамі выхаваўчага працэсу. Тут і недаацэнка матэрыяльнай базы культуры, і недастаткова эфектыўная работа сродкаў інфармацыі і прапаганды. Аб гэтым сведчыць і аналіз форм інфармацый аб літаратуры, якую выбірае моладзь:

| Формы інфармацыі | Рабочыя МТЗ (1300 ч.) | | Рабочыя ДПЗ (340 ч.) | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік адказаў | % ад агульнага ліку адказаў | Лік адказаў | % ад агульнага ліку адказаў |
| 1. Выбіраю сам з дапамогай каталога і бібліяграфічных дапаможнікаў | 470 | 26,7 | 125 | 25,2 |
| 2. Па парадзе бібліятэкара | 561 | 31,9 | 161 | 32,5 |
| 3. Па парадзе таварышаў, сям'і | 484 | 27,5 | 140 | 28,8 |
| 4. Даведаўся пра кнігу ў газеце, часопісе, убачыў на плакаце | 133 | 7,5 | 40 | 8,1 |
| 5. Пачуў па радыё, даведаўся ў кіно, па тэлебачанні | 102 | 5,7 | 28 | 5,6 |
| 6. Іншыя крыніцы | 13 | 0,7 | 4 | 0,8 |

З аднаго боку, тут відаць актыўнасць самога чытача. Для пэўнай часткі рабочай моладзі выбар кнігі з'яўляецца справай прывычнай і мэтанакіраванай, а гэта—прызнак развітых патрэб. Прыкметная таксама і роля бібліятэкара, таварышаў. А з другога боку, выяўляецца слабы ўплыў на чытача такіх форм прапаганды, як газета, часопіс, плакат, радыё, кіно, тэлебачанне.

Нельга думаць, што фарміраванне духоўных каштоўнасцяў чалавека з'яўляецца толькі вынікам уздзеяння існуючай у грамадстве сістэмы выхавання. Асоба фарміруецца ўсім ладам грамадскага жыцця і ўсімі тымі складанасцямі і супярэчнасцямі, якія ў ім існуюць. Вось чаму выхаванне ідэалаў і духоўных імкненняў—такая складаная справа.

Пэўную частку сучаснай рабочай моладзі папракаюць у пасіўнасці, у бяздумнасці і ўтрыманстве, у запозненым сталенні і некаторай эгаістычнасці. І папрок гэты правільны. Вывучэнне духоўнага вобліку 245 маладых рабочых МТЗ і 98—ДПЗ, схільных да парушэння нормаў права і маралі, сведчыць пра тое, што іх духоўныя запатрабаванні вельмі нізкія. Гэтая катэгорыя людзей не абцяжарвае сябе вучобай і грамадскай работай, яе не цікавіць ні мастацкая творчасць, ні літаратура і ні што іншае. У большасці сваёй гэта людзі малаадукаваныя. Стаж іх работы на прадпрыемстве, як правіла, невялікі—ад 2 да 5 год. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што многія з іх раслі альбо без бацькі, альбо без маці. Зразумела, што плён ідэйна-выхаваўчай работы будзе залежаць ад таго, наколькі дэталёва мы вывучым прычыны, што параджаюць непажаданыя нам з'явы.

Каб паспяхова выхоўваць рабочую моладзь, трэба добра ўяўляць сабе не толькі яе месца і ролю ў сучасным грамадстве, але і тыя цяжкасці, якія сустракае яна на сваім жыццёвым шляху: гэта і пошукі свайго месца ў жыцці, свайго ідэалу, сваёй мэты, і імкненне рэалізаваць жыццёвыя планы, і стварэнне сям'і, і многае-многае іншае. Вышэй мы прыводзілі факты, як уплывае малазмястоўная ручная праца на духоўнае развіццё маладога рабочага. Так, гэта—праблема. Павышэнне змястоўнасці працы, вядома, немагчыма без далейшага ўкаранення комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі, удасканалення тэхналагічных працэсаў вытворчасці. Але гэта—справа часу. Аднак чакаць, пакуль паступова знікне цяжкая ручная некваліфікаваная праца, на якой занята яшчэ нямала моладзі—значыць адцягваць вырашэнне важнай сацыяльнай праблемы. Дзе ж выйсце? Пакуль што трэба ж некаму рабіць і цяжкую, некваліфікаваную работу. Але адна справа, калі гэтую работу робіш увесь час, і другая—калі, цяжкая і малацікавая, яна ўспрымаецца як часовы, але неабходны этап. У першым выпадку ў рабочага расце незадаволенасць сваім становішчам, і ён пакідае прадпрыемства, у другім у яго ёсць надзея падняцца вышэй па прафесіянальна - кваліфікацыйнай лесвіцы, а гэта развівае яго цікаўнасць і да самой работы і да таго, каб павышаць свае прафесійныя навыкі і агульны адукацыйны ўзровень. І як бы выйграла і любое прадпрыемства і кожны малады рабочы, які туды прыходзіць працаваць, каб кожны, хто паступіў на работу, мог бачыць там перспектыву свайго агульнаадукацыйнага і прафесіянальнага росту.

Для таго, каб палепшыць падрыхтоўку маладых спецыялістаў на прадпрыемствах, трэба на практыцы звязваць павышэнне тарыфікацыйных разрадаў з пэўным мінімумам агульнай адукацыі, гэта дасць дадатковы стымул для набыцця агульнаадукацыйных ведаў. Задача заключаецца не толькі ў тым, каб прыцягнуць да вучобы як мага болей рабочай моладзі, але і ў тым, каб дапамагаць тым, хто вучыцца, аказваць ім падтрымку, адстойваць іх інтарэсы ў вытворчым асяроддзі.

Відаць, настаў час наладзіць шырокае тэхніка-эканамічнае навучанне не толькі сярод рацыяналізатараў, але і сярод усёй рабочай моладзі. Трэба таксама змяніць адносіны да конкурсаў-аглядаў тэхнічнай творчасці рабочай моладзі. З чарговай кампаніі, якой яны з'яўляюцца часам цяпер, трэба пераўтварыць іх у своеасаблівую школу майстэрства, якая здольна абудзіць прагу да творчасці.

Сваю станоўчую ролю маглі б адыграць на кожным прадпрыемстве пастаянна дзеючыя выстаўкі тэхнічнай творчасці: яны сталі б месцам, дзе праводзілася б вытворчае навучанне маладых спецыялістаў, і прывівалі б ім навыкі самастойнай тэхнічнай думкі.

Кіраваць фарміраваннем духоўнага свету маладога рабочага—задача вялікая і складаная. Поспех у яе вырашэнні залежыць ад таго, наколькі правільна будуць скаардынаваны намаганні грамадскіх і культурных цэнтраў прамысловых прадпрыемстваў.

**Анатоль ВІНАКУРАЎ.**

# ГЭТА БЫЛО Ў ПЛЕШЧАНІЦАХ

На тэрыторыі былога Плешчаніцкага раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічалі дзве партызанскія брыгады. З ворагам змагалася амаль усё насельніцтва лясного краю. Народныя мсціўцы да другой палавіны 1943 года, па сутнасці, ачысцілі раён ад фашысцкіх захопнікаў. Праўда, у руках акупантаў заставаўся раённы цэнтр—Плешчаніцы. Але гітлераўцам жылося неспакойна: буйны варожы гарнізон двойчы паспяхова атакавалі партызаны.

Партыйным і камсамольскім падполлем у раёне кіравалі самыя смелыя камуністы і камсамольцы. Іван Іосіфавіч Ясіновіч узначальваў раённы падпольны камітэт КП(б)Б. Біяграфія Івана Ясіновіча характэрная для людзей таго часу. Спачатку дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Потым захацелася хлопцу пабачыць горад. Ён паехаў у Барысаў, дзе працаваў у шавецкай арцелі, а затым на запалкавай фабрыцы. Тут, на прадпрыемстве, ён шмат займаўся самаадукацыяй. Стаў камуністам. У 1934 годзе Івана Ясіновіча накіравалі вучыцца ў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу. Скончыўшы яе, ён працаваў пэўны час дырэктарам саўгаса. А пазней, ажно да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, Іван Ясіновіч—на партыйнай рабоце. Спачатку—інструктар, потым—сакратар Смалявіцкага РК КП(б) Беларусі.

У жніўні 1941 года Цэнтральны Камітэт Кампартыі рэспублікі накіраваў Івана Ясіновіча на чале дыверсійнай групы ў тыл ворага. Мэта яе дзеяння—разгортванне партызанскага руху. Група Івана Ясіновіча займалася дыверсіямі. На чыгунцы Мінск—Барысаў былі спушчаны пад адхон чатыры варожыя эшалоны.

Пазней Іван Іосіфавіч стаў прыкметным арганізатарам партызанскага руху. Ён займаў пасаду камісара партызанскага атрада «Барацьба», а потым стаў камісарам партызанскай брыгады імя Калініна.

Нельга не сказаць пра актыўную дзейнасць Пятра Кульгавага, члена падпольнага райкома партыі. Ён быў здольным партыйным работнікам, добрым арганізатарам. П. Кульгавы заўсёды знаходзіўся сярод насельніцтва, хадзіў з партызанамі на дыверсіі. На яго асабістым рахунку сем пушчаных пад адхон варожых паяздоў.

Вернымі і актыўнымі памочнікамі падпольнага райкома партыі заўсёды былі сакратар падпольнага райкома камсамола М. Шарыпава, а таксама падпольшчыкі-камуністы В. Рабецкі, П. Далідчык, У. Кашнікаў і П. Адамовіч. З імем апошняга звязана ўзнікненне і дзейнасць камсамольска-маладзёжнага падполля ў гарадскім пасёлку Плешчаніцы.

Пятро Іванавіч Адамовіч—афіцэр-танкіст Чырвонай Арміі. Ён не выйшаў з акружэння ў пачатку вайны. Таму вымушаны быў летам 1941 года дабірацца да Плешчаніц, дзе жыла яго сястра-настаўніца, Марыя Адамовіч. Тут ён хутка наладзіў сувязь з сакратаром падпольнай партыйнай арганізацыі Уладзімірам Кашнікавым. Неяк яны сустрэліся. Пятро, як кадравы ваенны, спытаў адкрыта:

— Што будзем рабіць? Загадвай!

Уладзімір Кашнікаў ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Не гарачыся, танкіст. Цяпер нам нельга гарачыцца. А вось што рабіць—давай памяркуем разам. Што ты прапануўаеш?

Пятро разгубіўся. Што ён мог прапанаваць? Амаль нікога ў пасёлку не ведаў. Дзе і каго шукаць—не ўяўляў.

— Вось бачыш, танкіст, што атрымліваецца,—памаўчаўшы, загаварыў Кашнікаў.—Я, брат, таксама не вельмі ўяўляю, што рабіць. Галоўнае, мне здаецца,—людзі. Трэба шукаць людзей. Адны мы нічога не зможам. Думаў я вось пра што. Да сястры тваёй, відаць, заходзяць былыя яе вучні. Пазнаёмся з імі, даведайся, пра што і як думаюць яны, які ў іх настрой. Вось і лічы, што гэта тваё першае заданне—праца з моладдзю.



Марыя Фёдараўна Шарыпава, былы сакратар Плешчаніцкага падпольнага РК ЛКСМБ.

Пятро шчыра ўзяўся за справу. Неўзабаве ён пазнаёміўся з Верай Парфяновіч. За некалькі дзён да пачатку вайны дзяўчына атрымала атэстат сталасці. Яна марыла паступіць у медыцынскі інстытут. Але ажыццявіць мару перашкодзілі акупанты. Яна з хваляваннем гаварыла, што нельга сядзець склаўшы рукі. Трэба змагацца.

Такая ж была і Марыя Гусакоўская—студэнтка трэцяга курса Мінскага педагагічнага тэхнікума. У першы ж дзень вайны, здаўшы апошні экзамен па рускай літаратуры, калі палаў Мінск, дзяўчына пайшла ў ваенкамат. Яна прасілася, каб яе накіравалі на фронт. Там ёй адмовілі. І Марыя Гусакоўская рашыла дабірацца ў Плешчаніцы да бацькоў.

Разам з Верай Парфяновіч канчаў школу і Кузьма Чалаў. Юнак хацеў быць толькі лётчыкам. Атрымаўшы атэстат сталасці, ён паехаў у Мінск, каб паступіць у аэраклуб. Тут яго і заспела вайна. Ён, як і Марыя Гусакоўская, прыйшоў у родныя Плешчаніцы.

Пятро Адамовіч адразу зразумеў, што гэтым людзям можна давяраць. Агітаваць іх не трэба было. І 18 жніўня 1941 года на кватэры Веры Парфяновіч камсамольцы правялі свой першы падпольны сход. На ім, апрача Пятра Іванавіча, Веры, Марыі і Кузьмы, прысутнічалі Браніслаў Юрэвіч і малодшы Верын брат, Міша Парфяновіч.

Сход быў кароткі. Рашылі арганізаваць у пасёлку камсамольска-маладзёжную групу па барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Кіраўніком групы быў абраны Пятро Адамовіч. Юныя падпольшчыкі пакляліся самаахвярна служыць Радзіме.

Да канца 1941 года ў групе ўжо



Вера Парфяновіч.



Міхаіл Парфяновіч.

было 15 чалавек, а на прадвесні 1942 года ў шэрагу юных падпольшчыкаў налічвалася больш як дваццаць камсамольцаў. Урачыстую клятву-прысягу юнага змагара прынялі Марыя Адамовіч, Алена і Валянцін Гусакоўскія, Марыя Пракаповіч, Ганна Балахціна (дзявочае прозвішча—Іваноўская), піянерка Зіна Іваноўская, Міхаіл Тарайкоўскі, Антон Пустаход, Соня Дудзінская, Шура Панамарова, Тамара Трафіменка, Станіслаў Шлыкевіч, Сеня Какавешка і іншыя.

Не драмаў і вораг. Каб падарваць веру нашых людзей у перамогу Чырвонай Арміі, гітлераўская прапаганда распаўсюджвала сярод жыхароў акупаваных раёнаў чуткі пра тое, што нямецкае войскі ўжо захапіла Маскжалі іх і расклейвалі ў Плешчаніцах і бліжэйшых вёсках, незаўважна перадавалі знаёмым людзям.

Праз шмат гадоў пасля вайны Вера Парфяновіч расказвала:

— Асабліва рады былі мы, калі атрымалі ад Пятра Адамовіча, нашага важака, запісаную ім справаздачу пра ўрачыстае пасяджэнне Маскоўскага Савета дэпутатаў працоўных сумесна з партыйнымі і грамадскімі арганізацыямі Масквы, прысвечанае 24-й гадавіне Вялікага Кастрычніка. Мы плакалі, чытаючы словы Сталіна пра тое, што «не такі страшны чорт, як яго малююць», што Чырвоная Армія не разбіта, што яна паспяхова стрымлівае націск ворага і не раз прымушала ўцякаць хвалёнае гітлераўскае



Марыя, Валянцін і Лена Гусакоўскія.

ву і што вайна, маўляў, хутка зусім скончыцца. Падчас савецкім ваеннапалонным гітлераўскае камандаванне выпісвала «прапускі» аж но да самага Свярдлоўска: ідзіце, куды хочаце, наша войска ўжо на Урале...

Менавіта ў гэты час карысна было ведаць сапраўднае становішча на франтах Айчыннай вайны, каб падрабязна праінфармаваць насельніцтва. За гэтую справу і ўзяліся юныя падпольшчыкі.

У сястры Пятра Адамовіча меўся радыёпрыёмнік. Пятро і Марыя запісвалі зводкі Саўінфармбюро і перадавалі іх камандзірам пяцёрак—Веры Парфяновіч, Марыі Гусакоўскай і Кузьму Чалаву. А тыя з дапамогай членаў падпольных пяцёрак размнавойска, што праўда на нашым баку—перамога будзе за намі! Мы гэтыя словы перапісвалі на лісткі з вучнёўскіх сшыткаў і распаўсюджвалі сярод жыхароў райцэнтра і навакольных вёсак. Я цяпер не магу перадаць тое хваляванне і радасць, калі даведаліся, што 7 лістапада 1941 года на Краснай плошчы, як заўсёды, адбыўся парад нашых войскаў. Тады мы хадзілі па Плешчаніцах героямі. Якую сілу, бадзёрасць і ўпэўненасць адчулі мы ў сабе, несучы людзям дарагія словы нашай вялікай праўды...

Асабліва актывізавала сваю работу падпольная маладзёжная група пасля таго, як Пятро Адамовіч наладзіў сувязь з камандаваннем партызанскага атрада «Барацьба», а таксама з сакра-







Кузьма Чалаў.

таром падпольнага райкома камсамола Марыяй Шарыпавай. Па заданні камандзіра атрада С. Далганава і камісара І. Ясіновіча члены падпольнай арганізацыі ўзмоцнена займаліся разведкай, збіралі зброю, здабывалі медыкаменты і перавязачны матэрыял. Усё гэта праз сувязных перадавалася народным мсціўцам.

А для таго, каб ведаць намеры ворага, падпольшчыкі рашылі пасляць у паліцыю некалькіх сваіх таварышаў. На «службу» ў паліцыю пайшлі Сямён Какавешка, а крыху пазней—Станіслаў Шлыкевіч. Абодва хлопцы былі смелымі, адданымі камсамольцамі. Не хацелі юнакі быць «здраднікамі», насіць паганае прозвішча «бобік». Але рашэнне кіраўнікоў падпольнай арганізацыі выканалі.

Падпольшчыкі, накіраваўшы ў паліцыю Стася і Сеню, не памыліліся. Свае «паліцэйскія» аказвалі сябрам неацэнную паслугу. Яны забяспечвалі падпольшчыкаў прапускамі, бланкамі пашпартоў і іншымі дакументамі, паведамлялі начныя паролі. Як паліцаі Сямён і Станіслаў вольна хадзілі па пасёлку і ў начны час. А пад іх апекай падпольшчыкі часта расклейвалі лістоўкі ў самых неспадзяваных для акупантаў месцах. З іх дапамогай у атрад «Барацьба» прыходзілі каштоўныя звесткі.

С. Шлыкевічу і С. Какавешку ўдалося сярод паліцэйскіх знайсці аднадумцаў, якія таксама пачалі працаваць на падпольшчыкаў—кралі ў гітлераўцаў зброю і боепрыпасы, а потым наогул перайшлі ў партызаны. З дапамогай сваіх людзей у паліцыі падпольшчыкі наладзілі ўцёкі вялікай групы нашых ваеннапалонных. Дапамаглі ім стаць партызанамі.

Усё шырэй разгортвалася барацьба плешчаніцкіх маладагвардзейцаў, усё большую дапамогу аказвалі яны народным мсціўцам.

Яшчэ летам і восенню сорак першага года Кузьма і Цімафей Чалавы добра «папрацавалі» на полі бою на беразе Дзвінасы. Там, на подступах да гарадскога пасёлка Плешчаніцы, у канцы чэрвеня—пачатку ліпеня 1941 года вяла цяжкія баі з гітлераўскімі захопнікамі наша 50-я дывізія. Праз пэўны час на месцы бою браты Чалавы знайшлі два ручныя кулямёты, шэсць вінтовак, 15 ручных гранат і пяць скрынак патронаў. Усё гэта вясной 1942 года было перададзена ў партызанскі атрад «Барацьба». Гэта была надзвычай патрэбная дапамога народным мсціўцам.

У першыя ж дні акупацыі раёна Станіслаў Шлыкевіч натрапіў у былым ваенным гарадку, які быў непадалёк ад Плешчаніц, на грузавік са скрынкамі патронаў. Не задумваючыся, юнак перацягнуў скрынкі ў яму ад авіяцыйнай бомбы і прысыпаў пяском. А ў жніўні 1942 года «паліцэйскі» С. Шлыкевіч разам з сябрамі—К. Чалавым, А. Пустаходам, Б. Юрэвічам і М. Парфяновічам—адправілі ў атрад «Барацьба» незвычайны і вельмі дарагі абоз—пяць падвод з боепрыпасамі.

Актыўную ролю ў падпольнай камсамольскай групе адыграла дзевятнаццацігадовая Соня Дудзінская. Па рашэнні кіраўніцтва групы яна пайшла працаваць у раённую паліцэйскую ўправу сакратаром. Маючы доступ да важных дакументаў, у тым ліку і да бланкаў пашпартоў, Соня часта выно-



Антон Пустаход.



Сямён Какавешка—падпольшчык і партызан атрада «Барацьба».

сіла з управы неабходныя партызанам дакументы.

Каштоўныя звесткі прыходзілі ў партызанскі атрад і ад членаў групы Аляксандры Панамаровай і Тамары Трафіменка. Гісторыя іх уступлення ў падпольную арганізацыю такая.

Аляксандра Панамарова—родам з Плешчаніц. Перад вайной выйшла замуж за афіцэра Чырвонай Арміі. Неўзабаве яе мужа перавялі ў Аўгустова, у былую Беластоцкую вобласць, а Шура з маленькім сынам засталася ў Плешчаніцах. Перад самай вайной яна паехала ў Мінск на курсы кінамеханікаў, пакінуўшы маленькага сына з маці. У Мінску яна і пазнаёмілася з Тамарай Трафіменка. Тут іх заспела вайна. Што рабіць? А што з мужам, ці жывы і дзе ён—Шура не ведала. А сынок і маці—у Плешчаніцах. І яна накіроўваецца дамоў. Разам з ёй прыйшла ў Плешчаніцы і сяброўка Тамара Трафіменка.

Дзяўчаты пасяліліся ў цэнтры пасёлка, у пустой хаце. А неўзабаве ў суседнім доме размясцілася фашысцкая жандармерыя. Вось гэтае суседства з жандармерыяй і прыцягнула да Шуры і Тамары ўвагу падпольшчыкаў. Пятро Адамовіч даручыў Веры Парфяновіч і Марыі Гусакоўскай пазнаёміцца, а калі ўдасца, то і пасябраваць з Шурай і Тамарай.

Вядома, дзяўчаты хутка знайшлі агульную мову. Шура і Тамара і самі неаднойчы думалі і гаварылі пра тое, што трэба змагацца з ворагам. А калі Вера і Марыя прапанавалі ім стаць членамі камсамольска-маладзёжнай падпольнай арганізацыі, сяброўкі адразу згадзіліся.

— Першае, што вы павінны зрабіць,—гэта пазнаёміцца з шэфам жандараў,—гаварыла ім Марыя Гусакоўская.—Тым больш, што ён вамі цікавіцца—бачыла, як пры сустрэчы на вуліцы стараецца загаварыць з вамі. Дык не цурайцеся яго, а ўсміхайцеся. Ды што мне, вучыць вас? Вы ж старэйшыя за мяне...

— Вучыць нас, вядома, не трэба. Але ўсміхацца гэтаму кату?

— Калі трэба, дык трэба. А потым пастарайцеся пранікнуць у ягоны дом. Што далей рабіць—падкажам.

Стары шэф жандараў даўно прыкмеціў сваіх маладых прыгожых суседак. Не раз пры сустрэчы на вуліцы ён спрабаваў загаварыць з імі. Таму Шура і Тамара без цяжкасці пазнаёміліся з ім. Знаёмства гэтае неўзабаве перайшло ў «дружбу». Дзяўчаты смела заходзілі да яго ў жандармерыю, падоўгу сядзелі і размаўлялі ў ягоным кабінеце, ведалі, што і дзе ляжыць, і маглі ўжо многае сказаць партызанам.

У ліпені 1942 года Пятро Адамовіч сумесна са штабам атрада «Барацьба» распрацаваў план аперацыі па знішчэнні будынка жандармерыі. Заадно рашылі забраць са склада зброю і боепрыпасы, а таксама канфіскаваць запасы прадуктаў і папяросы з нямецкага магазіна. Для ажыццяўлення гэтай аперацыі партызаны прыцягнулі і сваіх «паліцэйскіх», а таксама некалькі падпольшчыкаў. У распрацоўцы плана нападу на фашыстаў народным мсціўцам вельмі дапамаглі Шура і Тамара.

Аперацыя была прызначана на 10-е верасня. Будынак жандармерыі ў тую ноч ахоўвала група сваіх «паліцэйскіх» на чале з С. Какавешкам. Ёй было даручана замініраваць будынак, забраць са склада зброю і боепрыпасы. Выканаўшы заданне, група павінна была ісці ў лес. Другой групе з партызанаў, падпольшчыкаў і «паліцэйскіх» даручалася «ачысціць» магазін.

Другая група з заданнем справілася паспяхова. Народныя мсціўцы забралі з магазіна прадукты і папяросы, пагрузілі ўсё на падводы і, спакойна пакінуўшы пасёлак, адышлі ў лес. А вось першай групе не пашанцавала.

Сярод «паліцаяў», якія ахоўвалі будынак жандармерыі, знайшоўся здраднік. І перш чым яго абясшкодзілі, ён паспеў зрабіць стрэл. Паднялася трывога. Партызаны і «паліцэйскія» вымушаны былі адысці.

У тую ноч пайшоў у партызаны Сеня Какавешка і яго сябры «паліцэй-







Ганна Балахціна.

скія», якіх ён паспеў перацягнуць на бок народных мсціўцаў.

Ашалелыя гітлераўцы на наступны дзень правялі ў пасёлку вобыскі. На кватэры Ганны Несцераўны Балахціной ім удалося знайсці пад падлогай радыёпрыёмнік, якім карысталіся падпольшчыкі. Яны арыштавалі гаспадыню. Фашысты разумелі, што ў пасёлку існуе бальшавіцкае падполле, і стараліся вырваць ад жанчыны прызнанне. Ганну яны цяжка катавалі. Тры дні мучылі яе ў засценках гестапа—патрабавалі назваць імёны паплечнікаў, але падпольшчыца трымалася мужна: яна не сказала ні слова. На чацвёрты дзень Ганну Несцераўну прывезлі да месца пакарання.

— Апошні раз пытаем, хто даваў табе заданне? Хто кіраўнік банды?

Патрыётка плюнула ў твар гітлераўцу.

Каты спусцілі на яе сабак.

Пакутлівая смерць цёткі Ганны вельмі ўразіла Зіну Іваноўскую. Але мужнасць не пакінула піянерку. Яна яшчэ больш ахвотна і старанна выконвала заданні падпольшчыкаў. Ніводнага дня не жадала сядзець без справы.

— Я цяпер павінна працаваць не толькі за сябе, але і за цётку,—гаварыла Зіна кіраўніку пяцёркі Марыі Гусакоўскай.—Я павінна адпомсціць за цёцю Аню.

Зіна была сувязной падпольшчыкаў. Яна, падлетак, у акупантаў менш выклікала падазрэння. Таму Зіна часцей за іншых хадзіла з пасёлка ў партызанскі атрад і назад: перадавала партызанам розныя звесткі і дакументы, падчас зброю і патроны. Дзяўчынку вельмі любілі ў партызанскім атрадзе і заўсёды з нецярпеннем чакалі, бо Зіна прыносіла хлопцам асаблівы гасцінец—папяросы ці махорку.

Вярнуўшыся з партызанскага атрада, Зіна гаварыла сябрам:

— Ой, каб ведалі вы, як зайздрошчу я ім! У іхніх руках—зброя. А галоўнае—яны вольныя людзі, што хочуць, тое і гавораць, не аглядаючыся, не прыслухоўваючыся...

Пасля, абагрэўшыся каля печы, яна ўздыхала:

— Але ж і цяжка ім, бедным. Не соладка быць у лесе... Не адпачнеш як след, не пад'ясі ўдосталь. Асабліва хлопцы без табакі пакутуюць. Як прыйду, дык спачатку закураць прасіць, а потым пачынаюць распытваць, што і як... Васька там ёсць адзін, смешны такі, вусаты. За тры цыгарэты мяне на руках насіў. Нібы адурэў ад радасці...

— Ой глядзі, Зінка, ці не закахалася ты ў Ваську свайго?—жартаваў сёй-той.—І ў мінулы раз ён на руках цябе насіў.

Зіна чырванела і хавала нос у каўнер.

— Тожа скажуць! Хіба ў каго ў галаве гэта зараз? Ды ён жа і стары, яму ўжо больш як дваццаць!

Сябры-падпольшчыкі рагаталі.

— Вось дык стары! Дваццаць гадоў!

— Смейцеся сабе, а ў другі раз пайду—усё роўна табакі яму занясу.



Зіна Іваноўская.

Пазней, праз шмат гадоў пасля вайны, Марыя Гусакоўская (не, ужо не Гусакоўская, а Тарасевіч) у сваім лісце пісала мне: «Ніколі не забуду самай юнай нашай падпольшчыцы Зіначкі Іваноўскай. Да таго ж была светлая і чыстая дзяўчынка! Колькі разоў адна ці ўдваіх хадзіла яна ў атрад «Барацьба», колькі разоў выручала і нас, і партызанаў! Ні пра што не хацела думаць, акрамя таго, як лепш выканаць наша даручэнне. Так і гаварыла: «Мне б толькі да перамогі дажыць, нашых пабачыць, а там— хоць сабе і памерці...» Нягледзячы на тое, што яна была яшчэ падлеткам, Зіна ва ўсім паводзіла сябе, як дарослая. Сур'ёзная была дзяўчынка. Неяк, калі мы з ёю ўдзвюх вярталіся дадому са сходу нашай пяцёркі, яна зусім не па-дзіцячы сказала: «Ведаеш, Марыйка, калі прыйдуць нашы, дык я выберу самага змучанага, стомленага нашага байца, кінуся яму на шыю і пры ўсіх пацалую. І нікога саромецца не буду... Вось пабачыш...» Як ні шкада, але ажыццявіць сваё запаветнае жаданне Зіначцы не давялося, яна не дажыла да прыходу нашых».

Сакавіцкім днём 1943 года Зіна вярталася ў Плешчаніцы з вёскі Альхоўка, куды хадзіла на сувязь з партызанамі. У кошыку ў яе ляжалі лістоўкі. Па дарозе піянерка натрапіла на паліцаяў. Яны зазірнулі ў кошык. Некалькі дзён гітлераўскія каты дапытвалі дзяўчынку. Яны спрабавалі вырваць прызнанне ў яе і ласкай. Але нічога не даведаўшыся, зноў катавалі. Зіна маўчала. Не вырваўшы ні слова, фашысты замучылі дзяўчынку. На яе, як і на цётку Ганну Балахціну, спусцілі сабак.

Так, Зіна жыла, змагалася і загінула як герой. І пра яе трэба памятаць. Трэба, каб лёсам Зіны Іваноўскай зацікавіліся плешчаніцкія піянеры. Жыццё юнай піянеркі заслугоўвае гэтага. Добра было б, каб піянерская дружына той школы, у якой калісьці вучылася Зіна Іваноўская, насіла яе імя.

...Першая, не зусім удалая аперацыя па знішчэнні ўправы і жандармерыі не ахаладзіла запал падпольшчыкаў. Неўзабаве быў распрацаваны новы план. Ажыццявіць дыверсію ў будынку жандармерыі было даручана Шуры Панамаровай і Тамары Тарасавай. Яны змаглі пакінуць у будынку дзве «магніткі». У выніку двое гітлераўцаў было забіта і трое паранена. Марыя Гусакоўская і Вера Парфяновіч наладзілі дыверсію ў будынку раённай управы. Праўда, знішчыць будынак не ўдалося: дзяжурныя паліцаі выявілі пажар і патушылі яго.

Пасля гэтых дыверсій кіраўніцтва падпольнага райкома камсамола з санкцыі камандзіра і камісара партызанскага атрада дазволілі П. Адамовічу, В. Парфяновіч, М. Гусакоўскай, А. Панамаровай, Т. Трафіменка, К. Чалаву, Б. Юрэвічу, А. Пустаходу, М. Тарайкоўскаму пайсці ў партызаны. Астатнія члены камсамольска-маладзёжнай падпольнай групы засталіся ў пасёлку. Хутка шасцёра з іх былі арыштаваны і расстраляны. Загінулі сястра Пятра Адамовіча—Марыя, а таксама Марыя Пракаповіч, Соня Дудзінская, маці Веры Парфяновіч Сцепаніда Рыгораўна, бацька і маці Кузьмы Чалава—Харлан Кірылавіч і Усціна Макараўна.

Падпольшчыкі і ў партызанскім атрадзе мужна змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Некаторыя з іх не дажылі да перамогі.

Семнаццатага жніўня 1943 года пры наступе партызанаў на фашысцкі гарнізон у Плешчаніцах загінуў Браніслаў Юрэвіч, крыху пазней у няроўнай бойцы з гітлераўцамі каля вёскі Востраў загінуў кіраўнік плешчаніцкіх падпольшчыкаў Пятро Адамовіч. У студзені 1944 года не вярнуўся з баявога задання Валянцін Гусакоўскі. Расстралялі гітлераўцы Стася Шлыкевіча. У барацьбе з акупантамі загінуў і Антон Пустаход.

Многія ж іх сябры, якія дачакаліся вялікай перамогі, цяпер жывуць і працуюць у розных месцах краіны.

Марыя Гусакоўская жыве ў Мінску. Яна—настаўніца 101-й школы. Вера Парфяновіч у родных Плешчаніцах працуе медсястрой у бальніцы. Кузьма Чалаў—галоўны інжынер аднаго з домакіраўніцтваў горада Мінска, а яго брат Цімафей—слесар Бярозаўскай ДРЭС на Брэстчыне. Міхаіл Тарайкоўскі жыве ў Слоніме, працуе токарам на аўтарамонтным заводзе. Алена Гусакоўская-Клімава жыве і працуе ў Барысаве.

Нярэдка сябры збіраюцца разам — у Плешчаніцах. Тады яны абавязкова ідуць на ўскраіну пасёлка, дзе стаіць адзінокая сасна, ля якой сустрэлі сваю смерць Зіна Іваноўская, Ганна Балахціна, Марыя Адамовіч і сотні іншых патрыётаў.

Сасна—сведка страшэннай трагедыі...

Вакол сасны—агароджа. На шчыце надпіс: «Сучаснікі і нашчадкі, схіліце галовы. Тут пахаваны тыя, хто не стаў на калені перад ворагам».

Каля гэтай сасны і гэтага надпісу падоўгу стаяць жывыя, сябры тых, каго закатавалі гітлераўцы. Тут гаворыць іх памяць...

**Раман МАЧУЛЬСКІ,
былы сакратар Мінскага падпольнага абкома КПБ, Герой Савецкага Саюза.**






# 1971

## СНЕЖАНЬ

**3**

5 гадоў назад (1966) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мінск быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

50 гадоў з дня нараджэння (1921) І. І. Гарэліка, доктара юрыдычных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.



І. І. Гарэлік.

**5**

**Дзень Канстытуцыі СССР.**

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) І. І. Васілеўскага, паэта і перакладчыка.



І. І. Васілеўскі.

**9**

80 гадоў з дня нараджэння (1891) М. А. Багдановіча, выдатнага беларускага паэта. Памёр у 1917 г.

**10—16**

50 гадоў назад (1921) працаваў III Усебеларускі з'езд Саветаў.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) П. В. Астапені, доктара медыцынскіх навук, прафесара Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

П. В. Астапеня.







Фота **А. Дзітлава.**

**Зямля беларуская... Брэст... Легендарная крэпасць над Бугам, крэпасць-герой... У суровыя дні 1941 года бессмяротны гарнізон яе прыняў на сябе страшэнны ўдар адборных часцей фашысцкіх захопнікаў. У агні і полымі плавілася зямля і жалеза, а людзі трывалі, людзі стаялі насмерць. Паміралі, але не здаваліся. І перамаглі. Назаўсёды засталіся ў памяці народнай, у сэрцах удзячных нашчадкаў.**

**25 верасня на гэтай зямлі, кожная пядзя якой паліта крывёю мужных сыноў Радзімы, адкрыўся мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».**



С. Х. Александровіч.



А. А. Есакоў.



Я. М. Палосін.

**15**

50 гадоў з дня нараджэння (1921) С. Х. Александровіча, крытыка і літаратуразнаўцы.

**17**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) І. Л. Дорскага, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтва БССР. Памёр у 1964 г.

**18**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) А. А. Есакова, літаратурнага крытыка.

**19**

30 гадоў назад (1941) загінуў Л. М. Даватар, генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза.

**24**

65 гадоў назад (1906) адбылася канферэнцыя сялян Аршанскага павета, скліканая мясцовай групай РСДРП.

**26**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) Я. М. Палосіна, народнага артыста СССР, артыста Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя А. М. Горкага.

**26—28**

50 гадоў назад (1921) адбылася 1-я Усебеларуская канферэнцыя бібліятэчных работнікаў.

**27**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) С. І. Карабана, доктара філалагічных навук, прафесара Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.



# МАРА АБ ПРЫГОЖЫМ ЧАЛАВЕКУ

З юнацкіх гадоў мы ведаем імя прасветленае — Талстой. І з юнацкіх гадоў мы чуем змрочнае — Дастаеўскі. Геній эпічны, які апявае вечнасць жыцця. І геній-пакутнік, які крычыць пра яго трагізм. Адзін вабіць глыбінямі спакойнымі і мудрымі. Другі прыцягвае бяздоннем трывог. І абодва з аднолькава велізарнай сілы думкаю звернуты да нас, у будучыню.

Але як па-рознаму гучаць іх пытанні, звернутыя да чалавека! Талстой думае, узважвае, вучыць, чакае. А Дастаеўскі чакаць не можа. Ён успрымае сваю эпоху як нешта хаатычнае, няўстойлівае, пераходнае. Ён бачыць у гэтым хаосе блізкую катастрофу. І ў яго няма часу чакаць. Ён павінен цяпер, на працягу кароткага свайго жыцця, даведацца ці хоць бы адчуць, «ці перастане існаваць калі-небудзь хлусня на зямлі і ці збярэцца чалавек разам?» Будзе ён урэшце жыць у згодзе з самім сабой і са сваім светам ці не будзе? І Дастаеўскі быццам накідваецца на чалавека: сам жахнуўшыся ад дысгармоніі жыцця, ён разбурае ў чалавеку ўсю яго ўяўную закончанасць. Ён не дае яму апамятавацца і прымушае паказвацца такімі гранямі душы, якіх той і не падазраваў у сабе, а калі і здагадваўся смутна, дык не хацеў іх ведаць, баючыся і саромеючыся.

Ці меў на гэта права Дастаеўскі? Меў, таму што ён пакутаваў за чалавека і шукаў у ім чалавечае, як бы той нізка ні апусціўся. Але каб знайсці, яму даводзілася смела асвятляць даволі жахлівыя куткі. Святло, якім ён карыстаўся, часта дрыжала і міргала, у ім не ўсё бачылася правільна, але яно і не магло быць роўным і ўстойлівым, таму што думка Дастаеўскага дрыжала ад напружання, таму што сам ён разрываўся між двума полюсамі: бунт альбо вера?

Усё жыццё ён баяўся, што не паспее выказацца. Мноства людзей гаворыць з яго старонак. Але як толькі пачынае свае слова апошні — той, хто яго выклікаў на размову, ужо трывожна азіраецца, адчуваючы, што гэта зноў першы, толькі ўжо з наступнага ланцуга, а каго-небудзь «канчатковага» не відаць. І вось вагаюцца, вагаюцца шалі, што заварожвалі Дастаеўскага: то страх ад думкі, што нікога «канчатковага» няма, і ад гэтага — нясцерпная прага веры ў яго, то ўпэўненасць у яго існаванні, але разам з сумненнем у яго справядлівасці. «Я скажу вам пра сябе, што я — дзіця веку, дзіця сумнення і нявер'я да гэтага часу і нават (я ведаю гэта) да труны». Гэта пісаў Дастаеўскі ў адным са сваіх пісьмаў пасля выхаду з чатырохгадовай катаргі, перад адпраўкай у салдаты.

Недзе далёка, ззаду, быццам бы і не ў яго, а ў нечым другім жыцці, засталіся Пецярбург, здзіўляючы поспех «Бедных людзей», Бялінскі, які спачатку ледзь не на руках насіў яго, «новага Гогаля», а потым расчараваўся ў ім. Цяпер стаяў ён ля вытокаў новага жыцця, і цяжка было што-небудзь у ім прадбачыць. Але словы пра тое, што ён «да труны дзіця сумнення і нявер'я», аказаліся прарочымі. Што б ён потым ні пісаў, што б ні гаварыў пра бязвер'е, як бяздонне, дзе «ўсё дазволена», — усё роўна вера не была для яго ісцінай. На якія паднебныя вышыні ён ні ўзнімаўся — адусюль чуўся яму зямны голас чалавечых пакут.

«Мяне ўсё жыццё бог мучыў», — запіша ён аднойчы. Але яго ўсё жыццё мучыў чалавек. Ён задае яму бязлітасныя, нясцерпныя, праклятыя пытанні, сам б'ецца над імі, прыдумляе выйсце, упадае ў роспач, бачачы іх хісткасць, і, зноў накіроўваючыся ў пошукі, прапануе выказацца па сутнасці сваёй думкі самым розным сваім героям.

І адбываецца нечуванае. Кожны з галасоў тых, хто гаворыць, пераплятаючыся з другімі галасамі, прадаўжаючы ці перабіваючы іх, гучыць настолькі «асобна» ў агульным хоры, настолькі самастойна па змесце, што пачынае здавацца, нібыта ён жыве незалежна ад самога аўтара, які паспешліва запісвае яго словы. Але так толькі здаецца. Таму што гэта ён, Дастаеўскі, прымушае ўсіх сваіх герояў гаварыць на самай грані шчырасці, на поўным напале думкі і пачуцця.

Яны нібыта кідаюцца ў глыбіню сябе, свайго бачання свету і потым усплываюць з глыбіні, здзіўляючыся і адначасова ўпіваючыся сваёю шчырасцю, часта ведаючы, што гавораць гэта першы і, магчыма, апошні раз, што ў жыцці чалавек толькі ў адзін-адзіны момант можа вось так выказацца — ад гэтага ўзбуджанасць, быццам у гарачцы, і паўторы, блытанасць, сорам і лікаванне.

Быццам нехта нябачны стаіць за спіной герояў Дастаеўскага і просіць-моліць іх тут жа, цяпер выказацца па самых вечных і невырашальных пытаннях чалавечага існавання, пра тое, што іх мучыць, чаму яны не могуць быць шчаслівыя. Гэта сам ён, Дастаеўскі, прымушае іх выказваць тое, што выказаць амаль немагчыма, спрабуючы зноў і зноў прарвацца разам з імі да яснасці і святла.

Героі Дастаеўскага жывуць не столькі ў сваёй «плоці», колькі ў глыбінных духоўных рухах — супярэчлівых, якія пакутліва раздзіраюць іх свядомасць і прыводзяць да такіх шчырых прызнанняў у момант узрушэння душы. Узрушэння чым? Тым, што Дастаеўскі ўбачыў вакол сябе ў хвіліны трагічнага прасвятлення. І быццам кару за тое, што ўбачыў, ён асуджаны быў несці на сабе крыж чалавечых пакут. Ён нёс яго праз усё жыццё, праз усю творчасць і, шукаючы выйсця сам, прасіў і сваіх герояў шукаць яго. Што ёсць пакуты чалавечыя на зямлі, за што яны і ад каго? Ці мае права адзін чалавек прымусіць пакутаваць другога? Вялікае мноства людзей жыве і паміраė ў няшчасці! — у імя чаго? У імя будучай маральнай гармоніі? Але чалавек Дастаеўскага не прымае ўмоў, пры якіх яна можа быць дасягнута. Раскольнікаў здзекуецца з гэтых умоў. «...Такі працэнт, кажуць, павінен ісці кожны год... некуды... да д'ябла, мусіць, каб астатніх асвяжыць і ім не перашкаджаць. Працэнт! Слаўныя, дальбог, у іх гэтыя слоўцы: яны так супакойваюць, такія навуковыя. Сказана: працэнт, значыць, трывожыцца няма чаго. Вось каб другое слова, ну тады... было б, магчыма, трывожней...»

Гэтае «другое слова» называе Іван Карамазаў: «...уяві, што гэта ты сам узводзіш будынак лёсу чалавечага з мэтаю ў фінале ашчасліваць людзей, даць ім, нарэшце, мір і спакой, але для гэтага неабходна і немінуча трэба было б замучыць усяго адно толькі маленькае стварэнне, вось тое самае дзіцятка... ці згадзіўся б ты быць архітэктарам на гэтых умовах...» Дастаеўскі адмаўляецца ад вышэйшай гармоніі на гэтай аснове.

Але калі не дзеля гэтай самай гармоніі вялікае мноства людзей пакутуе ўсё жыццё, — пытаецца Дастаеўскі, — дык у імя чаго ж яшчэ? Яму хацелася б верыць: у імя бяссмерця. Яму хацелася б, але ці можа ён верыць? А што, калі... Але пра гэта страшна думаць, хоць і не думаць нельга. І чалавек Дастаеўскага крычыць: а што, калі няма бяссмерця? Тады адны пакуты на зямлі, і болей нічога, нідзе? Выходзіць, чалавек пракляты, а для праклятага не існуе нічога святога. Навошта ж тады сумленне, мараль? «Пераступай мяжу» направа і налева? Але ж гэта канец, разбурэнне чалавека. Апору, дзе яму знайсці апору? — ліхаманкава мітусіцца думка Дастаеўскага. Грамадства сацыяльнага братэрства? Зямное шчасце людзей? Так, ён болей за ўсё на свеце хацеў гэтага. Але праз рэвалюцыю, праз «бунт» прабіцца да шчасця чалавека ён не згаджаўся, таму што трагічна не бачыў у свой час, не мог бачыць у рэвалюцыі, як і Талстой, адзіна правільнага шляху.

Асуджаць яго за гэта? Можна абвінавачваць чалавека за нежаданне. Але як асуджаць яго за тое, чаго зрабіць ён не мог? Ён жа і ў той, свой час быў крыкам чалавецтва аб «прыніжаных і зняважаных», крыкам болю, смутку і прагі шчасця, які даляцеў да нас і чакае адказу ад нашага веку.





Не, Дастаеўскі — не мінулае. Ён — само сучаснае. Ён заўсёды быў па-за сваім дзевятнаццатым стагоддзем, яго думка заўсёды лунала ўперадзе часу. Ён не мог убачыць побач з сабой прыгажосць жыцця, прыгажосць чалавека, але ён не спыняўся ні перад чым, каб знайсці яе. Але такі чалавек у грамадстве, у якім жыў Дастаеўскі, быў ідыётам для ўсіх «нармальных». Дастаеўскі добра разумеў усю яго фантастычнасць. Але ён не мог адмовіцца ад самога сябе — мастака, які спрабуе дасягнуць недасягальнае, каб хоць на імгненне падняць заслону, якая аддзяляе яго герояў ад далёкага, светлага ідэала чалавечай асобы. Ён пільна ўзіраўся ў змрок і хаос свайго часу, імкнучыся ўбачыць у ім Прыгожага Чалавека.

Ідэя, мара аб Прыгожым Чалавеку была самай любімай ідэяй Дастаеўскага і яго пакутай, роспаччу. Дастаеўскі сутаргава абмацваў сцяну, аб якую ён біўся ўсё жыццё, шукаючы апоры для чалавека, які распадаўся на яго вачах і якога трэба было сабраць у адно цэлае. Аднак сцяна існавала не толькі для самога Дастаеўскага, але і для «дастаеўскіх чалавекаў»: яны разумелі, што ўбачыць са свайго жыцця хоць прыблізныя абрысы ідэала — немагчыма. Хрыстос? Але ж эпоха Дастаеўскага — гэта пачатак канца хрысціянства. І, разумеючы гэта, чалавек Дастаеўскага ўсё ж не можа прымірыцца з немагчымасцю ідэала. Адной часткай сваёй разарванай, «няшчаснай» свядомасці ён разумее, што перад ім — сцяна, а другою часткай, якая не разважае, не аналізуе, а проста імкнецца жыць, чаго б гэта ні каштавала, ён б'ецца аб гэтую сцяну, падкопваецца пад яе, караскаецца на яе і тут жа зрываецца, ледзь паспеўшы заўважыць нешта светлае, але настолькі невыразнае, што яго нават не выкажаш словамі. Трагедыя ў тым, што спрадвечнае імкненне чалавека да ідэала ў эпоху Дастаеўскага становіцца сапраўдным няшчасцем і толькі яшчэ болей адцяняе той змрок, з якога хацеў вырвацца чалавек. Трагедыя — у імкненні да ідэала і ў яго крайняй невыразнасці.

Але нідзе, ніколі ў сваёй творчасці Дастаеўскі не пакідае сваіх герояў, якім ён сімпатызуе, у тупіку безвыходнасці — як бы яны ні «даказвалі» яе сабе. Жахі, якія іх мучаць, могуць адабраць у іх розум, могуць загубіць, але думку, выпакутаваную і заяўленую імі на ўвесь голас, трывожнае свячэнне іх душы — спыніць нельга. Гэтым святлом жыве мара пісьменніка аб прыгожым чалавеку, якая саграваля яго ў яго жудасным свеце. У свеце, дзе ён хацеў бы, але не мог абаперціся на які-небудзь іншы ідэал, чым Хрыстос. Дзе ён хацеў, усёй душою прагнучы ідэала, агаліць усё негатыўнае ў чалавеку наскрозь, вывернуць яго навыварат, каб ужо «да канца» раскапаць і ўзарваць усю «дрэннасць» чалавечую. Толькі тады можна па-сапраўднаму імкнуцца да ідэала. А спачатку — «развінчваць» усё ўжо вядомае ў чалавеку, статычнае і аднамернае — «развінчваць», як бы страшна і балюча гэта ні было. А гэта вельмі балюча — «праходзіць» чалавека наскрозь, прэпарыраваць яго свядомасць і псіхіку так бязлітасна, як рабіў Дастаеўскі. Але такі метад пісьменнік лічыў адзіна прыгодным для таго, каб «пры поўным рэалізме ўбачыць чалавека ў чалавеку».

Нярэдка можна пачуць: Дастаеўскі? У яго ж няма ідэала!

Няма? Дастаеўскі — геніяльны мастак. Многа пішацца пра яго як пра філосафа, псіхолага, публіцыста. Але і філосаф, і псіхолаг, і публіцыст — усё гэта грані Дастаеўскага-мастака. А ў мастака заўсёды ёсць ідэал, ён і робіць мастака — мастаком.

У юнацтве ён жыў і думаў як рамантык. Перад ім насілася «цудоўнае, узвышанае стварэнне, правільны абрыс чалавека, які далі нам Шэкспір і Шылер». А што потым? Шылер знік з яго свету? Не, але яму адкрыўся свет яго драм і вобразаў. «І пачала мроіцца мне тады другая гісторыя — у нейкіх цёмных закутках нейкае тытулярнае сэрца, сумленнае і чыстае... а разам з ім нейкая дзяўчынка, зняважаная і сумная, і глыбока разарвала мне сэрца ўся іх гісторыя». Так пачаўся ў Дастаеўскім рэаліст, так ён перамог у ім. І так рамантык застаўся непераможаным.

З самага першага поспеху свайго — з «Бедных людзей» — Дастаеўскі ідзе па слядах Гогаля. «Усе мы выйшлі з «Шыняля» Гогаля», — скажа ён пазней, а сам пачне скрупулёзна, быццам пад павелічальным шклом, даследаваць рэальнае жыццё. Пачне раскопваць у глыбіню тое, што пакі-

нута Гогалем, у пошуках чалавечага ідэала, які можна было б убачыць з таго жыцця, няхай хоць давядзецца для гэтага вывернуць гэтае жыццё навыварат.

Неймаверна цяжкую задачу ўзваліў на сябе Дастаеўскі. І трагічную. «Як многа ў чалавеку бесчалавечнага!», — усклікнуў Гогаль, і Дастаеўскі запомніў гэта. А потым убачыў сам. І пачаў паглыбляцца ў гэтае «бесчалавечнае», здымаючы з яго пласт за пластам і адшукваючы тое, што асабліва вострa адчувала патрэбу ў выратаванні. Макар Дзевушкін з «Бедных людзей», звар'яцелы Галядкін з «Двайніка», Прахарчын, які апускаецца ў духоўнае падполле, жывымі пахаваныя людзі з «Мёртвага дома» — Дастаеўскі нястомна «раскарчоўвае» сацыяльныя і гістарычныя ўмовы, у якіх пакутуе чалавек яго часу. Але вывесці яго да святла з поцемкаў ён не можа. Рэвалюцыйны выбух чалавек Дастаеўскага не прымае, бачачы ў ім яшчэ большы хаос і гвалт. Ён смутна ўсведамляе, што недзе ёсць святло, але прарвацца да яго не можа. Так паяўляецца падпольны «парадаксаліст». «Толькі я адзін, — напіша потым Дастаеўскі, — вывеў трагізм падполля, які заключаецца ў пакутах, у самапакаранні, ва ўсведамленні лепшага і ў немагчымасці дасягнуць яго, і галоўнае, у яскравым перакананні гэтых няшчасных, што і ўсе такія, а значыць, не варта і выпраўляцца! Што можа падтрымаць тых, хто выпраўляецца? Узнагарода, вера? Унагароды чакаць няма ад каго, верыць — няма ў каго. Яшчэ крок адсюль, і вось крайняя разбэшчанасць, злачынствы (забойства). Таямніца». Вось адкуль выходзіць Раскольнікаў, самапакараны філосаф злачынства. Вось дзе пачынаецца яго звядзенне рахункаў з сусветным злом. Вось чаму тэорыя «моцнага чалавека» адчувае патрэбу ў пятлі для сякеры, прышытай да падшэўкі паліто.

Узнагароды — няма ад каго, верыць — няма ў каго? Што ж далей? *Жахлівая* бесканечнасць, нішто? Дастаеўскі — супраць «нішто» ў чалавеку. Але чым ён можа падтрымаць яго?

«Даўно ўжо мучыла мяне адна думка, але я баяўся з яе зрабіць раман, таму што думка вельмі цяжкая, і я да яе не падрыхтаваны, хоць думка вельмі спакуслівая, і я люблю яе. Ідэя гэта — **паказаць зусім прыгожага чалавека.** Цяжэй за гэта, па-мойму, быць нічога не можа, у наш час асабліва... Ідэя гэтая і раней мільгала ў некаторым мастацкім вобразе, але ж толькі ў некаторым, а патрэбен поўны». «Прыгожае ёсць ідэал, а ідэал ні наш, ні цывілізаванай Еўропы яшчэ далёка не выпрацаваўся... баюся застрашэнна, што будзе поўная няўдача».

Вось так услед за «Злачынствам і пакараннем» паявіўся цудоўны, мілы і недарэчны «ідыёт».

Раман «Ідыёт» — гэта супрацьстаўленне маральнаму падполлю героя цэласнага і чыстага. Гэта роспачны рывок чалавека Дастаеўскага са змроку рэальнага жыцця «наверх», насустрач асобе-ідэалу, у якой пісьменнік хацеў убачыць поўную маральную і духоўную раўнавагу. Гэта нецярплівая, вольная спроба Дастаеўскага ажыццявіць урэшце сваю мару.

Тую мару, святло якой так ясна асвятліла думкі і сэрца Алёшы Карамазава — *апошняга любімага героя Дастаеўскага.*

Мару, дзеля якой Дастаеўскі бясстрашна асвяціў глыбіні чалавечай душы, нікому да яго не вядомыя. Дзеля якой ён, наш трагічны геній, усё жыццё пераступаў мяжу душэўных пакут, каб толькі не рассталіся з гэтаю мараю людзі.

**Алесь СТАНЮТА.**





● Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ЛЮБОЎ НЕ ПРАХОДЗІЦЬ

Ці можна палюбіць з першай сустрэчы? Я веру ў такую любоў, бо палюбіў адразу — усхвалявана, моцна і назаўсёды.

Развітаўся — думаў нешта паблякне ў памяці і ў сэрцы, заглухнуць пачуцці замілаванасці і здзіўлення.

Мінаюць дні — нішто не забываецца, любоў не праходзіць. Дзівішся, як раней жыў, не зведаўшы такой прыгажосці, сардэчнасці і шчырасці, неабдымнай дабраты, таленавітасці і мудрасці людзей і зямлі, з якімі сустрэўся.

Дарога мне прыносіць радасць сустрэч, адкрывае новых сяброў, вядзе ў нязведанае і дзівоснае. Таму заўсёды спяшаюся ў дарогу, як толькі яна пакліча.

Мая дарога пралегла над гарадамі і сёламі, над рэкамі і горнымі хрыбтамі, затканымі лёгкімі майскімі воблакамі. За намі засталіся тысячы кіламетраў. Раніцою Мінск праводзіў нас спорным даджджом, Алма-Ата ж сустракала зорным небам і сухою гарачынёю паўднёвай ночы.

Мы прыляцелі ў не вядомы дагэтуль горад і — пераляцелі ў наступны дзень: перавялі наперад гадзіннікі і перагарнулі лісток календара.

Ноччу праехалі праз увесь горад і не ўбачылі горада. Наўкол — зялёны густы парк, заліты неонавым святлом. Толькі святафоры на скрыжаваннях ды запозненыя парачкі закаханых сведчылі, што мы не ў загарадным парку, а на вуліцах вялікага горада.

Шмат гарадоў давялося пабачыць мне, а такога зялёнага, як Алма-Ата, ніколі яшчэ не сустракаў. Уздоўж шырокіх праспектаў у арыках булькае, пабліскваючы, вада, трапечуць празрыстыя лісты, на скверах гараць ружовым і белым агнём півоны. Узышоў месяц, і нас здзівілі велічныя снежныя вяршыні Ала-Тау. Яны зіхацелі ў блакітным ззянні. Здавалася, пяройдзеш вуліцу — і дабяжыш да іх за некалькі хвілін. На самай справе да зялёных горных схілаў было не менш як 30 кіламетраў.

На кожным кроку мы адкрывалі для сябе дзівосны горад, а наперадзе было адкрыццё Казахстана — зямлі мудрага, таленавітага і мужнага народа.

Нашы сябры, казахскія пісьменнікі, запрасілі Алеся Савіцкага, Язэпа Семяжона і мяне на свой пісьменніцкі з'езд і на святкаванне 125-годдзя з дня нараджэння класіка казахскай літаратуры, выдатнага асветніка, філосафа, паэта і кампазітара Абая Кунанбаева. У сталіцу Казахстана на форум літаратараў і свята паэзіі вялікага Абая з Масквы прыехалі Аляксандр Чакоўскі і Роберт Раждзественскі, Сяргей Маркаў і Зоя Кедрына, з Ленінграда — старэйшы паэт, перакладчык твораў Абая Усевалад Раждзественскі, з Украіны — Алесь Ганчар і Мікола Зарудны, з Туркменіі — Берды Кербабаеў, з Кабардзіна-Балкарыі — Кайсын Кулііеў, з Далёкай Якуціі — Эляй, з Таджыкістана — Мумін Канаатаў. Прадстаўнікі ўсіх савецкіх літаратур сабраліся ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета рэспублікі, каб парадавацца поспехамі і здабыткамі братняй літаратуры, выказаць свае думкі пра казахскую прозу, паэзію, драматургію, перадаць прывітанні і найлепшыя пажаданні сябрам па літаратурнай працы.

На з'ездзе пісьменнікаў Казахстана вельмі яскрава пацвердзілася прароцтва У. І. Леніна, што «літаратурная справа павінна стаць часткаю агульнапралетар-

скай справы». Рабочыя, настаўнікі, бібліятэкары, вучоныя, студэнты, людзі самых розных прафесій з выключнай зацікаўленасцю слухалі мудрае ўступнае слова акадэміка Габіта Мусрэпава, даклады Ануара Алімжанава і Маўленава, Івана Шухава і Есянжанава. У кулуарах дзяліліся сваімі думкамі з любімымі пісьменнікамі, спрачаліся з аўтарамі толькі што прачытаных кніг. Пра папулярнасць казахскай літаратуры сведчыць хоць бы тое, што часопіс Саюза пісьменнікаў «Жулдыз» выходзіць тыражом 300 тысяч экземпляраў. Сотнямі тысяч экземпляраў выдаюцца лепшыя творы казахскіх пісьменнікаў і праз які месяц становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Савецкая літаратура акружана пастаянным клопатам і ўвагай партыі і ўрада. Мы добра помнім, як уважліва і зацікаўлена на нашым пісьменніцкім з'ездзе слухаў кожную прамову Пётр Міронавіч Машэраў. Так на з'ездзе пісьменнікаў Казахстана, мабыць, самымі ўважлівымі слухачамі былі член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Кампартыі Казахстана Дзінмухамед Ахмедавіч Кунаеў, члены ўрада рэспублікі, загадчык аддзела культуры ЦК КПСС Васіль Філімонавіч Шаура.

У першы ж дзень з'езда, як толькі трошкі апала гарачыня, мы паехалі ў Джамбульскі раён, на радзіму славутага акына.

За горадам пачыналіся стэпы. На гарызонце сінелі невысокія сопкі, на іх схілах, нібыта лапікі снегу, бялелі чароды авечак, у далінах пасвіліся вялікія статкі страката-чырвоных кароў. Абапал дарог шумелі стромкія таполі. Яны шумяць няспынна. Стэп заўсёды дыхае то снежнымі буранамі, то гарачынёю, то лагодным веснавым ветрыкам. Таполі шумелі над намі да самага Джамбулавага аула. Наўкол кавылём срабрыцца бязмежны стэп, на небасхіле сінеюць далёкія задуменныя горы, а радзіма славутага акына здаецца дзівосным зялёным аазісам сярод неабдымных прастораў.

У засені дрэў стаіць невялікі домік Джамбула. У ім акын пражыў апошняе дзесяцігоддзе. Цяпер гэта музей, але музей без звычайнай музейнай цішыні. Тут гучыць Джамбулава дамбра, не сціхаюць яго песні і вершы, а з партрэтаў глядзяць добрыя мудрыя вочы славутага сына стэпаў, што за стагоддзе змераў іх удоўж і ўпоперак, што зведаў паншчыну і ўладу чатырох цароў, перажыў каля дзесятка войнаў, быў сведкам трох рэвалюцый і ў сваіх песнях усláвіў наш велічны савецкі час, гераізм народа ў барацьбе з фашызмам.

Убачыўшы на стэндзе пажоўклую лістовачку, аддрукаваную некалі ў блакіраваным Ленінградзе, паэт Усевалад Раждзественскі доўга праціраў акуляры. Задыхаючыся ад хвалявання, ён расказаў, як у 1942 годзе ленінградцы і байцы Ленінградскага фронту, нібыта да самага зыркага вогнішча, што саграваць душы, цягнуліся да мужнага і мудрага слова Джамбула: «Ленінградцы, дзеці мае!». Голас стэпавага арла даваў сілы агаладалым і схаладалым абаронцам горада на Няве.

На сцяне вісіць дамбра Джамбула. З ёю ён не разлучаўся ніколі. Вакол дома — сад, пасаджаны рукамі вялікага акына, выгадаваны яго сынамі і ўнукамі. Над садам узвышаецца купал і мармуровыя зубцы помніка-пахавальні Джамбула. Праз высокія спічастыя праёмы ў сценах стэпавыя вятры прыносяць сюды пах палыну, на мармуровых плітах зіхацяць водбліскі заранак і барвовы прамень вечаровага сонца, вянком кладуцца збітыя дажджом тапалёвыя лісты...

Пасля спякоты навальніца наляцела імгненна. Адразу сцямнела, загуло, заблішчала і раскалолася неба, шквальны вецер загайдаў стромкія таполі, забарабаніў спорны дождж. А нас прытуліла прасторная юрта Джамбула. Яна стаіць за домам у засені дрэў. Ні вецер, ні маланкі, ні дождж не страшныя ў ёй. Барабаняць кроплі па белай кашме, у піялах пеніцца хмельны кумыс. Яго разлівае маўклівая немаладая казашка, а высокі, з калёнаю бронзаю твару сын Джамбула ўвішна частуе гасцей у бацькоўскай юрце, адкуль разляцелася па свеце столькі песень яго бацькі. Побач з намі, па-ўсходняму падкурчыўшы ногі, сядзіць вядомы чылійскі фалькларыст і літаратар Муньос Эспіноса Дыега і на пявучай іспанскай мове чытае вершы славутага акына, народжаныя ў гэтых бяскрайніх стэпах, упершыню праспяваныя пад гукі старэнькай дамбры, з якою ледзь не дзевяноста гадоў не разлучаўся Джамбул. Ён быў нашым сучаснікам і равеснікам вялікага Абая.

Абай Кунанбаеў! Яго першыя песні ведаў напамяць у маладосці Джамбул, апошняя — прагучала ледзь не семдзесят гадоў назад. Вершы Абая сталі кнігамі толькі ў наш савецкі час, у іх выраслі магутныя крылы і панеслі іх па ўсім свеце.

На юбілей вялікага сына казахскіх стэпаў з'ехаліся не толькі пасланцы ўсіх народаў Савецкай краіны. На зямлю Абая з Балгарыі прыляцеў Георгі Струмскі, з Манголіі — Дэмбегійн Мягмар, з Венгрыі — Іштван Кормаш, з далёкай Чылі — заўсёды ўзрушаны і натхнёны Муньос Дыега. Нас паклікаў сюды Абай, яго стэпы, яго паэзія. Але стэпы ўжо не тыя, якія некалі бачыў паэт са сваёй юрты. І землякі яго сталі зусім іншымі. Пра будучае шчасце свайго народа марыў Абай у сваіх «Павучэннях»: «Трэба дамагчыся, каб народ даў сродкі, неабходныя для навучання дзяцей і іх утрымання. І вось тады, калі юнакі і дзяўчаты ўзбагацяць сябе ведамі, а іх састарэлыя бацькі ўжо не будуць кіраваць стэ-







Ідуць і ідуць людзі ў маўзалей Джамбула.

памі, магчыма, тады казахі і выправяць сваё незайздроснае становішча».

І ўсё ж самая смелая фантазія вялікага паэта, гуманіста і асветніка не магла ўявіць сённяшні Казахстан. Не вельмі выразна ўяўлялі і мы, чым жыве гэтая вялікая рэспубліка, роўная між роўных рэспублік-сясцёр.

Перад падарожжам па дарогах Абая Кайсын Куліеў сказаў: «Мы хочам прайсці па тых сцежках, па якіх хадзіў Абай, падыхаць паветрам, якім ён дыхаў, сваімі вачыма ўбачыць стэп, які натхняў паэта на стварэнне бессмяротных твораў».

Але перш чым выправіць у падарожжа, якое павінна было нам адкрыць бяскрайнія прасторы казахстанскай зямлі, нас запрасіў да сябе член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана таварыш Кунаеў. Напярэдадні мы слухалі яго прамову на адкрыцці вечара, прысвечага 125-й гадавіне з дня нараджэння Абая, і кожны пераконваўся, што гаворыць дасведчаны ва ўсіх тонкасцях творчасці натхнёны літаратуразнаўца. Цяпер перад намі быў географ і эканаміст, інжынер і аграном, металург і хімік. Усе рысы, усе веды спалучаліся ў асобе кіраўніка камуністаў Казахстана. Прастата, натуральнасць, шчырасць паводзін і інтанацыі, чалавечая абаяльнасць гаспадара адразу стварылі атмасферу ўзаемаразумення, далікатнай раскаванасці кожнага ўдзельніка сустрэчы. Здавалася, агромністую рэспубліку, што працягнулася на 1800 кіламетраў з поўначы на поўдзень і на 3 тысячы кіламетраў з захаду на ўсход, таварыш Кунаеў ведае лепш за свой кабінет, памятае ўсе лічбы, прозвішчы дырэктараў камбінатаў і саўгасаў, геолагаў і нафтавікоў. Неяк між іншым ён сказаў нам, што ў нетрах Казахстана знаходзяцца ўсе элементы табліцы Мендзялеева, што з ча-

тырох буйнейшых вугальных басейнаў Саюза — два на зямлі Казахстана. Тут і славуты Сакалоўска-Сарбайскі металургічны камбінат. Нядаўна я бачыў, як у домнах і мартэнах Магніткі кіпіць казахстанская руда і якая цвёрдая сталь выходзіць з яе.

— У Карагандзе,— расказваў таварыш Кунаеў,— будуецца металургічны камбінат з двума буйнейшымі ў Еўропе і ў Азіі канвертарамі. 16 мільёнаў тон нафты ў год дае паўвостраў Мангышлак. Бліжэйшая задача — здабываць 30 мільёнаў тон. Паўладарскі завод будзе даваць краіне дзесяткі тысяч трактараў у год. Пяцісоткіламетровы канал Іртыш-Караганда поіць жыватворнаю вадою казахстанскія стэпы.

Пасля Расійскай Федэрацыі Казахстан займае другое месца ў Саюзе па вырошчванні збожжа. Хлеб з казахстанскай пшаніцы па праве завуць хлебам дружбы. Яго супольна сеюць, даглядаюць і малоцяць рускія і казахі, украінцы і беларусы. Больш за 200 тысяч нашых землякоў працуе ў саўгасах, на шахтах, на заводах і фабрыках рэспублікі.

Казахстан — рэспубліка шчырага братэрства савецкіх народаў. Прадстаўнікі 122 нацыянальнасцяў і народнасцяў разам працуюць, сябруюць і шчасліва жывуць на гэтай зямлі.

«Сутнасць чалавека,— некалі пісаў Абай Кунанбаеў,— складаюць любоў, справядлівасць і душэўнасць. Людзі не могуць абыходзіцца без гэтых асноў». Мары народнага песняра збыліся ў савецкі час: на яго зямлю прыйшлі справядлівасць, любоў і шчырасць.

Перадавая навука, высокая культура, літаратура і мастацтва створаны некалі забітым, абяздоленым вандроўным народам. Савецкая навука ганарыцца адкрыццямі, вырашэннем актуальных праблем вучонымі Казахстана. Здабыткі празаікаў, паэтаў, драматургаў і літаратуразнаўцаў яскрава прадэманстраваў пісьменніцкі з'езд рэспублікі. Вялікія тыражы, высокая паліграфічная культура усіх выданняў, чытацкі попыт на літаратуру сведчаць пра яе папулярнасць у народзе.

У Алма-Аце толькі што адкрылася новая рэспубліканская бібліятэка. Падобных на яе я яшчэ не бачыў нідзе. Часцей за ўсё бібліятэкі і музеі размяшчаюцца ў старых або прыстасаваных будынках. Гэтая ж пабудавана па апошнім слове архітэктурнага мастацтва і сучаснай тэхнікі. Архітэктары ўлічылі ўсё: у спёку можна перайсці ў чытальню без сцен. Яе прадзімае вецер з вяршынь Ала-Тау, вільгацю і прахаладай дыхаюць іскрыстыя фантаны, што б'юць побач, адразу за парэнчамі чытальні. У зімовую сцюжу падаецца цёплае кандыцыяванае паветра. Усе чытальныя залы, студыі для праслухоўвання музычных твораў і кабінеты засланы дыванамі і дарожкамі. Бясшумныя ліфты дастаўляюць патрэбныя кнігі са сховішча, а пасярэдзіне залы загараецца табло з нумарам стала і месца чытача, які заказаў кнігу.

Тут абсталяваны найноўшай радыёапаратурай спецыяльныя кабіны для праслухоўвання лекцый па фанетыцы і лексіцы еўрапейскіх і ўсходніх моваў. У фанатэцы можна атрымаць і тут жа праслухаць любы твор сімфанічнай, опернай, народнай і папулярнай музыкі, узяць любыя ноты і ў спецыяльнай студыі праіграць на піяніна. Ва ўсім будынку выдатная гукаізаляцыя.

Больш за тры мільёны кніг ужо стаяць на паліцах гэтай выдатнай бібліятэкі. Кожны дзень папаўняюцца фонды навінкамі па розных галінах ведаў, паступаюць рэдкія выданні мінулага, выяўленыя ў розных кутках рэспублікі.

Утульныя залы, чытальні, студыі і кабінеты бібліятэкі ўжо запоўнілі вучоныя, студэнты, прапагандысты, рабочыя, вучні. Шапацяць старонкі, загараюцца і тухнуць інфармацыйныя табло, нячутна плывуць транспарцёры са старажытнымі фаліянтамі, падручнікамі і самымі свежымі навінкамі, што яшчэ пахнуць друкарскай фарбай.

А мастацтва! Да яго мы далучыліся сэрцам, яно захапіла і зачаравала кожнага, хто слухаў яскравы, самабытны, выключны па глыбіні і мастацкай дасканаласці канцэрт на юбілейным абаеўскім вечары.

Гэта было сапраўднае свята нацыянальнага мастацтва, што ідзе з глыбінь народнай душы і ўзбагачаецца ўсімі здабыткамі вакальнай, музычнай і харэаграфічнай культуры свету. На простых народных інструментах, што са стэпавых прастораў прыйшлі на вялікую сцэну, аднолькава натхнёна гучаць каларытная «Сары-Арка» і ўступ да оперы «Кармэн». Усіх зачароўвала салістка ансамбля «Гульдар» Айдаўлетава, а народная артыстка СССР Тулягенава сваім сапраўды анёльскім голасам, непаўторнай абаяльнасцю і артыстызмам адкрывала прыгажосць, глыбіню і сілу казахскай песні. Яна як бы гіпнатызавала кожнага, пераносячы ў казачны свет дзівоснага.

Назаўтра пасля гэтага незабыўнага канцэрта мы разам са славутай артысткай ляцелі на радзіму Абая ў Семіпалацінск. У глыбокім крэсле сядзела тоненькая, крышку стомленая, прыгожая ўсходняя прыгажосцю жанчына. У аэрапорце яна прыкметна хвалявалася. Славутую артыстку сустракаў вялікі натоўп людзей рознага ўзросту. Пачаліся шчырыя абдымкі і пацалункі. Толькі тут я даведаўся, што Семіпалацінск — радзіма Тулягенавай. Некалькі гадоў назад яна тут працавала ў кансервавым цэху мясакамбіната і спявала ў калектыве самадзейнасці. Яе заўважылі на рэспубліканскім аглядзе, прынялі ў кансерваторыю,



залічылі салісткай рэспубліканскага тэатра оперы і балета імя Абая. За некалькі апошніх гадоў народная артыстка Савецкага Саюза Тулягенава пакарыла сэрцы мільёнаў аматараў песні нашай краіны і Заходняй Еўропы. Яе непаўторны голас гучаў на сцэне Вялікага тэатра СССР і Крамлёўскага палаца, яго з замілаваннем слухалі ленінградцы і мінчане, рыжане і ўладзівастокцы.

А як яна спявала ў родным горадзе на канцэрце, прысвечаным юбілею Абая! Яе не адпускалі больш за гадзіну. Казахскія песні і арыі з опер змяняліся рускімі, украінскімі, літоўскімі і польскімі песнямі. Пасля канцэрта яна ціхенька напявала нам нашы беларускія песні з бездакорным вымаўленнем кожнага слова і абяцала прывезці іх у нашу рэспубліку. Потым загадчык аддзела культуры ЦК Казахстана Міхаіл Іванавіч Ісіналіеў расказваў нам, якім поспехам карысталася Тулягенава ў Манрэалі, калі ў часе выстаўкі праводзіўся дзень Казахскай рэспублікі. Многім не верылася, што спявае казашка, якая нядаўна была простай работніцай кансервавага цэха. Нават жартавалі канадцы: «Ад кансерваў да кансерваторыі і на сцэны лепшых тэатраў свету».

Такі шлях аднае з нашчадкаў Абая, яго зямлячкі, слаўнай дачкі народа, узнятага Вялікім Кастрычнікам да нябачных вяршынь творчасці.

Я крыху здзівіўся, чаму ў нашага ўважлівага і мілага спадарожніка Ісіналіева такое не казахскае імя — Міхаіл Іванавіч. Пазней даведаўся, что ў часе вайны хлапчук з далёкага аула трапіў у дзіцячы дом на Урале. Ніхто не ведаў, як яго завуць, як звалі яго бацьку. Вось і «ахрысцілі» яго Міхаілам Іванавічам. Засталося толькі сваё прозвішча. Хлапчук атрымаў адукацыю, стаў вядомым камсамольскім работнікам, закончыў Вышэйшую партыйную школу і Акадэмію грамадскіх навук. Цяпер ён дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, загадчык аддзела культуры Цэнтральнага Камітэта партыі Казахстана, вялікі друг пісьменнікаў, артыстаў і мастакоў. А вандруючы па дарогах Казахстана, стаў нашым добрым і шчырым другам. Яго разважанні пра літаратуру, мастацтва, пра гісторыю свайго народа, пра актуальныя праблемы нашага часу захапляюць глыбінёй ведаў, тонкім густам, дакладнасцю поглядаў і ацэнак.

Так мы паступова адкрывалі для сябе вялікую дзівосную краіну бязмежных стэпаў і гор, незлічоных багаццяў, яскравых чалавечых біяграфій і талентаў ратнага і стваральнага подзвігу.

Ад'язджаючы ў Казахстан, я ведаў дзесяткі прозвішчаў сыноў казахскага народа, што за вызваленне беларускай зямлі ад фашызму былі адзначаны высокім званнем Героя Савецкага Саюза. Я ведаў, што Айтыен Ібраеў вызваляў Мінск, што яго ўзвод знішчыў 192 фашысты і 12 кулямётных гнёздаў, а Сундуткалі Ісkалієў 24 чэрвеня 1944 года каля Быхава закрыў сабою амбразуру варожага дзота. Героямі сталі Ізгуты Айтыкаў і Абдула Жанзалаў за фарсіраванне Заходняй Дзвіны. Імёны, імёны казахскіх сыноў. Іх магілы — на ўзбярэжжах нашых рэк, на скрыжаваннях гасцінцаў, а памяць і слава — у нашых сэрцах.

Мы скрозь сустракалі былых воінаў усіх беларускіх франтоў, колішніх партызанаў з розных брыгад і злучэнняў. Яны распытвалі пра Чашнікі і Лоеў, пра Барысаў і Ракаў, успаміналі імёны праслаўленых партызанскіх камандзіраў, прыгадвалі ўсю лясную геаграфію Беларусі.

Дваццацідвухгадовы Калыбай Таскулаў пасля баёў на Дняпры каля Лоева напісаў свайму бацьку ў калгас «Энбейшы»:

**Меня через Днепр мой народ перенёс,**
**Сквозь шум, сквозь мрак непогоды,**
**Чтоб больше не видели горя и слёз**
**Могучие светлые воды.**
**Свой долг до конца я исполнить клянусь,**
**Изгоним врага, и тогда я вернусь**
**Героем к родимому дому.**

І ён вярнуўся Героем Савецкага Саюза ў родны калгас Акса-Ата Бастан, выканаўшы святы абавязак сына краіны Саветаў.

Дзе б я ні быў, з кім бы ні сустракаўся — усюды знаёміўся з мудрымі і шчырымі сябрамі, што змагаліся за нашу свабоду, што трацілі сяброў і пралівалі кроў на беларускай зямлі. Якое вялікае, якое магутнае наша братэрства, якая чысціня і сіла адданасці ў нашай дружбе, у нашым адзінстве!..

А Казахстан яшчэ быў наперадзе. Казахстан быў за імклівымі водамі Іртыша, за смугою ўзгор'яў. У палынныя стэпы вялі нас дарогі Абая.

Перш за ўсё тут здзіўляюць адлегласці і маштабы. Ад Алма-Аты да Семіпалацінска мы праляцелі 1.112 кіламетраў і апынуліся ў новым сучасным горадзе на беразе Іртыша. Там-сям на ўскраінах яшчэ засталіся прысадзістыя купецкія асабнякі і саманныя хаціны колішняй беднаты. Іх захоўваюць як напамінак мінулага, як экспанаты гісторыі. Цяпер Семіпалацінск — горад студэнтаў медыцынскага, педагагічнага інстытутаў і 17 тэхнікумаў, горад сучасных шматпавярховых дамоў, палацаў і паркаў.

Сюды, у горад Семей, як называюць Семіпалацінск казахі, у 1855 годзе з бяскрайніх Жыдэбайскіх стэпаў прывезлі на вучобу дзесяцігадовага Абая. Тут ён далучыўся да выдатных здабыткаў сусветнай культуры і літаратуры, адкрыў для сябе і сваіх супляменнікаў творы Пушкіна, Лермантава і Талстога. Раздзелы «Яў-

Помнік Енлік і Кебеку.



геніяАнегіна», перакладзеныя Абаем, сталі любімымі народнымі песнямі і сёння гучаць у гарадах і ў стэпах Казахстана. У Семіпалацінску Абай пазнаёміўся з ссыльнымі рускімі рэвалюцыянерамі Міхаэлісам, Гросам, Даўгаполавым, Ляонцевым і Лабаноўскім. На ўсё жыццё стаў іх сябрам і аднадумцам, паплечнікам у асветніцкай і дэмакратычнай дзейнасці.

Дакументы, фотаздымкі, успаміны яго сучаснікаў, сабраныя ў літаратурна-мемарыяльным музеі Абая, расказваюць пра нялёгкі шлях і подзвіг заснавальніка пісьменнай казахскай літаратуры, выдатнага асветніка, мысліцеля, гісторыка, кампазітара, а ў першую чаргу — вялікага паэта Абая Кунанбаева.

У адзін час з Абаем у Семіпалацінску жыў пасля Омскага катаржнага астрога радавы сёмага Сібірскага лінейнага батальёна Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. Тут ён зведаў знявагу і гора, галечу і крыўду, муштру салдафонаў і радасць першага кахання да Марыі Дзмітраўны Ісаевай, тут пісаліся і задумваліся яго многія творы, што прынеслі сусветную славу рускай літаратуры.

Мы адшукалі на ўскраіне ціхай вуліцы дом-музей Дастаеўскага. Першы паверх атынкаваны і пабелены, другі — складзены з тоўстых бярвенняў. Маленькія вокны і адзінокая таполя перад імі. Тут жыў геніяльны пісьменнік і вялікі пакутнік, тут ён разам з выдатным сынам казахскага народа Чаканам Валіханавым марыў пра будучае абяздоленага народа. Дастаеўскі бываў у дамах, куды часта заходзіў Абай, хадзіў з ім па адных сцежках, ездзіў па пыльных стэпавых дарогах, праз так званы стужачны бор, што шырокаю паласой цягнецца ад Семіпалацінска аж да Алтая. Па гэтых дарогах праехалі і мы да аула Абая, да яго апошняга прыстання.

За Іртышом на ўсе бакі развінуліся стэпы. Блішчыць на сонцы пасівелы кавыль, на небасхіле ў блакітнай смузе то з'яўляюцца, то знікаюць сопкі і курганы. І зноў кавыльнае бязмежжа. Раптам недзе далёка-далёка блісне азёрная роўнядзь, кусты і купчастыя дрэвы на ўзбярэжжы. А выскачыш на ўзгорак — і ўсё знікла.

— Не дзівіцеся, гэта міраж,— спакойна тлумачыць сакратар абкома партыі Нігмет Канужанавіч,— за далёкую дарогу ўсяго навярзецца. Каб трапіць, напрыклад, у Маканчынскі раён, трэба праехаць семсот кіламетраў. А па дарозе сустрэнеш тры-чатыры паселішчы або зімоўкі чабаноў. У далінах, падобныя на кучавыя воблакі, пасвяцца вялікія атары авечак і табуны коней з жарабяткамі. Сакратар абкома расказвае, што кожны калгаснік трымае не толькі карову і некалькі авечак, але і кабылу: улічваюцца нацыянальныя асаблівасці і традыцыі народа, які ўсё жыццё п'е кумыс. Мы не раз адчулі яго гаючую сілу ў сваім доўгім падарожжы па стэпавых дарогах. Пасля самай вялікай стомы і смагі дзве піялы кумысу вярталі бадзёрасць і сілу, добры настрой і весялосць.

Доўгая калона нашых машын спынілася каля ўзвышша. На яго вяршыні ўзняўся стромкі белы абеліск. На схіле стаіць некалькі па-святочнаму прыбраных юртаў. На абеліску напісаны два словы «Енлік-Кебек». Гэта імёны казахскіх Рамэо і Джульеты. Іх чыстае і вернае каханне прынесла ім пагібель і стала сімвалам адданасці і неразлучнасці закаханых сэрцаў.

На ўзвышша падняліся паломнікі па абаеўскіх мясцінах — вядомыя паэты і празаікі Масквы і Ленінграда, Літвы і Латвіі, Таджыкістана і Арменіі, Узбекістана і Якуціі. Стэпы пахнуць палыном і сонцам, на ўсходзе ледзь сінеюць горы — Вялікі і Малы Акшакы. Тоненькая смуглянка пачынае сумнае апавяданне пра вернасць і пакуты кахання Енлік і Кебека:

— Калісьці ў гэтых гарах жылі два варожыя роды Табыкты і Найман. Няпісаныя законы лютых баяў забаранялі нават сустракацца з суседзямі. А Енлік і Кебек сустрэліся і пакахалі адно аднаго. Яны пакінулі свае аулы, уцяклі ў цясніну далёкіх гор і знайшлі сваё шчасце ў верным і шчырым каханні. Але не доўгім было шчасце. Іх высачылі, злавілі і прывялі на суд раз'юшаных аксакалаў. Прысуд вынес люты Кенгірбай. Па яго загадзе прывялі двух дзікіх жарабкоў. Да хваста аднаго прывязалі прыгажуню Енлік, да другога — статнага і дужага Кебека. Над крупамі адзічэлых коней засвістала камча, загікаў, затупаў раз'юшаны натоўп. Ірвануліся коні і панеслі па Ералінскім стэпе закаханых пакутнікаў. Толькі пыл закурыўся следам. Енлік і Кебека знайшлі і пахавалі на гэтым узвышшы. Іх каханне і смерць перайшлі ў легенду. Яе часта расказваў Абай сваім вучням і ссыльным сябрам. Сын Абая, Магаўя, таксама паэт, казахскім Рамэо і Джульеце прысвяціў натхнёную паэму. Першая п'еса Мухтара Ауэзава «Енлік і Кебек» была пастаўлена самім аўтарам у ауле Ой-Кудук 7 чэрвеня 1917 года. З гэтага спектакля пачынаецца гісторыя казахскага тэатра.

Нядаўна камсамольцы Семіпалацінскай вобласці над магілай Енлік і Кебека паставілі гэты абеліск. Ніхто і ніколі не абмінае яго...

Мы азіраемся на далёкія горы Акшакы. Адтуль ляцелі дзікія коні, што па волі лютага Кенгірбая сталі забойцамі закаханых. І, як міраж, перад вачыма праходзяць тыя далёкія і страшныя часы. Над юртамі, над гэтым журботным узвышшам з рэпрадуктара паплыла маладычная, шырокая, як стэп, славутая песня Абая. У ёй і шчымлівая туга, і светлая вера ў будучае народа.

Маладыя гаспадары запрашаюць на кумыс і чай. Каля кожнае юрты стаіць умывальнік з люстэркам і чыстым ручніком, пахне сунічным мылам і палыновым ветрам. На небе ні воблачка. Сонца смаліць — аж, здаецца, жалее стэп і засцілаецца слюдзяною смугою. Праплывае цень ад крылаў адзінокага беркута, што павольна кружыць у блакітнай бездані неба. З узвышша на дзесяткі кіламетраў на ўсе бакі разлеглася зялёнае стэпавае бязмежжа, атары ў нізінах і дзівосныя міражы на небасхіле. Там-сям бялеюць піраміды адзінокіх магіл. У юрце цень і прахалода, мяккія дываны, нізкія столікі застаўлены чабанскімі пампушкамі, вострым сырам і піяламі рэзкага халоднага кумысу.

Мне даводзілася бачыць шумную, з прынукаю гасціннасць каўказцаў і шчодрае вясёлае частаванне таджыкаў, настойлівыя запрашэнні піць і есці — сібіракоў, ды і нашы беларускія гасціны не абыходзяцца без прынукі і папрокаў у непавазе да гаспадыні або ў грэблівасці.

Гасціннасць казахаў надзвычай далікатная, стрыманая, нават маўкліва-сарамяжая. Моўчкі падліваюць кумыс, з ветлівай усмешкай прапануюць бішбармак, і ў кожным руху, у кожным паглядзе адчуваецца непадробная шчодрасць і шчырасць.

З юрты не хочацца выходзіць на спёку, зноў садзіцца ў напаленую, як духоўка, «Волгу», але кліча дальняя даро-



Гасцей запрашаюць у юрту.

га ў Абаеўскі раён, на радзіму вялікага паэта.

Зноў пыліць роўны бальшак.

Злева бялеюць новыя дамы, доўгія аборы, відзён высокі будынак Дома культуры.

— Гэта саўгас імя Мухтара Ауэзава,— тлумачыць Нігмет Канурханавіч.— Тут жыў род Ауэзавых, дзед Мухтара Амарханавіча некалі сябраваў з Абаем і многае расказваў свайму ўнуку, які потым стаў аўтарам славутага рамана «Шлях Абая». Цяпер саўгас імя Ауэзава — адзін з лепшых у вобласці па культуры земляробства і развіцці жывёлагадоўлі, па дабрабыце рабочых, па інтэлектуальным узроўні моладзі. А ведаеце, якія ў нас калгасы і саўгасы? Самы звычайны саўгас мае пяць-шэсць тысяч гектараў зямлі, некалькі тысяч авечак, коней, кароў. Усе работы механізаваны і электрыфікаваны. Скажыце там наша вялікае дзякуй за вашых слаўных «Беларусаў», за «Мазы» якія нас заўсёды выручаюць, і за дарожныя машыны!..

За вокнамі нашай «Волгі» ўжо не міраж, а сапраўдныя вялікія азёры, з чаротам на берагах, з трапятаннем качыных крылаў над маўклівай роўнядзю вады. Трапляюцца ў стэпах і салёныя азёры, каля дарогі часта прабіваецца сівізна саланчакоў, сухія калючкі, што гоніць вецер па бяскрайніх стэпах. Тут яны яшчэ не апаленыя сонцам, а зялёныя і сакаўныя...

Дарога агінае камяністыя Чынгізскія горы, і перад намі вырастае цэнтр Абаеўскага раёна сяло Карауыл. Побач з сучаснымі двух- і трохпавярховымі будынкамі сярэдняй школы і школы-інтэрната, дома культуры, раённых устаноў яшчэ стаяць даўгія саманныя без дахаў хаты. І яны — апошнія старонкі гісторыі ўчарашняга Казахстана, сведкі тае пары, калі тут жыў, пісаў свае несмяротныя творы Абай, калі ён на гарачым кані імчаўся ў суседнія аулы, вандраваў са сваім статкам па прасторах Жыдэбайскіх і Барсыкабайскіх стэпаў.

Цяпер яго дом стаў музеем, а мудрыя задуменныя вочы мармуровага Абая прагна ўглядаюцца ў далячынь і не пазнаюць родныя прасторы і сваіх адукаваных, вясёлых і гордых землякоў.

...Яны сышліся на вялікай плошчы — смуглявыя дзяўчынкі ў міні-спаднічках і прыгожыя юнакі ў модных касцюмах. Тут і аксакалы з рэдзенькімі сівымі барадкамі, у доўгіх халатах і авечых трывухах — на бронзавых тварах глыбокія маршчыны, нібыта клінапіс далёкай гісторыі. Здаецца, яны — сучаснікі і равеснікі Абая, жывыя героі яго паэм і вершаў. На плошчы мора галоў і твараў, нечым падобных і розных у сваёй адухоўленасці, задуменнасці і весялосці. Над плошчаю сонечны вецер калыша пятнаццаць сцягоў саюзных рэспублік. Нейк інстынктыўна пасланцы розных народаў Савецкай зямлі спыняюцца пад сваімі сцягамі. Пачынаецца кароткі эмацыянальны мітынг. Натхнёныя радкі Абая гучаць па-руску і па-эстонску, па-бурацку і па-беларуску:

**Падобна арлу,**
**Я сеў на скалу,**
**Крычу і чакаю спагады.**



Сышліся на свята землякі Абая.



Паляўнічы беркут прыехаў на машыне.

**Адказ прыляцеў,**
**І я захацеў**
**Абняць аднадумца і брата.**

Голас паэта — голас народа праз гады, праз стэпы і скалы дайшоў да братоў і аднадумцаў, і яны з усіх куткоў зямлі прынеслі сваю любоў і ўдзячнасць вялікаму сыну казахскага народа, прынеслі ў яго дом і на адзінокую магілу пашану і кветкі з далёкіх палёў. Мара паэта збылася: народы-браты і аднадумцы абняліся, каб заўсёды жыць у згодзе і шчасці, каб быць гатовымі засланіць сэрца і дом брата, так як у чэрвені 1944 года нашых дзяцей і сясцёр сабою засланіў Сундуткалі Іскаліеў.

Праўнучка Абая, дырэктар мясцовай школы Іскакава запрашае гасцей за ваколіцу аула на народнае гулянне і айтыс — традыцыйнае спаборніцтва паэтаў-імправізатараў.

Сорак юртаў з белай кашмы, аздобленай яскравымі ўсходнімі ўзорамі, стаяць у зялёным стэпе. Непадалёк, у засені маладых таполяў узвышаецца абеліск над магілай Абая. Нібыта голас самога Абая, гучаць радкі вершаў з вуснаў нашчадкаў вялікага паэта. Каля апошняе юрты стаіць невысокі дужы мужчына. Сухі твар адсвечвае чырвонаю меддзю, вузкія прыжмураныя вочы зорка ўзіраюцца ў далячынь. На ім святочны чапан — аксамітны, вышываны пакручастымі ўзорамі халат і такая ж высокая шапка, аблямаваная лісіным футрам. На яго сагнутай руцэ спакойна сядзіць вялізны, з рудымі падпалінамі на крылах беркут. І ён у святочным уборы: на галаве — чорны аксамітны шлемік з чырвонаю прошваю і прыгожым султанам на макаўцы. Дужыя парэпаныя кіпцюры ўчэпіста трымаюцца за рукаў гаспадара. Паблісквае круглае чырванаватае вока. Нечым разгневаны, беркут разявіў драпежную дзюбу, разгарнуў ледзь не двухметровыя крылы і накрыў гаспадара. Той сказаў нешта толькі ім абодвум зразумелае, і арол сціішыўся, згарнуў крылы, толькі трывожна паблісквў крывавым вокам. Прыручаны з маленства чалавекам, беркут стаў зрокам, слыхам і зброяй паляўнічага. Спушчаны з павадка, ён высока кружыць над стэпам, высочвае ахвяру, гоніць яе да поўнай знямогі, каменем падае на загнанага ваўка або лісу. Кароткая схватка, і ён ужо вяртаецца да гаспадара, каб паказаць яму здабычу.

Стары паляўнічы гладзіць шырокія плечы беркута і скардзіцца, што цяперашняя моладзь не хоча займацца арліным паляваннем, ляунецца выхоўваць і вучыць арлянят.

Стэп каля юртаў кіпіць ад стракатага людскога натоўпу. Змяшаліся самыя яскравыя колеры нацыянальных убораў. Ідуць статныя стэпавыя прыгажуні ў доўгіх, лёгкіх, як воблака, белых сукенках, у малінавых, цёмна-зялёных, блакітных, жоўтых кабаціках, вышытых самымі дзівоснымі ўзорамі, на галовах баярскія шапкі, усыпаныя блёсткамі і аздобленыя пер'ямі. Нібыта чароўныя феі з усход-

няе казкі, прыйшлі яны ў сённяшні дзень.

Кругом стаіць прыцішаны вялікі натоўп. Звіняць струны дамбры, а песня нябачнага спевака плыве над стэпам. Песня змяняе песню, потым гучаць то імклівыя, то павольныя рытмы вершаў. Успыхваюць шумныя воплескі і крыкі ўхвалы. Ідзе імправізаваны айтыс — спаборніцтва акынаў і мясцовых паэтаў.

Раптам натоўп расступіўся. Са стэпу на быстрым скакуне імчыцца коннік у чырвоным чапане. Пад'язджае бліжэй, і ў абліччы пазнаецца нешта знаёмае.

— Абай, Абай! — вітае яго натоўп, нізка кланяюцца ўсе ўдзельнікі айтыса. Артыст народнага тэатра, апрануты і загрыміраваны пад Абая, чытае запавет вялікага паэта:

**О ты, пясняр, мой друг і родны брат!**
**Пустому слову, знаю, ты не рад.**
**Якая ў іх карысць табе ці мне!**
**І талент твой не вернецца назад,**
**Калі загіне. Ты ж перад хлуснёй**
**Заўсёды стой як воін, як салдат!**

Звіняць домбры, над стэпам плыве задуменная песня Абая. У высокім цьмяным небе загараюцца зоры.

Апошні дзень на казахстанскай зямлі быў самы яскравы і незабыўны. Аул апусцеў яшчэ зранку. Нават няма ў каго спытаць дарогу. Хоць гэта не абавязкова. У стэпе варта толькі ведаць кірунак — і ўжо не заблудзішся. Тысячы людзей з калгасаў і саўгасаў раёна сышліся на схілы гары Караул, паселі на гарачай зямлі: лавак для ўсіх не хапіла. На зялёным полі — шасцікіламетровы круг. Гэта своеасаблівы іпадром. Паўтары сотні коннікаў з'ехаліся сюды на самых лепшых натрэніраваных скакунах. Юнакі ў аксамітных і шаўковых кашулях, куртках і безрукаўках усіх колераў і адценняў аб'язджаюць коней. На зялёнае поле выязджае некалькі дзяўчат у нацыянальным адзенні. Белаю пенаю спадаюць з сёдлаў сукенкі, пабліскваюць высокія вастраверхія шапкі, зіхацяць на сонцы вышыўкі на аксамітных безрукаўках. Бронзавыя твары, бровы ўразлёт, тоненькія станы зачароўваюць кожнага. А як яны трымаюцца ў сядле! Якая ўпэўненасць, лёгкасць і грацыёзнасць у кожным руху!..

Па радыё абвяшчаецца пачатак спаборніцтваў. Пачынаецца Кыз Куу — прыгожая народная гульня «Дагані дзяўчыну». На старт выязджаюць дзяўчына і юнак. Сігнал. Ірвануліся коні ў шалёным галопе, курыць пад капытамі пыл, скакуны выцягваюцца на ўсю даўжыню сваіх гарачых і пругкіх целаў. Ідуць побач, след у след. Над крупам узвіваецца тонкая камча, і конь дзяўчыны вырываецца наперад. Натоўп гудзе, крычыць і дружна апладзіруе. На апошніх метрах хлопец даганяе сваю сяброўку, яны скачуць побач, дужая рука абдымае дзяўчыну, і гарачыя вусны зліліся ў кароткім пацалунку. Але хлопец паварочвае каня і ляціць да лініі старта, следам імчыцца дзяўчына. Вось-вось дагоніць. Футбольныя страсці — нішто ў параўнанні з азартам натоўпу балельшчыкаў. Тут стогадовыя аксакалы і дзеці, жанчыны, дзяўчаты і юнакі — усе аднолькава перажываюць азарт спаборніцтва. Дзяўчына падняла камчу і з размаху перацягнула па хлапечай спіне. Той аж увагнуўся, сцябае каня, а прыгажуня пад агульны рогат і воплескі хвошча і хвошча сагнутую спіну.

Не кожнаму шанцуе пацалаваць дзяўчыну, не кожнай дзяўчыне ўдаецца дагнаць джыгіта. Успамінаецца верш:

**Дагані мяне, джыгіт,**
**Не шкадуй каня, джыгіт,**
**Калі толькі ты кахаеш,**
**Конь гарачы дабяжыць.**
**Я цябе, джыгіт, кахаю,**
**Дагані ж**
**І пацалуй!**

Непадалёк сядзіць аўтар імклівых і звонкіх, як цокат капытоў, радкоў гэтага верша Алжас Суляйменаў. Ён лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, паэт, у творчасці якога арганічна зліліся традыцыі народнай творчасці, глыбокае веданне гісторыі сваіх продкаў і наватарства, заснаванае на дасканалым валоданні здабыткамі сусветнай літаратуры. Ён ведае і любіць свой Казахстан, бачыў Парыж і Нью-Йорк, Каір і Алабаму, а сэрца яго заўсёды тут, дзе ў шалёным галопе імчацца «з гарачай крывёй аргамакі», дзе ў стэпавым бязмежжы звіняць песні прыгажунь, як тая, што хвошча камчою джыгіта. Алжас цалкам захоплены спаборніцтвам. Смаляны, нібы крыло беркута, чуб звісае на скронь, міндаліны чорных вачэй прагна сочаць за кожным рухам распаленых коней і напружаных, як струны, коннікаў. Апаленыя гарачым ветрам і смагаю вусны маладога паэта нешта шэпчуць. Можа складаюць новыя строфы, натхнёныя гэтым шалёным галопам. Ён піша пра тое, чым жыве, што хвалюе яго пакаленне. Таму Алжас Суляйменаў з такім запалам і пераканаНасцю даводзіў на пісьменніцкім з'ездзе, што кожны літаратар павінен тварыць для народа. Калі ж ён арыентуецца на густ асобнага чыноўніка — яго праца не служэнне народу, а служба літаратурнаму канцылярысту.

Таму і любіць вершы Суляйменава наша моладзь, што яны не служба, а служэнне ў самым высокім сэнсе.

Пачалася байга — скачка на 20 і 30 кіламетраў. На конях — барадатыя, сталыя джыгіты і хлапчукі. Па сігнале рвануліся рысакі, закурыўся над стэпам пыл, нехта вырваўся наперад, хтосьці адстаў, расцягнуўся ланцуг коннікаў, за восем хвілін аб'язджаюць шасцікіламетровы круг. Адзін, другі, трэці. Чацвёра вырвалася наперад. Нігмет Канυржанавіч мне шэпча:

— Сачыце за 46 нумарам. Ён павінен прыйсці першы.

Праз некалькі хвілін сапраўды на старце першым прамільгнуў буланы рысак, а на спіне конніка 46 нумар. Воплескі і крыкі «ўра» заглушылі голас дыктара.

— Паўтараю! — загрымеў рэпрадуктар,— дыстанцыю на 20 кіламетраў першы прайшоў Валеры Маркін. Яму 12 гадоў!

Буланага рысака накрылі чырвоным дыванам, Валеры аб'язджаў круг гонару. Тоненькі бялявы хлапчук усміхаўся і махаў рукою. А мой сусед расказваў, што Валерыя з дзіцячага дома ўзяў і ўсынавіў лепшы калгасны трэнер па конным спорце. Хлопчык захапіўся скачкамі і стаў чэмпіёнам рэспублікі ў заездзе на 20 кіламетраў.

Доўга яшчэ ішлі спаборніцтвы джыгітаў, барцоў і спевакоў. Да змяркання гулялі, скакалі і спявалі ў стэпе і на схілах гор нашчадкі Абая. А нас за аулам ужо чакалі самалёты.



Коннікі чакаюць сігналу.

Сярод сувеніраў з зямлі выдатнага песняра самы дарагі быў — любоў і дружба новых сяброў, сардэчнасць і дабрата таленавітых і прыгожых людзей.

Я адкрыў для сябе пакуль што толькі адну старонку, убачыў адзін куточак дзівоснай краіны, адроджанай і высока ўзнятай Кастрычнікам. Але каб зведаць смак віна — досыць аднае кроплі, каб адчуць пах ружаў — хопіць аднае кветкі. Спадзяюся яшчэ вярнуцца паглядзець заводы Караганды, бязмежжа цаліннай пшаніцы, нафтавыя вышкі Мангышлака. Я рады, што ведаю, якія людзі працуюць на гэтай зямлі, што стала стартавай пляцоўкай нашых касмічных караблёў, што кожную восень збірае горы хлеба, што варыць сталь і спявае арліныя песні.

Усю дарогу пад крыламі самалёта мільгалі агні казахскіх гарадоў і аулаў. Хацелася крыкнуць з вышыні не «бывай», а «да новых сустрэч, Казахстан!»

Так, я веру ў любоў з першай сустрэчы.

# У НОВЫМ ЖАНРЫ

Андрэй Макаёнак—адзін з самых таленавітых прадстаўнікоў савецкай драматургіі. Яго камедыі «Выбачайце, калі ласка» і «Лявоніха на арбіце» шырока вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і за рубяжом. І можна было б сказаць, што хлеб, зямля, людзі калгаснай вёскі сталі асабістай тэмай драматурга, калі б у апошні час не з'явіліся п'есы, якія раскрываюць новыя грані яго мастацкага таленту.

Калі А. Макаёнак надрукаваў трагікамедыю «Зацюканы апостал», прыхільнікам яго таленту магло падацца, што цікавасць да такога жанру ў драматурга выпадковая. Аднак услед за «Зацюканым апосталам» з'явілася трагікамедыя «Трыбунал», і стала відавочнай сур'ёзная схільнасць аўтара да зусім пэўных стылёва-жанравых пошукаў. Гэта тым больш цікава, што жанр трагікамедыі ў беларускай літаратуры дагэтуль быў невядомы.

Наватарская сутнасць жанру сама па сабе дае пісьменніку некаторыя перавагі. Дастаткова перанесці на родную літаратурную глебу фармальна-мастацкія прыкметы якога-небудзь новага жанру, як ужо адно гэта створыць пісьменніку славу першаадкрывальніка. Да гонару А. Макаёнка, яго трагікамедыі парадавалі не столькі навізною жанру, колькі свежасцю і глыбінёю жыццёвых пластоў, даследаваных з дапамогаю гэтага жанру.

Трагікамедыя «Зацюканы апостал», як сказана ва ўступе,—гэта творчы вынік падарожжаў дарматурга ў чужыя землі. Такая звестка не можа не прыгадаць кожнаму, хто знаёмы з творчасцю А. Макаёнка, яго раннюю п'есу «На досвітку», напісаную таксама на тэму зарубежнага жыцця. П'еса хоць і мела поспех, але ёй не хапала рэальных уяўленняў пра рэальныя канфлікты пасляваеннага французскага грамадства. У трагікамедыі «Зацюканы апостал» з яе даволі абстрагаваным зместам аўтару не было патрэбы ў дакладным узнаўленні зарубежнага побыту. Яго цікавіла іншае—сутыкненне прынцыпаў, барацьба ідэй.

Аўтар правільна зрабіў, што не назваў краіну, дзе адбываецца дзеянне. Паказаныя ў п'есе маральныя калізіі характэрны для ўсяго капіталістычнага ладу.

У трагікамедыі «Зацюканы апостал» больш трагічнага зместу, трагічнага гучання, чым камедыйнай бесклапотнасці. Праўда, трагічнае ў камедыйным творы мае спецыфічны характар, яно больш умоўнае, бо і сама камедыя ў параўнанні з аповесцю ці раманам вызначаецца большай умоўнасцю мастацкай вобразнасці; трагедыйнае ў камедыйным творы звязана з жыццём праз той жа гумар.

«Зацюканы апостал»—гэта твор аб тым, які трагічны лёс спатыкае ў буржуазна-мяшчанскім асяроддзі імкненне да ісціны, да пазнання. Яно, гэтае асяроддзе, нават самыя таленавітыя парыванні служыць ісціне і праўдзе схіляе да ілжэслужэння, гэта значыць—да ілжэапостальства. Сын, які так хацеў перабудаваць грамадскія парадкі на аснове справядлівасці і меў для гэтага здольнасці, церпіць паражэнне ад ілжывага, амаральнага асяроддзя. Ён становіцца «зацюканым апосталам».

«Д а ч к а (са слязьмі). Ну так, ну так, ён ідыё-ёт... А ён так хацеў, так хацеў стаць прэзідэнтам ці прэм'ер-міністрам. І стаў бы. А цяпер...

Д з е д. Во цяпер то ён напэўна стане. Толькі такія і становяцца...»

Такі фінал трагікамедыі быў бы незразумелы, калі б перад гэтым не была паказана ўнутраная рашучасць хлопчыка-кніжніка вярнуць дабрату, спагаду, вернасць, высакародства, праўду з кніг у жыццё. Ён не толькі вывучае кнігі, але і само жыццё, сур'ёзна рыхтуючыся да выратавальнай місіі. Пачуўшы ад сястры, што яна не ведае, што такое свабода і што з ёю рабіць, ён ускліквае: «Во дзе корань тыраніі! Во дзе карэнне рабства! Добраахвотнае рабства—фундамент для трона цару, каралю, фараону. Гэта я ўлічу! Гэта я запомню!» Ён здзекуецца з той свабоды, якую яму хочуць навязаць і якую называюць «свабодай у рамках законнасці».





Прынцыповасць Сына выяўляецца не толькі ў абстрактных філасофскіх разважаннях. Гэта яму, магчыма, яшчэ даравалі б. Але ён прынцыповы і патрабавальны ў штодзённым жыцці. Таму, хто прывык палягчаць сабе жыццё маной, праўда Сына коле вочы. Яна нявыгадная, і таму раздражняе. Нават блізкія людзі—Тата і Мама—не могуць цярпець яго праўды. Злосная Мама, калі Сын ловіць яе на падмане, называе яго нягоднікам і шпіёнам. Тату таксама няёмка ад патрабавальнасці Сына, ад яго праўды.

Мама з Татам часамі не супраць пагаварыць аб праўдзе. Але «праўда» для іх толькі прыгожае слоўца, дробная разменная манета. Таму на заўвагу Мамы, што трэба гаварыць праўду, Сын выбухае гневам: «Праўды чакаеце? Не боязна? Не-е. Не палохайцеся! Я вам праўды не скажу. І знаеце чаму? А вы мне праўду гаворыце? Адзін аднаму вы праўду гаворыце?»

Усе персанажы трагікамедыі «Зацюканы апостал» у вялікай ступені з'яўляюцца абстрагаванымі фігурамі. Але, мабыць, найбольш умоўны вобраз мае Сын. Калі Тата, Мама і Дачка надзелены хоць некаторымі псіхалагічнымі рысамі, то вобраз Сына—найбольш адкрытая персаніфікацыя аўтарскай ідэі, аўтарскай маральна-духоўнай канцэпцыі.

Абстрагаванасць гэтая, можа, найбольш выразна выступае ў сцэнах, дзе Сын падслухоўвае тэлефонныя размовы Таты і Мамы, без дазволу разгортвае пакунак, каб паглядзець, што купіў Тата ў падарунак свайму сябру. Але і гэтыя, такія як быццам бы тыпова дзіцячыя, паводзіны—чыстая ўмоўнасць, бо Сын перад тым, як разгарнуць пакунак, кажа: «Я павінен знаць! Я павінен многа знаць, усё знаць. Усе пакуты чалавецтва—ад недахопу інфармацыі! Я не хачу пакутаваць ад недахопу інфармацыі!»

Адно ўжо гэта паказвае, што ва ўчынку Сына, які ў рэальным жыцці можна расцаніць як хваравітую цікаўнасць, ёсць нейкае сімвалічнае значэнне. Тут нібыта чытаецца думка: у свеце падману ўсё без выключэння павінна правярацца сіламі дабра і сумленнасці, бо інакш пад прыстойнай абгорткай можа хавацца падман. Менавіта інфармацыя, пра якую гаворыць Сын, гэта значыць публічнасць, адкрытасць усяго, што робіцца ў грамадстве, будзе служыць сродкам барацьбы з падманам, з амаральнымі, антыграмадскімі тэндэнцыямі.

Сын так і сыпле сентэнцыямі накшталт: «Паслухмяным заўсёды меншы кавалак дастаецца», «Цёмнымі і даверлівымі лягчэй камандаваць». Здаецца, ён усё ведае і ўсё разумее, гэты не па гадах дарослы хлопчык, ледзь не геній, якому, каб быць геніем, не хапае хіба толькі аднаго—стаць жывым, рэальным чалавекам.

Усё ж нягледзячы на тое, што Сын дасягнуў так многа ў пазнанні свету і людзей, ён аказаўся пераможаным. Стаўшы другім—такім, якім яго заўсёды хацелі бачыць,—ён паспрабуе, напэўна, вярнуцца да свайго ранейшага вобліку, каб пачаць усё спачатку. Ён зноў узнімаецца па лесвіцы да паліцы з кнігамі, у якіх ёсць тлумачэнне свету, узнімаецца, каб вярнуць сабе здольнасць думаць, пазнаваць, адкрываць.

Трагікамедыя «Трыбунал»—твор пра Вялікую Айчынную вайну, пра ўпартае супраціўленне беларускага народа гітлераўскім захопнікам. Усім вядома, якой трагічнай і крывавай была гэтая барацьба. І раптам у адлюстраванні яе—адкрыты камедыйны ракурс!

У жыцці вясёлы смех і горкія слёзы сустракаюцца побач. Ці ж дзіва, што аўтар, глыбока пранікнуўшы ў камедыйную сітуацыю, мог адчуць часам горыч жыцця, яго трагедыйнае адценне. Гумар—гэта ж таксама сродак пазнання рэчаіснасці.

Коратка пра змест п'есы. Былога калгаснага пастуха Цярэшку, бацьку вялікай сям'і, якая пры Савецкай уладзе атрымлівала дапамогу ад дзяржавы як мнагадзетная, немцы прызначаюць старастам. Ставячы Цярэшку на пасаду старасты, начальнік паліцыі Сырадоеў мае свае разлікі: ён спадзяецца, што яму лягчэй будзе заляцацца да Цярэшкавай нявесткі Надзеі, муж якой на фронце і якая яму даўно падабаецца. Цярэшка ахвотна згаджаецца стаць старастам, нават усяляк стараецца захапіць гэтую пасаду. Цярэшкава жонка Паліна, пераканаўшыся, што яе чалавек не жартуе, а і сапраўды стаў старастам, спачатку дае яму добрую лупцоўку, а пасля збірае сямейны савет, які і ператвараецца ў трыбунал. Прыгавор трыбунала катэгарычны і адзінадушны: калі толькі бацька не адмовіцца ад пасады, яго трэба ўтапіць. Каб паказаць, што гэта не пустая пагроза, Цярэшку тут жа звязваюць і саджаюць у мяшок. Цярэшка спрабуе ўжыць індывідуальны падыход да кожнага са сваёй сям'і, просячыся, каб яго развязалі, але ўсё дарэмна. Жонка, нявестка і родныя дзеці няўмольныя. Цярэшка вымушаны па сакрэце прызнацца жонцы, што ён стаў старастам па заданні сакратара райкома. Паліна бяжыць на яўку, каб праверыць, ці праўду кажа муж. Пераканаўшыся, што Цярэшка сказаў праўду, Паліна вызваляе яго з мяшка, а дзецям загадвае слухаць бацьку

і паважаць яго. Але сын Валодзя як не зразумеў бацькі, так не зразумеў і маці. Ён гіне, узрываючы нямецкую камендатуру.

Узнікае пытанне, ці падыходзіць тэма Вялікай Айчыннай вайны менавіта для такога жанравага ўвасаблення. А. Макаёнак пераканаиы, што падыходзіць, бо пры ўсёй сваёй трагічнасці ваенны час на акупіраванай тэрыторыі меў шмат камедыйных і фарсавых з'яў. Першую спробу адлюстраваць іх у беларускай літаратуры зрабіла проза («Векапомныя дні» М. Лынькова), следам за ёю—драматургія: у яе свае магчымасці.

Ідэйную аснову трагікамедыі «Трыбунал» складае патрыятычнае служэнне вялікай справе, інтарэсам народа, Радзімы. Аднак —і гэта добра паказана ў «Трыбунале»—справа не толькі ў патрыятычных імкненнях, але і ў тым, якімі шляхамі іх ажыццяўляць. І Цярэшка патрыёт, і сям'я яго патрыятычная, аднак яны канфліктуюць паміж сабой, і канфлікт заканчваецца трагедыяй—гіне Цярэшкаў сын Валодзя.

У непрымірэнчых адносінах сям'і да Цярэшкі, калі ён стаў старастам, выразна відаць камедыйнае завастрэнне. І ўсё ж спачатку нельга не захапляцца дружнай патрыятычнай стойкасцю Цярэшкавай жонкі Паліны, нявесткі Надзі, дзяцей Валодзі, Галі, Зіны. Аднак яны вельмі прамалінейныя ў выяўленні сваіх пачуццяў. Яны рэагуюць толькі на знешні знак паводзін чалавека і таму не разумеюць роднага бацькі. І тут заяўляе свае правы дыялектыка жыцця і барацьбы. Па сутнасці, дзеці перашкаджаюць Цярэшку выканаць заданне сакратара райкома. Перашкаджае гэтаму нават прыгожая і гераічная, але малакарысная ў балансе вялікай барацьбы смерць Валодзі. Цяпер ужо можна не сумнявацца, што нямецкія ўлады зусім перастануць верыць Цярэшку, калі яго сын узарваў камендатуру, і заданне сакратара райкома Цярэшка не выканае. Патрыятызм не можа быць ні бяздумным, ні бесчалавечным, бо такі ён—не сапраўдны,—гаворыць сваім творам А. Макаёнак. Прынцыповасць, якая перашкаджае зразумець блізкіх і родных людзей, наогул чалавека,—фармальная, бяздушная прынцыповасць, шкодная для справы і для жыцця. Нездарма Паліна, уцяміўшы, хоць і позна, што да чаго, крычыць сыну, калі ён, усё яшчэ ні ў чым не разабраўшыся, напамінае пра радзіму і Савецкую ўладу: «Я цябе радзіла, я табе і радзіма... Я—твая Савецкая ўлада!». Сапраўды, радзіма—гэта людзі. І першыя сярод тых, хто ўвасабляе радзіму,—бацька і маці. Таму без разумення бацькі і маці, без любві да іх патрыятызм не можа быць поўным і па-сапраўднаму змястоўным.

Ідэя цвярозага, разумнага патрыятызму трыумфуе ў трагікамедыі «Трыбунал». Смерць Валодзі—ахвяра ў жорсткай барацьбе. Але яна вельмі важная для сэнсавага зместу твора, для яго ідэйнай канцэпцыі. А. Макаёнак валодае надзвычай тонкім адчуваннем сучаснай грамадскай псіхалогіі і зайздросным тактам. Яшчэ свежыя ў памяці нашых людзей боль ад страт і ахвяр мінулай вайны. І як бы мы ні смяяліся з камедыйных сітуацый, мы памятаем: была вялікая кроў і вялікія ахвяры, пакуль вораг быў пераможаны.

«Зацюканы апостал» і «Трыбунал»—розныя па сваім ідэйным змесце, па праблематыцы, але гэта творы аднаго агульнага драматургічнага стылю і займаюць сярод твораў драматурга асобнае месца. Гэта вынік высокай філасофскай думкі мастака.

**Марыя ШАЎЛОЎСКАЯ.**

# ПЕРЫФРАЗА Ў ТВОРАХ

Сучасная беларуская мова мае складаную сістэму выяўленчых сродкаў. У ёй, як і ў іншых развітых мовах, аднолькавая думка можа быць выказана па-рознаму: прадметна-лагічна, вобразна, апісальна. У працэсе гаворкі часта замест звычайнай аднаслоўнай назвы прадмета, з'явы, дзеяння ўжываюць апісальны выраз. Напрыклад: «...згладжваліся на зямлі сляды вайны. А тут ужо як бы зусім забыліся людзі на гэтую страшную навалу» (К. Чорны, «Трэцяе пакаленне»); «Я пачаў маніць. Паколькі ніякай шкоды ад мае маны не чынілася, можна сказаць далікатней: пачаў расказваць... не так, як яно было...» (М. Лужанін, «Гэтак яно рабілася»).

Семантычна непадзельныя апісальныя выразы, якія ўтвараюцца непасрэдна ў моўным абыходку, прынята называць перыфразамі. У мовазнаўчых і літаратуразнаўчых працах, у слоўніках ужываюцца і іншыя яго фанетычныя або марфалагічныя варыянты: парафраза, парафраз, перыфраз. Фактычны матэрыял, выяўлены намі ў творах мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, у запісах жывой народнай мовы, дазваляе сцвярджаць, што перыфразычным выкладам карыстаецца і літаратурная, і народная беларуская мова. Прыгадаем некалькі прыкладаў з народнай мовы: «Быў у касцёле, дзе чаркамі звоняць» (М. Федароўскі, «Люд Беларускі»)—г. зн. быў у карчме.

> Не пайду за такога,
> Што барада коле,
> А пайду за **такога,**
> **Што сеюцца вусы.**
> (в. Клетнае, Глускі раён).

Янка Брыль занатаваў цікавы апісальны выраз, які выкарыстала вясковая жанчына, каб замяніць нязвыклае і таму забытае ў патрэбны момант слова «дзённік»: «Ці ў вас прадаюцца тыя цятрадзі, дзе ставяць двойкі» («Жменя сонечных промняў»).

Тое, што народная мова карыстаецца перыфрастычнымі формамі выкладання думак, не дае падставы для таго, каб глядзець на перыфрастычныя выразы толькі як на літаратурныя выяўленчыя сродкі. А такі погляд на перыфразу адчуваецца ў некаторых даследчыкаў (М. Т. Тагіеў, Н. І. Іванова, А. М. Адамовіч).

Калі прыняць пад увагу, што перыфрастычнасць у беларускай мове зусім не вывучалася, то відаць, што наспела патрэба даследаваць яе на розным моўным матэрыяле. Матэрыялам нашых назіранняў з'яўляецца мова беларускай мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

Складаная прырода перыфрастычных выразаў, а менавіта тое, што яны, папершае, семантычна адпавядаюць лексічным адзінкам мовы, па-другое, структурна арганізуюцца на сінтаксічнай аснове, па-трэцяе, выкарыстоўваюцца ў мове як яскравы стылістычны сродак, патрабуе глядзець на перыфразу як на лексіка-сінтаксічны прыём моўнай вобразнасці.

Перыфрастычныя выразы паводле сваёй знешняй структуры менш эканомныя, чым асобныя словы. І калі б яны не давалі нічога новага ў параўнанні са значэннямі і адценнямі значэнняў аднаслоўнай назвы, утварэнне і ўжыванне перыфраз было б мала апраўданае: няма патрэбы ўжываць цэлае словазлучэнне, калі тое самае можна выказаць адным словам. Перавага перыфразы над звычайным словам у тым, што перыфрастычная назва не толькі абазначае з'яву рэчаіснасці, але і адразу праз апісанне асобных прымет, уласцівасцяў, акалічнасцяў гэтай з'явы дае ёй неабходную характарыстыку. Так, М. Танк у вершы «Шчаслівіа ўдалячынь ляцець», заклікаючы чалавецтва пільна сачыць, каб у касмічнай прасторы «не смеў ніхто слупы гранічныя стаўляць.., каб там не паўтарылася калі **Трагедыя народаў і Зямлі»,** ужывае перыфрастычную назву **вайны.** Хоць і слова «вайна» для нашых людзей вельмі «гаваркое», але перыфрастычная назва «Трагедыя народаў і Зямлі» выразней выносіць на паверхню характарыстыку гэтай з'явы, што добра ўпісваецца ў экспрэсіўную напружанасць усяго верша. Перыфраза актыўна «працуе» на асноўную думку твора.

Гаворачы, што перыфраза сваім значэннем багацейшая за аднаслоўную назву, мы, безумоўна, не адмаўляем вобразнасці нават самага «будзённага» слова. Зразумела, выразнасць літаратурнай мовы не ў колькасці спецыфічна-выяўленчых сродкаў, у тым ліку і перыфрастычных выразаў. Гаворка павінна ісці не пра тое, што лепш і што горш — аднаслоўная назва ці перыфрастычная, а пра тое, чаго дасягае аўтар, скарыстоўваючы апісальны выраз. Вартасць, значнасць перыфрастычнай назвы вызначаецца тым, калі, дзе, на якім месцы і, галоўнае, для чаго яна ўжываецца.

Перыфразы ўтвараюцца і ўжываюцца пісьменнікамі тады, калі гэтага патрабуе змест выказвання, калі перыфрастычныя выразы дапамагаюць паўней падаць аб'ект апісання, выразней паказаць адносіны аўтара або персанажа да асобных з'яў жыцця. Так, калі Янка Брыль у рамане «Птушкі і гнёзды» піша: «Пакуль скамандаваць «хамам» паўзці, Пінгвін **мяшаў з брудам і іх саміх і іхніх маці...»,** то перыфрастычны выраз «мяшаць з брудам і іх саміх і іхніх маці» дакладна характарызуе «злоснага, нявыспанага з перапою ці валацугі» паручніка і яго адносіны да салдатаў. Звычайнае слова «лаяўся» ў гэтых абставінах было б вельмі мяккае.

Прыгадаем яшчэ верш Янкі Купалы «Перад вісельняй», у якім паэт гнеўна выступае супраць каланізатарскай палітыкі царскага ўрада на Беларусі.

> **Прыблуды з-пад Нявы крывавай,**
> Калі апомніцесь, калі?
> За што стапталі маю славу,
> За што на вісельню ўзвялі?

Ёмістая думкай і палемічным напалам перыфраза «прыблуды з-пад Нявы крывавай» добра перадае грамадскае абурэнне паэта тымі, хто гаспадарыць на яго роднай зямлі, і надае публіцыстычнае гучанне ўсяму вершу.

Экспрэсіўная ацэначнасць перыфразы забяспечваецца тым вобразам, які стаў асновай апісальнай назвы і складае яе ўнутраную форму.

Перыфрастычная апісальнасць часта абапіраецца на зрокавы вобраз, на цэлы малюнак, які можна канкрэтна ўявіць, убачыць. Напрыклад: «...з-пад кары вылазілі светлякі і запальвалі свае зялёныя ліхтарыкі, каб пасвяціць павукам, бо па-

вукі павінны былі развешваць на дрэвах **танкаструнныя арфы»** (Я. Колас, «Залатыя прамень»).

**Пялёсткі** ўсё заслалі навакол,
**Пялёсткі белыя садоў паўночных.**
(А. Пысін, «Сняжынкі»).

Асновай апісальнай назвы можа быць вобраз, заснаваны на слыхавых асацыяцыях:

Плыў мароз па **струнах драцяных**
Ад слупа і да слупа.
(З. Бядуля, «Чырвона-чорная жалоба»).

Мне ўсё мацней карціць пачуць
**Званочак срэбны** ў паднябессі...
(Н. Гілевіч, «Мне з кожным годам даражэй...»).

У згаданых перыфрастычных назвах аўтары не проста занатоўваюць назіранае ў жыцці, а, скарыстаўшы зрокавае падабенства, набліжанасць слыхавых адчуванняў, спецыяльна паварочваюць прадмет, з'яву той гранню, якая дапамагае надаць малюнку адчувальную відавочнасць, дазваляе падтрымаць пэўны настрой.

Мастак слова з дапамогай перыфрастычнай назвы часта стварае малюнак з цэлай гамай семантычных і эмацыянальных адценняў. Прыкладам могуць служыць наступныя радкі рамана Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды»:

«У руцэ вусатага афіцэра быў пісталет...

— Дынстград? — спытаў немец, не паднімаючы пісталета.

Алесь, да якога чамусьці было скіравана пытанне, не зразумеў. Тады вусач працягнуў левую руку, паказаў на Алесеў пагон.

Маланкай ірванулася здагадка, белым бляскам халоднага жаху напомніла акопны шэпт: «Камандзірам палону няма...» І хлопец як мага хутчэй **закрыўся словамі:**

— Рэкрут! Я рэкрут!..»

Мы бачым, як перад узброеным нямецкім афіцэрам стаіць хлопец, які толькі што ляжаў за сваім станкачом, страляў у ворага, а цяпер зусім безабаронны. Ён можа толькі «закрыцца словамі». Колькі бездапаможнасці і надзеі перадае гэтая перыфраза. Цяжка знайсці да яе аднаслоўны адменнік: «сказаць», «адказаць», нават «закрычаць» не тое, што «закрыцца словамі». Перыфрастычны выраз дакладна характарызуе сітуацыю, і душэўны стан героя. Ні апусціць, ні замяніць гэтую апісальную назву нельга, бо кантэкст страціць вельмі многае. Названая перыфраза — вынік удумлівай, стараннай працы пісьменніка над словам.

Вобразныя перыфразы тым і каштоўныя, што прымушаюць нешта ўявіць, дадумаць і як бы «падключаюць» нас да творчага працэсу пісьменніка. Аднак неабходна, каб аўтар заўсёды бачыў наперад, якія асацыяцыі можа выклікаць апісальная назва, і непрыкметна накіроўваў чытача на патрэбны шлях разважанняў. Калі ж аўтар перыфразы забываецца на гэта, у яго моўным выкладзе ўзнікаюць недарэчнасці. Так, газеты зрэдку змяшчаюць нататкі натураліста. Большасць з іх вызначаецца празмернай «квяцістасцю» апісання, часта зусім не апраўданай вобразнасцю. Нярэдкасныя там і надуманыя перыфразы, накшталт: «Золкія павевы ўстрывожылі барсука і вожыка. У іх даўно гатовы **спальныя нумары падземных маёнткаў».**

Як бачым, пад «спальнымі нумарамі падземных маёнткаў» маюцца на ўвазе норы барсука і вожыка. Калі пра складаную нару барсука так сказаць яшчэ можна, хоць і гэта будзе залішне ўзнёсла, то вожык, гаворачы ў стылі нататкаў, — вельмі малы пан, каб мець падземны маёнтак з асобнай спальняй. Утульная норка больш грэла б яго, але і яе вожык не мае і зімуе, зашыўшыся пад апалае лісце.

Мастацкія перыфразы нічога агульнага не маюць з такой пагоняй «за мудрагелістымі слоўцамі і закручанымі выразамі» (У. Юрэвіч).

Перыфраза — не самамэта, а дзейсны сродак, які дазваляе накіраваць думку чытача ў патрэбным напрамку. «Мастацкае адлюстраванне або ўвасабленне рэчаіснасці, — зазначае акадэмік В. Вінаградаў, — заўсёды звязана з задачай, якая пранізвае ўсю мастацкую задуму — схіліць чытача на бок таго ці іншага разумення, той або іншай ацэнкі розных бакоў рэчаіснасці, уздзейнічаць на чытача і скіраваць яго пачуцці і сімпатыі ў адпаведнасці з ідэйнай канцэпцыяй пісьменніка».

Перыфрастычныя выразы ў мове мастацкіх твораў і публіцыстычных артыкулаў выконваюць розныя семантыка-стылістычныя задачы. Адны з гэтых выразаў дазваляюць аўтарам у самой назве лаканічна і дакладна **раскрыць** сутнасць з'явы і тым самым даць ёй грамадскую або эстэтычную ацэнку. Так, К. Крапіва, маючы на ўвазе абывацеля, піша:

**Вялікіх дзён не будаўнік**
Не рад ні сонцу, ні вясне.
(«Плач абывацеля»).

Перыфраза «вялікіх дзён не будаўнік» звяртае ўвагу на самае адметнае, што характарызуе абывацеля, — на яго адарванасць ад грамадскага жыцця.

М. Лужанін, гаворачы пра багатую на таленты беларускую зямлю, ужывае перыфрастычную назву «занядбаная карміцелька», якая выразна паказвае становішча старой Беларусі: «Тут прычынілася ўся зямля, змучаная на той час, але ўрадлівая на таленты, хоць і ўзыходзілі яны куды радзей, чым сяяліся, і не заўсёды, акрыяўшы, звязвалі свой лёс з лёсам **занядбанай карміцелькі!** («Колас расказвае пра сябе»).

Прывядзём некалькі прыкладаў, у якіх



перыфрастычныя выразы даюць эстэтычную ацэнку з'яў: «У самым кутку, адціснутая ўсім гэтым навамодным нашэсцем, прытулілася руская печ. Колішняя **царыца вясковых хат** мае тут нейкі сумна-пакорлівы выгляд» (В. Палтаран, «Ключы ад Сезама»); «А як жа добра... спусціцца да вады, зняць з галавы **дурны жалезны гаршчок,** распеаразацца...» (Я. Брыль, «Птушкі і гнёзды»).

Утвараючы і ўжываючы перыфрастычныя назвы, пісьменнік кіруецца імкненнем зрабіць свой моўны выклад не толькі зразумелым, а і як мага больш відавочным, наглядным. Так, выразнай зрокавай нагляднасці дасягае М. Багдановіч пры апісанні навальніцы:

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ў даль марудна праплывае.
Усё сціхла. Але вось паветра рассякае
**Агністы меч** і зіхаціць вясёла.
(«Бура»).

Перыфрастычны выраз можа стварыць малюнак такой пластычнасці, аб'ёмнасці, што паказанае хочацца крануць рукой. «Адчувальнае на дотык» уяўленне выклікаюць перыфразы ў наступных кантэкстах: «І луг, і поле, і горкі — усё засыпана **халодным пухам»** (Я. Колас, «Зіма»); «Руневіч прыкусіў губу і, не стрымаўшы вейкамі **слёзнай гарачыні,** сказаў... не тое, што хацеў» (Я. Брыль, «Птушкі і гнёзды»).

Перыфрастычныя выразы дапамагаюць мастакам слова стварыць пэўны настрой, выклікаць у чытача адпаведны эмацыянальны водгук. Перыфразы «рэзаць хваляў грудзі», «секчы дол» выразна перадаюць інтэнсіўнасць апісальна абазначанага дзеяння і разам з тым ствараюць адчуванне бадзёрасці ў такіх апісаннях:

Параход мой будзе грозна
**Рэзаць хваляў грудзі.**
(Я. Купала, «Сыны»).

Шыі выгнуўшы дугою,
дружна коні **дол сякуць.**
(Я. Колас, «Сымон-музыка»).

Сумны, бязрадасны настрой падтрымлівае перыфрастычны выраз у вершы А. Вялюгіна «Хлопчык з Ленінграда»:

Сняжок ляціць з разбітага акна,
**Забрала** жонку **доўгая труна.**

Выразную стылістычную нагрузку нясуць перыфразы, якія ўжываюцца ў мове дзейных асоб мастацкіх твораў. Калі ў згаданых вышэй апісальных выразах «прасвечваліся» аўтаравы адносіны да жыццёвых з'яў, то перыфразы, якія ўключаюцца ў мову персанажаў, выказваюць ужо адносіны дзейных асоб да пэўных фактаў рэчаіснасці.

Як вядома, уласнае імя не мае абагуленага значэння, не вызначаецца ні эмоцыямі, ні экспрэсіяй (мы не маем на ўвазе гаваркія прозвішчы персанажаў мастацкіх твораў тыпу Гарлахвацкі, Туляга, Вярнідуб). Уласнае імя ў час маўлення выконвае толькі намінатыўную функцыю, а перыфраза адразу і характарызуе яе носьбіта. Так, калі Ц. Гартнага называюць «барабаншчыкам рэвалюцыі» (Прадмова да «Анталогіі беларускай паэзіі»), а М. Чарота «песняром прадвесня» (С. Шушкевіч, «Вяртанне ў маладосць»), калі Н. Гілевіч замест «Грэцыя» ўжывае «краіна ў чорным», а ў хроніцы часопіса «Полымя» чытаем пра «краіну старых традыцый» (Англію), то адразу бачым, што згаданыя перыфрастычныя назвы даюць пэўную характарыстыку асобам, краінам, пра якія пісьменнік расказвае.

Калі аўтарская перыфраза, што вобразна характарызуе прадмет, дзеянне, удала адлюстроўвае сувязі рэчаіснасці, яна можа «адарвацца» ад першапачатковага моўнага кантэксту, набыць устойлівасць значэння і стаць традыцыйнай. Так адбылося з перыфрастычнымі выразамі Я. Купалы «пан сахі і касы», з апісальнай назвай «атаман мужыцкай праўды», якую пусціў у моўны ўжытак, гаворачы пра Кастуся Каліноўскага, В. Таўлай. Аўтарства ж пераважнай большасці традыцыйных перыфразаў невядомае. «Ляснымі салдатамі» называюць беларусы партызанаў, «беларускім морам» — возера Нарач, «беларускім шоўкам» або «паўночным шоўкам» — лён, «другім хлебам» — бульбу, «блакітным палівам» — газ.

Традыцыйныя перыфразы зразумелыя і без кантэксту. Асабліва частыя яны на старонках нашых газет. Але празмерна частае ўжыванне такіх апісальных выразаў у перыядычным друку ператварае іх у моўныя штампы, якія часта зусім не «ўпісваюцца» ў моўны выклад, як у наступных прыкладах: «Закансервавалі 250 тон **«другога хлеба»; «Уладальнікі блакітнага агню** задаволены работай калектыву Рагачоўскага гаргаза»; «Гісторыя **сталёвага каня** налічвае шмат год».

Устойлівасць апісальнай назвы — не адметная рыса перыфразы. Наадварот, калі перыфрастычны вобраз свежы, нечаканы, а яго вобразны змест па-мастацку апраўданы жыццёвымі асацыяцыямі, то такі выраз больш эфектыўны, мае большае права на месца ў моўнай тканіне твора.

**Галіна МАЛАЖАЙ.**




**Алесь МАСАРЭНКА. НА БАБРОВЫХ ТОНЯХ.
Выдавецтва «Беларусь»,
Мінск, 1971.**

# РОДНАЕ — БЛІЗКАЕ

Перад намі аповесць Алеся Масарэнкі «На бабровых тонях». Вабіць і інтрыгуе назва і вокладка з гэтакім прыгажуном-бабром, бо хто не ахвочы заглянуць у акно прыроды, каго не цікавіць жывёльны свет роднага кута? А бабры — гэта ж усё яшчэ для многіх нас загадка.

Але мушу адразу ж зрабіць агаворку: аповесць «На бабровых тонях» — не столькі пра баброў, колькі пра людзей. Добрых і благіх, шчырых і хцівых. З іх справамі і турботамі, радасцямі і згрызотамі знаёміць нас Алесь Масарэнка.

Некалі Кузьма Чорны гаварыў пра Цімкавічы, дзе прайшлі яго маленства і юнацтва, што большасць сваіх герояў ён узяў адтуль і што апісваць цімкаўцаў яму хапіла б на ўсё жыццё. Гэта прыгадалася ў той сувязі, што і Алесь Масарэнка далёка не хадзіў у пошуках сваіх літаратурных герояў, а ўзяў іх у роднай вёсцы Ходараў, што ў Слаўгарадскім раёне. І нават не тое, што ў роднай вёсцы, — у роднай сям'і. І хоць апавяданне вядзецца ад першае асобы, галоўным героем аповесці трэба лічыць бацьку пісьменніка — Гарасіма Андрэевіча.

Пра колішняга лесніка, а цяпер калгаснага вартаўніка, заўзятага паляўнічага, у аповесці расказваецца цёпла, праніклíва, часам з гумаркам. Дзе-нідзе апавяданне вядзецца і ад імя самога Гарасіма Андрэевіча, калі на таго наплываюць успаміны. Мы бачым яго хлапчуком, калі зазімкам шпарыць басаночкам у школу. «Ногі смылелі ад холаду, — успамінае бацька,— я спрабаваў грэць іх і садзіўся то на адну, то на другую — па чарзе». Бачым яго хлапцом-музыкай, які, узяўшы гармонік старэйшага брата, да дня грае вечарынку. Толькі пасля вайны ўжо не граў Гарасім Андрэевіч, бо вярнуўся пакалечаны, аднарукі. Але і такі ён не адчуваў сябе лішнім: вартаваў калгасную ферму, прыносіў з палявання зайцоў, а калі ўзнікла патрэба перасяліць баброў у далёкую Сібір, становіцца адмысловым баброўнікам.

Дарэчы, гэтая падзея — перасяленне баброў — стала фабулай твора. Ніякіх прыгодніцкіх нечаканасцяў, ніякіх рамантычных выпрабаванняў, людзі робяць справу, за якую ўзяліся, — вось і ўсё. Пры такой немудрагелістай фабуле, каб твор стаў сапраўды мастацкім, патрэбна не апісальніцтва, а глыбокае раскрыццё характараў. І яно ў аповесці ёсць. Вось Малінін, пад наглядам якога ідзе перасяленне баброў. Гараджанін, масквіч, ён чымсьці нагадвае Гарасіма Андрэевіча. Можа, тым, што таксама прайшоў па нялёгкіх дарогах вайны і, знявечаны, не шукае лёгкай удачы. А можа, такой жа спагадай, чуласцю да людзей. Можа, любоўю да прыроды, імкненнем зберагчы, памножыць яе багацце.

Некалькі слабей паказаны тыя, каго крытыкі звычайна завуць адмоўнымі тыпамі. Тут гэта другарадныя персанажы, накшталт старшыні калгаса, якога Гарасім Андрэевіч трапна ахрысціў «Старшыня-пяцімінутка», бо такога выпівоху калгаснікі не патрываюць, не дацягне і да справаздачнага сходу.

Ну а бабры? Яны ж, бадай-што, паўнапраўныя «героі» аповесці. Аўтар даскінала ведае іх норавы і звычаі і вельмі хораша расказвае пра гэтых рахманых, кемлівых рачных клапатуноў. У бабровым племені, аказваецца, існуе падзел на «гарадскіх» і «вяскоўцаў». Умовы жыцця рудых балотных баброў нагадваюць умовы горада. На балоце ў баброў свае «праспекты», «плошчы», «вуліцы» і «завулкі» і нават свае «клубы», дзе бабры праводзяць вольны час: весяляцца, вядуць сяброўскія «размовы», а часам іх дзятва пачынае ўсім вядомую гульню «куча-мала». У рачных жа шызавата-чорных баброў — вясковае прыволле. Прырода ўдала прыстасавала бабра да вады: чорны амаль не бачны ў рачной вадзе, а рыжы выдатна маскіруецца ў балотнай. Бабры-бацькі не выпраўляюць сваіх дзяцей «у свет», а пакідаюць ім сваё абжытае селішча, а самі будуюць новую хатку...

Апісанне прыроды, жывёльнага свету— найцікавейшыя мясціны кнігі. Яны прымушаюць радавацца, задумвацца, а часам і засмучацца. Разам з аўтарам смуткуем, што «некалі тут, пэўна ж, рэчка ладная цякла. Ды вось зарасло ўсё і сочыцца толькі ручаёк». Або калі якісь нелюдзь будзіць выбухам рэчку Проню ці душыць пасткай бабра.

Засмучаюць і такія-сякія перабольшванні, недакладнасці, якія сустракаюцца ў аўтара пры апісанні нашай фаўны. Вось знішчылі гадзюку і вядуць такую размову:

«— ...Многа ў хвасце яду скапілася — ад таго і жоўты. Кусала ўжо некага. І як ты, Сашка, не падставіўся ёй?

— Ён чакаў, пакуль яна сама падпаўзе ды цапне...»

Гэта хіба толькі ў казках гадзюка падпаўзае і джаліць чалавека. Вельмі палахлівае стварэнне, яна ніколі першай не нападае на чалавека, а стараецца ўцячы, схавацца. І толькі калі на яе знячэўку наступіш — абараняецца і джаліць. Не верыцца, каб гэтага не ведалі паляўнічыя, леснікі.

Нельга не сказаць пра мову аповесці— багатую, сакавітую, з мноствам адценняў і пераліваў. Героі аповесці размаўляюць так, як у Ходараве і блізкім наваколлі. Залішне толькі, калі і аўтар, мабыць, забываючы, што ён не толькі ходаравец, але і пісьменнік, пачынае весці расказ на ходараўскім дыялекце з яго «траха» і надакучлівым «прычандаллем».

А яшчэ чаго залішне ў творы — гэта выпівак. Выпіваюць у дождж і спякоту, п'юць «пярцоўку» і «спатыкач», віно і самагонку. І нават калі ў шафёра Пецькі аўтаінспектар адбірае вадзіцельскія правы, гэта не гучыць як асуджэнне зла.

У цэлым жа кніга радуе. Эпіграфам да яе магло б стаць выказванне пісьменніка-прыродалюба Міхаіла Прышвіна:

«Дык давайце ж будзем жыць з прыродай не як разбойнікі, а як добрыя яе гаспадары, у якіх яна знойдзе для сябе любоў і абарону».

**Іван АНОШКІН.**

# ДВА КРОКІ НАПЕРАД

## НАТАТКІ З V СПАРТАКІЯДЫ НАРОДАЎ СССР

Яшчэ зусім нядаўна мы заглядвалі ў каляндар, прыкідвалі, колькі дзён засталося да спартакіяды. Сёння яна стала ўжо гісторыяй. Ёй на змену крочыць наступная, шостая. Пройдзе чатыры гады, і яна таксама падвядзе свае вынікі, дасць дарогу сёмай. Так было, так будзе. Гэта — традыцыя. Але колькі б яна ні працягвалася, адна спартакіяда не будзе падобная на другую, бо кожная мае свой воблік, сваю адметнасць, сваё характва. Мінулая, пятая вызначылася, як ні адна з папярэдніх. Асаблівасць яе ў тым, што ў ёй удзельнічала больш як 45 мільёнаў чалавек. Яна пачала свой шлях у спартыўных клубах заводаў і фабрык, у школах і сельскіх калектывах фізкультуры, яна, як ручайкі, злівалася ў паўнаводную раку, што несла спартыўны парыў у Лужнікі. Тут, на галоўнай спартыўнай арэне краіны — Цэнтральным стадыёне імя У. І. Леніна, — і быў узняты сцяг V Спартакіяды народаў СССР.

Удзельнікаў фінальных спаборніцтваў было больш як пяць тысяч — за першынство змагаліся 254 гарады, населеныя пункты і вёскі краіны. Такога прадстаўніцтва не было яшчэ ні на адной папярэдняй спартакіядзе.

28 дзён гарэў агонь спартакіяды. За гэты час спартсмены разыгралі 1150 медаляў, устанавілі 15 сусветных, 19 еўрапейскіх, 31 усесаюзны рэкорд. Акрамя таго, палепшана 88 вышэйшых дасягненняў спартакіяд і пераўзыдзены 237 рэкордаў саюзных рэспублік.

Маштабы і размах савецкага спартыўнага свята, якім стала V Спартакіяда народаў СССР, здзівілі нават такога шматвопытнага спартыўнага дзеяча, якім з'яўляецца прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Эверы Брэндэдж.

— Спартакіяда народаў СССР, — сказаў ён, — гэта бліскучы прыклад для іншых краін. Прыклад таго, як павінны здзяйсняцца алімпійскія ідэалы.

За падзеямі на спартакіядзе сачыла ўся краіна, увесь свет. Барацьба за медалі, за каманднае першынство праходзіла як ніколі напружана. Вядома, рыхтаваліся да спаборніцтваў



На дыване — Вольга Корбут.





Пакуль выступае сяброўка...
Зборная каманда гімнастак БССР. Злева направа: В. Цітарэнка, Н. Левіна, Т. Кошаль і Т. Лазаковіч.

усе аднолькава сур'ёзна, і нікому не хацелася ўступаць заваяваных пазіцый. Кожны спадзяваўся на поспех. Масквічы меркавалі зноў заваяваць пераходны прыз за першае месца, украінцы разлічвалі на другое. Беларусы меркавалі апярэдзіць калектыў Грузіі і замацавацца на пятым месцы.

Кожны марыў аб сваім, улічваючы магчымасці і свае, і сапернікаў.

Але не ўсім удалося ажыццявіць мары і планы. Спартыўная барацьба на стадыёнах, у залах і плавальных басейнах, на трэках і шашы, на стрэльбішчах парушыла многія прагнозы. Галоўны прыз Савета Міністраў СССР упершыню заваяваў зборны калектыў Расіі. Масквічы, якія да гэтага чатыры разы былі першымі, вымушаны былі задаволіцца другім месцам. Зборная Украіны так і засталася на трэцім. Нечаканым для многіх быў поспех калектыву нашай рэспублікі, які падняўся адразу на дзве прыступкі, з шостага месца на чацвёртае, апярэдзіўшы не толькі Грузію, але і Ленінград. 92,5 ачкі, што аддзяляюць беларускіх спартсменаў ад ленінградцаў — гэта нямала. Яны сведчаць аб перамозе не выпадковай, трывалай. У выніку беларусы вярнуліся дадому з двума прызамі Савета Міністраў СССР: першы — за агульнае чацвёртае месца, другі — за чацвёртае месца сярод жаночых каманд.

### УСМЕШКІ ПЕРАМОГ І СЛЁЗЫ НЯЎДАЧ

У кожным спаборніцтве свае традыцыі, свае героі. Адной з традыцый спартакіяды з'яўляецца тое, што яна кожны раз называе спартыўнаму свету новыя імёны. Некалі яна адкрыла Уладзіміра Куца, Ларысу Латыніну, Валерыя Брумеля, Наталлю Кучынскую. Сёлета на поўны голас прагучалі імёны новых маладых талентаў, і сярод іх імёны беларускіх спартсменаў.

На спаборніцтвах па спартыўнай гімнастыцы гледачы захапляліся выступленнем жаночай каманды Беларусі. Складзеная напалову са школьніц, яна была самай маладой на спартакіядзе, а выступала ўпэўнена, роўна. Пасля першага дня спаборніцтваў нашы трэнеры прыйшлі ў гасцініцу «Север», дзе жылі юныя спартсменкі, з вялікім тортам, ды і не адным.

— Частуйцеся, дзяўчаты, — гаварылі заслужаныя трэнеры СССР Вікенцій Дзмітрыеў і Рэнальд Кныш. — Сёння вы гэтага заслужылі...

Гімнасткі як ніхто ў часе спаборніцтваў захоўваюць строгую дыэту. Яны сочаць за сваёй вагой і ніколі не дазваляюць сабе з'есці піроўнае ці шакаладную цукерку. А калі сядытады дазвалялі сабе гэта, то трэнеры адразу ж папярэджвалі: «Нельга». А тут... самі прынеслі.

Ды і было за што. Ніна Левіна, Тоня Кошаль, Валя Цітарэнка, Люда Косалава, Тамара Лазаковіч, Вольга Корбут—гэтыя цудоўныя беларускія грацыі—упершыню ў гісторыі гімнастыкі заваявалі камандную перамогу і атрымалі залатыя медалі чэмпіёнак СССР.

Вастрыня барацьбы, гучныя імёны сапернiц, жаданне выступіць як мага лепш—усё гэта трымала дзяўчат у стане вялікага напружання. Але яны змагаліся за перамогу да апошняга. Чаго, напрыклад, каштавала прайсці «толькі» адзін такі снарад, як бервяно! Нездарма спартсмены называюць яго «кантрольна-прапускным» пунктам. Ды каманда беларускіх гімнастак і тут аказалася лепшай. Думаеце, лёгка было?

Уявіце сабе высокі памост пасярэдзіне Палаца спорту ў Лужніках. На памосце на вышыні больш як метр—вузенькае 10-сантыметровае бервяно. На ім лёгка ўзлятае дзяўчынка. Яна быццам і не глядзіць пад ногі, выконвае самыя неверагодныя выкрутасы і павароты. На імгненне гімнастка замірае, падскоквае ўгору і робіць сальта назад. У зале ахнуць не паспелі, а яна ўжо далей працягвала практыкаванне. Такое не кожны добры спартсмен выканае нават на падлозе.

Дзяўчынка — а гэта была дзевяцікласніца з Гродна, 16-гадовая Вольга Корбут—уся ўвага. Нервы напружаны да адказу. Застаецца некалькі секунд, і яна бліскуча закончыць складанае практыкаванне. Але раптам цішыню залы парушае рэзкі, непрыемны сігнал, падобны да сірэны аўтамабіля. Ён урываецца, парушаючы спакой, гармонію, і... дзяўчынка зрываецца, саскоквае з бервяна на падлогу на самым лёгкім, простым элеменце. Вочы яе поўныя слёз, а яна стараецца не падаць выгляду, трымаецца. А як жа не заплакаць, калі толькі што выпусціла з рук залаты медаль чэмпіёнкі.

Дорага абышлося нашай спартсменцы чыёсьці свавольства. Знарок ці выпадкова было гэта зроблена — невядома. Можа і знарок зрабіў нехта, «хварэючы» за другую гімнастку і ведаючы, як напружаны нервы ў той, што на памосце. Ён застаўся асуджаны за свой учынак: больш за Вольгу Корбут ніхто апладысментаў не атрымаў. Ну а медаль ёй дастаўся толькі сярэбраны.

Бачыла я і другія слёзы—слёзы радасці і шчасця. Мінская школьніца Тоня Кошаль—самая маладая з гімнастак на спартакіядзе. Упершыню ёй даверылі абараняць гонар каманды на такіх адказных спаборніцтвах. Можна ўявіць яе настрой, калі ў часе выступлення на брусах зала ўзрывалася апладысментамі. Адзнака суддзяў вельмі высокая—9,6 бала. Гэта значыць, не падвяла. Яшчэ адзін сярэбраны медаль у нашых дзяўчат!

Ці ж не герой Тоня? Першы раз на такіх спаборніцтвах—і два медалі атрымала—серабро і бронзу. Трапіўшы ў абдымкі сяброўак, яна радавалася і плакала ад шчасця.

І ўсё ж самай высокай пахвалы заслужыла віцяблянка Тамара Лазаковіч. Чатыры гады назад у саставе каманды гімнастак Беларусі яна таксама выступала на спартакіядзе. Тады Тамары было ўсяго трынаццаць гадоў. У практыкаванні на бервяне яна заняла шостае месца. У семнаццаць віцяблянка стала абсалютнай чэмпіёнкай спартакіяды і СССР. На 0,15 бала Тамара Лазаковіч апярэдзіла чэмпіёнку Еўропы масквічку Вольгу Карасёву.

Як бачыце, спартакіяда не толькі адкрывае таленты, але і сцвярджае іх. Прыклад таму—поспех яшчэ аднаго прадстаўніка нашай гімнастычнай дружыны—Аляксандра Малеева. Спартсмен, якога амаль увесь мінулы год праследавалі адны няўдачы і якога некаторыя ўжо спісалі з ліку мацнейшых, змог даць сапраўдны бой чэмпіёну свету Міхаілу Вароніну. Потым той сам прызнаваўся, што ўпершыню за апошнія пяць гадоў яму давялося не лідзіраваць, а даганяць лідэра.

Толькі на апошнім снарадзе здолеў Варонін абысці нашага гімнаста. Аляксандру Малееву дастаўся вялікі сярэбраны медаль за мнагаборства, сярэбраны—за практыкаванне на кольцах і два залатыя, чэмпіёнскія — за выступленні на брусах і вольныя практыкаванні. Такога багатага ўраджаю знакаў спартыўнай доблесці ў беларускага гімнаста яшчэ не было.

Уклад гімнастаў у перамогу калектыву Беларусі аказаўся самым важкім. Яны прынеслі больш за ўсіх ачкоў, і поспех гэты—невыпадковы. Усеагульнае прызнанне ў краіне атрымалі вядомыя гімнастычныя школы ў Віцебску і Гродна пад кіраўніцтвам Вікенція Дзмітрыева і Рэнальда Кныша.

Заявілі пра сябе і мінскія выхавацелі гімнастаў—заслужаныя трэнеры БССР В. Хамутоў, Е. Гальперын, А. Невяровіч, Л. Мірамакава. Усё гэта людзі творчай думкі, пастаяннага пошуку, улюбёныя ў сваю справу. І невыпадкова іншыя трэнеры, «адкрыўшы» таленавітую дзяўчынку ці хлопчыка, не трымаюць іх каля сябе, ведаючы, што іх талент заззяе па-новаму, калі іх выхаванцы трапяць у залатыя рукі вядомых педагогаў. Так трапіла са Смалявічаў у Мінскую школу-інтэрнат са спартыўнай накіраванасцю да Віктара Хамутова Тоня Кошаль, якую рэкамендаваў сюды яе першы настаўнік В. Зіцэрман. З Барысава прыехалі Мікалай Федарэнка і Наташа Фядотава. Іх таксама цяпер уключылі ў склад маладзёжнай зборнай каманды СССР. А пошукі талентаў працягваюцца.



**Людміла Русак—другі прызёр спартакіяды.**

## ЭКЗАМЕН ВЫТРЫМАНЫ

Гімнасты па праве вартыя таго, каб называцца героямі спартакіяды. Але яны не адзіныя, хто заслужыў добрае слова ўхвалы. На спартакіядзе кожны спартсмен, кожная каманда змагаліся за перамогу да апошняга. Часта сапернікі аказваліся дастойнымі адзін аднаго, і тады перамога была на баку больш валявых, больш настойлівых. І як тут не ўспомніць нашага праслаўленага земляка—чэмпіёна свету Аляксея Нікончыкава і яго паядынак на шпагах з вельмі моцным украінскім спартсменам Іосіфам Віцебскім. Абодва яны былі кандыдатамі ў чэмпіёны. Каб вырашыць, каму дастанецца залаты, а каму сярэбраны медаль, прыйшлося праводзіць перабой (паўторны паядынак). Спартсмены — выдатныя майстры, добра ведаюць адзін аднаго, а таму і дзейнічаюць на дарожцы вельмі асцярожна. Толькі праз дзве мінуты мінчанін змог нанесці першы ўкол. Ён—увесь увага. Сапернік чакае ўдалага моманту, чакае, калі Нікончыкаў страціць на імгненне пільнасць і дапусціць памылку. А час ідзе, адна мінута застаецца да канца паядынку. Лік мінімальны. І нервы ў Віцебскага не вытрымліваюць: ён кідаецца ў атаку. Нікончыкаў напагатове і сам чакае зручнага моманту. Бой гэты закончыўся з лікам 5 : 3 на карысць беларуса. Трохразовы чэмпіён свету стаў двухразовым чэмпіёнам краіны.

Мала хто ведаў, што Аляксей Нікончыкаў, рыхтуючыся да чэмпіянату свету ў Вене, атрымаў цяжкую траўму. Рана крыху зажыла, але кожны выпад аддаваўся ў баку рэзкім болем. Аляксей здолеў перасіліць яго там, у



**Цудоўная чацвёрка, якая забрала залатыя медалі чэмпіёнаў,—Н. Хахол, Н. Гарбачоў, Л. Дзеравянка і В. Сава.**

Вене, не падаў выгляду і тут, у Маскве. Камандзе трэба было, каб ён выступаў...

А вось другі прыклад сапраўднай мужнасці нашых спартсменаў, прыклад для тых, хто, баючыся адказнасці, часам шукае прычыну, каб не выйсці на спаборніцтва. Бывае, ён прыкідваецца хворым. У барца вольнага стылю Аляксандра Мядзведзя недахопу ў гучных тытулах няма. Ён ужо выйграваў усё, што толькі можна было выйграць—чэмпіянат свету і Алімпійскія гульні, чэмпіянаты Еўропы і СССР. Ніхто не сумняваўся ў яго байцоўскіх якасцях і ў Маскве. Але каб ён не выйшаў на дыван—ніхто б не папракнуў нашага асілка, бо яго раптам скруціў радыкуліт—хвароба, якая часта даймае спартсменаў і часам парушае ўсе іх планы. У Аляксандра паднялася тэмпература, але пра ўсё гэта нават не здагадваліся тысячы



**Віталь Назаранка—абсалютны чэмпіён V Спартакіяды народаў СССР па велагонках на трэку.**

гледачоў, якія прыйшлі ў спартыўную залу. Асабліва цяжкай была сустрэча шасціразовага чэмпіёна свету ў фінальным паядынку з двухметровым лесарубам В. Паршуковым. Дзевяць мінут хадзілі адзін каля аднаго асілкі, а вынік—нічыйны. Не вырашыў выходу схваткі і партэр. Тады ўмяшаліся суддзі, якія аддалі перавагу беларусу. Аляксандр Мядзведзь трэці раз стаў чэмпіёнам Спартакіяды народаў СССР.

Такіх прыкладаў мужнасці, волі ў беларускіх спартсменаў на спартакіядзе было многа. У часе спаборніцтваў лёгкаатлетаў дзесяціборац Аляксандр Бліняеў траўміраваў плячо, але працягваў выступаць, бо ведаў, што каманда страціць столькі ачкоў, што потым іх цяжка будзе набраць.

— Няхай я нават займу сёмае-восьмае месца,—думаў юнак.—Усё ж карысць.

І працягваў бегаць, штурхаць ядро, прыгаць з шастом. Закончыў Бліняеў спаборніцтвы бронзавым прызёрам.

Не падвёў сваіх сяброў і адзін з чацвёркі весляроў. Хлопцы так рыхтаваліся да спаборніцтваў, так разлічвалі на перамогу, а ён—на́ табе, захварэў. Ды ён не прызнаўся таварышам, што дрэнна сябе адчувае. Выйшаў на старт і старанна веславаў. Чацвёрка заваявала залатыя медалі. А калі хлопцы даведаліся, што іх таварыш так паступіў, яшчэ больш былі ўдзячны яму.

Кожны спартсмен—ці то навічок, ці то вопытны баец—ведаў, што на яго разлічваюць, што ад яго выступлення залежыць поспех усяго калектыву. І кожны стараўся паказаць лепшы вынік.

Цэлую сенсацыю выклікала выступленне беларускіх веласіпедыстаў-трэкавікоў. Як вядома, у нашай рэспубліцы няма трэку, а выступаць трэба. Трэніраваліся на шашы, на веластанках, круцілі педалі да сёмага поту, бо ведалі, што на спартакіядзе лёгка не будзе. І вось бліскучая перамога. У асабістай і каманднай гонках праследавання беларускія веласіпедысты заваявалі першае месца. В. Быкаў, В. Назаранка, Д. Панькоў і М. Шымановіч сказалі пра сябе многім. Хочацца спадзявацца, што цяпер чэмпіёнам будзе ўдзелена больш увагі, яны маюць права на тое, каб былі створаны ўмовы для падрыхтоўкі да спаборніцтваў.

Нельга абысці маўчаннем «каралеву спорту» і яе прыхільнікаў—лёгкую атлетыку і лёгкаатлетаў. На стадыёне ў Лужніках перад нашай лёгкаатлетычнай камандай склала зброю Грузія. Многія маладыя спартсмены вялі захапляючыя паядынкі з вопытнымі майстрамі і пацвердзілі, што беларуская лёгкая атлетыка знаходзіцца зараз на правільным шляху. Удала выступілі не толькі такія вядомыя атлеты, як Рамуальд Клім, Міхаіл Жалабоўскі, заваяваўшыя залатыя медалі. Радуе моладзь. Чэмпіён Усесаюзнай спартакіяды школьнікаў 1967 года Яўген Гаўрыленка—адзін з мацнейшых бар'ерыстаў краіны. На спартакіядзе ён заваяваў два залатыя медалі. Нядаўна былі школьнікамі Уладзімір Лавецкі, Аляксандр Жыдкіх, Сяргей Каровін. Сёння гэтыя дваццацігадовыя юнакі—кандыдаты ў алімпійскую зборную краіны. У поўны голас заявіла пра сябе беларуская школа спорту. Радуюць дасягненні дзяўчат у скачках у вышыню.







**Фінал забегу на 800 метраў.**

На жаль, нельга расказаць пра лепшых майстроў усіх 24-х відаў спорту, што былі ўключаны ў праграму спартакіяды. Адны з іх выступілі больш паспяхова, другія слабей. Развіццём іншых відаў спорту грамадскасць рэспублікі засталася зусім незадаволеная. Гэта ў першую чаргу датычыцца самба, сучаснага пяціборства, стэндавай стральбы, плавання.

Былі не толькі перамогі. Былі і горкія няўдачы. І гэта яшчэ раз сведчыць пра тую цяжкую камандную барацьбу, якую давялося весці ўсяму зборнаму калектыву спартсменаў Беларусі, каб узняцца на чацвёртае месца. І тым радасней гэтыя крокі наперад.

## ШТО СКАЗАЛА СПАРТАКІЯДА?

Такое пытанне цяпер часта задаюць журналісты старшыні Камітэта па фізкультуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР Віктару Ільічу Лівенцаву. Ён, адказваючы, падкрэслівае, што спартакіяда на практыцы дапамагла праверыць усе планы і прагнозы, вызначыць усе плюсы і мінусы ў рабоце. Яна дала магчымасць трэнерам і спартсменам праявіць сябе. Цяпер тым, якія на практыцы даказалі, што ўмеюць працаваць плённа, будуць створаны ўсе ўмовы для гэтага. А добрых выхавацеляў, спартсменаў высокага класа ў рэспубліцы нямала—у гімнастыцы, у лёгкай атлетыцы, фехтаванні, веласпорце.

Поспеху, якога на спартакіядзе дабіліся спартсмены і фізкультурнікі Беларусі, папярэднічала вялікая работа. Цяпер можна сцвярджаць, што ключ знойдзены. Гэта круглагадавая Спартакіяда БССР, якая пачынаецца ў калектывах фізкультуры і заканчваецца ў спартыўных таварыствах і ведамствах. Гэтая спартакіяда прыцягнула ў рады арміі фізкультурнікаў новыя тысячы людзей, якія раней не займаліся спортам, дапамагала кантраляваць падрыхтоўку лепшых спартсменаў, выклікала вялікую зацікаўленасць.

Поспех яшчэ і ў тым, што падрыхтоўка да Спартакіяды народаў СССР была справай не толькі фізкультурных арганізацый рэспублікі. Партыйныя і савецкія органы, камсамол аказвалі фізкультурнікам самую дзейсную дапамогу.

**Ніна ПРАКАПОВІЧ.**

Фота **Д. Церахава.**

## нашы аўтары

●

**КІРЭЕНКА Кастусь** нарадзіўся ў 1918 годзе ў в. Гайшын Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці.
Аўтар кніг вершаў: «Ранак ідзе», «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка», «Маякі», «Родны свет», «Светлая хваля», «Смага», «Цёплая радуга», многіх кніг паэзіі для дзяцей, аповесці «Сум і радасць дзеда Рэпкі», кнігі апавяданняў «Ручаіны шукаюць ракі».
Працуе рэдактарам часопіса «Бярозка». Заслужаны дзеяч культуры БССР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

●

**ЯНІШЧЫЦ Яўгенія** нарадзілася ў 1948 годзе ў в. Рудка Пінскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Выйшаў у свет зборнік яе вершаў «Снежныя грамніцы».

●

**СТАВЕР Алесь** нарадзіўся ў 1929 годзе на Бягомльшчыне. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Выдаў кнігі вершаў «Золак над Бярозай», «Касцёр не гасне», «Ластаўкі перад дажджом». Аўтар многіх беларускіх песень і празаічнага твора «Пад канвоем».

●

**ЛОЙКА Алег** нарадзіўся ў 1931 годзе ў г. Слоніме Гродзенскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна.
Выдаў зборнікі вершаў «На юначым шляху», «Задуменныя пералескі», «Дарогі і летуценні», «Блакітнае азерца», «Каб не плакалі кані», «Дзівасіл», «Калі ў дарозе ты...»; аўтар кніг вершаў для дзяцей, манаграфій: «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура», «Новая зямля» Якуба Коласа. Вытокі, веліч, характво», «Максім Багдановіч», «Сустрэчы з днём сённяшнім».
Доктар філалагічных навук. Прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

●

**РУСІЛКА Любоў** нарадзілася ў 1940 годзе ў Казахстане.
Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працавала загадчыцай клуба, старшай піянерважатай. Цяпер—настаўніцае. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

●

**ГРАХОЎСКІ Сяргей** нарадзіўся ў 1913 годзе ў мястэчку Нобель былога Пінскага павета Мінскай губерні. Пасля сямігодкі працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1935 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага пядінстытута. Потым была праца ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» і на Беларускім радыё. Пасля Вялікай Айчыннай вайны настаўнічаў на Случчыне і ў Новасібірскай вобласці. З 1959 года—супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Вясёлка».
Аўтар кніг «Дзень нараджэння», «Чаканне», «Табе зайздросціць сонца», «Памяць», «Тры вымярэнні», «Вершы», «Ад вясны да вясны», «Гарыць касцёр», «Які вялікі дзень», «Рудабельская рэспубліка» і інш.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 11**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 09903. Здадзена ў набор 24.IX-71 г. Падпісана да друку 27.X-71 г.
Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 14801 экз. Зак. 490. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.**



**Н. ПАПЛАЎСКАЯ. Мінск.**